# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (63) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2013 г.

## *Лідзе - 690 гадоў* *1323 - 2013*














**Вадзім Вераб’ёў.** ***Беларускі друкар Ян Карцан з Вялічак з-пад Ліды (? - 1611).*** Аловак, 2013 г.

# Лідскі Летапісец



*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*



**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 3 ( 63 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2013 г.**


## У НУМАРЫ:



*На першай старонцы выкладкі - святкаванне 690-х угодкаў з дня заснавання г. Ліды.*
*Здымкі Л. Лапшыной.*




**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**17 друк. аркушаў**

**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2156**
**Часопіс падпісаны да друку 30.09.2013 г.**
**Часопіс надрукаваны 31.10.2013 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 6800 руб.**
**індывід. 6 мес.- 13600 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

ISSN 2218-1792






# КРОНІКА ЛІДЫ







Да Дня Перамогі ў Менску выйшаў набор плакатаў "Палкаводцы і военачальнікі зямлі беларускай" з 28 плакатаў.

Адзін плакат прысвечаны ўраджэнцу Лідчыны генералу ад інфантэрыі Кіпрыяну Кандратовічу.



У чэрвені-ліпені 2013 г. на Цэнтралізаваным тэставанні 100 балаў па матэматыцы і 100 балаў па рускай мове атрымала выпускніца Лідскай гімназіі № 1 **Тузіна Кацярына.**




У жніўні ў Лідскай друкарні выйшла кніга прозы **Ўладзіміра Васько** “Лясная рапсодыя”.



1 верасня на будынку Прафесійнага ліцэя меліяратыўнага будаўніцтва адкрыта мемарыяльная дошка выпускніку гэтай навучальнай установы **Міхаілу Масціцкаму**, які загінуў у Афганістане ў 1984 г. Скульптар Вадзім Вераб'ёў.




У верасні да 690-х угодкаў з дня заснавання г. Ліды выйшла кіга твораў лідскіх паэтаў, прысвечаная гэтай даце, **"Мой горад - гонар мой"**.




У верасні да 690-х угодкаў з дня заснавання г. Ліды выйшла **"Кніга рэкордаў Лідчыны"**. У 2012 годзе рэдакцыя "Лідскай газеты" (галоўны рэдактар Кацярына Серафімовіч) пачала працу над гэтым праектам. Ідэя стварэння кнігі належыць рэдактару аддзела фотаілюстрацыі газеты Лілеі Лапшыной.

# ЛІДЗЕ - 690

14-15 верасня Ліда адзначала 690-я ўгодкі са дня заснавання. Праграма свята была надзвычай насычаная і пачалася з ушанавання лепшых людзей раёна. Напярэдадні рашэннем сесіі раённага Савета дэпутатаў прысвоены званні "Ганаровы грамадзянін Лідскага раёна":

**архіепіскупу Гурыю**, кіраўніку справамі Беларускага Экзархата, рэктару Менскіх духоўных акадэміі і семінарыі, намесніку Свята-Ўспенскага Жыровіцкага манастыра;

**Жураўскаму Аляксандру Аляксандравічу**, які з 1984 па 2003 год працаваў пракурорам Лідскага раёна;

**Зайцавай Наталлі Андрэеўне**, дырэктару дзяржаўнай установы "Гімназія №1 г. Ліды";

**Казакову Валянціну Фёдаравічу**, які з 1969 па 2004 год працаваў дырэктарам сярэдняй школы №8;

**Кандратаву Віктару Дзям'янавічу**, начальніку кіравання макраэканамічнага аналізу і прагназавання галоўнага эканамічнага кіравання Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

**Каранюку Аляксандру Аляксандравічу**, які з 1964 па 1993 год працаваў старшынём калгаса "Бердаўка";









*Вячаслаў Статкевіч каля зоркі яго імя*



**Мамчыцу Станіславу Іванавічу**, лекару-ўролагу, які прапрацаваў загадчыкам уралагічнага аддзялення ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца" з 1988 па 2011 год;

**Фаміной Людміле Мікалаеўне**, лекару-няўролагу неўралагічнага аддзялення ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

**Худыку Андрэю Паўлавічу**, старшыні Гарадзенскага гарадскога выканаўчага камітэта;



**Юфе Ўладзіміру Якаўлевічу**, дарадцу па сувязях з грамадскасцю ААТ "Лідскае піва", які працаваў дырэктарам гэтага прадпрыемства з 1986 па 2009 год.

Усе кандыдатуры на прысваенне звання "Ганаровы грамадзянін Лідскага раёна" ў пярэдадзень юбілею горада - яго 690-годдзя - былі ўнесены для разгляду адпаведнымі працоўнымі калектывамі.

Зараз Лідскі раён мае 13 Ганаровых грамадзян. Такім званнем раней былі ўганараваны **Папова Надзея Іванаўна, Гардзіёнок Пётр Рыгоравіч, Лабан Пётр Пятровіч.**

21 чалавек быў адзначаны ў намінацыі “Гонар Лідчыны”. Сярод іх: Вячаслаў Статкевіч, саліст ансамбля “Свята”, скульптар Р. Груша, кампазітар С. Бугасаў, мастак па шклу Ў. Мурахвер і інш. Перад Лідскім музеем устаноўлены памятны знак з іхнімі імяннымі зоркамі.

Гісторыя Ліды была тэатралізавана прадстаўлена на цэнтральная плошчы. Уся дзея ішла на беларускай мове. Турнір "Меч Лідскага замка" працягнуў эпоху Сярэднявечча. Арганізатар турніру Мікола Шаўчэнка - кіраўнік лідскага клуба "Dies Magna", што азначае "Дзень велічы". У Ліду прыбылі ўдзельнікі зборнай Беларусі па гістарычных баях, а таксама ўдзельнікі такой жа зборнай з Расіі.







Адразу пасля вялікага святочнага шэсця на цэнтральную пляцоўку г. Ліды для таго, каб павітаць ды павіншаваць сваёй творчасцю жыхароў Лідчыны выйшлі фальклорныя калектывы Троцкага рэгіёна Літвы.



Трачане прыехалі ў Ліду ў рамках III фестывалю фальклору "Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах" пры міжнароднай тэхнічанай дапамозе Еўрапейскага Саюза ў рамках праекту трансмежавага супрацоўніцтва паміж Латвіяй, Літвой і Беларуссю. З арыгінальным рэпертуарам літоўскай народнай творчасці - народнай музыкай, песнямі, танцамі, а таксама абрадам "Жніво" - прысутных знаёмілі ўдзельнікі польскага ансамбля народнай песні і танца "Poluknianie", лендварыйскай групы народнага танцу "Lendvare" і троцкага ансамбля інструментальнай музыкі "Serenada".



У сваю чаргу лідзяне паказалі, што таксама ўмеюць і любяць спяваць. Дастаткова было паслухаць выступленні нашых народных і самадзейных калектываў, каб упэўніцца ў гэтым. Лепшыя канцэртныя нумары прадставілі: народны хор "Скарбніца" ААТ " Завод "Оптык", узорны ансамбль танцу "Крышталікі" Бярозаўскага ГДК, народны ансамбль "Журавінка" Першамайскага ДК, народны сямейны ансамбль Парфенчыкаў Бердаўскага ЦКВЧ, а таксама выступленне фальлорных аматарскіх калектываў Лідскага раёна.



На святочных пляцоўках працавалі выстава прадукцыі лідскіх прадпрыемстваў, дзіцячыя атракцыёны, гандлёвыя рады, выставы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, старажытных прылад працы і інш.

У праграме свята прайшлі таксама фестываль квасу, конкурс падворкаў на лепшы сноп, лепшы каравай.

Вечарам першага дня лідзян радавалі майстры









беларускай і расейскай эстрады. Ноччу неба над старажытным Лідскім замкам расквецілі агні феерверкаў.

На другі дзень акрамя свята ў горадзе адбылося і авіяцыйнае свята на Лідскім аэрадроме.

***Яраслаў Грынкевіч.***

*Здымкі лідскіх фатографаў.*

# 100 гадоў Лідскаму аэрадрому

















Свята авіятараў адбылося на найстарэйшым у Беларусі Лідскім аэрадроме 15 верасня. Аэрадром адзначаў сёлета 100-годдзе. У неба падняліся самалёты Міг-29, Су-25, верталёты Мі-24. На самалётах Л-39 сваё майстэрства прадэманстравала пілатажная група "Белая Русь". Гледачы ўбачылі выступы парашутыстаў, дэльтапланерыстаў і авіямадэлістаў. У праграме таксама быў паказ авіяцыйнай тэхнікі, выступленне роты ганаровай варты і святочны канцэрт.

Да 100-годдзя аэрадрома ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі разгорнута выстава. Выстава падае ўвесь гістарычны шлях Лідскага аэрадрома.

***Яраслаў Грынкевіч.***

*Здымкі Аляксандра Букшы з сайта “Ліда-інфо”.*

# 20-годдзе ўстаноўкі помніка Францішку Скарыну ў Лідзе

25 ліпеня ў Лідзе прайшло Скарынаўскае свята, прымеркаванае да 20-годдзя ўстаноўкі ў горадзе помніка Францішку Скарыну. Тады 25 ліпеня 1993 года падчас працы 1-га з'езду беларусаў свету тут у Лідзе быў адкрыты першы манументальны помнік незалежнай Беларусі, помнік не цару-каралю, не палкаводцу, а менавіта першадрукару. У гэтага помніка ёсць канкрэтныя аўтары, і іх пакуль яшчэ ўсе памятаюць. Ідэя пастаноўкі помніка Ф. Скарыну ў Лідзе належыць старшыні моладзевай суполкі "Рунь" Марыі Саўкевіч (цяпер Марыя Мацко, дырэктар карцінnай галерэі "Крыга" ў Гародні). Праводзіла ідэю ў жыццё Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны, якую ў той час узначальваў Міхась Мельнік. Аўтар помніка скульптар Валяр'ян Янушкевіч, архітэктар Рычард Груша. Ну і, канешне, горад Ліда. Менавіта на горад (старшыня выканкаму ў той час - Уладзімір Малец) легла асноўная нагрузка і фінансавая, і арганізацыйная.



Пра ўсё гэта і гаварылася падчас свята, ініцыятарам якога выступала Лідская цэнтральная раённая бібліятэка імя Янкі Купалы (дырэктар Ірына Саўсян), але былі задзейнічаны многія ўстановы культуры горада.

Вітаў удзельнікаў свята намеснік старшыні Лідскага райвыканкама Віктар Пранюк.

Пранікнёную прамову ў падтрымку роднай беларускай мовы сказаў ксёндз лідскага Крыжаўзвіжанскага касцёла Вячаслаў.

Уся дзея з прыбылымі на свята Ефрасінняй Полацкай і самім Францікам Скарынам разгортвалася паводле сцэнару, распрацаванага супрацоўнікамі бібліятэкі Алесем Хітруном і Аленай Быстрыцкай. Вялі імпрэзу Юры Карпук і Алена Наваслаўская.

Згадваючы часы 20-гадовай даўніны Міхась Мельнік расказаў, якая палеміка ішла ў прэсе ў тыя часы, колькі ворагаў было ў помніка, хаця ворагі там былі не персанальна Скарыны, там былі ворагі ўсяго беларускага, любой праявы беларушчыны. Каму б помнік не ставілі, яны былі б супраць. Грошы збіраліся па ўсім горадзе, але толку ад доўгатэрміновага збору было мала, бо грошы тыя вельмі хутка абясцэньваліся. Але ж помнік ёсць.



Архітэктар помніка Рычард Груша расказаў, як за тыдзень да ўстаноўкі пры апрацоўцы ў Менску лопнуў камень-пастамент, і як прыйшлося на хаду ўсё мяняць, ехаць на Ўкраіну, купляць гранітныя пліты, везці ў Беларусь, заліваць бетонны маналіт і аздабляць плітамі ў апошнюю ноч перад адкрыццём.



Падчас свята іграў гурт сярэднявечнай музыкі "Скудрынка", выступалі лідскія паэты Марыя Масла, Пётр Макарэвіч, Тадэвуш Чарнавус, Алесь Мацулевіч, Станіслаў Суднік. Міхась Мельнік прачытаў вершы Алесі Бурак.



Вядомы лідскі бард Сяргей Чарняк пачаў свой выступ з песні на словы Францішка Багушэвіча "Малітва" (... каб я панам ніколі не быў...).

Прыемна, што ўсё свята было зладжана на мове Скарыны - на беларускай мове.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Лідскія юбіляры 2013 года

# Ён нарадзіўся ў беларускай Атлантыдзе

### *90-я ўгодкі Земавіта Фядэцкага*

***Земавіт Фядэцкі** - выбітны славіст, перакладчык расійскай, беларускай і французскай літаратуры. Дзякуючы яму, палякі спазналі такіх пісьменнікаў, як Аляксандр Купрын, Міхаіл Булгакаў, Мікалай Забалоцкі, Уладзімір Высоцкі, Сяргей Ясенін. Дзякуючы яму, беларускія народныя песні з вёскі Феліксава Лідскага раёна, сабраныя ў кнігу **"Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі... czyli co spiewano w Fieliksowie"**, атрымалі тытул "Песні Атлантыды" ад еўрапейскай грамадскасці. За свае літаратурныя дасягненні атрымаў узнагароду ПЭН-клуба ў 2001 годзе.*

Цяжка пісаць пра яго жыццё, настолькі яно было багатым і разнастайным. Ён сам мне часта распавядаў пра падзеі, у якіх удзельнічаў, але яны былі, як быццам з розных баек, розных светаў. Мне заўсёды цяжка было паскладаць усе гэтыя аскепкі ў адну карціну.

Ён нарадзіўся 22 жніўня 1923 года ў вёсцы Лебяда Лідскага раёна, у шляхецкай сям'і, але яго бацькі (такім чынам, і ён) трымаліся заўсёды левых поглядаў. Да вайны Фядэцкія жылі ў Вільні. У ваенны час яны арганізавалі сетку дапамогі габрэям, якую ўзначаліла маці Земавіта, Марыя Фядэцкая. Яны ўпотай вывозілі габрэяў з Літвы ў Беларусь, у такія месцы, дзе было адносна бяспечна.



***Маці Земавіта Фядэцкага Марыя Фядэцкая з дачкой Басяй***




Яшчэ падчас вайны Земавіт Фядэцкі пачаў працаваць прэс-аташэ ў польскім пасольстве ў Маскве. Там ён пазнаёміўся з многімі цікавымі людзьмі, у тым ліку з Пастарнакам. Падчас ганенняў на "касмапалітаў", калі ў Барыса Леанідавіча аднялі ўсе магчымасці заробкаў, Фядэцкі яму перадаваў "ганарары" з пасольства за тэксты, нібы перакладзеныя на польскую мову. Калі ў Пастарнака стала лепш з грашыма, ён сказаў Фядэцкаму, што "ганарараў" ужо не трэба. Вельмі цікавыя гісторыі распавядаў пра гасцей Пастарнака, напрыклад пра Жывава, які навучыўся ўпадаць у непрытомнасць заўсёды, калі чуў, што гаспадар лае Сталіна.

Сяброўства з пісьменнікамі - вельмі характэрнае для Фядэцкага. Ён абавязаны ім шмат чым, але і

пісьменнікі шмат чым абавязаны яму. І незалежна ад таго, ці былі яны нашмат старэй за яго, ці наадварот, ён быў нашмат старэй за іх, як у выпадку Эдварда Стахуры.

У гадах 1948-50, пасля вяртання з Масквы ён працаваў шэфам аддзялення рускай літаратуры ў выдавецтве "Чытэльнік". Тады ён здружыўся з Канстанты Галчынскім і нават знайшоў яму на Мазурах лясную вартоўню Пране, дзе ў апошні перыяд свайго жыцця Галчынскі напісаў шмат вершаў і паэм. Цяпер там знаходзіцца музей Галчынскага, але ў 50-ыя ляснік не зусім ахвотна ўпусціў варшаўскіх гасцей. Ён быў з АК і баяўся арышту.

Пасля "Чытэльніка" Фядэцкі стаў рэдактарам "Творчасці" і з яго ацэнкамі вельмі лічыўся галоўны рэдактар часопіса Яраславаў Івашкевіч. У "посткастрычніцкі" перыяд, г.зн. падчас нашай адлігі (57-58) Фядэцкі разам з Севярынам Полякам пачаў выдаваць часопіс "Opinie" (“Меркаванні”), прысвечаны рускай і савецкай літаратуры. Фядэцкі прывозіў з Саюза шматлікія тэксты, у тым ліку невядомых тады аберыўтаў. Прывёз і рукапіс "Доктара Жывага" (хоць раман яму не спадабаўся). Урывак з яго надрукавалі ў часопісе, і выдавецтва нават склала дамову з перакладчыкам. Але неўзабаве пасля вядомага скандалу дамова была скасавана, а часопіс скончыў існаванне пасля двух нумароў. Барыс Палявы прыязджаў адмыслова ў Польшчу і патрабаваў суда для яго рэдактараў. Кочатаў гнеўна пытаў у "Литгазете": "Чые гэта меркаванні?". Аказалася, "заходніх рэвізіяністаў".

З 1954 г. (аж да закрыцця тэатра) Фядэцкі супрацоўнічаў у Студэнцкім Тэатры Сатырыкаў. Разам з Анджэем Ярэцкім пісаў там аперэты. Для СТС ён пераклаў (разам з Віктарам Варшыльскім) "Лізавету Бам" Хармса - у 1966 адбылася сусветная прэм'ера гэтай п'есы. Фядэцкі наогул даволі часта працаваў "на пару" з іншымі. З Галчынскім пераклаў верш Пастарнака "Вальс са слязой". Яны разам напісалі шмат парадыйных вершаў, напрыклад "Песні муляроў" ці па-руску "Гімн СССР, напісаны Салтыковым-Шчадрыным". На жаль, гэтыя тэксты не захаваліся. Ён памятаў толькі канец гімна: "Помните, граждане: Не рассуждаааать!".

Фядэцкі не пераклаў шмат, але затое ўсе яго пераклады былі вельмі высокай якасці. Такім чынам, ён пераклаў "Будзь здаровы, шкаляр" Акуджавы і некалькі яго песень ("Песня пра караля і салдат", памойму, лепшая за арыгінал). Ён знайшоў Акуджаву, калі той яшчэ не быў шырока вядомы і жыў у нейкай маскоўскай будцы. Перавёў "Тэатральны раман" Булгакава, "Дом на набярэжнай" Трыфанава; аповесць Петрушэўскай "Наша кола" надрукаваў у "Творчасці", калі яшчэ Петрушэўскую не друкавалі. Перакладам яго жыцця была паэма Забалоцкага "Перамога земляробства" - наогул ён выдаў том Забалоцкага папольску. Выдаў і Ясеніна, і свой аўтарскі том перакладаў Высоцкага.

У апошнія гады жыцця, пакуль яшчэ мог працаваць, ён падрыхтаваў да друку пяць аўтарскіх выбараў паэзіі: Галчынскага, Тувіма, Асецкай, Стахуры і Ваячака. За свой кошт выдаваў зборнікі паэтаў-дэбютантаў.

Яго цікавіла многае: і чэшскае кабарэ (з пражскага "Семафора" проста не выходзіў), і французскія слоўнікі арго, і беларускія народныя песні - ён склаў зборнік песень, якія запісаў у вёсцы Феліксава падчас вайны. **Наогул, у яго былі самыя далікатныя пачуцці да ўсяго, што беларускае.**




У мяне засталося такое ўражанне, што не літаратура была для яго самай важнай, а жыццё - людзі (асабліва жанчыны), звяры, прырода, спорт, карты, крыжаванкі...

Фядэцкі заўсёды дапамагаў пісьменнікам-пачаткоўцам, калі толькі бачыў у іх наймалыя прыкметы таленту.

Менавіта дзякуючы яму я перастаў быць перакладчыкам-аматарам, а стаў сапраўдным прафесійным перакладчыкам. А здарылася гэта менавіта таму, што ён мае раннія пераклады раскрытыкаваў. Разнёс нашчэнт. Добрым жа перакладчыкам ты можаш стаць толькі пасля таго, калі зразумееш, што ты дрэнны перакладчык.

Ён навучыў мяне многаму. А самае важнае з гэтага, каб заўсёды казаць тое, што ты думаеш, не лічачыся з чужым, нават усеагульным меркаваннем. Ён сам быў праўдарубам, і многія яго за гэта не любілі. "Пан Юрак - казаў ён. - Ну і што з таго, што Мілаш спадабаўся пану Нобелю? Бо пану Чэху Мілаш можа і не падабацца".

Я ганаруся тым, што ён зваў мяне сваім сябрам.

Памёр Земавіт Фядэцкі 8 студзеня 2009 года ў Варшаве, маючы 85 гадоў.

***Ежы Чэх.***

# Гісторык-патрыёт
## (да 80-годдзя Міхаіла Васілючка)

А ці можа быць іншым гісторык? На вялікі жаль, можа. У наш час у гістарычнай навуцы з'явілася нямала спецыялістаў, якія вельмі старанна дэманструюць сваю ідэалагічную правільнасць, аб'ектыўнасць, нават своеасаблівы пурызм. Такім чынам ладзіцца дыстанцыя, што аддзяляе цябе ад тваіх пачуццяў да Бацькаўшчыны. Больш за тое, пэўная частка гісторыкаў палічыла, што прыйшоў іх час, і можна бэсціць нацыянальных герояў Беларусі, зневажаць ідэалы барацьбы за незалежнасць і проста перапісваць беларускую гісторыю ў адпаведнасці з постбальшавіцкімі догмамі. Так што на палетках гістарычных пошукаў зараз добра высвятляецца пытанне, хто ёсць хто? Мой жа прадмет гаворкі - гісторык Міхаіл Вікенцевіч Васілючак, калега па вышэйшай школе - адназначна заангажаваны ў беларускасці. І гэта пры тым, што доўгія гады выкладаў гісторыю КПСС. Ці няма тут парадоксу? Пэўна няма. Бо ўсё залежыць ад чалавечай асобы, ад таго, як глыбока закладзены ў ёй маральныя каштоўнасці свайго народа.



М. Васілючак належыць да таго пакалення, якое станавілася на ногі перад вайною ў заходнебеларускай вёсцы, дзе моцнаю яшчэ была традыцыйная народная культура. А яна зацвярджала, акрамя ўсяго іншага, адданасць свайму роду, сваёй зямлі, духоўнаму ладу яе жыцця. Гэтым найбольш вымяралася ў штодзённых буднях людскіх дачыненняў чалавечая прыстойнасць. Ад родных маральных вытокаў пачыналася і працягвалася жыццёвая сцежка Міхаіла Васілючка.

Нарадзіўся 23 верасня 1933 года ў вёсцы Малыя Князікоўцы Іўеўскага раёна. Тут скончыў сямігодку. Сярэднюю школу скончыў у вёсцы Бердаўка Лідскага раёна. Служыў у войску (1953-55). Настаўнічаў у вёсцы Карпавічы на Іўеўшчыне (1955-56). Скончыў гістарычна- геаграфічны факультэт Менскага педінстытута (1962). Быў дырэктарам сярэдняй школы ў вёсцы Голдава Лідскага раёна (1962-67). А з 1969 года, калі скончыў аспірантуру ў Менскім педінстытуце, пакрочыла наперад шматгадовая выкладчыцкая праца кандыдата гістарычных навук, дацэнта М. Васілючка. Спачатку ў Гомельскім універсітэце (1969-70), а з 1970 года - у Гарадзенскім сельскагаспадарчым інстытуце, дзе выкладаў гісторыю КПСС. У 1978-93 гг. М. Васілючак працуе прарэктарам па завочным навучанні Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. З 1994 года - на кафедры гісторыі Беларусі гэтага ўніверсітэта. І толькі нядаўна пайшоў ён, нястомны працаўнік, на гэтак званы заслужаны адпачынак. Але яго рухавую постаць вельмі часта можна спаткаць у галоўным корпусе ўніверсітэта: М. Васілючак - нязменны старшыня савета ветэранаў гэтай навучальнай установы, і клопаты зноў і зноў клічуць сюды. Трэба прызнаць, што Міхаіл Вікенцевіч шмат робіць для таго, каб універсітэт матэрыяльна хоць крыху падтрымліваў былых сваіх выкладчыкаў, каб яны мелі магчымасць тут сустракацца. За гэта яго па-сапраўднаму паважаюць.

Немалыя навуковыя здабыткі ў дацэнта М. Васілючка. Ён выдаў кнігу пра заходнебеларускую рэчаіснасць 1939-41 гг. ("У сям'і адзінай", 1977). Ён сааўтар даследаванняў "Ліда. Гістарычна-эканамічны нарыс"(1967, 2-е выд. 1980), "Іўе. Гістарычна-эканамічны нарыс" (1991), "Гродна ў гады Вялікай Айчыннай вайны. 1941-1944 гг." (1995, 2-е выд. 1996) і інш. Надрукаваў мноства артыкулаў.

З ім заўсёды прыемна сустрэцца і перакінуцца словам пра жыццё, якое так хутка бяжыць. Ён добра ведае цану чалавечаму быццю: сам перанёс цяжкія ўдары лёсу - трагічную страту сына, затым жонкі. Ды выстаяў і збярог у сабе жывую трапяткую душу. Вочы яго заўсёды свецяцца прыязнасцю і зычлівасцю, а ў гаворцы - нязменная і балючая трывога за сённяшні стан беларускай мовы ў Беларусі.

Многіх і ясных табе гадоў наперадзе, дарагі калега!

***Аляксей Пяткевіч.***

# Зорка Рычарда Грушы

## *50 гадоў таленту*

**Рычард Баляслававіч Груша** нарадзіўся 27 ліпеня 1963 г. у вёсцы Сцеркава Лідскага раёна. Скончыў Бердаўскую школу. Пасля заканчэння школы застаўся працаваць у родным калгасе "Бердаўка". Яго ўтрапёнае жаданне маляваць праяўлялася ўсюды і ва ўсім.

Кіраўніцтва калгаса, а менавіта Каранюк Аляксандр Аляксандравіч, звярнуў увагу на здольнасці маладога спецыяліста і накіраваў вучыцца на гадавыя курсы мастакоў-афармляльнікаў, арганізаваныя Гарадзенскім аблвыканкамам пры метадычным цэнтры народнай творчасці, якія той паспяхова скончыў.

Пасля заканчэння курсаў працаваў у калгасе ў якасці мастака-афармляльніка і адтуль быў прызваны служыць ва Ўзброеныя Сілы.

Тэрміновая служба праходзіла ў г. Ленінградзе ў Ваенна-медыцынскай акадэміі імя Кірава.

Горад на Няве з яго выдатнай архітэктурай, з яго непаўторнымі архітэктурнымі ансаблямі, музеямі, выставачнымі заламі зрабіў велізарнае ўражанне на маладога салдата. Камандаванне Ваенна-медыцынскай акадэміі імя Кірава заўважыла здольнасці маладога скульптара і прапанавала выканаць першую сур'ёзную замову ў яго жыцці - выраб постаці-манекена маладога байца (як вучэбны дапаможнік) у натуральную велічыню, якая была выкананая ў гіпсе для далейшай адліўкі прэс-формы з металу. Прэс-форма адлівалася на Мастацка-скульптурным камбінаце г. Ленінграда па адліўцы мастацкага ліцця. Адзнака гэтай працы прафесійнымі скульптарамі Мастацкага кам-біната была дадзена выдатная, і праца была прызнаная высокапрафесійнай. Чатырохмесячная праца маладога салдата камандаваннем Ваенна-медыцынскай акадэміі была адзначана падзякай і аб'яўленнем пазачарговага адпачынку.

На працягу ўсёй тэрміновай службы малады мастак паспяхова займаўся афармленнем нагляднай агітацыі, наглядных дапаможнікаў у батальёне забеспячэння вучэбнага працэсу Ваенна-медыцынскай акадэміі.

Пасля заканчэння службы камандаванне прапанавала Рычарду Грушу застацца служыць і працаваць у акадэміі мастаком, але любоў да роднай зямлі і бацькоўскай хаты была мацнейшай.

Пасля заканчэння службы, вярнуўшыся ў родную вёску Сцеркава, разам з аднакласнікамі арганізаваў вакальна-інструментальны ансамбль, у якім граў на бас-гітары на працягу чатырох гадоў.

Паралельна Р. Груша працягваў займацца афармленнем нагляднай агітацыі калгасаў, саўгасаў, дзіцячых дашкольных устаноў, школ і іншых арганізацый.

У гэты ж перыяд Р. Груша паступае на завочнае аддзяленне Маскоўскага народнага ўніверсітэта мастацтваў на аддзяленне станковага малюнка і жывапісу. Пасля пяцігадовага навучання паспяхова яго заканчвае.



З 1987 года пачынае займацца афармленнем дзіцячых садоў у тэхніцы "разьбярства па дрэве".

У 1988 годзе ўдзельнічае ў першай выставе скульптурных кампазіцый, арганізаванай таварыствам палякаў у г. Лідзе , якая праходзіла ў родным горадзе.

У 1989 годзе выконвае першую ў сваім жыцці і самую вялікую манументальную працу ў дрэве, кампазіцыю пад назвай "Сымон-музыка", якая складалася з дзвюх скульптур і была ўсталявана ў дзіцячым саду № 15 г. Ліды.

У 1991 годзе распрацоўвае і выконвае комплекснае афармленне гульнявых пляцовак дзіцячага садка вёскі Тракелі Воранаўскага раёна, дзе ўсталёўвае каля 25 скульптур у дубе.

У 1993 годзе Р. Груша стварае МП "Дызайн", якое займаецца добраўпарадкаваннем горада, тэрыторыі, сквераў, у гэтым жа годзе ўсталёўвае помнік Францішку Скарыну (аўтарам якога з'яўляўся малады скульптар Валяр'ян Янушкевіч) і выконвае добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол яго. Зноў сумесна з маладым скульптарам В. Янушкевічам усталёўвае помнік першаму расейскаму амбасадару ў Японіі спадару Гашкевічу ў г. Астраўцы Гарадзенскай вобласці і выконвае добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол яго.

У 1993-1994 гг. працуе над афармленнем вестыбюля цэнтральнай раённай паліклінікі ў тэхніцы "разьбярства па дрэве". У гэтым жа годзе выконвае афармленне актавай залы сярэдняй школы № 4.

У 1995 годзе сумесна з калегам і сябрам Юрыем Някрасавым арганізоўвае студыю выяўленчага мастацтва па вуліцы Рыбіноўскага, у якой навучае дзяцей і дарослых. Паралельна піша карціны, займаецца скульптурай.

У 1996 годзе перадае ў дарунак музею імя А. Міцкевіча (г. Наваградак) партрэт А. Міцкевіча ў дрэве.

З 1993 года ўпершыню ў горадзе займаецца вывучэннем і апрацоўкай прыроднага каменю. На сённяшні дзень на прадпрыемстве, дзе ён працуе, маецца тэхнічная база з тэхналагічным абсталяваннем,

якая дазваляе апрацоўваць прыродны камень, надаваць яму вытанчаныя архітэктурныя формы. Дадзеная тэхналагічная абсталяванасць дазваляе Р. Грушу ўвасабляць яго ідэі ў рэальнасць, гэта значыць выконваць мастацкія вырабы з каменю.

У 2000 годзе распрацоўвае праект і ўсталёўвае памятны знак - камень у гонар 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова па вул. Савецкай у Лідзе.

4 кастрычніка 2001 г. адкрывае персанальную выставу жывапісу і скульптуры "Мая Беларусь" у Краязнаўчым музеі г. Ліды, на якой перадае ў падарунак музею скульптуру "Благаслаўленне зямлі" і два маляўнічыя палотны - пейзажы. Прэзентацыя выставы прайшла паспяхова. На ёй прысутнічалі вядомыя пісьменнікі, паэты, мастакі, сябры і прэса. Пасля заканчэння персанальнай выставы творы Р. Грушы працягвалі ўпрыгожваць выставу вершаў паэтаў Ліды і Лідскага раёна, у якой Р. Груша таксама прыняў удзел як паэт.

19 студзеня 2002 года адбылося адкрыццё персанальнай выставы жывапісу, скульптуры, паэзіі "Мая Беларусь" у выставачнай зале Саюза мастакоў у г. Гародні, на якой аўтар быў прызнаны як чалавек новага часу.

12 лютага 2002 года адбылося адкрыццё персанальнай выставы ў Рэспубліканскай Галерэі Мастацтваў у г. Менску, на якой у адрас аўтара прагучалі словы: "Беларускі Ван Гог".

18 красавіка 2002 г. адбылося адкрыццё персанальнай выставы ў Доме-музеі А. Міцкевіча г. Навагрудка, якую наведала каля 11 тысяч чалавек.

13 траўня 2002 года адкрылася выстава ў цэнтральнай штаб-кватэры ЮНЭСКА ў Парыжы, прысвечаная 200-годдзю І. Дамейкі, арганізаваная пяццю краінамі - Беларусь, Польшча, Літва, Чылі, Францыя, на якой Рэспубліка Беларусь была прадстаўленая палотнамі аўтара Р. Грушы, экспазіцыя дадзенай выставы дэманстравалася ў многіх гарадах Францыі і Еўропы да канца верасня 2002 года.

12 верасня 2002 года адкрыты памятны знак у гонар 200-годдзя І. Дамейкі, які быў перададзены ў якасці падарунка Крупаўскай СШ. У гэты ж дзень адкрыта персанальная выстава жывапісу Р. Грушы, прысвечаная памяці І. Дамейкі, знакамітага сына беларускай зямлі, у Крупаўскай СШ.

12 верасня 2002 года адкрыты памятны знак у г. Навагрудку сябру І. Дамейкі Адаму Міцкевічу, які быў перададзены г. Навагрудку ў якасці падарунка. У гэты ж дзень была арганізавана і адкрыта выстава Гарадзенскага аб'яднання Саюза мастакоў у гонар 200-годдзя І. Дамейкі.

12 верасня 2002 года адкрыты памятны знак на магіле бацькі І. Дамейкі да 200-годдзя І. Дамейкі ў г.п. Мір каля касцёла Святога Мікалая, які быў перададзены ў якасці падарунка мясцовым жыхарам.

19 верасня 2002 г. адкрылася персанальная выстава жывапісу, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Ігната Дамейкі "Радзіма Дамейкі вачыма мастака" ў Гістарычна-мастацкім музеі г. Ліды, на якой заслугі аўтара перад Айчынай былі ацэненыя дыпломам, які ўручаў старшыня Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЭСКА Уладзімір Шчасны "За дзейнасць па ўвекавечанні культурнай спадчыны Беларусі". Падобных дыпломаў было выдадзена пяць: першы атрымаў П'ер Кардэн /Францыя/, другі.- генеральны дырэктар ЮНЭСКА К. Мацуура /Японія/, трэці - акадэмік Р. Гарэцкі /Акадэмія навук, Інстытут археалогіі, Беларусь/, чацвёрты - прафесар Адам Мальдзіс /Беларусь/. Таксама ад Акадэміі навук і інстытута геалогіі Я.І. Аношка ўручыла аўтару срэбны медаль з выявай І. Дамейкі за ўклад ва ўвекавечанне памяці нашага земляка. Старшыня Фонду беларускай культуры Ўладзімір Гілеп уручыў аўтару Статут ІКАМАСа для вывучэння і стварэння творчай майстэрні па ўвекавечанні знакамітых імёнаў Беларускай зямлі.

10 кастрычніка 2002 года адкрылася персанальная выстава жывапісу, прысвечаная памяці першага консула Расійскай Імперыі ў Японіі Іосіфа Гашкевіча ў г. Астраўцы. У гэты ж дзень быў адкрыты памятны знак у в. Малі Астравецкага раёна, прысвечаны Іосіфу Гашкевічу. У гэты ж дзень на Гашкевіцкіх чытаннях аўтарам быў прадстаўлены праект адраджэння сядзібы Іосіфа Гашкевіча з прапановай японскаму боку прафінансаваць праект, на што японскі бок даў папярэднюю згоду.

З 1 лістапада 2002 года Р. Груша бярэ шэфства над дзіцячым садком № 30 г. Ліда, распрацоўвае і вырабляе скульптурныя кампазіцыі ў дрэве па матывах твораў беларускіх аўтараў і народных казак.

10 лістапада 2002 года была адкрытая памятная дошка ў гонар польскіх афіцэраў, якія загінулі ў бітве за Ліду 23.03. і 16-17.04.1919 года, на плітах 83 прозвішчы, пліта ўсталявана ў капліцы Святой Барбары ў г. Лідзе.

5 сакавіка 2003 года адкрылася выстава лідскіх мастакоў, на якой былі прадстаўлены 10 палотнаў зімовых пейзажаў асабіста, а таксама прагучалі дзве песні, напісаныя на вершы Р. Грушы ў выкананні аўтара музыкі Васілісы Пазнуховай.

13 траўня 2003 года адкрылася персанальная выстава жывапісу "Гістарычная зямля Літвы", прысвечаная 750-годдзю каранацыі Міндоўга ў г. Навагрудку ў дзень правядзення Міжнароднай канферэнцыі ў гонар гэтай даты.

5 чэрвеня 2003 года адкрылася персанальная выстава ў Доме-музеі Адама Міцкевіча ў г. Навагрудку.

3 ліпеня 2003 года быў адкрыты памятны знак у камені "Загінулым у Навагрудскім катле" у гонар загінулых у чэрвені-ліпені 1941 г. у аперацыі "Навагрудскі кацёл".

4 ліпеня быў адкрыты памятны знак у Нясвіжы ў гонар правядзення Міжнароднага фэсту сярэднявечнай культуры, які адкрыў міністр культуры, і які быў падораны г. Нясвіжу аўтарам.

13 ліпеня 2003 года была ўсталяваная памятная дошка ў капліцы Святой Барбары ў памяць трох ксяндзоў з парафій Лідскага павету, расстралянных царскімі карнікамі за ўдзел у паўстанні 1863 года.

1 жніўня 2003 года адкрылася персанальная выстава жывапісу ў Нясвіжы ў Мастацкай галерэі, на якой дырэктар Дома-музея Адама Міцкевіча Гайба Мікалай Паўлавіч і старэйшы супрацоўнік Навагрудскага аддзела культуры Лаўрашчук Вячаслаў Уладзіміравіч уручылі Р. Грушу падзячны ліст за вялікую арганізацыйную і творчую працу па ўсталяванні

памятнага знака, прысвечанага ваярам Чырвонай Арміі, загінулым у чэрвені-ліпені 1941 года ў “Наваградскім катле”. Адкрыццё выставы агучваў ансамбль габрэйскай музыкі “Шалом”.

9 жніўня 2003 года адбылося адкрыццё памятнага знака ў гонар 120-годдзя з дня нараджэння беларускага святара і паэта Янкі Быліны (Яна Семашкевіча) у вёсцы Кушляны Астравецкага раёна каля Клюшчанскага касцёла, у якім хрысцілі Янку Быліну, і ў якім ён правёў сваю першую імшу. Адкрыццё адбылося ў дзень правядзення Першых краязнаўча-літаратурных чытанняў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння паэта.

13 жніўня 2003 года быў адкрыты памятны знак габрэям Ліды і Вільні, па-зверску знішчаным нямецкімі акупантамі і іх памагатымі ў 1942-1943 гадах, які быў перададзены ў якасці падарунка жыхарам горада Ліды.

4 верасня 2003 года адбылося адкрыццё памятнага знака “Памяці роду Агінскіх” у вёсцы Залессе Смаргонскага раёна ў дзень правядзення Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай памяці знакамітага кампазітара Міхала Клеафанса Агінскага. Таксама ў гэты дзень была ўсталявана ахоўная дошка на камені пры ўездзе ў маёнтак Агінскага. Гэтыя знакі былі перададзеныя аўтарам у якасці падарункаў жыхарам вёскі Залессе.

6 верасня 2003 года быў адкрыты памятны знак з выявамі сімволікі Скарыны і г. Полацка ў Полацку каля Музея друку ў дзень правядзення свята славянскага пісьменства. Памятны знак таксама быў падораны аўтарам гораду Полацку.

30 верасня 2003 года адбылося адкрыццё памятнага знака ў гонар 180-годдзя з дня нараджэння Ўладзіслава Сыракомлі ў вёсцы Смольгава Любанскага раёна Менскай вобласці, які таксама быў перададзены ў якасці падарунка мясцовым жыхарам. У гэты ж дзень удзельнікамі канферэнцыі была закладзеная рабінавая алея.

3 кастрычніка 2003 года былі ўсталяваны і адкрыты на святкаванні нацыянальнага свята “Дажынкі-2003” пяць памятных знакаў, сярод іх памятны знак у гонар заснавання горада Пружаны з эмблемай горада і годам заснавання, памятны знак у гонар заснавання парку горада Пружаны шляхціцам Пятром Швыкоўскім, памятны знак у гонар правядзення свята “Дажынкі-2003” з эмблемай свята, памятны знак па спаленай у гады Вялікай Айчыннай вайны ў Пружанскім раёне 51 вёсцы, памятны знак у падзяку Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнку, і людзям, якія спрыялі правядзенню свята, ад удзячных жыхароў г. Пружаны. У гэты ж дзень адбылося адкрыццё персанальнай выставы жывапісу ў музеі-сядзібе “Пружанскі палацык”.

17 кастрычніка 2003 года камандаванне і асабовы склад 206 штурмавой авіяцыйнай базы выказалі шчырую падзяку мастаку - скульптару за бязвыплатную дапамогу па ўвекавечванні памяці загінулага пры выкананні службовых абавязкаў лётчыка капітана Бойкі Пятра Юр’евіча.

19 сакавіка 2004 года персанальная выстава жывапісу ў Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні ў пярэдадзень правядзення абласнога конкурсу, прысвечанага К. Горскаму, на якім аўтар уручыў тры персанальныя прызы (карціны) за лепшае выкананне па класе: баян, акардэон, фартэпіяна.

25 сакавіка 2004 года Камітэт ушанавання ўганараваў Рычарда Грушу Медалём братоў Луцкевічаў “За служэнне Бацькаўшчыне” з уручэннем дыплома і занясеннем у Кнігу гонару “Руплівцы твае, Беларусь”.

7 красавіка 2004 года адкрылася персанальная выстава жывапісу ў мастацка- краязнаўчым музеі мемарыялу Брэсцкая крэпасць, прысвечаная 60-годдзю вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, на якой адбыліся прэм’еры песень, напісаных на вершы Р. Грушы, выканаўцы: ансамбль яўрэйскай музыкі “Шалом” - песня “Бацькаўшчына”, ансамбль эстраднай песні “Ліда-мюзікл” - песні “Мой край...”, “Мусіць ты...”, кампазітар і выканавец Аляксандр Якіменка - песні “Беларусь”, “Прабач мяне”, кампазітар і выканавец Васіліса Пазнухова - песні “ Песціцца вясна”, “Аб мінулым”.

9 траўня 2004 года ў час правядзення свята Перамогі над фашысцкай Нямеччынай у мемарыяле Берасцейскай цвердзі ў мастацка-гістарычным музеі мастаком Р. Грушам была ўручана карціна шасцітысячнаму наведвальніку мастацкага музея.

4 чэрвеня 2004 года ў вёсцы Лапушно Дзятлаўскага раёна Гарадзенскай вобласці ў капліцы адкрыта мемарыяльная дошка ў памяць Тадэвуша Поляка - міністра культуры, рэстаўратара Рэспублікі Польшча, якую аўтар Р. Груша перадаў у якасці падарунка мясцовым жыхарам. Адкрыццё дошкі адбылося пры ўдзеле прадстаўнікоў міністэрства культуры Польшчы і Беларусі. Урачыстую імшу ў памяць Тадэвуша Поляка правёў біскуп Антоні.

12 чэрвеня 2004 года вершамі Р. Грушы быў адкрыты Беларускі фэст мастацтваў “Наваградак-2004”, прымеркаваны да 960-годдзя горада, на якім таксама прагучалі песні, напісаныя на яго вершы ў выкананні аўтараў: ансамбля яўрэйскай музыкі “Шалом”, тэатра эстраднай песні “Ліда-мюзікл”.

16 чэрвеня 2004 года адчынілася персанальная выстава жывапісу, прысвечаная 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Менскам дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры.

1 ліпеня адкрыты памятны знак у вёсцы Больцішкі на магіле невядомага салдата ў гонар 60-годдзя вызвалення Воранаўскага раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

3 ліпеня адкрыты памятны знак у гонар вызвалення г. Століна і Столінскага раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, прысвечаны 60-годдзю вызвалення.

17 ліпеня 2004 года быў адкрыты памятны знак палкоўніку, Герою Савецкага Саюза Масонаву Н.П. у г. Свіслач.

27 ліпеня ў горадзе Берасці па пляцы Волі адкрыты памятны знак у гонар вызвалення г. Берасця ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

28 ліпеня адкрыты памятны знак у гонар 985-годдзя заснавання г. Берасця, які аўтар перадаў у якасці падарунка жыхарам г. Берасця.

6 жніўня 2004 года адкрылася персанальная выстава ў г. Полацку пад назвай “Родныя краявіды Беларусі”, на якой прагучалі песні на вершы Р. Грушы аб Беларусі.

14 кастрычніка 2004 года ў г. Баранавічы адкрыты памятны знак, прысвечаны Дню маці - “Я толькі кропля ў тваіх крыніцах, мама ...”.

14 кастрычніка 2004 г. у г. Лідзе адкрыты памятны знак у гонар заснавання Лідскага радыё, перададзены ў якасці падарунка жыхарам г. Ліды, а таксама ў гэты ж дзень былі перададзены ў якасці падарункаў: сімвалічны ключ ад Лідскага радыё ў дрэве і карціна памерам 800х700 мм “Вечар на Жыжме”.

26 кастрычніка 2004 года ў Лідскім педагагічным каледжы адбылася персанальная выстава ”Краявіды Прынямоння”, на якой прагучалі песні на вершы Р. Грушы аб Беларусі.

28 кастрычніка 2004 года ў г.п. Радунь усталяваны надмагільны знак яўрэйскаму мудрацу, тлумачальніку Талмуда і Торы Хайму Хафецу.

16 снежня 2004 года ў г. Століне адкрылася персанальная выстава жывапісу пры ўдзеле ансамбля эстраднай музыкі “Ліда-мюзікл”. На выставе была прадстаўленая прэм’ера песні “Столін” на словы Р. Грушы, муз. Э.Б. Зарыцкага.

18 снежня 2004 года быў адкрыты памятны знак у г. Лідзе, на месцы былых яўрэйскіх могілак, перададзены Р. Грушам у якасці падарунка гораду.

У студзені 2005 года ў будынку касцёла вёскі Старыя Васілішкі Шчучынскага раёна. была адкрыта памятная дошка з бронзавым барэльефам у гонар музыкі, кампазітара і выканаўца Чэслава Немана.

У гонар 60-годдзя Перамогі над фашысцкай Нямеччынай былі адкрыты наступныя памятныя знакі:

7 траўня 2005 года ў в. Міхалішкі Астравецкага раёна, у гонар загінулых курсантаў Пастаўскай авіяцыйнай дывізіі ў першы дзень вайны;

7 траўня 2005 года ў в. Забалаць Вараноўскага раёна ў гонар загінулых у перыяд Вялікай Айчыннай вайны;

8 траўня 2005 года ў в. Новы Свержань Стаўпецкага раёна у гонар загінулых жыхароў у перыяд Вялікай Айчыннай вайны;

9 траўня 2005 года ў в. Адвержычы Столінскага раёна ў гонар загінулых жыхароў у перыяд Вялікай Айчыннай вайны.

26 траўня 2005 года - адкрыццё персанальнай выставы ў в. Бердаўка Лідскага раёна ў будынку сярэдняй школы, там жа адбылася прэзентацыя дошак з барэльефамі ў памяць уладальніка маёнтка Бердаўка Дамбавецкага і былога старшыні калгаса, ветэрана вайны і працы Каранюка А.А.

26 чэрвеня 2005 года ў г. Вільні адкрыта памятная дошка з бронзавым барэльефам у памяць ксендза Адама Станкевіча.

2 верасня 2005 года - адкрыццё памятнага знака афганцам “Салдатам неабвешчанай вайны” ў г. Шчучыне, адкрыццё персанальнай выставы жывапісу “Родныя краявіды” у г. Шчучыне.

22 верасня 2005 года - адкрыццё памятнага знака ў г. Лунінцы Берасцейскай вобласці ў гонар правядзення абласных “Дажынак-2005”, а таксама ў гонар заснавання горада Лунінца.

3 кастрычніка 2005 года ў г.п. Жалудок Шчучынскага раёна адкрылася персанальная выстава жывапісу “Родны прынёманскі край”.

16 снежня 2005 года адкрыццё персанальнай выставы “Родныя краявіды Беларусі для сяброў з Кітая” ў дзень правядзення Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай беларуска-кітайскім адносінам, г. Менск, БДУ, факультэт міжнародных адносін.

4 лютага 2006 года ўсталявана і адкрыта памятная дошка ў гонар 260-годдзя з дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі, Івацэвіцкі раён г.п. Косава каля дома-музея Тадэвуша Касцюшкі

14 сакавіка 2006 года сумесная .выстава: жывапіс, скульптура, арганізаваная Саюзам мастакоў Саюза палякаў на Беларусі, г. Беласток.

1 траўня 2006 года - памятны знак у гонар стагоддзя парку г. Берасця.

2 чэрвеня 2006 года - памятны знак, прысвечаны яўрэям, загінулым у гады Вялікай Айчыннай вайны.

3 ліпеня 2006 года ўсталяваны і адкрыты мемарыяльны комплекс г.п. Васілішкі “ Памяць загінулым землякам у гады вайны”.

7 жніўня 2006 года - памятны знак, загінулым у Афганістане.

10 жніўня 2006 года - памятны камень у гонар заснавання г.п. Любча, перададзены аўтарам у якасці падарунка жыхарам г.п. Любчы Наваградскага раёна.

30 верасня 2006 года - памятны камень у гонар заснавання г. Свіслачы, перададзены аўтарам у якасці падарунка жыхарам горада і раёна

30 верасня 2006 года - памятная дошка заслужанаму ветэрану Вялікай Айчыннай вайны і спорту Шырынскаму З.З., усталяваная ў г. Астраўцы.

Красавік 2007 года - памятны камень, усталяваны ў г. Наваградку ў гонар 600-годдзя Сафіі Гальшанскай, каля якога ўдзельнікамі Міжнароднай канферэнцыі пасаджана туя.

28 красавіка 2007 года - сумесная выстава: жывапіс, скульптура, арганізаваная Саюзам мастакоў Саюза палякаў на Беларусі, г. Львоў.

9 траўня 2007 года ўсталяваны і адкрыты мемарыяльны комплекс у аграгародку Русіна Баранавіцкага раёна Берасцейскай вобласці “Загінулым у гады вайны”.

Чэрвень 2007 года - выстава жывапісу “Родныя пейзажы Прынёмання”.

Жнівень 2007 года - сумесная выстава: жывапіс, скульптура “У памяць Напалеона Орды” ў дні правядзення міжнароднага пленэра, арганізаваная Саюзам мастакоў Саюза палякаў на Беларусі, г. Гародня.

6 верасня 2007 года - персанальная выстава жывапісу “Родныя краявіды Прынямоння”, аддзел культуры Гарадзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я.Ф. Карскага.

11 кастрычніка 2007 года - персанальная выстава жывапісу і паэзіі “Край мой родны”, гарадскі цэнтр культуры г. Глыбокае, пры ўдзеле творчых калектываў: ансамбля эстраднай песні “Ліда-мюзікл”, ансамбля яўрэйскай песні “Шалом”; кампазітараў - аўтараў музыкі, выканаўцаў песняў на словы Р. Грушы: В. Пазнуховай, А. Якіменкі, В. Пыпеця, І. Ворана.

10 студзеня 2008 года - персанальная выстава жывапісу “Родны край”, мастацкая галерэя гістарычна-краязнаўчага музея г. Бярозы, Берасцейскай вобласці пры ўдзеле творчых калектываў “Ліда-Мюзікл”, “Шалом”.

10 жніўня 2008 года - персанальная выстава жывапісу “Родныя пейзажы” ў гонар юбілею г. Пружаны, Пружанскі музей-палац.

3 кастрычніка 2008 года - вырабіў і перадаў у якасці падарунка жыхарам г. Ліды памятны камень вагой у 20 тон у гонар заснасвання горада.

4 кастрычніка 2008 года ў горадзе Ліда ўсталяваў “Сонечныя гадзіннік”.

4 кастрычніка 2008 года ўдзельнічае ў сумеснай выставе мастакоў г. Ліды, прымеркаванай да юбілею горада.

6 лістапада 2008 года ўсталяваў у горадзе Лідзе ўказальнік “Нулявы кіламетр”.

8 снежня 2008 года адкрыта памятная дошка Міколу Засіму ў г. Пружаны.

9 траўня 2009 года ўдзельнічае ў адкрыцці памятнага знака “ У гонар загінулых у гады Вялікай Айчыннай вайны” ў г. Іўі і Іўеўскім раёне

12 кастрычніка 2009 года - удзел у Міжнародным пленэры, Рэспубліка Польшча, г. Пултуск, дом Палоніі. Падчас пленэра напісана 10 карцін і 2 перададзены ў падарунак Пултуску.

У лістападзе 2009 года адкрылася персанальная выстава “Родныя месцы” ў г. Маладзечне, Палац мастацтваў.

У лістападзе 2009 года адкрылася персанальная выстава, прысвечаная 210-годдзю Адама Міцкевіча ў Гандлёва-эканамічным каледжы г. Навагрудка падчас правядзення Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай гэтай даце. Падчас канферэнцыі была перададзена ў дарунак гораду памятная дошка з барэльефам А. Міцкевіча, а таксама адбыўся канцэрт, на якім выконваліся песні на словы Рычарда Грушы.

Жнівень-верасень 2010 г. - усталяваны памятны знак у граніце “У знак падзякі прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Лукашэнку А.Р. і Герою Рэспублікі Беларусь Пракаповічу П.П. “за адраджэнне вёскі, ад удзячных жыхароў СПК Жураўлінае Пружанскага рёна, Берасцейскай вобласці”.

Да Дажынак 2010 г. усталяваны ўязны знак-помнік у г. Лідзе , а таксама ўсталяваны два ўязныя знакі ў г.п. Воранаве.

Верасень 2010 г. - усталяваны памятны камень у гонар будаўніцтва МАЗС №6, генпадрадчык ВЕСТ-У.У. Вейкуць, в. Старчаняты, траса Гародня - Менск.

Верасень 2010 г. - каля адміністрацыйнага будынка ўсталяваны памятны камень, прысвечаны ЛЭС, перададзены ў якасці падарунка ад аўтара.

24 кастрычніка 2010 г. выраблена памятная дошка да 100-годдзя касцёла в. Лаздуны Іўеўскага раёна.

31 кастрычніка 2010 г. усталяваны памятны камень на месцы расстрэлу і пахавання ксендза Адама Фалькоўскага ў гарадскім парку г. Ліды, перададзены жыхарам г. Ліды ў якасці падарунка.

У перыяд з кастрычніка 2009 г. па кастрычнік 2010 г. прымаў удзел у сумесных выставах жывапісу ў г. Менску ў Палацы Мастацтваў, арганізаваных Саюзам мастакоў Беларусі, адбыўся шэраг сумесных выстаў у Рэспубліцы Польшчы, арганізаваны Саюзам мастакоў Саюза палякаў на Беларусі пры ўдзеле амбасады Рэспублікі Польшчы.

Карціны Рычарда Грушы знаходзяцца ў прыватных калекцыях Японіі, Кітая, Ізраіля, Францыі, Італіі, Іспаніі, Польшчы, Нямеччыны, Літвы, Латвіі, Аўстрыі, Эстоніі, Украіны, Расіі, Рэспублікі Беларусь.

У канцы 2010 года пабачыў свет новы твор Рычарда Грушы, на гэты раз не ў фарбах і камені, а ў словах і музыцы - зборнік песень для голаса ў суправаджэнні фартэпіяна “Беларуская зорка”.

37 песень на вершы Рычарда Грушы: 15 беларускамоўных і 22 рускамоўная. Песні напісаны самымі рознымі кампазітарамі, але ўсе іх яднае постаць аўтара вершаў. Дык які ж ён - мастак і скульптар Рычард Груша - у паэзіі? Івось што тут можна заўва-жыць: калі мы ўнікнем у беларускамоўныя песні, то мы нечакана для сябе ўбачым усё таго ж Рычарда Грушу, якога бачым і ў жывапісе, і ў скульптуры. Роднасць пейзажаў і вобразаў, яснасць іх выражэння, якую многія блытаюць з прастатой, не разумеючы таго, што, каб стварыць простую і дасканалую рэч, трэба большае майстэрства, чым для стварэння вычурнай кампазіцыі. Таму карціны Рычарда Грушы могуць быць ілюстрацыямі да песень на яго вершы, а песні могуць суправаджаць выставы жывапісу, што і мае месца ў рэчаіснасці.

Рускамоўныя песні інакшыя. Яны вядуць у свет эмоцый і перажыванняў, у свет пачуццяў, надзеяў, клопатаў, расчараванняў і глыбокай журбы. На іх не прастаўлены прысвячэнні, але многія з іх прысвечаны зместам і аўрай Ірыне, жонцы Рычарда Грушы, якая доўгі час была безнадзейна хворай, і Рычард адчуваў, як яна павольна, але няўхільна і непазбежна пакідае яго і гэты свет. Многія песні пранізаны трагізмам гэтай сітуацыі, але гэта разумееш, калі ведаеш усе абставіны. У вершах Рычарда няма праяваў натуралізму, і калі слухач нічога пра аўтара не ведае, ён будзе чуць у песнях і журбу, і трагізм, і радасць, і захапленне чыста як праяву эмоцый, як раскрыццё духоўнага свету аўтара. І ў гэтым ёсць свая асаблівасць і свая сіла вершаў Рычарда Грушы і песняў на гэтыя вершы.

Такім чынам у гэтых 37 песнях горад Ліда атрымаў Рычарда Грушу яшчэ ў адной іпастасі - іпастасі паэта-песенніка. І можна быць пэўным, што як служыў Рычард гораду і Радзіме пэндзлем і разцом, так будзе служыць і словам - шчыра, самаахвярна і без усялякіх прэтэнзій.

А Рычард Груша прадоўжыў працу.

У 2011-12 гадах устанавіў уязныя знакі ў Любчы Навагрудскага раёна і ў Астраўцы.

У 2012 годзе ўстанавіў памятны знак з нагоды пачатку будаўніцтва Астравецкай АЭС, у які была закладзена капсула з запаветам нашчадкам.

У 2013 годзе да 690-х угодкаў г. Ліды ўстанавіў у Лідзе скульптурную кампазіцыю “Гордасць Лідчыны”, на камені якой сярод зорак найбольш заслужаных лідзян выбіта і зорка Рычарда Грушы.

Рабі, што можаш, і няхай будзе, як будзе.

***Станіслаў Суднік.***

# Мікалай Канстанцінавіч Усціновіч

Мікалай Канстанцінавіч Усціновіч нарадзіўся 27 верасня 1916 года ў Расіі, у сям'і павятовага служ-боўца Ўсціновіча Канстанціна Міронавіча, беларуса-бежанца з Ліды. "Тут сям'я наша была ў бежанцах ад вайны", - напіша ў аўтабіяграфіі Мікалай. Яго дзяцінства прайшло ў стaрадаўнім пасёлку Мсцёра (зараз Уладзімірская вобласць).



***Від на Мсцёру. Фота пачатку XX стагоддзя.***

Упершыню пасёлак згадваецца ў 1626 г. У часы Пятра I належаў паплечніку цара князю Фёдару Юр'евічу Рамаданаўскаму, які ўзначальваў Праабражэнскі прыказ, і зваўся Багаяўленскай слабадой. З XVIII стагоддзя іканапісная справа - галоўны промысел пасёлка. У XIX стагоддзі слабада атрымала назву Мсцёра.

Напачатку XX стагоддзя пасёлак славіўся іканапісам, гафтам белай гладдзю з вытанчанымі дробнымі ўзорамі і знакамітым "уладзімірскім швом" з буйнымі ўзорам, белакаменным Свята-Багаяўленскім манастыром. У пасёлку адкрылася невялікая фабрыка па вытворчасці акладаў для абразоў; у 1908 быў заснаваны меднапракатны завод. Тут праходзяць першыя 5 гадоў жыцця Мікалая.

У 1921 годзе Ўсціновічы вярнуліся ў Ліду. Тут Мікалай заканчвае 4 класы Лідскай пачатковай школы (1928 год), займаецца самаадукацыяй, паступае ў Лідскую гімназію імя К. Хадкевіча, у 1938 годзе паспяхова яе заканчвае.



***Лідская гімназія імя К. Хадкевіча***

У 1937 годзе Мікалай Усціновіч пасля года падрыхтоўкі (трэба было зарабіць грошы на вучобу, і ён даваў прыватныя ўрокі) паступіў на Багаслоўскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Скончыў толькі два яго курсы, бо ў сувязі з нападам Германіі на Польшчу вырашыў вярнуцца дахаты.

З прыходам у Ліду Чырвонай Арміі працаваў сакратаром у Лідскім аддзяленні працоўнай міліцыі. Калі ж было створана аддзяленне дзяржаўнай міліцыі, яго адтуль звольнілі, і ў 1940 годзе ён уладкаваўся лабарантам у Лідскую беларускую школу, папрацаваў на гэтай пасадзе шэсць месяцаў, пасля чаго яму прапанавалі працу ў інтэрнаце, затым на дзіцячай тэхнічнай станцыі. "Такія пераводы з месца на месца паўсталі, верагодна, на глебе недаверу да мяне, як да былога студэнта-багаслова", - напіша Мікалай Канстанцінавіч пра сябе пазней.

Праз тыдзень пасля пачатку Вялікай Айчыннай вайны Мікалай прыйшоў у Жыровіцкі манастыр, дзе яго пасвяціў у сан святара біскуп Венедыкт (Бабкоўскі) з дазволу мітрапаліта Панцеляймона (Ражноўскага). Пасля рукапалажэння ён атрымаў вакантнае месца



***Вёска Ганчары, царква Пакрову Найсвяцейшай Багародзіцы. А. Дыбоўскі, снежань 2005.***

настаяцеля ў Ганчарскай царкве Лідскага раёна Баранавіцкай вобласці (старое адміністрацыйнае дзяленне).

Святар, пастыр, у сілу ўстановак царквы, павінен быў ухіляцца ад "мірскога жыцця", тым больш актыўна ўдзельнічаць у палітычнай барацьбе. Аднак захопніцкая вайна, акупацыя ставілі праваслаўны клір у аб'ектыўную сітуацыю неабходнасці вызначыць асабістую пазіцыю ў зменлівым грамадска-палітычным становішчы. Святар, цесна злучаны са сваёй паствай праз споведзь, не мог быць ізаляваны ад паствы і не адгукацца на настрой парафіян.

Айцец Мікалай абраў для сябе шлях абароны, усебаковай дапамогі як мірным жыхарам, так і партызанам, ясна ўсведамляючы, што ставіць пад пагрозу

не толькі сваё жыццё, але і жыцці ўсіх сваіх блізкіх.

Прасіўў ён за арыштаваных, якія падазраваліся ў сувязях з партызанамі

У 1942 годзе немцы ў Ганчарах арыштавалі бацькоў партызан - Дайнеку Аляксандра і Міцюкевіча Казіміра. Сваякі прыйшлі па дапамогу да айца Мікалая. Пасля яго заступніцтва арыштаваныя былі вызвалены. Святар абараняў бацькоў партызан і не раз за іх прасіў. Кудзелі Лізавеце Юльянаўне сказаў прама, што будзе яе абараняць.

На працягу 1942 -1943 гг. партызаны сістэматычна наведвалі хату святара. Матушка Тацяна Паўлаўна на ноч рыхтавала ежу, ведаючы, што партызан неабходна будзе пакарміць.

У 1942 годзе да айца Мікалая прыйшоў Дзіўлюк Сцяпан Ігнацьевіч і папрасіў дапамагчы выратаваць яго сваяка Дзікевіча Мікалая Іпалітавіча ад расстрэлу. У таямніцы ад усіх святар схадзіў на аддалены хутар, сфатаграфаваў для пашпарта Дзікевіча. Праз час айцу Мікалаю ўдалося дастаць дакументы для свайго цёзкі, і чалавек застаўся жывы.

За сувязь з партызанамі арыштавалі жыхара в. Ганчары Кумпяка Віктара Пятровіча. Айцец Мікалай навучыў як адказваць на пытанні, сказаў ні ў чым не прызнавацца. Святар паехаў разам з Віктарам на допыт і чакаў яго ў калідоры. Такая ўвага і заступніцтва з боку святара выратавала Віктара Пятровіча і ад расстрэлу, і ад высылкі ў Германію.

Пры перастрэлцы паміж партызанамі і немцамі жыхары прыходу Ганчарскай царквы сышлі ў лес, а святар застаўся. Карнікі пачалі пытаць яго пра партызан, і айцец Мікалай растлумачыў, што ў вёсцы няма партызан. Тады немцы павялі святара пад канвоем праз усю вёску, папярэдзіўшы, што, калі будзе хоць адзін стрэл, то святара заб'юць, а вёску спаляць. У злавесным суправаджэнні айцец Мікалай прайшоў праз усю вёску. Стрэлаў не было, жыхары засталіся жывыя.

Айцец Мікалай быў арыштаваны ў 1943 годзе нямецкай аховай чыгуначнага раз'езду Ліда - Ганчары і быў дастаўлены ў турму ў вайсковы нямецкі гарадок на паўднёвай ускраіне горада Ліды. Праз трое сутак быў пераведзены ў Лідскую гарадскую турму, дзе прасядзеў з 18 жніўня па 2 верасня 1943 года. Айцец Мікалай у дасканаласці валодаў нямецкай мовай, і допыты вяліся без перакладчыка. Святара спрабавалі выкрыць у сувязях з партызанамі. Па словах бацюшкі, у яго з камандзірам партызанскага атрада была дамоўленасць, каб пазбегнуць рэпрэсій ці даносу суседзяў, айцец Мікалай мог заявіць пра прыход партызан, пасля таго, як яны сыходзілі ў лес. Праз тры гадзіны допыту немцы святара адпусцілі, але па вяртанні дахаты арыштавалі зноў і пратрымалі ў адзіночнай камеры шэсць дзён без допыту.

З восені 1943 гады ў вёсцы Ганчары стаяў нямецкі апорны пункт, і святар падтрымліваў адносіны з камендантам гэтага атрада Вайтгертнерам. Менавіта праз яго айцец Мікалай пры магчымасці вяртаў пашпарты, якія адбіраліся немцамі пры аблавах.

У тым жа 1943 годзе немцы выслалі ў лагер маці і бацьку жонкі святара Мікалая Ўсціновіча.

У 1942 - 1943 гадах па ініцыятыве айца Мікалая каля найбліжэйшых да Ганчароў вёсак былі пастаўлены пяць крыжоў міру, каб было відаць, што жыхары - праваслаўныя.

Васільеў Мікалай Аляксандравіч, у гады вайны быў начальнікам штаба партызанскага атрада "Іскра" брыгады імя Кірава, казаў, што айцец Мікалай дапамагаў партызанам, але сувязным не быў.

У Дзень Перамогі над гітлераўскай Германіяй у Ганчарскай царкве адбылося набажэнства.

Айца Мікалая арыштавалі ў 1950 годзе, абвінавацілі ў антысавецкай дзейнасці і супрацоўніцтве з немцамі.

Нагодай былі даносы жыхара Ганчароў. Калісьці на адным з вяселляў пасля шлюбу ў царкве, маладым "загарадзілі" дарогу і хацелі атрымаць дармовую выпіўку і ежу. Ведаючы фінансавае становішча маладых, айцец Мікалай дабраславіў ігнараваць перашкоду, і вяселле праехала міма, пакінуўшы выпрашвальнікаў без паложанага "водкупу". Сказаць штосьці супраць было нельга - усё адбылося на тэрыторыі царквы, але паўстала непрыязнасць да айца Мікалая, злосць стаілася ў душы і дачакалася сваёй гадзіны пасля вайны.



*Сям'я святара Мікалая Ўсціновіча перад арыштам. Вёска Ганчары Лідскага раёна*

Галоўным абвінавачваннем была здрада Радзіме, супрацоўніцтва з немцамі.

Частка матэрыялаў следства змешчаны ў кнізе прафесара Н.В. Чарапіцы:

"На пытанне следчага - ***"Ці падвяргаліся вы арыштам?"*** - айцец Мікалай адказаў: *"Арыштаваны я быў у 1943 годзе аховай чыгуначнага раз'езду Ліда - Ганчары і дастаўлены ў вайсковы нямецкі гарадок, размешчаны на паўднёвай ускраіне г. Ліды, адкуль праз трое сутак быў пераведзены ў Лідскую гарадскую турму, дзе знаходзіўся з 18 жніўня 1943 года. Дапытвалі мяне ўсяго толькі адзін раз напярэдадні вызвалення з-пад варты. Увечар, 1 верасня, мяне выклікалі на допыт да мясцовага начальніка СС оберлейтэнанта Геца. Дазнаўшыся, што я вольна валодаю нямецкай мовай, ён адправіў з кабінета перакладчыка, запісаў у анкету ўсе мае біяграфічныя дадзеныя, а затым спытаў: з кім, калі і навошта напярэдадні арышту я ездзіў у сяло Дакудава Лідскага раёна? Я адказаў, што разам з бацькам і малодшым братам Анатолем ездзіў па запрашэнні дакудаўскага святара Галянкевіча на прастольнае храмавае свята. Затым ён спытаў, ці бываюць у Ганчарах партызаны і асабіста ў мяне дома, і мне нічога не заставалася сказаць як тое, што бываюць. Так я сказаў па папярэднім узгадненні з партызанамі, якія бывалі ў мяне амаль штодня, і я іх пытаў пра тое, як мне быць, бо ўсе бачаць, што я вас кармлю і паю"*.

Гэта пытанне (з высвятленнем усіх дэталяў) і было галоўным падчас усіх допытаў, пакуль у ходзе пяратрусу, праз нейкі час, на гарышчы хаты святара следчымі НКУС не быў знойдзены нямецкі пісталет. З гэтага часу ўсе допыты пайшлі ўжо вакол гэтага пісталета. Следства настойвала на тым, што ён быў дадзены святару немцамі для абароны ад партызан, а бацюшка Мікалай казаў, што яго ён набыў у 1947 годзе, каб абараняцца ад бандытаў, якіх у той час было ў дастатку, а партызан яму не было чаго баяцца, бо ён аказваў ім сталую дапамогу на працягу ўсёй вайны начлегам і прадуктамі харчавання. Пра аказанне такой дапамогі далі свае сведчанні былыя партызаны Ф.Д. Курылаў, М.Ф. Брушкоў, Р. Сасноўскі і М. Васільеў. Акрамя таго, святар Мікалай Усціновіч, карыстаючыся знаёмствам з немцамі, дапамагаў партызанскім сем'ям, дамогшыся таго, каб іх не чапалі. Гаворка ідзе пра сям'ю Курылавых і Лукашэвіч, што і пацвердзілі Ф.Д. Курылаў і А.І. Курылава. У снежні 1942 года бацюшка Мікалай дапамог пазбегнуць расстрэлу М.І. Дзікевічу.

Пасля гэтага следству нічога не заставалася, як нагадаць падследнаму пра яго няўхвальныя водгукі ў адрас партызан, на што ён адказаў наступнае: "Пра сапраўдных савецкіх партызанаў я варожа ў антысавецкім духу ніколі не адгукаўся. Аднак прызнаю, што пра некаторых так званых партызанаў я казаў, што яны не партызаны, а бандыты, якія прыкрываючыся званнем партызана, займаюцца рабаваннем мясцовага насельніцтва. Такога роду людзей і самі партызаны звалі бандытамі".

У якасці рэчыўных доказаў да антысавецкіх выказванняў бацюшкі Мікалая далучылі і некалькі знойдзеных у яго ў хаце нумароў часопіса "Нядзельнага чытання". Аднак ён адпрэчыў такога роду доказ, сказаўшы, што часопісы гэтыя выпісваў у 1930-я гады яго папярэднік на прыходзе, а сам ён іх нават не браў у рукі. Што ж датычыцца выпадкаў антысавецкіх выказванняў Мікалая Ўсціновіча ўжо ў паваенны перыяд, то сведчанні пра іх зыходзілі ад адной і той жа крыніцы на глебе даўняй непрыязнасці.

Была ў следства яшчэ адна нагода паставіць Мікалая Ўсціновіча ў цяжкае становішча ў сувязі з тым, што ў студзені 1950 года ў хаце сялянкі А.О. Козел адбылося абнаўленне абраза Святога Мікалая Цудатворца, а таму меўся шанец абвінаваціць святара ў інсцэніроўцы гэтага цуду; але і з гэтага нічога ў следства не атрымалася.

Зрэшты, сам ход допыту сведкі Козел А.О. ад 7 чэрвеня 1950 года вельмі характэрны для метадаў працы тагачасных следчых органаў:

"***Пытанне:*** Дзе Вы пражывалі і чым займаліся ў перыяд нямецкай акупацыі Лідскага раёна?

***Адказ:*** У перыяд нямецкай акупацыі Лідскага раёна я пражывала ў вёсцы Ганчары, працавала на сваёй аднаасобнай гаспадарцы.

***Пытанне:*** Ці арыштоўваліся Вы ці Вашы сваякі нямецкімі карнымі органамі?

***Адказ:*** Нямецкімі карнымі органамі я не арыштоўвалася, не арыштоўваліся і мае сваякі.

***Пытанне:*** Хто з Вашых сваякоў пражывае за мяжой?

***Адказ:*** З маіх і мужа сваякоў за мяжой ніхто не пражывае.

***Пытанне:*** Ваша сямейнае становішча?

***Адказ:*** У наш час я пражываю ў вёсцы Ганчары ў сваёй хаце. Са мной жывуць: муж - Козел Міхаіл Вікенцевіч, дачка - Козел Любоў Міхайлаўна, 1930 года нараджэння, зяць - Данейка Валяр'ян Аляксандравіч, яго жонка - Данейка Марыя Міхайлаўна, 26 года, іх трое дзяцей.

***Пытанне:*** Распавядзіце, калі ў Вашай кватэры адбылося "абнаўленне" абраза"?

***Адказ:*** Абнаўленне абраза ў маёй кватэры адбылося пры наступных акалічнасцях: 5 студзеня 1950 года рана раніцай, устаўшы з печкі-ляжанкі, я звярнула ўвагу на свае абразы ў чырвоным куце пакоя. І тым часам я заўважыла, што адзін з абразоў - "Мікалая Цудатворца" абнавіўся, прычым абнаўленне адбылося не цалкам, левы бок пасвятлеў, а правы захаваў ранейшы колер. Убачыўшы гэта, я пабудзіла свайго мужа, які спаў у пакоі на ложку. Пры гэтым я яму сказала: "Паглядзі, Міхась, у нас абраз Мікалая Цудатворца абнавіўся". Ён мне на гэта адказаў, што я проста агледзелася і працягваў спаць. У той жа дзень я распавяла пра абнаўленне абраза сваім аднавяскоўцам: Дзікевіч Вользе (70 гадоў) і Сцефанідзе Казак (75 гадоў). Яны паглядзелі на абраз, перахрысціліся, і я разам з імі перахрысцілася. Да вечара ўжо ўся вёска ведала, што ў нашай хаце адбылося абнаўленне абраза. Увечар да нас прыйшлі дзеці: Дзікевіч Валянціна (13 гадоў) і Германовіч Антон (12 гадоў) і пачалі прасіць, каб мы паказалі ім абноўлены абраз, але мой муж дзяцей ад-

правіў да сябе дахаты і абраз ім не паказаў.

***Пытанне:*** Дзе знаходзіцца "абноўлены" абраз Мікалая Цудатворца ў наш час.

***Адказ:*** 7 студзеня 1950 года ў сувязі з рэлігійным святам Вадохрышча святар Ганчарскай праваслаўнай царквы Мікалай Усціновіч прыйшоў да нас у кватэру асвячаць хату. Тым часам у хаце была толькі я. Ён тады спытаў: "Я чуў, што ў Вас у хаце адбылося абнаўленне абраза?". Я яму адказала, што так. Тады ён папрасіў паказаць яго. Калі святар убачыў яго, то сказаў: "Не ведаю, які ён быў да гэтага, але будзе лепш, калі гэты абраз Вы прынесяце ў царкву, каб Вас не турбавалі людзі і не прыходзілі да Вас глядзець яго". У той жа дзень я па рэкамендацыі святара аднесла абраз у Ганчарскую царкву, дзе ён і знаходзіцца ў наш час.

***Пытанне:*** З якой мэтай Вы распаўсюджвалі сярод жыхароў вёскі антысавецкую правакацыйную інсцэніроўку "абнаўлення" абраза ў Вашай хаце?

***Адказ:*** Калі я распавядала сваім знаёмым пра тое, што ў нашай хаце адбылося абнаўленне абраза, я не праследвала пры гэтым ніякай мэты і зусім не думала, што пра гэта нельга казаць аднавяскоўцам.

***Пытанне:*** Вы сцвярджаеце, што ў Вашай хаце адбылося "абнаўленне" абраза" ці Вы гэта зрабілі з мэтай інсцэніроўкі адбыўшагася цуду?

***Адказ:*** Так, я сцвярджаю, што ў маёй хаце абнавіўся абраз Мікалая Цудатворца, прычым абнаўленне яго адбылося не цалкам.

***Пытанне:*** Што Вы хочаце дапоўніць да сваіх сведчанняў.

***Адказ:*** Да сваіх сведчанняў дапоўніць больш нічога не маю."

Урэшце ўсё скончылася тым, што Ваенны Трыбунал войскаў МУС Гарадзенскай вобласці 14-15 лістапада 1950 года прысудзіў Мікалая Канстанцінавіча Ўсціновіча да 25 гадоў ППЛ з паразай у правах на 5 гадоў і канфіскацыяй маёмасці. У 1955 годзе з прысуду было выключана абвінавачванне па адным артыкуле (63 - 1 УК БССР), і справа ў гэтай частцы было спынена за адсутнасцю складу злачынства. Мера пакарання яму была зніжана да 7 гадоў ППЛ з паразай у правах на 3 гады. У астатняй частцы прысуд быў пакінуты без змены. Практычна толькі па факце незаконнага захоўвання агнястрэльнай зброі "асуджаны ён быў абгрунтавана". Менавіта з-за гэтага артыкула пракуратура Гарадзенскай вобласці, праз амаль пяцьдзесят гадоў, пагадзілася з прысудам ад 14-15 лістапада 1950 года з улікам унесеных затым у яго змен.

Такім чынам, захоўванне зброі. Вядома, гэта супрацьзаконна, але нельга не ўлічваць, які гэта быў складаны час (першае дзесяцігоддзе пасля вайны); амаль штодня ад рук бандытаў гінулі людзі, а бацюшка на вёсцы - першы чалавек, і ўсе дарогі вядуць да яго, карыстаюцца гэтай дарогай і злыя людзі. Нацярпеўшыся ў гады вайны ад няпрошаных гасцей, бацюшка Мікалай разумеў, што калі што-небудзь здарыцца дрэннае, тое яго і яго дзяцей абараніць не будзе каму. Сёння валоданне агнястрэльнай зброяй у мэтах абароны атрымлівае самавітае прававое абгрунтаванне.

На момант абвяшчэння прысуду святару Мікалаю Канстанцінавічу Ўсціновічу было 34 гады, у яго было двое дзяцей сын Ігар 3-х гадоў і сын Юра 9-ці месяцаў, жонцы - 33 гады.



***У лагеры.*** *"На долгую память моей любимой семейке - незабвенной Танечке и славным дорогим Гаричку и Юрочке от неутешно тоскующего на диком севере и горячо любящего вас вашего папы."* ***Варкута, жнівень 1955 г.***

У 1955 годзе знята абвінавачванне ў здрадзе радзіме, тэрмін паменшаны да 7 гадоў і да 3 гадоў пазбаўлення правоў.

26 студзеня 1956 года Мікалай Канстанцінавіч Усціновіч вызвалены са зняццем асуджанасці.

Вярнуўся на радзіму 2 верасня 1956 года.

З 8 сакавіка 1956 года айцец Мікалай служыў у Нараджэння-Багародзічнай царкве ў



*"На долгую память дорогой и незабвенной семейке. Любящий папа. Воркута 27/IX/55 г."*



*Пасля вяртання з Варкуты*



*Царква Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы. Дакудава. Ліпень 1997 г.*

вёсцы Гудзевічы, зараз Мастоўскі раён Гарадзенскай вобласці.

9 ліпеня 1956 года пераведзены ў Міхайлаўскі храм сяла Ізабелін Ваўкавыскага раёна Гарадзенскай вобласці.

З 31 верасня 1957 года адначасова абслугоўваў Пакроўскі прыход у вёсцы Харашэвічы ў той час час Ваўкавыска-Поразаўскай добрачыннай акругі, зараз Гарадзенскай вобласці.

З 13 траўня 1958 года абслугоўваў Параскева-Пятніцкую царкву вёскі Сідзельнікі Ваўкавыскага раёна, з 31 ліпеня 1959 гады яе настаяцель.

З 6 лістапада1970 года настаяцель Нараджэння-Багародзічнага храма в. Дакудава Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці.



*Сяло Ізабелін Ваўкавыскага раёна. 1967 год.*



*Д. Трыфанава, пасля 1990 , в. Дубна, царква св. Мікалая*

З 8 студзеня 1976 за штатам, але працягваў служыць у Мікалаеўскай царкве вёскі Дубна Мастоўскага раёна.

Узнагароджаны скуфіей у 1945 годзе, камілаўкай у 1948 годзе, залатым нагрудным крыжом у 1957 годзе, санам протаіерэя 1 красавіка 1964 года, паліцай 24 красавіка 1967 года.

Памёр 25 сакавіка 1979 года.

Пахаваны на Лідскіх могілках.



*Протаіерэй Мікалай Усціновіч*

*Артыкул падрыхтаваны Лідскім дабрачыннем.*

# Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г.

***(З магістарскай працы Андрэя Рыбака пад кіраўніцтвам прафесара, доктара габілітаванага Юзафа Марошка)***

## Парафія Ражанкаўская

**Касцёл парафіяльны ў мястэчку Ражанка**, у павеце і дэканаце Лідскім, вёскі і мястэчкі гэтай парафіі згодна з алфавітам:

**Бабічы** (Babicze), вёска васпанства Марачэўскіх, паміж усходам і поўднем ад касцёла парафіяльнага вялікая міля, ritus graeci (ўніяцкая).

**Багушоўшчына** (Bohuszowszczyzna), фальварак васпана Паца, на ўсход палова мілі.

**Багушоўшчына** (Bohuszowszczyzna), вёска таго ж фальварка, там жа, ritus graeci (ўніяцкая).

**Балічы** (Balicze), два малыя двары васпанства Краснікаў, на поўдзень палова малой мілі.

**Балічы** (Balicze), вёска тых жа васпанства Краснікаў, дзе ёсць падданая і іншых ягамосцяў, на поўдзень палова мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Белагорцы** (Bialohorce), вёска васпана Паца, паміж усходам і поўднем паўтары мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Быкаўка** (Bykowszczyzna), васпана Андрэйкавіча, на поўдзень тры чвэрці мілі.

**Вароніжкі** (Woroniszki), вёска васпанства Жабаў, паміж усходам і поўднем міля, ritus graeci (ўніяцкая).

**Верблікі** (Wierzbliki), вёска васпана Паца, на летні захад палова мілі.

**Галаўнічы** (Holownicze), вёска васпанства Камінскіх, на поўнач палова мілі.

**Гірдзееўка** (Gierdziejowka), фальварак васпанства Сідаровічаў на поўнач чвэрць вялікай мілі.

**Гірдзееўка** (Gierdziejowka), вёска тых жа і там жа.

**Глушкі** (Hluszki), вёска васпана Паца, на зімовы ўсход тры чвэрці мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Давідкі** (Dawidki), вёска васпана Паца, на зімовы ўсход паўтары мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Даліна** (Dolina), вёска васпана Паца, на поўнач чвэрць мілі.

**Дэражна** (Derazna), фальварак васпана Паца, паміж усходам і поўднем паўтары мілі.

**Дэражанка** (Derazenka), фальварак васпанства Макрэцкіх, там жа.

**Доўклеўшчына** (Douklowszczyzna), фальварак васпана Паца, на зімовы захад палова мілі.

**Доўклеўшчына** (Douklowszczyzna), вёска таго ж васпана Паца, там жа.

**Заполле** (Zapole), вёска Яго Каралеўскай Мосці, на захад чвэрць малой мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Заполле** (Zapole), фальварак васпана Паца, паміж усходам і поўднем палова чвэрці мілі.

**Зданоўцы** (Zdanowce), фальварак васпанства Сангайлаў, на поўдзень палова мілі.

**Зданоўцы** (Zdanowce), вёска тых жа і там жа, ritus graeci (ўніяцкая).

**Карпейчыкі** (Karpejczki), вёска васпанства Сагнайлаў і васпанства Хмялеўскіх, на поўдзень палова мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Клімаўшчына** (Klimowszczyzna), вёска васпана Паца, на поўнач палова малой мілі.

**Краснікі** (Krasniki), ваколіца, на поўдзень палова мілі.

**Крышылкі** (Kryszylki), вёска васпана Паца, на поўдзень чвэрць вялікай мілі.

**Крупава** (Krupa), вёска васпанства Жабаў, на поўдзень чвэрць вялікай мілі.

**Лагады** (Lahody), ваколіца і вёска, на ўсход адна міля.

**Малявічы** (Malewicze), вёска васпана Паца, на захад палова мілі.

**Макрэц** (Mokrzec), двор васпанста Макрэцкіх, паміж усходам і поўднем тры чвэрці мілі.

**Макрэц** (Mokrzec), фальварак васпана Прастынскага, паміж усходам і поўднем палова вялікай мілі.

**Макрэц Лапатаўскі** (Mokrzec Lopatowski) васпанста Бразоўскіх, паміж усходам і поўднем палова вялікай мілі.

**Марачоўшчына** (Moraczewszczyzna), фальварак васпанста Макрэцкіх, паміж усходам і поўднем вялікая міля.

**Мардасы** (Mordasy), вёска васпанства Жабаў, на зімовы ўсход палова мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Міцары** (Micary), вёска васпана Паца, на поўнач вялікая міля.

**Новікі** (Nowiki), вёска васпанства Жабаў і Андрэйкавічаў, паміж усходам і поўднем тры чвэрці мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Павалока** (Powloka), вёска васпана Паца, паміж поўднем і захадам палова мілі.

**Падбабры** (Podbobra), паміж усходам і поўднем чвэрць мілі.

**Падгайнікі** (Podhajniki), вёска васпанства Камінскіх, на ўсход сонца палова мілі.

**Падражанка** (Podrozanka), вёска васпана Паца, паміж поўднем і захадам чвэрць мілі.

**Перакоп** (Perekop), вёска васпанства Марачэўскіх, дзе знаходзіцца паром цераз Нёман, паміж

усходам і поўднем паўтары мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Ракавічы** (Rakowicze), двор і царква васпанства Макрэцкіх, паміж усходам і поўднем тры чвэрці мілі.

**Ракавічы** (Rakowicze), вёска тых жа і там жа, ritus graeci (ўніяцкая).

**Раманавічы** (Romanowicze), ваколіца, паміж усходам і поўднем міля.

**Ратулаўшчына** (Ratulowszczyzna), шляхта, на зімовы ўсход сонца тры чвэрці мілі.

**Рачніцкія** (Racznickie), ваколіца, на зімовы ўсход сонца палова мілі.

**Русакі** (Rusaki), вёска васпанства Жабаў, паміж усходам і поўднем вялікая міля, ritus graeci (ўніяцкая).

**Руткевічы** (Rotkiewicze), двор васпанства Камінскіх, на поўнач палова мілі.

**Ручыцы** (Ruczyce), вёска васпана Паца, на зімовы ўсход тры чвэрці мілі.

**Рымкі** (Rymki), вёска васпана Паца, на зімовы ўсход паўтары мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Сарокі** (Soroki), вёска васпана Паца, на зімовы ўсход паўтары мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Сухары** (Suchary), вёска васпанства Макрэцкіх, на зімовы ўсход тры чвэрці мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Сямягі** (Siemiahy), вёска васпанства Марачэўскіх, на зімовы ўсход палова вялікай мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Сямянкі** (Siemienki), вёска васпанства Макрэцкіх, на зімовы ўсход тры чвэрці мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Турэйск** (Turejsk), вёска васпанства Макрэцкіх, дзе ёсць царква, паміж усходам і поўдем паўтары мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**Тур'я** (Turia), фальварак васпана Паца, на поўнач міля.

**Тур'я** (Turia), вёска таго ж і там жа.

**Уніхоўшчына** (Unichowszczyzna), двор васпана Марачэўскага, паміж усходам і поўднем вялікая міля.

**Хільчыцы** (Chylczyce), два двары васпанства Жабаў, паміж усходам і поўднем палова мілі.

**Хільчыцы** (Chylczyce), малы двор васпанства Хмялеўскіх, там жа.

**Хільчыцы** (Chylczyce), вёска вышэйназваных двароў, там жа.

**Церахі** (Cierechy), вёска васпанства Макрэцкіх, паміж усходам і поўднем вялікая міля, ritus graeci (ўніяцкая).

**Чарнякі** (Czerniaki), вёска васпанства Бразоўскіх, на поўдзень тры чвэрці мілі, ritus graeci (ўніяцкая).

**2.**

**Ад касцёла парафіяльнага, суседнія касцёлы:**

**Жалудок**, касцёл парафіяльны, у павеце і дэканаце Лідскім, на землях яснавяльможнага пана Тызенгаўза, старасты падскрабія, на ўсход сонца дзве вялікія мілі.

**Ішчална**, касцёл парафіяльны, у тым жа павеце і дэканаце, на землях васпанства Валяў, на летні ўсход дзве вялікія мілі.

**Каменка**, касцёл парафіяльны, у Гарадзенскім павеце, дэканаце Лідскім, на землях яснавяльможнага пана Тызенгаўза, падскрабія надворнага, на захад сонца дзве мілі.

**Масты** (цяпер **Правыя Масты**), касцёл парафіяльны, у Гарадзенскім павеце, дэканаце Ражанскім, на землях Яго Каралеўскай Мосці.

**Шчучын**, касцёл парафіяльны ксяндзоў піяраў, у павеце і дэканаце Лідскім, у добрах яснавяльможнага пана Сцыпіёна, падстолія ВКЛ, міля на поўнач.

**3.**

Значных гарадоў паблізу няма, да **Вільні** васемнаццаць міль, да **Гародні** дзевяць міль, да **Ліды** восем міль. Вільня ляжыць на поўнач, Гародня - на летні захад, Ліда - на поўнач.

**4.**

Дарога з **Ражанкі да Вільні** не ў лепшым стане, ідзе палямі і тут камяністая, па лясах няроўная, ідзе больш лясамі, чым палямі, па яе ходзе два перавозы, абодва знаходзяцца на поўнач ад касцёла, першы за чатыры мілі на рацэ Лебядзе, на землях васпана Горскага, кашталяна Жмудскага, другі за шэсць міляў на рацэ Дзітве, у Мыто, на землях васпана Паца.

Дарога **да Гародні** вельмі добрая, роўная, ідзе палямі, перавозаў не мае акрамя аднаго маста, каторы за пяць міляў на рацэ Котры, у землях Яго Каралеўскай Мосці, пад Гародняй ёсць горы, але яны не шкодзяць, бо дарога выпраставаная і гладкая.

Дарога **да Ліды** розная, камяністая і пясчаная, маюцца перавозы, пра якія напісаў вышэй пры апісанні Віленскай дарогі, ідзе болей полем, чым лесам.

**5.**

**Азёраў** ніякіх, **гразяў** і **балот** няма. Васпан Пац на рацэ Тур'я, якая цячэ ад поўначы на поўдзень, мае чатыры ставы. Першы за адну мілю на поўнач, другі каля касцёла за трыста крокаў на захад, трэці каля двара за тысячу крокаў у кірунку паміж поўднем і захадам, чацвёрты праз палову мілі так жа паміж поўднем і захадам.

**Ставаў** на рацэ малой **Свенціцы** тры. Першы ў Ракавічах васпанства **Макрэцкіх**, паміж поўднем і ўсходам за тры чвэрці мілі, другі васпанства **Марачэўскіх**, паміж усходам і поўднем праз мілю, трэці васпанства **Жабаў** у Русаках, на поўдзень вялікая міля.

**Стаў** адзін у Варонішках васпанства **Жабаў**, з крыніц на поўдні.

**6.**

**Лесу** ў парафіі няма, апрача двух гаёў васпана **Паца**, адзін сасновы, здатны для будоўлі, знаходзіцца паміж поўднем і захадам праз палову мілі, другі, бяро-

завы, на захадзе таксама праз палову мілі.

**7.**

**Млыны** ёсць пры ўсіх вышэй апісаных ставах.

**8.**

**Дарогі партыкулярныя і публічныя тракты.**

Дарога **да Ішчалны**, яна ж і тракт ад Ражанкі да Вільні, пачынаецца ад касцёла парафіяльнага, ідзе на летні ўсход вялікую мілю адкрытым полем, камяністая, другая міля ідзе лесам васпанства Валяў да Ішчалны. Вёсак, корчмаў, балотаў, рэкаў на гэтай дарозе няма.




Дарога **да Каменкі** ідзе адкрытым полем, уся камяністая, праз мілю ёсць карчма **Каровічы**, дзе стаў і млын васпана Тызенгаўза, падскрабія надворнага ВКЛ, адтуль далей дарога выпраставана, вельмі добрая і аж да Каменкі няма ні вёсак, ні корчмаў.

Дарога **да Мастоў** (цяпер **Правыя Масты**), дзе ёсць касцёл парафільяны, у кірунку паміж поўднем і захадам, праз дзве мілі па ходу ляжаць дзве вёскі, першая **Патокі** праз палову мілі ад Ражанкі, другая **Мількаўшчына** - праз мілю, належыць Яго Каралеўскай Мосці. Дарога да Мастоў ідзе адкрытым полем і досыць сухая.

Дарога **да Шчычына**, дзе ёсць парафіяльны касцёл ксяндзоў-піяраў, на поўнач, праз мілю ад Ражанкі. Дарога вельмі добрая, бо ад Ражанкі і да Шчучына выпраставана і ідзе полем міма вёсак.

Дарога **да Жалудка**, дзе знаходзіцца касцёл парафіяльны, на ўсходзе дзве вялікія мілі. Дарога дрэнная, бо ад Ражанкі на працягу вялікай мілі аж да карчмы ў вёсцы **Доўгае**, камяністая і крывая, ад гэтай карчмы праз палову мілі дарога выбоістая і ідзе праз зараслі, другую палову мілі ідзе адкрытым полем і таксама камяністая, вялікіх балот і рэк па ходу няма.

**Парафія Ражанская** цалкам ляжыць у павеце **Лідскім**, аднак мяжуе з Гарадзенскім паветам на захадзе, праз палову мілі і праз палову мілі паміж поўднем і захадам.

Гэтае апісанне маёй парафіі подпісам уласнай рукі падцвердзіў ксёндз **Мацей Бараноўскі**, плябан Ражанскі.

**Парафія Шчучынская**

**Касцёл парафіяльны** з школамі ксяндзоў - піяраў, знаходзіцца ў мястэчку **Шчучын** у Віленскім ваяводстве, у павеце і дэканаце Лідскім, вёскі і мястэчкі гэтай парафіі згодна з алфавітам:

**Барыскі** (Boryski), яснавяльможнага пана Сцыпіёна, падстолія Літоўскага, паміж летнім усходам і поўначчу ад касцёла Шчучынскага палова мілі.

**Буйвічы** (Bujwicze), таго ж яснавяльможнага пана падстолія, паміж поўднем і зімовым захадам за чвэрць мілі ад касцёла.

**Віты** (Wity), таго ж васпана, на летні ўсход палова мілі.

**Гернікі** (Gierniki), таго ж яснавяльможнага пана падстолія, паміж поўначчу і летнім усходам вялікая міля.

**Даргёўцы** (Dorgiejowce), таго ж яснавяльможнага пана падстолія і васпана Валя, на летні ўсход палова вялікай мілі ад касцёла.

**Захалы** (Zahaly), таго ж васпана, на ўсход палова вялікай мілі.

**Мажалёўцы** (Mozelowce), таго ж васпана, на летні ўсход чвэрць мілі ад касцёла

**Мажалёўцы** (Mozelowce), фальварак васпанства Міласэрных, там жа.

**Мікалайкаўшчына** (Mikolajkowszczyzna), таго ж васпана, паміж летнім усходам і поўднем малая міля.

**Міклашы** (Miklasze), таго ж васпана, паміж поўначчу і летнім усходам чвэрць мілі.

**Навасёлкі** (Nowosiolki), яснавяльможнага пана падстолія, на летні захад каля тысячы крокаў.

**Шчучынак** (Szczuczynek), фальварак таго ж васпана, паміж летнім захадам і летнім поўднем палова мілі.

**Янчукі** (Janczuki), той жа ягомосці, паміж летнім захадам і поўднем палова мілі.

**2.**

Ад касцёла парафіяльнага, суседнія касцёлы:

**Ішчална**, касцёл у землях васпана Валя, на ўсход паўтары вялікія мілі.

**Ляцк**, касцёл і вёска, належная ксяндзу плябану, на захад вялікая міля.

**Ражанка** ў тым жа павеце і дэканаце, у землях васпана Паца, старасты Вілейскага, на поўдзень адна міля.

**Ятвеск**, касцёл у землях яснавяльможнага пана падстолія, на зімовы захад міля.

**3.**

**Значнейшыя гарады каля Шчучынскага касцёла:**

**Ліда**, судовы горад, пры рацэ Лідзейцы, паміж усходам і поўднем за сем вялікіх міль.

**Наваградак**, ваяводскі горад таго ж ваяводства, паміж зімовым усходам і поўднем за дзесяць вялікіх міль.

**Ваўкавыск**, судовы горад, паміж поўднем і зімовым захадам за сем вялікіх міль.

**Гародня**, судовы і соймавы горад, на зімовы захад за дзесяць міль.

**4.**

Дарога са **Шчучына да Ліды** на большай частцы пясчаная і месцамі камяністая, выпраставаная і ўпарадкаваная.

Дарога **да Наваградка** пясчаная, камяністая, няроўная.

Дарога **да Ваўкавыска** няроўная, пясчаная, камяністая і гарыстая.

Дарога **да Гародн**і роўная, месцамі пясчаная, на большай частцы выпраставаная, можна добра даехаць за сем гадзін.

**5.**

**Азёраў** у парафіі Шчучынскай няма, як і значных гразяў і балотаў.

**Ставы** ёсць у самым мястэчку Шчучыне, адзін яснавяльможнага пана падстолія і другі яго ж за тысячу крокаў у гору на зімовы захад ад касцёла Шчучынскага.

**6.**

Палёў у парафіі Шчучынскай болей, чым лясоў, калі ехаць да Вільні на Ішчалну, не шмат, але расце дрэва, здатнае да будоўлі, належыць яснавяльможнаму пану падстолію. У іншых месцах, у тым ліку на тракце Віленскім на Васілішкі, растуць бярозы, асіны, вольхі, дубы - усе на землях таго ж яснавяльможнага пана, плошчай у квадратную мілю і болей.

**7.**

**Млыноў** толькі два, на вышэй апісаных ставах.

**8.**

**Дарогі партыкулярныя і публічныя тракты** ў гэтай парафіі згодна з працягласцю:

**Дарога да Ішчалны**, дзе касцёл парафільяны, на тракце публічным да Вільні, у асноўным ідзе праз лес, праз мілю ёсць новазбудаваная карчма васпана Валя, на ўсход ад касцёла, ад гэтай карчмы, па правым баку бачна карчма васпана Радзіваноўскага, далей тракт ідзе да **Жалудка**. Зараз, адразу выехаўшы ад мястэчка, дарога адрамантаваная, з левага боку цераз малую паўмілі фальварак васпанства Міласэрных, карчма яснавяльможнага пана падстолія і блізкія адна ад другой вёскі **Мажалёўцы** і **Віты**, на летні ўсход ад касцёла.

**Дарога да Ражанкі**, дзе касцёл парафіяльны, цераз мілю на поўдзень, па дарозе праз чвэрць мілі ад мястэчка Шчучын вёска васпана Камінскага, за ёй улева дарога да Ракавіч.

**Дарога да Ятвеска**, дзе касцёл парафіяльны, праз мілю паміж поўднем і зімовым захадам, гэта публічны тракт да Гародні, па ходу праз чвэрць мілі добрая грэбля, стаў і карчма на гары васпана Паца. Дарога выпраставана і ідзе полем.

**Дарога праз грэблю да мястэчка Гернікі**, адначасова і тракт на **Васілішкі** і далей да Вільні, па левым баку вышэй апісаная грэбля, праз тысячу крокаў узняўшыся на гару да вёскі Навасёлкі, дарога ідзе далей і па левым баку бачны фальварак васпана Паца пад назвай Тур'я, потым вёска **Янчукі** з карчмой, а па



*Парафія Шчучынская і Ятвеская*

левым баку фальварак пана падстолія **Шчучынак**, праз палову мілі ад мястэчка на зімовы ўсход сонца, далей па ходу ляжыць вёска **Думусёўцы** пана падстолія, потым фальварак **Радзевічы** ксяндзоў - піяраў, далей касцёл парафіяльны ў Ляцку, праз вялікую мілю ад Шчучына ў кірунку на захад, ад гэтага мястэчка прама ідзе нававыпраставаная дарога, на якой праз палову малой мілі карчма і вёска **Тапялішкі** пана падстолія, гэта **Астрынскі тракт**. Не даехаўшы да карчмы, дарога ідзе направа да вёскі **Гернікі**, якая знаходзіцца на Віленскім тракце праз мілю ад Шчучына, паміж поўначчу і летнім усходам.

**9.**

Парафія Шчучынская не мае ваяводскіх і павятовых межаў, цалкам ляжыць і Лідскім павеце.

**Парафія Ятвеская**

Малы касцёл, далучаны да Шчучынскай парафіі, стаіць у вёсцы Ятвеск у Віленскім ваяводстве, у павеце і дэканаце Лідскім, гэтую парафію складаюць наступныя вёскі і мястэчкі:

**Ятвеск** (Jatwiesk), фальварак яснавяльможнага пана Сцыпіёна, падстолія Літоўскага, паміж зімовым усходам і поўднем, ад касцёла за тысячу крокаў.

**Барташы** (Bartosze), ці Ятвеск, вёска таго ж яснавяльможнага пана, на зімовы захад за некалькі сотняў крокаў.

**Жылічы** (Zylicze), таго ж, паміж поўначчу і зімовым захадам за чвэрць мілі.

**Зарэчча** (Zarzecze), вёска таго ж, на ўсходзе за тысячу крокаў

**2.**

Суседнія касцёлы ад парафіяльнага касцёла наступныя:

**Шчучын**, касцёл парафільяны, у тым жа павеце і дэканаце, на землях яснавяльможнага пана падстолія, на ўсход сярэдняя міля.

**Ражанка**, касцёл парафіяльны, на землях васпана Паца, міля паміж поўднем і зімовым усходам.

**Каменка**, касцёл парафіяльны, у Гарадзенскім павеце, на землях васпана Тызенгаўза, падскарбія надворнага, сярэдняя міля на зімовы захад.

**Лацк**, касцёл парафільяны, праз палову вялікай мілі на захад.

**3.**

Значнейшыя гарады каля касцёла:

**Гародня**, на захад праз восем міль.

**4.**

Дарога **з Ятвеска да Гародні** добрая, на большай частцы выпраставана, ідзе палямі.

**5.**

**Азёраў**, значных **балотаў**, **рэкаў** і т.д. няма.

**6.**

Няма таксама ані гораў, ані бароў, ані лясоў, толькі месцамі зараслі і хмызняк, які займае каля 1/10 квадратнай мілі.

**7.**

**Млыноў**, **тартакоў** няма.

**8.**

**Дарогі партыкулярныя і публічныя тракты** ідуць так:

**Дарога да Шчучына**, дзе ёсць касцёл парафіяльны адначасова **тракт да Наваградка**, пачынаецца ад Ятвескага касцёла, ідзе ў кірунку на ўсход, дзе ёсць грэбля і праз тысячу крокаў вёска пад назвай **Зарэчча**, яснавяльможнага пана Сцыпіёна, падстолія Літоўскага, далей па правым баку бачны Ятвескі фальварак, далей праз поле і дзве невялікія грэблі праз палову вялікай мілі па левым баку бачны фальварак яснавяльможнага пана Сцыпіёна **Шчучынак** і карчма васпана Паца **Тур'я**, далей праз грэблю будзе **Шчучын**.

**Дарога да Ражанкі**, дзе ёсць касцёл парафіяльны, адначасова публічны **тракт да Гародні**, на зімовы захад, пачынаецца ад касцёла Ятвескага, ідзе праз поле, грэблю і хмызняк, праз палову мілі будзе карчма, вёска і фальварак **Ельня** яснавяльможнага пана Тызенгаўза, падскарбія надворнага, дзе Лідскі павет мяжуе з Гарадзенскім, адсюль прамая дарога аж да **Каменкі**.

**Дарога да Лацка**, дзе ёсць касцёл парафільны, праз палову мілі на захад, пачынаецца ад касцёла Ятвескага і ідзе да **Шчучына**, ад пачатку ідзе па грэблі і засценкам, узяўшы ўлева, праз хмызяк дарога ідзе да вёскі **Дубраўляны** яснавяльможнага пана падскарбія Літоўскага, праз палову чвэрці мілі праз хмызняк і поле будзе другая вёска таго ж яснавяльможнага пана і ксяндзоў-піяраў пад назвай **Догі**, праз чвэрць мілі ад Ятвеска, потым праз палову вялікай мілі ад Ятвеска праз поле будзе **Лацк**.

**Дарога** прыватная ці засценак, **да вёскі Жылічы** яснавяльможнага пана Сцыпіёна, падстолія Літоўскага, праз чвэрць мілі паміж поўначчу і зімовым захадам. Дарога пачынаецца ад касцёла і, узяўшы трошкі ўправа, ідзе праз вёску **Барташы**, якая недалёка ад касцёла знаходзіцца, далей праз поле да **Жылічаў**, дзе мяжа парафіі.

Ятвеская парафія мае мяжу з Гарадзенскім паветам у вёсцы **Ельня** яснавяльможнага пана Тызенгаўза, падскарбія надворнага.

Гэтае апісанне нашых парафій подпісам маёй рукі падцвярджаю, кс. **Себасцьян Заблоцкі**, Scholar Piarum Superior Шчучынскага кляштара.

*(Пераклад Леаніда Лаўрэша.)*

***Алег Кунцэвіч,***
***іерэй***

# З ГЛЫБІНІ СТАГОДДЗЯЎ:
# *архіў Лідскага дабрачыння*

**АПІСАННЕ АРХІВА ЛІДСКАГА ДАБРАЧЫННЯ ПЕРЫЯДУ XIX - 30-х гг. XX СТАГОДДЗЯ**




Упершыню аўтар прыступіў да агляду архіва Лідскага дабрачыння, быўшы студэнтам 4-га курса семінарыі ў ліпені 2004 г., па дабраславенні Рэктара Менскай Духоўнай Акадэміі і Семінарыі архімандрыта Леаніда (Філя) (у наш час Епіскап Рэчыцкі, вікары Гомельскай епархіі).

Архіўнае памяшканне семінарыі, у якім захоўваліся гэтыя дакументы, размяшчалася на 3-м паверсе вучэбнага корпуса Менскіх Духоўных Акадэміі і Семінарыі (МенДА і С), размешчанага на тэрыторыі Свята-Ўспенскага Жыровіцкага манастыра. Яно ўяўляла сабою асобны прасторны пакой плошчай каля 100 кв.м., мела цэнтральную сістэму ацяплення, а таксама добрую натуральную і штучную асветленасць. У гэтым памяшканні захоўвалася навучальная літаратура і архіўныя справаводчыя дакументы МенДА і С, якія зручна размяшчаліся на вялікай колькасці металічных кніжных стэлажоў. Тэмпературна-вільготнасныя ўмовы былі набліжаны да нормы.

Да моманту агляду аўтарам архіў Лідскага дабрачыння знаходзіўся ў нездавальняльным стане. Усе дакументы былі складзены ў вялікія палатняныя мяшкі, мелі брудны, змяты і хаатычны выгляд, ад якіх сыходзіў характэрны цяжкі пах пачаўшай буцвець паперы. Умовы ў архіўным пакоі Менскіх Духоўных Акадэміі і Семінарыі былі досыць спрыяльнымі, аднак па вонкавым выглядзе і стану дакументаў было відаць, што да іх ніхто не датыкаўся на працягу многіх гадоў. Было таксама прыкметна, што іх папярэдняе месца захоўвання не адпавядала неабходным патрабаванням. Ніякага вопісу на гэтыя дакументы не існавала, і пра іх змест ніхто не мог даць нават прыблізнага адказу.

На першым этапе ўсе дакументы былі выняты аўтарам з мяшкоў, прыведзены ў акуратны стан і раскладзены па пустых кніжных стэлажах. Пасля гэтага, на працягу тыдня яны знаходзіліся на адкрытым паветры, у цяні, для натуральнага выдалення вільгаці з паперы. Пасля яны знаходзіліся на адкрытых стэлажах увесь час. Паралельна аўтар знаёміўся з іх зместам і складаў папярэдні вопіс, які ўключаў у сябе пункты: наяўная (ці меркаваная) назва; стан дакументаў (старасць, ступень пашкоджанасці і г.д.); часавыя межы спраў; іх прыблізны аб'ём. Дадзены этап заняў больш за месяц штодзённай працы, пасля чаго папярэдні вопіс быў прадстаўлены архімандрыту Леаніду (Філю). Пасля гэтага, на працягу навучальнага 2004/2005 года, па меры магчымасці аўтар працягваў сваю працу, заносячы ў агульны вопіс удакладненыя звесткі, размяркоўваючы справы ў парадку ўзрастання датовак, і раскладваючы іх на вольныя кніжныя стэлажы. Апрацаваныя такім чынам дакументы затым раскладваліся па пранумараваных поліэтыленавых пакетах, да кожнага з якіх прыкладаўся кароткі асабісты вопіс. Індывідуальны нумар справам не прысвойваўся.

Улетку 2005 г. пачаўся капітальны рамонт семінарскага будынка. Падчас адсутнасці аўтара адбылося перамяшчэнне ўсіх архіўных дакументаў у іншае памяшканне, сярод якіх былі і дакументы архіва Лідскага дабрачыння. Частка з іх была зноў кімсьці складзена ў вялікі палатняны мяшок, некаторыя пакеты разарваліся, і дакументы з іх змяшаліся, пры гэтым некалькі кароткіх вопісаў было згублена. У выніку дакументы зноў былі перамяшаны, быў парушаны

ўсталяваны парадак і іх лагічная сувязь. Наяўны агульны папярэдні вопіс да ўсяго архіўнага фонду таксама быў згублены.

На працягу навучальнага 2005/2006 года аўтар не працаваў з гэтымі дакументамі з прычыны перыядычных змен архіўных пакояў (з-за капітальнага рамонту частак будынка семінарыі), адсутнасці неабходных умоў працы і вучэбнай занятасці на выпускным курсе семінарыі. Пасля паступлення ў Менскую Духоўную Акадэмію, увосень 2006 г. аўтар ізноў прыступіў да сістэматызацыі і апісання наяўных дакументаў архіва Лідскага дабрачынння.

Новае архіўнае памяшканне (у якім архіў размяшчаецца і цяпер) займае плошчу каля 60 кв. м., знаходзіцца на 4-м паверсе навучальнага корпуса МенДА і С, і таксама мае самыя спрыяльныя ўмовы для працы. Умовы захоўвання амаль цалкам адпавядаюць патрабаванням да архіўных памяшканняў: маецца цэнтральная сістэма ацяплення, штучнае асвятленне, прымусовая вентыляцыя, зручныя металічныя стэлажы, умацаваныя металічныя дзверы і сучасная сігналізацыя. Пры працы аўтар ва ўсім знаходзіў разуменне і ўсебаковую дапамогу ў асобе былога Рэктара МенДА і С архімандрыта Леаніда (Філя). Варта асобна адзначыць, што галоўным чынам дзякуючы яго дбайнаму і асцярожнаму стаўленню да гэтай гістарычнай спадчыны, дакументальны аб'ём архіва не толькі не паменшыўся ў перыяд яго рэктарства, але і застаўся ў сценах Менскіх Духоўных Школ. Стараннямі архімандрыта Леаніда (Філя) быў пакладзены і пачатак працэсу сістэматызацыі дакументаў архіва Лідскага дабрачыння. Ён заўсёды быў уважлівы да пытання павышэння навуковага аўтарытэту Школ, і ў яго планы ўваходзіла стварэнне адмысловага архіўнага фонду Лідскага дабрачыння, уключанага ў навучальна-метадычную базу МенДА і С, каб тым самым адкрыць шырокі гарызонт для глыбокіх навуковых даследаванняў і адкрыццяў як выкладчыкаў, так і студэнтаў МенДА і С.

Аднак на пытанне пра гісторыю з'яўлення гэтага архіва ніхто не змог даць дакладнага тлумачэння. Было толькі вядома, што гэтыя дакументы кімсьці прывезены пры папярэднім Рэктары МенДС, епіскапе Канстанціне (Гаранаве). Далейшы лёс архіва па аповядах сведак выглядае не аднолькава.

Нажаль, да цяперашняга часу аўтару не ўдалося аднавіць дакладную гісторыю гэтых падзей, бо нават з вуснаў непасрэдных удзельнікаў яна гучыць па-рознаму. Адным з іх з'яўляецца святар Навагрудска-Лідскай епархіі айцец Віктар Завала. У тэлефоннай гутарцы ён растлумачыў, што гэты архіў яму паказаў настаяцель Зблянскай царквы айцец Мікалай Чаброўскі, якому ў сваю чаргу ён быў перададзены папярэднім святаром. Дазнаўшыся пра архіў, айцец Віктар Завала, быўшы ў 1995 годзе студэнтам МенДС, паведаміў пра гэта Епіскапу Навагрудскаму і Лідскаму Канстанціну (Гаранаву), які папрасіў дабрачыннага Лідскай акругі, айца Алексія Івашкевіча, тэрмінова забраць архіў і прывесці ў Жыровічы. Гэта і было зроблена, пасля чаго дакументы, у складзе якіх, як сцвярджае айцец Віктар Завала, тады знаходзіліся падшыўкі Літоўскіх Епархіяльных Ведамасцяў за перыяд другой паловы XIX стагоддзя, Часопісы Маскоўскай Патрыярхіі 40-х гг. XX ст. і г.д., пачалі захоўвацца ў МенДС. Па словах айца Віктара Завалы, да гэтых дакументаў ён больш не меў доступу, нягледзячы на свае шматлікія просьбы, а скарыстаныя ў яго бакалаўрскай працы кліравыя ведамасці і царкоўныя летапісы ён асабіста шукаў і апрацоўваў, падарожнічаючы па прыходах, а затым вяртаў іх на месца. Такім чынам, ён сцвярджае, што скарыстаныя ім дакументы не ўваходзілі ў склад архіва Лідскага дабрачыння, забранага са Зблянскай царквы і захоўванага ў Менскіх Духоўных Школах.

Іншую версію распавёў святар Навагрудска-Лідскай епархіі айцец Алексій Івашкевіч. Па яго словах, прыкладна ў 1995 г., калі ён выконваў абавязкі дабрачыннага Лідскай акругі, падчас візіту ў Зблянскую царква, да яго звярнуўся настаяцель гэтай царквы - айцец Мікалай Чаброўскі. Сутнасць складалася ў тым, што айцец Мікалай Чаброўскі наракаў, што адно з памяшканняў храмавых прыбудоў займаюць "нейкія старыя паперы", ад якіх ён пазбаўляецца тым, што паліць імі печ ужо на працягу двух гадоў і раздае іх на падпалку ўсім ахвотным вернікам у неабмежаванай колькасці. У выніку засталося зусім трохі. Калі айцец Алексій Івашкевіч разам са сваёю жонкаю Наталляй Сцяпанаўнай агледзелі пакінутыя паперы і зразумелі іх каштоўнасць, то забралі і перадалі іх епіскапу Канстанціну (Гаранаву). Дакладны аб'ём і змест гэтых дакументаў айцец Алексій Івашкевіч вызначыць не змог, сказаўшы толькі, што яны занялі ўвесь багажнік легкавога аўтамабіля Фольксваген. Па тлумачэнні айца Мікалая Чаброўскага, гэты архіў знаходзіўся ў храмавай прыбудове ўвесь час, колькі ён сябе памятаў. Памяшканне для захоўвання было асобным, аднак ніякія належныя тэмпературныя, вільготнасныя і іншыя ўмовы захоўвання не выконвалася. Па словах папярэдніх яму святароў Зблянскай царквы, гэтыя дакументы "былі кімсьці сюды звезены прыкладна ў 1920-я ці 1930-я гады", падчас польскай дзяржаўнасці.

Коратка адыходзячы ад гэтага аповяду, аўтар хоча адзначыць, што, мяркуючы па наяўных ужо вопісах, архіў Лідскага дабрачыння ўсё-такі малаважна папаўняўся аж да вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ў наступныя гады галоўным чынам за кошт прыходскай дакументацыі Зблянскай царквы (гл. Ф. 2. Воп. 1. Спр. 1-3.). Дакументаў Лідскага дабрачыння перыяду існавання Навагрудска-Баранавіцкай епархіі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы практычна няма. На ўзніклае пытанне пра тое, якія дакументы маглі загінуць у перыяд 1993 - 1995 гг. у Зблянах, адказаць складана. Малаверагодна, што гэта былі дакументы часоў 1941 - 1944 гадоў. Хутчэй за ўсё, іх не было там наогул, бо епархіяльная дакументацыя там захоўвацца не магла, ды і немцы заўсёды старанна эвакуявалі любыя дакументы сваёй дзейнасці, у тым ліку і царкоўнай. І калі гэта так, то, аналізуючы складзеныя вопісы архіву Лідскага дабрачыння і назіраючы больш-менш запоўнены і лагічна-паслядоўны захаваны дакументальны шэраг,

застаецца са скрухай канстатаваць пра беззваротную страту невядомай часткі архіва Лідскага дабрачыння, найверагодней перыяду дзейнасці ўніяцкіх мітрапалітаў, г.зн. да пачатку XIX стагоддзя.

Вядома, не магчыма з дакладнасцю казаць пра тое, да якога стагоддзя яны маглі належаць. Па сведчанні айца Алексія Івашкевіча, айцец Мікалай Чаброўскі казаў, што ў першую чаргу пазбаўляўся ад "самых старых, непатрэбных папер". Таму аб усім гэтым цяпер можна толькі меркаваць, праводзячы паралелі паміж магчымай колькасцю і датамі дакументаў, якія былі, з двухгадовымі "работамі" па збаўленні ад іх. І толькі дзякуючы аўтарытэту і навуковай зацікаўленасці ўладыкі Канстанціна (Гаранава), неабыякаваму ўдзелу айца Алексія Івашкевіча і яго жонкі Наталлі Сцяпанаўны была выратавана, на жаль, толькі невялікая частка гэтай дакументальнай гісторыі нашай Айчыны.

У большай ступені аповед айца Аляксія Івашкевіча пацвердзіў у тэлефоннай гутарцы і ўладыка Канстанцін (Гаранаў), які з'яўляецца цяпер Архіепіскапам Курганскім і Шадрынскім. Пры гэтым ён адзначыў, што нічога не ведае пра тое, спальваліся да гэтага дакументы ці не, а толькі тое, што забраны архіў рыхтаваўся айцом Мікалаем Чаброўскім да спалення, а айцец Аляксей Івашкевіч гэты працэс спыніў. Затым, з дабраславення ўладыкі Канстанціна (Гаранава) дакументы архіва былі забраны і прывезены ў Менскую Духоўную Семінарыю. Пры гэтым самым важным, па словах уладыкі Канстанціна (Гаранава), з'яўлялася не тое, хто выявіў гэты архіў, а тое, што ён быў выратаваны. Каштоўнасць дакументаў сапраўды была вялікая. Напрыклад, кліравыя ведамасці знойдзенага архіва Лідскага дабрачыння сыгралі вырашальную ролю ў судовым зыску пры рэвіндыкацыі праваслаўнага Лідскага Свята-Міхайлаўскага сабора, пададзенага Каталіцкім Касцёлам у сярэдзіне 90-х гг. XX стагоддзя.

Такім чынам, у невялікай вёсцы Збляны, удалечыні ад палітычных і ідэалагічных трагедый, якія адбываліся ў Беларусі з 1920-х да 1990-х гг., увесь гэты час, унікальны архіў Лідскага дабрачыння шчасліва захоўваўся многімі людзьмі. Затым, хутчэй за ўсё, па злой волі гістарычнага невуцтва, на працягу двух гадоў ён быў амаль цалкам спалены ў вясковых печах. Іншыя падрабязнасці зараз устанавіць не ўяўляецца магчымым. Лёс айца Мікалая Чаброўскага аказаўся такім жа трагічным - узімку 1997 года ён загінуў пры пажары царкоўнай хаты. Суперажываючы чалавечую трагедыю, і давяраючы пэўнасці аповяду айца Алексія Івашкевіча, зараз можна толькі з вялікім шкадаваннем меркаваць, якую незаменную страту панесла айчынная царкоўная і свецкая навука.

Падчас працы па апісанні і фармаванні фондаў з наяўных дакументаў архіва Лідскага дабрачыння, аўтар выкарыстоўваў досвед і методыкі аналагічных даследаванняў царкоўных і свецкіх архівістаў (святара Льва Паеўскага, А.П. Сапунова, Н.І. Грыгаровіча, І.А. Хлябцэвіча, А. Энгеля, Н.І. Гарбачоўскага і інш.), прааналізаваныя ў першай частцы, а таксама сучасныя метадычныя рэкамендацыі і правілы працы з гістарычнымі дакументамі. У выніку была выпрацавана і ўжыта ўласная методыка, якая ўключае ў сябе этапы па сістэматызацыі і апісанні паддоследных дакументаў. У сувязі з тым, што прадстаўленая кандыдацкая праца з'яўляецца першым сучасным навуковым даследаваннем беларускіх свята- і царкоўнаслужак у гэтай вобласці, аўтар палічыў неабходным зрабіць падрабязнае метадычнае апісанне ўсіх этапаў сістэматызацыі архіўных дакументаў Лідскага дабрачыння. Гэта прадыктавана ў першую чаргу надзеяй, што гэтае даследаванне зможа паслужыць добрым практычным дапаможнікам для тых, хто будзе праводзіць падобныя работы па выяўленні і ўвядзенні ў навуковы зварот невядомых гістарычных дакументаў, якія захоўваюцца ў наш час у манастырскіх і прыходскіх архівах.

Прыступіўшы да складання архіўных фондаў Лідскага дабрачыння, аўтарам першапачаткова была праведзена экспертыза каштоўнасці наяўных дакументаў на падставе сучасных метадычных указанняў архіўным работнікам.

### 3.1. Экспертыза каштоўнасці дакументаў

Экспертыза каштоўнасці дакументаў - гэта вызначэнне навукова-гістарычнай, сацыяльна-культурнай каштоўнасці і практычнай значнасці дакументаў з мэтай устанаўлення тэрмінаў іх захоўвання і адбору на захоўванне. Экспертыза каштоўнасці дакументаў праводзіцца на аснове прынцыпаў гістарызму, комплекснасці і ўсебаковасці ацэнкі дакументаў у адпаведнасці з крытэрамі паходжання, утрымання і вонкавых асаблівасцяў дакументаў.

**Да крытэраў паходжання адносяцца:**

1. Роля і месца арганізацыі ў сістэме дзяржаўнага (недзяржаўнага) кіравання і (ці) функцыянавання пэўнай галіны (сістэмы, аб'яднання), значнасць выкананых ёй функцый;

2. Час і месца стварэння дакументаў.

**Да крытэраў утрымання адносяцца:**

1. Значнасць падзеі (з'явы, прадмета), адлюстраванай у дакуменце;

2. Значэнне інфармацыі, якая змяшчаецца ў дакуменце ступень яе паўтаральнасці ў іншых дакументах;

3. Мэтавае прызначэнне, выгляд і разнавіднасць дакумента.

**Да крытэраў вонкавых асаблівасцяў дакумента адносяцца:**

1. Юрыдычная дакладнасць дакумента (наяўнасць подпісаў, дат, пячатак);

2. Наяўнасць рэзалюцый, паметак;

3. Асаблівасці перадачы тэксту;

4. Асаблівасці матэрыяльнай асновы дакумента і яго фізічнага стану.

**Экспертыза каштоўнасці дакументаў у арганізацыі праводзіцца:**

1. У справаводстве пры складанні наменкла-

туры спраў і іх падрыхтоўцы да наступнага захоўвання;

2. У архіве падчас прыёму спраў на сталае ці часавае захоўванне, пры падрыхтоўцы перадачы спраў у дзяржаўны архіў [155, с. 26 - 27].

Выкарыстоўваючы вышэйпаказаныя крытэры, падчас папярэдняга агляду дакументаў архіва Лідскага дабрачыння аўтарам было адзначана, што ўсе яны валодаюць юрыдычнай дакладнасцю, бо запэўнены подпісамі, датамі і (ці) пячаткамі. Некаторыя з іх маюць рэзалюцыі і адміністрацыйныя паметкі духоўных і свецкіх гістарычных асоб. Матэрыяльную аснову дакументаў складае папера, якая мае фармат, колер і тэхналагічныя ўласцівасці, ярка адрозныя ад усіх сучасных выкарыстоўваных відаў канцылярскай паперы. Пераважная колькасць паддоследных дакументаў напісана рукапісным чынам, рознымі почыркамі і чарніламі. Згадваныя адрасаты маюць непасрэдныя адносіны да дзейнасці Лідскага дабрачыння. Фірмавыя бланкі справаводчай перапіскі свецкіх і царкоўных падраздзяленняў валодаюць характэрнымі прыкметамі сапраўднасці. Каля паловы дакументаў вопісу № 1 і частка дакументаў вопісу № 2 першага фонду маюць вадзяныя знакі ці цісненні (каля 20-ці разнавіднасцяў). Большасць перадшлюбных дакументаў (дакументы дашлюбных вышукаў) запэўнена арыгінальнымі геральдычнымі знакамі ці эмблемамі. Асаблівасці арфаграфіі, пунктуацыі, словаўтварэння, стылю і мовы напісання цалкам адпавядаюць прыведзеным датоўкам і гістарычнаму перыяду фармавання гэтых дакументаў. Друкаваныя дакументы маюць характэрныя літарныя шрыфты, якія ў наш час выйшлі з ужытку. Трухлявы стан і (ці) сапсаванасць некаторых фрагментаў дакументаў лічынкамі драўняных насякомых, вільгаццю, цвіллю і грызунамі таксама пацвярджае гістарычную каштоўнасць паддоследных дакументаў. Найболей ранні дакумент архіва датуецца 1811 годам, а найболей позні датуецца 1952 годам.

Выключэнне ўяўляюць сабою наяўныя зборнікі рукапісных і друкаваных царкоўных спеваў, бо яны не маюць даты фармавання, і толькі некаторыя з іх маюць пячаткі пра прыналежнасць да якіх-небудзь прыходаў. Улічваючы царкоўна-дзяржаўныя адносіны ў перыяд пасля Другой сусветнай вайны, а таксама на падставе ўскосных дадзеных (некаторыя лісты маюць адпаведныя паметкі ці пячаткі; парывы лістоў злеплены часткамі паштовых марак 50-х гг. XX ст.), аўтар зрабіў здагадку, што дадзены нотны фонд у 50-х - 60-х гг. XX стагоддзя належаў Жыровіцкаму манастыру. Хутчэй за ўсё, ён быў сфармаваны з ахвяраваных нот царкоўных спеваў праваслаўнымі прыходамі Беларусі, а так жа шляхам ручнога капіявання набажэнсцкіх спеваў, якое было зроблена невядомымі перапісчыкамі.

Такім чынам, аўтарам зроблены высновa, што ўсе паддоследныя дакументы Лідскага дабрачыння адносяцца да перыяду XIX - 50-я гады XX стагоддзя і маюць вялікую гістарычную значнасць, валодаючы навуковым патэнцыялам, не скарыстаным раней у гістарычных навуках. Змест гэтых дакументаў мае непасрэдныя адносіны да рэлігійных і свецкіх падзей, якія адбываліся на адміністрацыйнай тэрыторыі Лідскага дабрачыння ў паказаны перыяд, што ўключаў дзейнасць Уніяцкай (да 1839 г.) і Праваслаўнай Царквы ў перыяды дзяржаўнасці Расійскай Імперыі, Польскай дзяржавы, падчас Першай і Другой сусветных войн, а таксама ў паваенны перыяд (50-я гг. XX ст.).

Адпаведную цяжкасць пры планаванні даследавання выклікаў факт выяўлення дакументаў, якія не ўлазілі ў храналагічныя рамкі тэмы кандыдацкай дысертацыі. Прымаючы да ўвагі неабходнасць сістэматызацыі ўсяго наяўнага аб'ёму дакументаў архіва Лідскага дабрачыння, аўтарам было прынята рашэнне пра стварэнне асобных фондаў для дакументаў перыяду 1940-х - 1950-х гг., і наяўных нотных зборнікаў, з наступнай іх сістэматызацыяй і апісаннем.

Выключэннем з правіл з'явіўся выпадковым чынам выяўлены факт, што адна з адарваных і не ідэнтыфікаваных вокладак канцылярскай кнігі часткай складаецца са злепленых дакументаў другой паловы XIX стагоддзя на польскай мове. Некаторыя з іх былі няпоўнымі, у выглядзе невялікіх кавалачкаў, а некаторыя захавалі свой першапачатковы выгляд. Таму яны былі акуратна вызвалены шляхам ручнога расслаення вокладкі, і змешчаны ў архіўны россып дакументаў перыяду да 1840 г. (Ф. 1, Вопп. 1, Спр. 21).

### 3.2. Забеспячэнне захаванасці дакументаў архіва

З-за таго, што пры ацэнцы каштоўнасці дакументаў архіва Лідскага дабрачыння былі выяўлены дакументы пашкоджаныя вільгаццю, грызунамі, грыбком і лічынкамі драўняных насякомых, паўстала неабходнасць ахарактарызаваць неабходныя ўмовы захоўвання наяўных дакументаў з мэтай засцярогі іх ад далейшага разбурэння.

Паводле патрабаванняў да архіўных памяшканняў, архіву павінен надавацца адмыслова пабудаваны будынак ці частка будынка, прыстасаваны для захоўвання дакументаў арганізацый. Гэтае сховішча павінна быць бяспечным у пажарных адносінах, абаронена ад затаплення і мець запаснoе выйсце. Знадворныя дзверы архіўнага сховішча павінны быць абабіты металічным лістом і мець надзейныя замкі. Акрамя таго, памяшканне архіва абсталёўваецца ахоўнай сігналізацыяй, а вокны абараняюцца створчатымі кратамі [155, с. 45].

Асобнае памяшканне, у якім захоўваецца паддоследны архіў Лідскага дабрачыння, знаходзіцца на чацвёртым паверсе навучальнага корпуса Менскіх Духоўных Акадэміі і Семінарыі і галоўным чынам адпавядае паказаным патрабаванням, не маючы толькі запаснога выйсця і створчатых кратаў на вокнах.

Прапануецца таксама ўлічваць, што тэмпературна-вільготнасны рэжым захоўвання дакументаў на папяровай аснове павінен адпавядаць наступным параметрам:

| Памяшканне з рэгуляваным кліматам | | Памяшканне з нерэгуляваным кліматам | |
|---|---|---|---|
| *t, C^O* | *вільготнасць, %* | *t , C^O* | *вільготнасць, %* |
| + 17…+ 19 | 50…55 | +14…+ 20 | 45…60 |

Акрамя таго, умовы ўтрымання і захоўвання дакументаў павінны выключаць усякую магчымасць з'яўлення цвілі, насякомых, грызуноў і назапашвання пылу больш за 0, 15 мг/м$^2$ [155, с. 46].

**Для абароны дакументаў ад пылу неабходна:**

1. Забяспечыць максімальна магчымую герметычнасць сховішчаў;

2. Не радзей аднаго разу ў год праводзіць абяспыльванне скрынак з дакументамі, стэлажоў і памяшканняў электрапыласосам;

3. Праводзіць сістэматычную вільготную ўборку сховішчаў;

4. Перыядычна праветрываць сховішчы (мэтазгоднасць праветрывання вырашаецца з улікам вільготнасці вонкавага і ўнутранага паветра) [155, с. 47].

Паколькі дакументы архіва Лідскага дабрачыння ўяўляюць сабою вялікую навуковую каштоўнасць, аўтарам, з улікам метадычных рэкамендацый, прапануецца правесці комплекс мерапрыемстваў і прыняць шэраг дадатковых мер:

1. Падтрымліваць аптымальныя ўмовы для захоўвання дакументаў;

2. Змясціць справы ў сховішча і зрабіць іх тапаграфаванне;

3. Прызначыць адмысловага супрацоўніка, адказнага за захаванасць дакументаў архіва Лідскага дабрачыння;

4. Перыядычна праводзіць праверку наяўнасці і стану спраў і дакументаў, са складаннем адпаведнага акту;

5. Захоўваць парадак выдачы спраў з архіва;

6. Забяспечыць фізіка-хімічную захаванасць наяўных гістарычных дакументаў [155, с. 44];

7. Сіламі студэнтаў МенДА і С, у рамках навучальнага працэсу, ажыццявіць тэрміновае фотакапіяванне ўсіх дакументаў архіва Лідскага дабрачыння і стварыць электронную базу яго фондаў, вопісаў і спраў;

8. Усю наступную навуковую працу неабходна праводзіць толькі з электроннымі копіямі. Арыгінальныя дакументы павінны быць змешчаны на кансервацыю ў асобнае памяшканне з належнымі ўмовамі, і выдавацца на рукі толькі ў выпадку крайняй неабходнасці;

9. У выпадку немагчымасці прызначэння асобы, адказнай за захаванасць дакументаў архіва Лідскага дабрачыння, пасля ажыццяўлення мерапрыемстваў паказаных у п. 6, арыгіналы дакументаў неабходна перадаць на часовае ці сталае захоўванне ў любы буйны дзяржаўны архіў па наяўных вопісах фондаў. Пры гэтым павінна быць складзена дамоўленасць пра наступны бесперашкодны доступ да гэтых дакументаў выкладчыкаў і студэнтаў МенДА і С, якія займаюцца навуковымі даследаваннямі.

**3.3. Класіфікацыя дакументаў у межах архіваў**

Найболей характэрнай для архіваў Расіі і еўрапейскіх дзяржаў XIX стагоддзя з'яўлялася групоўка матэрыялаў па фондах. Яна праводзілася на аснове прынцыпу паходжання дакументаў ("правеніенцпрынцыпу"), асноўным патрабаваннем якога было захаваць цэласнасць архіўнага фонду, што для свайго часу ўяўляла станоўчае рашэнне пытання. Пачатак тэарэтычнай распрацоўкі пытанняў класіфікацыі экспертызы навукова-даведкавага апарату ў Расіі можа быць аднесены да першай паловы XIX стагоддзя, калі з'яўляюцца навуковыя працы відных рускіх архівістаў П.М. Строева, А.Х. Вастокава, а пазней Н.В. Калачова, І.Е. Андрэеўскага, Д.Я. Самаквасава, А.П. Воранава і інш. [205, с. 10].

Пад класіфікацыяй дакументаў у межах архіваў разумеецца іх групоўка па архіўных фондах і комплексах архіваў дакументаў, з правільнай пастаноўкай іх захоўвання і ўліку, а таксама стварэнне высакаякаснага навукова-даведкавага апарату для дасягнення ўсебаковага выкарыстання дакументацыі.

Многія з дарэвалюцыйных архівістаў лічылі, што найболей правільна класіфікацыя дакументаў, у межах архіваў, павінна ажыццяўляцца па гістарычна складзеных комплексах дакументаў - архіўных фондах. Акрамя класіфікацыі па фондах мела месца класіфікацыя па галінах, тэмах і відах дакументаў.

Зыходзячы з практыкі, класіфікацыя дакументаў па фондах можа ажыццяўляцца і падчас працы з матэрыяламі, змешчанымі на захоўванне ў архіве. У нашым выпадку, дакументы архіва Лідскага дабрачыння, хоць пакуль афіцыйна і не прыняты на захоўванне ў архіў, аднак працэс іх сістэматызацыі праходзіць ва ўмовах, вельмі блізкіх да гэтага.

Архіўным фондам завецца прыняты на дзяржаўнае (ці царкоўнае) захоўванне комплекс дакументаў, якія маюць паміж сабой гістарычныя і (ці) лагічныя сувязі. Гэта радавое паняцце фонду [205, с. 30]. Архіўны фонд выступае ў якасці класіфікацыйнай і ўліковай адзінкі, якая распаўсюджваецца на ўсе комплексы дакументаў, змешчаныя ў архівах, незале-жна ад спосабу і тэхнікі іх стварэння. Такія дакументальныя комплексы, як архіўны фонд установы (прадпрыемствы, арганізацыі, адзіночнай асобы), аб'яднаны архіўны фонд, архіўная калекцыя, комплекс навукова-тэхнічнай дакументацыі, уяўляюць сабою віды архіўнага фонду.

Архіўным фондам, у яго традыцыйным разуменні, з'яўляецца комплекс дакументаў, якія ўтварыліся ў дзейнасці адпаведнай установы, арганізацыі, прадпрыемствы ці асобы [205, с. 30]. Таму дакументы Лідскага дабрачыння можна кваліфікаваць як архіўны фонд.

Архіўны фонд фармуецца з матэрыялаў дакументальнага фонду. Сукупнасць усіх дакументаў (незалежна ад іх каштоўнасці і месцазнаходжання), узніклых падчас дзейнасці якога-небудзь фондаўтваральніка, завецца дакументальным фондам [205, с. 30].

Кожны дакументальны фонд аб'ядноўвае ў

сваім складзе ўсю дакументацыю адпаведнага фондаўтваральніка: дакументы справаводства, архіў фондаўтваральніка і іншыя дакументы, змешчаныя ў дзяржаўным (ці царкоўным) архіве. Асаблівасць дакументальнага фонду складаецца ў тым, што ён уключае матэрыялы як са сталымі, так і з часовымі тэрмінамі захоўвання, і не мае стабільнага складу. Матэрыялы з часовымі тэрмінамі захоўвання выдзяляюцца да знішчэння ва ўстаноўленым парадку, а матэрыялы, якія маюць навуковую і практычную каштоўнасць, паступаюць на сталае захоўванне ў дзяржаўныя ці царкоўныя архівы, дзе арганізуюцца па архіўных фондах. Дакументальны фонд Лідскага дабрачыння ўяўляе сабою навукова недаследаваныя гістарычныя матэрыялы, таму прымаючы да ўвагі іх навуковую і практычную каштоўнасць, аўтар прысвоіў ім катэгорыю матэрыялаў са сталым тэрмінам захоўвання.

Наступным этапам працы з'яўляецца вызначэнне мяжы архіўнага фонду - вызначэнне складу дакументаў, якія падлягаюць уключэнню ў пэўны архіўны фонд. У нашым выпадку, на пачатковым этапе ў архіўны фонд Лідскага дабрачыння мы ўключаем усе наяўныя дакументы.

Пры правядзенні практычнай працы па класіфікацыі дакументаў з мэтай іх арганізацыі па архіўных фондах, неабходна вызначыць іх фондавую прыналежнасць. Вызначыць фондавую прыналежнасць дакументаў - значыць устанавіць, дзейнасцю якога фондаўтваральніка (установы, арганізацыі, прадпрыемства і г.д.) яны ўтварыліся. Папярэдняе вывучэнне паддоследнага дакументальнага фонду паказала што, не гледзячы на разнастайнасць загалоўкаў спраў і іх вялікі часавы спектр, усе яны адносяцца да дзейнасці Лідскага дабрачыння ў XIX - сярэдзіне XX стагоддзяў.

Спецыялісты па архівазнаўстве перасцерагаюць, што нядбайнае абыходжанне з матэрыяламі, дрэнныя ўмовы іх захоўвання і перавозак, прыводзяць да ўтварэння так званага фондавага россыпу, які складаецца з разрозненых спраў і асобных дакументаў розных спраў. Парадкаванне спраў і дакументаў, якія знаходзяцца ў стане россыпу, пачынаецца з вызначэння іх фондавай прыналежнасці.

Дакументы Лідскага дабрачыння, на пачатку працэсу іх сістэматызацыі, былі ў неўпарадкаваным стане і знаходзіліся ў вялікіх транспартных мяшках. Хоць вялікая частка з іх была падшыта ці расфармавана па папках, аднак амаль усе яны не мелі пэўнай назвы, а іх датоўку і ўтрыманне даводзілася ўстанаўліваць, разбіраючы і прачытваючы змешчаныя ў іх дакументы. Іншая частка дакументаў ці не мела папак наогул, ці папкі знаходзіліся ў непрыдатным стане, з-за чаго аўтару даводзілася размяркоўваць дакументы па новых папках, у адпаведнасці з іх унутраным зместам. Пры гэтым яны практычна ўяўлялі сабою так званы россып (трухлявыя папкі і хуткасшывальнікі, падшыўкі дакументаў без апазнавальных прыкмет, вялікая колькасць разрозненых ведамасцяў рознага зместу, а гэтак жа адзінкавых лісткоў). Некаторыя дакументы, на жаль, так і засталіся ў самастойным выглядзе і былі змешчаны ў асобныя папкі "Фондавы россып", з наступнай іх тапаграфіяй па крытэры адпаведнасці ўтрыманню фондавых вопісаў.

Пры фармаванні фондаў і вопісаў аўтару прыйшлося сутыкнуцца з адпаведнымі цяжкасцямі. Пры гэтым можна вылучыць наступныя асноўныя праблемы:

1. Дакументы не размяшчаюцца ў храналагічным парадку;
2. Дакумент пазнейшы падшываецца зверху да больш ранняга;
3. Адсутнасць наймення спраў;
4. У розныя перыяды гісторыі, аднолькавыя па сутнасці маюць розныя найменні;
5. Адсутнасць аднастайнасці ў найменні адрасата;
6. Колькасць лістоў перавышае норму (250 лістоў) у адным томе;
7. Старасць ці сапсаванасць часткі дакументаў;
8. Асноўная частка дакументаў з'яўляецца рукапіснымі;
9. Наяўнасць дакументаў на польскай і нямецкай мовах;
10. Слабая чытальнасць тэксту (неразборлівы ці дробны почырк, пашкоджанасць лістоў вільгаццю ці грыбком, змена ўласцівасцяў чарніла за даўнасцю часу і г.д.);
11. Складанасць устанаўлення датоўкі дакументаў;
12. Розны фармат паперы дакументаў;
13. Частка дакументаў падшыта ў складзеным напалам стане;
14. У некаторых папках і канцылярскіх кнігах дакументы падшываліся без якой-небудзь адпаведнай прыкметы і парадку;
15. Адсутнасць аднастайнасці ў найменні аналагічных дакументаў, папак і канцылярскіх кніг.

Пасля доўгай і карпатлівай працы, якая складалася ў вызначэнні датовак, утрыманні і лагічнай сувязі паддоследных дакументаў, на першым этапе ўсе яны былі размеркаваны па наступных, адвольна абраных часавых прамежках:

1. Дакументы перыяду да 1840 г.;
2. Дакументы перыяду 1840 - 1860 гг.;
3. Дакументы перыяду 1861 - 1880 гг.;
4. Дакументы перыяду 1881 - 1900 гг.;
5. Дакументы перыяду пасля 1900 г.

У гэтым пытанні аўтар палічыў нямэтазгодным прывязвацца да дат гістарычных падзей ці перыядаў, бо справы былі сфармаваны фондаўтваральнікам без якіх-небудзь вызначаных правілаў, такім чынам, фіксаваная дата можа ўваходзіць у розныя справы за розныя адрэзкі часу. А гэта значыць, што ў такім дзяленні рацыянальнасці няма.

У асобны фонд было вырашана аднесці ўсе наяўныя рукапісныя ноты царкоўных спеваў, бо не ўяўлялася магчымай іх ідэнтыфікацыя па часавым прамежку, і ва ўласнасці якога прыходу яны знаходзіліся.

Меркавана, яны належалі Жыровіцкаму манастыру ў 50-я гады XX стагоддзя.

У спецыяльнай літаратуры прапануецца лічыць фонд, які складаецца з дакументаў, што ўтварыліся ў выніку дзейнасці двух ці больш фондаўтваральнікаў, і якія маюць (мелі) паміж сабой гістарычныя і (ці) лагічна абумоўленыя сувязі, як аб'яднаны архіўны фонд. У нашым выпадку, хоць частка дакументаў і належыць перыяду дзейнасці ў Лідскім дабрачынні ўніяцкай царквы, архіўны фонд Лідскага дабрачыння нельга лічыць аб'яднаным.

### 3.4. Класіфікацыя дакументаў у межах архіўных фондаў

Схема класіфікацыі дакументаў уяўляе сабою пералік класіфікацыйных дзяленняў, размешчаных у адпаведнай паслядоўнасці. Яна прызначаецца для размеркавання дакументаў фонду па гэтых дзяленнях. У якасці класіфікацыйных дзяленняў могуць выступаць класы, падкласы, аддзелы, пададдзелы і іншае [205, с. 45].

Выбар віду класіфікацыйнай схемы вызначае паслядоўнасць асноўнай групоўкі матэрыялаў фонду. На першапачатковым этапе спецыялістамі рэкамендуецца ўсе справы фондаўтваральніка згрупаваць па гадах, а затым па структурных падраздзяленнях кіравання. У нашым выпадку групоўка па структурных падраздзяленнях Лідскага дабрачыння будзе не толькі парушаць лагічнае дзяленне дакументаў па часавых прамежках (гадах), але і істотна ўскладняць успрыманне агульнай карціны дзейнасці фондаўтваральніка. Таму было прынята рашэнне не пагаршаць гэтую заблытаную сітуацыю падзелам спраў на тэматычныя фонды, а пакінуць толькі дзяленне па гадах. Паколькі цяпер кожнай справе ўжо прысвоены свой асабісты нумар і зроблена яе апісанне, у выпадку неабходнасці з іх магчыма ў самыя кароткія тэрміны сфармаваць фонд любой тэматыкі.

Пасля размеркавання па адвольна абраных перыядах (да 1840 г., 1840 - 1860 гг. і г.д.), аўтар дадаткова зрабіў размеркаванне спраў усярэдзіне гэтых часавых прамежкаў па крытэры даты дакумента: ад больш ранняй даты - да пазнейшай. Пасля гэтага кожнай справе быў прысвоены асабісты нумар. Пры такой класіфікацыйнай схеме застаецца магчымасць усім наступным даследнікам хутка вылучыць пералік дакументаў, неабходных ім для вывучэння ў адпаведнасці з навуковымі зацікаўленнямі. Акрамя таго, такое размеркаванне захоўвае больш ясную карціну агульнага складу дакументаў, якія сфармаваліся падчас дзейнасці Лідскага дабрачыння, і іх храналогію. Асобна ад усіх дакументаў прыходскага справаводства былі вынесены нотныя зборнікі і кліравыя ведамасці, якія размяркоўваліся па прыходскай прыналежнасці, а затым па гадах: ад больш ранняй даты складання - да пазнейшай. Фондавы россып усіх перыядаў змяшчаўся ў асобныя папкі адпаведна часаваму прамежку ці крытэру прыналежнасці (ноты), і ім таксама прысвойваліся ўласныя нумары.

### 3.5. Арганізацыя і методыка працы па класіфікацыі дакументаў у архівах

Класіфікацыя дакументаў архіва мяркуе іх групоўку па фондах на падставе адпаведных прыкмет, якія маюць істотнае значэнне для ўліку, захоўвання і выкарыстання дакументальнай інфармацыі. Пры складанні справаводства і правядзенні экспертызы каштоўнасці дакументаў (пры фармаванні спраў і адборы іх для перадачы ў архіў) вызначаецца фондавая прыналежнасць дакументаў, г.зн., ажыццяўляецца аднясенне іх да архіўнага фонду арганізацыі-фондаўтваральніка з улікам храналагічных межаў яе дзейнасці. Гэты від працы завецца фандаваннем [155, с. 55]. У нашым даследаванні ўсе наяўныя дакументы адлюстроўваюць дзейнасць аднаго фондаўтваральніка - Лідскага дабрачыняя і складаўшых яго структурных царкоўных падраздзяленняў.

Фонд уяўляе сабою асноўную класіфікацыйную і ўліковую адзінку дакументаў архіва, і драбненню не падлягае.

Храналагічнымі межамі фонду з'яўляюцца афіцыйныя даты стварэння і ліквідацыі арганізацыі фондаўтваральніка, і гэтыя межы не залежаць ад змен адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення, калі ўтварэнне, дзейнасць і ліквідацыя фондаўтваральніка не звязаны з гэтымі зменамі [155, с. 56]. З прычыны ўнікальнасці сітуацыі паддоследнага дакументальнага фонду архіва Лідскага дабрачыння, храналагічнымі рамкамі з'яўляюцца межы датовак усіх наяўных дакументаў.

Кожны фонд павінен мець свой нумар і назву, якое адпавядае афіцыйнай назве фондаўтваральніка [155, с. 55]. З прычыны таго, што падчас больш дэталёвага вывучэння дакументаў архіва Лідскага дабрачыння былі выяўлены дакументы, якія выходзяць за часавыя рамкі зацверджанай тэмы даследавання (XIX - 30-я гг. XX стст.) аўтарам было прынята рашэнне пра неабходнасць стварэння асобнага дакументальнага фонду, уключыўшы туды наяўныя дакументы перыяду 1940-х - 1950-х гадоў. Таксама, з-за спецыфічнасці змешчанай інфармацыі, у другі самастойны фонд былі ўключаны ўсе зборнікі нотаў і іх россып.

Некалькі дакументаў, выяўленых злепленымі ў вокладцы неапазнанай справы і датаваныя другой паловай XVIII стагоддзя, былі змешчаны аўтарам у фондавы россып перыяду да 1840 года.

Такім чынам, былі ўтвораны наступныя дакументальныя фонды:

- фонд № 1 - "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду XIX - 30-я гг. XX стст.";
- фонд № 2 - "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1940-х - 1950-х гг. Фондавы россып XX ст.";
- фонд № 3 - "Архіў Лідскага дабрачыння. Ноты".

З улікам таго, што прыналежнасць да фондаў № 1 і № 2 мы вызначылі ў адпаведнасці з крытэрамі датоўкі дакумента, наступны этап будзе заключацца ў

вызначэнні колькасці вопісаў і размеркаванні ўсярэдзіне іх паддоследных дакументаў Лідскага дабрачыння. Пры гэтым кліравыя ведамасці цэркваў былі вылучаны ў асобны вопіс фонду № 1, а ноты Жыровіцкага манастыра, як меўшыя ўласную тэматычную прыкмету, змешчаны ў самастойны фонд. Такім чынам, у нас утварыліся наступныя фонды і вопісы:

I. Фонд № 1 - "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду XIX - 30-я гг. XX стст."

1. Дакументы перыяду да 1840 г. - Фонд 1, вопіс 1;

2. Дакументы перыяду 1840 - 1860 гг. - Фонд 1, вопіс 2;

3. Дакументы перыяду 1861 - 1880 гг. - Фонд 1, вопіс 3;

4. Дакументы перыяду 1881 - 1900 гг. - Фонд 1, вопіс 4;

5. Дакументы перыяду 1900 - 1939 гг. - Фонд 1, вопіс 5;

6. Кліравыя ведамасці цэркваў Лідскага дабрачыння - Фонд 1, вопіс 6.

II. Фонд № 2 - "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1940-х - 1950-х гг. Фондавы россып: XX стагоддзе"

1. Дакументы перыяду 1940 - 1952 гг. Фондавы россып XX ст., - Фонд 2, вопіс 1.

III. Фонд № 3 - "Архіў Лідскага дабрачыння. Ноты"

1. Ноты Жыровіцкага манастыра - Фонд 3, вопіс 1.

### 3.6. Сістэма ўліковых дакументаў, прынцыпы іх вядзення ў архівах са сталым складам

**Спіс фондаў** - уліковы дакумент, які ўяўляе сабой пералік найменняў архіўных фондаў у парадку іх нумароў. Па спісе фондаў кожны фонд, які паступае ў архіў у храналагічнай паслядоўнасці паступленняў, атрымлівае парадкавы нумар, які не можа быць прысвоены іншаму фонду.

У спісе фондаў, апроч нумара фонду і даты яго першага паступлення паказваецца поўная, афіцыйна прынятая назва ўстановы - фондаўтваральніка і, калі ёсць - афіцыйна прынятая скарочаная назва.

Ліст фонду - уліковы дакумент, які адлюстроўвае звесткі пра назву і нумары архіўнага фонду, вопісаў на справы і дакументы фонду. Ён служыць першаснай крыніцай інфармацыі па фондзе, які раскрывае кароткі змест матэрыялаў, і дае дынамічную карціну складу і стану фонду, дзякуючы наяўнасці запісаў усіх паступленняў і кожнага выбыцця матэрыялаў. Гэта дакумент з'яўляецца найважнай формай уліку архіўных матэрыялаў, бо ўтрымоўвае сумарныя звесткі пра склад фонду ў цэлым і адбылыя змены.

**Ліст фонду** складаецца з трох асноўных частак:

1. Агульная характарыстыка матэрыялаў, якая ўключае назву фонду і кароткія лікі кожнай назвы, дату першага паступлення, месцазнаходжанне фонду;

2. Улік неапісаных матэрыялаў;

3. Улік апісаных матэрыялаў.

Першыя часткі лістоў фондаў архіва Лідскага дабрачыння прыведзены ў *Дадатку 4*.

Форма ліста фонду дазваляе ўявіць у пэўных аб'ёмных паказчыках стан фонду і склад яго вопісаў. Па лісце фонду прысвойваецца нумар кожнага вопісу. Калі матэрыялы якога-небудзь вопісу выбываюць з архіва, то яго нумар іншаму вопісу не прысвойваецца, каб пасля не абцяжарваць спасылкі на дакументы падчас іх выкарыстання.

**Вопіс спраў** - гэта архіўны даведнік, які ўяўляе сабой сістэматызаваны пералік загалоўкаў і іншых неабходных звестак пра склад і ўтрыманне спраў архіўнага фонду. На падставе вопісу вызначаецца архіўны шыфр справы, які ўяўляе сабой сукупнасць звестак пра яго месцазнаходжанне: скарочанае пазначэнне архіва, нумар фонду, вопісу і справы.

Улік складу спраў вядзецца шляхам нумарацыі лістоў, і мае вялікае значэнне, паколькі забяспечвае захаванасць асобных дакументаў усярэдзіне справы. У архіўнай практыцы ўсталяваўся цвёрды парадак правядзення нумарацыі лістоў, які забяспечвае ўлік і захаванасць не толькі асобных дакументаў, але і кожнага ліста дакумента, які паступае ў архіў.

Нумарацыя праводзіцца для таго, каб забяспечыць захаванасць і замацаваць парадак размяшчэння дакументаў. Лісты справы нумаруюцца ў разгорнутым выглядзе арабскімі лічбамі валавай нумарацыяй у правым верхнім куце, але лічбы не павінны кранаць тэксту дакумента. Нумарацыя лістоў праводзіцца графітавым алоўкам ці нумаратарам. Выкарыстоўваць у гэтых мэтах чарніла ці каляровыя алоўкі забаронена. Лісты ўнутранага вопісу дакументаў нумаруюцца асобна. Лісты спраў, якія складаюцца з некалькіх тамоў ці частак, нумаруюцца па кожным томе ці кожнай частцы асобна з самастойнай валавай нумарацыяй па кожным томе (частцы).

Для якаснага ўліку дакументаў пры іх вопісе неабходна прытрымлівацца некаторых рэкамендацый. Ліст любога фармату, прышыты за край, нумаруецца як адзін ліст. Лісты ж, складзеныя напалову і падшытыя за сярэдзіну, рэкамендуецца перашываць. Аднак, з прычыны таго што частка дакументаў Лідскага дабрачыння гістарычна падшывалася ў складзеным напалам стане, аўтарам было прынята рашэнне пра нямэтазгоднасць рассшывання папак, бо адпаведную даследчую цікавасць уяўляюць не толькі самі дакументы, але і спосабы іх фармавання і захоўвання. Акрамя гэтага, рассшыванне гэтых дакументаў прывядзе да ірацыянальнай блытаніны, што з'яўляецца нелагічным і недапушчальным актам. Справа ўскладняецца яшчэ і тым, што адсутнічае аднастайнасць у спосабах падшывання складзеных напалам дакументаў архіва. У адных выпадках такія дакументы падшываліся адзін да аднаго паслядоўна, а ў іншых выпадках укладваліся адзін у адзін і сшываліся ў выглядзе брашуры. Выйсце са становішча, якое стварылася, аўтар знайшоў у паслядоўнай нумарацыі кожнай часткі падшытага ліста,

без уліку таго, складзены ён напалам ці не. А ў выпадку, калі ліст не падшыты ў складзеным стане - нумараваць яго паводле рэкамендаванай методыкі, г.зн., у разгорнутым выглядзе ў правым верхнім куце.

У выпадку, калі да ліста адным краем прылеплены іншыя дакументы (устаўкі тэксту, пераклады і іншае), то яны нумаруюцца асобна.

Сярод дакументаў сустракаюцца складзеныя лісты фармату А-3 і А-2, таму яны разгортваюцца і нумаруюцца ў правым верхнім куце. Ліст і прылеплены адным бокам дакумент да яго нумаруюцца, як два самастойныя лісты. У некаторыя справы ўключаюцца дакументы з уласнай нумарацыяй (даклады, справаздачы). Па прынятых правілах яны будуць нумаравацца ў агульным парадку. Аднак, у некаторых выпадках, падшыты дакумент з уласнай нумарацыяй можа яе захаваць, калі яна адпавядае парадкаваму размяшчэнню лістоў у справе. Калі ў справах сустракаюцца чыстыя лісты, якія служаць пракладкамі-раздзельнікамі, то яны не нумаруюцца. Кіруючыся імкненнем да найстражэйшага ўліку і захаванасці гістарычнай спадчыны Лідскага дабрачыння, аўтарам было прынята рашэнне пра нумарацыю чыстых лістоў канцылярскіх і метрычных кніг, калі яны з'яўляюцца незапоўненымі, але знаходзяцца ў агульным парадку ў сшытым выглядзе.

Існуе правіла, што ў выпадках, калі пры нумарацыі лістоў было дапушчана шмат памылак, лісты справы нумаруюцца нанова. Пры новай нумарацыі стары нумар закрэсліваецца адной нахільнай рысай і побач ставіцца новы нумар ліста. Звесткі пра колькасць лістоў у ранейшым лісце - завяральніку справы таксама закрэсліваецца, але ліст-завяральнік справы застаецца. Пры пераглядзе справы могуць быць выяўлены прапушчаныя не пранумараваныя лісты. Нумаруюцца такія лісты так: ставіцца нумар пранумараванага ліста папярэдняга, а затым дадаюцца літары: "а", "б", "в" і г.д. Такія нумары завуцца літарнымі і пішуцца: “5а”, “5б”. Пры паўторы аднаго нумара на некалькіх побач размешчаных лістах, кожнаму нумару ліста, пачынальна з другога, гэтак жа дадаюцца літары. Калі падчас прагляду будуць выяўлены прапушчаныя лісты (г.зн. пасля нумара 26, наступным будзе нумар 28), то ў гэтым выпадку прапушчаны нумар будзе паказаны ў лісце - завяральніку справы: "Прапушчаныя нумары - 27".

У канцы кожнай справы на асобным чыстым лісце робіцца завяральны надпіс, у якім лічбамі і вялікімі літарамі паказваецца колькасць пранумараваных лістоў, а гэтак жа абумоўліваюцца асаблівасці нумарацыі лістоў і фізічнага стану дакументаў справы. У завяральным надпісе справы лісты ўнутранага вопісу паказваюцца праз знак "+". Напрыклад: у справе № 18 пранумаравана 230 (дзвесце трыццаць) лістоў з № 1 па № 230 + 3 лісты ўнутранага вопісу [205, с. 124].

**Справа фонду** - гэта справа, якая заводзіцца ў архіве для захоўвання дакументаў па гісторыі і стане архіўнага фонду, прычым, усе лісты фонду павінны быць падшыты і пранумараваны, а на дакументы справы фонду складаецца ўнутраны вопіс.

**Картка фонду** ўяўляе сабою скарочаны варыянт ліста фонду. У картцы паказваецца нумар і назва фонду з указаннем усіх пераназменаванняў, дат гэтых пераназменаваняў і назвы архіва, у якім захоўваецца фонд [205, с. 125].

Ліст фонду, вопіс спраў, справа фонду і картка фонду не ствараліся аўтарам, бо яны заводзяцца працаўнікамі архіва пасля прыёму архіўнага фонду на захоўванне.

### 3.7. Апісанне спраў

Апісанне дакументаў і спраў - складовая частка навукова-інфармацыйнай дзейнасці архіваў. Абавязковай умовай складання ўсіх відаў даведнікаў пра змест дакументаў з'яўляецца папярэдняе апісанне спраў, г.зн. выяўлення інфармацыйных характарыстык, неабходных для вызначэння элементаў інфармацыі і пісьмовае пазначэнне гэтых характарыстык на вокладцы спраў. Апісанне спраў ажыццяўляецца падчас справаводства арганізацый (установаў, прадпрыемстваў), прычым пачынаецца з моманту завядзення справы ў адпаведнасці з наменклатурай і завяршаецца яе афармленнем для здачы ў архіў установы.

Прызначэнне апісання - даць дакладнае азначэнне складу і зместу кожнай справы з мэтай забяспечыць хуткі пошук і выкарыстанне дакументаў.

Найважнай часткай працы пры апісанні спраў з'яўляецца складанне (удакладненне) загалоўка, у якім коратка характарызуюцца склад і змест дакументаў, якія ўваходзяць у справу.

Гэта пытанне выклікала адмысловую складанасць з прычыны таго, што ў большасці спраў Лідскага дабрачыння не захаваліся вокладкі з найменнямі дадзенымі ім фондаўтваральнікам, а таксама адсутнічала сістэма фармавання гэтых спраў. Відавочна, што справа проста складалася з усіх, наяўных дакументаў, без якой - небудзь вызначальнай прыкметы. Межы ж гэтага перыяду аўтару дысертацыі даводзілася ўстанаўліваць па датах першага і апошняга дакумента ў справе. Гэта таксама выклікала адпаведныя цяжкасці, бо даты не заўсёды прысутнічалі, ці дрэнна прагляддаліся з-за старасці дакумента. У гэтым выпадку дата прысвойвалася па найбліжэйшым да падшытага дакуменце. Адпаведную блытаніну ўносіла вялікая разнастайнасць формаў і стыляў складання дакументаў, а таксама іх найменняў.

Хочацца асобна звярнуць увагу, што праблема адсутнасці аднастайнасці ў найменнях дакументаў, спраў і канцылярскіх кніг Рускай Праваслаўнай Царквы ў перыяд XVIII - XX стагоддзяў, адзначаецца і іншымі даследнікамі. Для пераадолення гэтай складанасці пры складанні вопісу і для захавання гістарычнага імя (калі такое мелася), аўтарам было прынята рашэнне не пераназываць такія канцылярскія кнігі і папкі. Там, дзе гэта будзе неабходна, найменне некаторых спраў у вопісах будзе падвойным і ўключаць

адно ўніверсальнае імя, а другім будзе гістарычна захаванае, ці тое, якое тлумачыць яго ўнутраны змест. Для ўнясення яснасці ў гэтым пытанні быў скарыстаны "Рэестр разнавіднасцяў масавых крыніц мясцовых устаноў Рускай Праваслаўнай Царквы XVIII - XX стагоддзяў" [171], складзены М.Ю. Нячаевай, але перапрацаваны і дапоўнены аўтарам дадзенай кандыдацкай дысертацыі, з улікам асаблівасцяў найменняў аналагічных спраў у Лідскім дабрачынні. У гэтым рэестры, галоўным чынам, адлюстравана справаводчая дакументацыя структурных падраздзяленняў Рускай Праваслаўнай Царквы XVIII - XX стст., а таксама некаторыя разнавіднасці актавых, заканадаўчых і апавядальных крыніц (паводле прынятай у крыніцазнаўстве класіфікацыі відаў пісьмовых крыніц).

У рэестры таксама прыведзены назвы крыніц у тым выглядзе, як яны былі паказаны ў саміх дакументах. Некаторае выключэнне склалі распаўсюджаныя назвы архіўных спраў, тыповыя для ўсіх структурных падраздзяленняў Рускай Праваслаўнай Царквы, якія змяшчаюць сукупнасць розных крыніц, такія як "паперы", "матэрыялы", "перапіска", "звесткі" і г.д. Па меры магчымасці, яны былі заменены аўтарам на больш звыклыя назвы, ці прыведзена ўдакладняльная фармулёўка, у адпаведнасці з паказанымі варыянтамі (гл. *Дадатак 2*).

Улічваючы, што адна і тая ж разнавіднасць крыніцы магла мець некалькі назваў, для зручнасці пошуку ў рэестры было ўведзена некалькі рубрык:

1. Справаводчая літаратура;
2. Фіксацыя царкоўных дзеянняў;
3. Дакументацыя па кадравых пытаннях;
4. Дакументацыя па маёмасна-фінансавых пытаннях;
5. Астатнія разнавіднасці крыніц.

Ва ўсіх рэестрах выкарыстоўваецца агульная сістэма параметраў апісання крыніц:

1. Разнавіднасць крыніцы (паказваецца асноўная назва крыніцы, іншыя назвы, якія сустракаюцца ў дакументах, а так жа назвы аналагічных дакументаў, блізкіх па структуры і зместу, якія варта аналізаваць разам);
2. Указанне царкоўных структур, дзейнасць якіх адлюстроўвае крыніца.

Такім чынам, прапанаваныя рэестры ўтрымоўваюць інфармацыю пра дакументацыю мясцовых устаноў Рускай Праваслаўнай Царквы XVIII - XX стагоддзяў, якая знайшла адлюстраванне ў дакументальных матэрыялах архіва Лідскага дабрачыння паддоследных у дадзенай дысертацыі.

Царкоўныя структуры прыведзены адпаведна наступнай градацыі:

1. Епархіяльнае кіраванне;
2. Унутрыепархіяльное кіраванне;
3. Духоўныя кіраванні;
4. Дабрачынні;
5. Місіі і місіянеры;
6. Брацтвы і праваслаўныя грамадскія арганізацыі;
7. Школы духоўнага ведамства;
8. Прыходы, прыходскае духавенства.

Варта асоба адзначыць, што ў рэестрах паказаны менавіта структурныя падраздзяленні Царквы, дзейнасць якіх характарызуе тая ці іншая крыніца, а не фондаўтваральнікі. Як вядома, многія архіўныя фонды царкоўных устаноў, перададзеныя ці забраныя на дзяржаўнае захоўванне, былі сфармаваны шляхам механічнага злучэння некалькіх справаводчых масіваў (напрыклад, фонды духоўных кансісторый, дабрвчынняў, духоўных кіраванняў і манастыроў часта ўтрымоўваюць крыніцы прыходскага паходжання). Гэтая праблема была выяўлена і пры апрацоўцы матэрыялаў архіва Лідскага дабрачыння.

Для крыніц агляднага характару, якія змяшчаюць агульныя звесткі пра розныя структурныя падраздзяленні ўнутрыепархіяльнага і нізавога звяна царкоўнай арганізацыі, паказана толькі структурнае падраздзяленне, якому належыць аўтарства дакумента. Напрыклад, штогадовыя справаздачы пра стан дабрачыння ўтрымоўвалі звесткі пра прыходы, школы, брацтвы і г.д. Таму больш лагічна аднесці іх толькі да дабрачыння.

Пры складанні рэестраў былі ўлічаны звесткі, прыведзеныя ў анатаваным даведніку-паказальніку "Гісторыя Рускай Праваслаўнай Царквы ў дакументах рэгіянальных архіваў Расіі" [87].

Хоць дадзеная задача не з'яўляецца прамой тэмай гэтага дысертацыйнага даследавання, аднак гэта дапаможа лепш арыентавацца ў дадзенай вобласці і, у выпадку неабходнасці, дазволіць наступным даследчыкам зрабіць размеркаванне дакументаў архіва Лідскага дабрачыння паводле іх адміністрацыйнай прыналежнасці (Епархіяльнае кіраванне, прыходы і г.д.).

### 3.8. Архіўныя вопісы

У гэтай частцы разглядаецца працэс фармавання вопісаў архіўных фондаў Лідскага дабрачыння і іх склад.

Пасля таго як справы архіва Лідскага дабрачыння былі сфармаваны ў фонды і пранумараваны, наступным этапам з'яўлялася правядзенне адказнай працы па складанні фондавых вопісаў, якія дапамагаюць аператыўна знайсці справы.

**Вопіс** - уліковы дакумент і адначасова даведнік па ўтрыманні наяўных архіўных дакументаў, які ўяўляе сабою сістэматызаваны пералік загалоўкаў і іншых звестак пра склад і змест спраў адпаведнага комплексу (фонду, часткі фонду, аб'яднанага архіўнага фонду, калекцыі) з самастойнай парадкавай нумарацыяй. Вопіс адначасова выконвае тры функцыі ў сістэме навукова-даведкавага апарата: забеспячэнне ўліку спраў, замацаванне і ўтрыманне дакументальных комплексаў (спраў). Вопіс з'яўляецца першасным даведнікам, на аснове якога складаюцца іншыя віды інфармацыйна-пошукавых даведнікаў (каталогі, агляды, даведнікі і інш.).

Вопіс нясе наступныя найважныя функцыі:

**Інфармацыйную** - рэалізуецца падчас апісання кожнай справы на картках пры складанні загалоўка справы, які раскрывае відавы склад дакументаў і змест адзінкі захоўвання. Скончаны і правільна аформлены вопіс дае ўяўленне пра склад і змест дакументаў фонду ў цэлым.

**Уліковую** - складаецца ва ўказанні колькасці адзінак захоўвання ў фондзе. Гэтым забяспечваецца захаванасць дакументаў, кантроль за зменай аб'ёму фонду, а таксама хуткі пошук неабходнай інфармацыі.

**Класіфікацыйную** - замацоўвае і адлюстроўвае найболей рацыянальнае і лагічнае размяшчэнне спраў у фондзе (г.зн. навуковая групоўка ў адпаведнасці з гістарычна складзенай структурай фондаўтваральніка ці асноўнымі кірункамі і пытаннямі яго дзейнасці).

Перад тым як прыступіць да складання вопісаў, аўтарам было прынята рашэнне класіфікаваць фонды № 1 і № 2 у адпаведнасці з датоўкай сістэматызоўваных дакументаў архіва Лідскага дабрачыння. Класіфікацыя выбіраецца ў залежнасці ад прыкмет, прынцыпаў і з выкананнем адпаведных правіл, пералічаных вышэй. Размеркаванне спраў у адпаведнасці з класіфікацыяй можа праходзіць двума спосабамі: пры непасрэднай групоўцы (калі справы раскладваюцца з улікам класіфікацыі), ці картачным спосабам (калі групуюцца не справы, а карткі з апісанымі на іх справамі і нумаруюцца ў парадку валавай нумарацыі). Пасля раскладкі праводзіцца канчатковая групоўка спраў фонду. Апошні спосаб класіфікацыі дакументаў найболей зручны тады, калі фонд вялікі па аб'ёме і складаны па складзе. Гэты спосаб забяспечвае вялікую захаванасць дакументаў, бо не патрабуе шматразовага перасоўвання адзінак захоўвання, і эканоміць працоўны час. Пры класіфікацыі спраў архіва Лідскага дабрачыння аўтар выкарыстоўваў спосаб непасрэднай групоўкі.

Самастойныя вопісы могуць заводзіцца:

- на ўсе справы фонду, калі ўстанова спыніла сваё існаванне;
- на справы ўсіх гадоў адной структурнай часткі, калі яна спыніла сваё існаванне;
- на справы за адзін год ці некалькі гадоў дзейнасці ўстановы фондаўтваральніка, а так жа адной ці некалькіх функцыянальна-тэматычных (матэрыялы па асабовым складзе, фотаальбомы, творчыя дакументы) і іншых частак;
- на ўсе справы аб'яднанага фонду ці кожнага, які ўваходзіць у аб'яднаны фонд установы.

Самастойныя вопісы могуць складацца на некаторыя віды арганізацыйна-распарадчых дакументаў (загады, пратаколы, пастановы).

Вопіс дакументаў (асноўная інфармацыйная частка) складаецца з апісальных артыкулаў. Апісальны артыкул вопісу ўяўляе сабою сукупнасць звестак пра адзінку захоўвання і складаецца з наступных элементаў:

- парадкавага нумара;
- справаводчага індэксу (нумары справы па наменклатуры);
- загалоўка справы і ў шэрагу выпадкаў анатацыі дакумента;
- крайніх дат дакументаў у справе (дзень, месяц, год);
- колькасці лістоў у справе;
- тэрміну захоўвання справы (паказваецца ў вопісах спраў, тэрмін захоўвання звыш 10 гадоў, у тым ліку ў вопісах спраў па асабовым складзе);
- заўваг.

Асноўнымі патрабаваннямі пры складанні вопісу з'яўляюцца:

- наяўнасць поўнага камплекту ўключаных у вопіс дакументаў (спраў), якія ўтварыліся ў дзейнасці ўстановы;
- правільнасць апісання спраў;
- выкананне пры складанні вопісу прынцыпаў сістэматызацыі спраў;
- складанне вопісу ва ўстаноўленыя тэрміны;
- правільнасць афармлення вопісу.

Аднак варта памятаць, што колькасць спраў, занесеных у адзін вопіс не павінна перавышаць самага вялікага чатырохзнакавага ліку (г.зн. 9999).

Перад занясеннем загалоўкаў спраў у вопіс правяраецца правільнасць фармавання і афармлення спраў, а таксама адпаведнасць колькасці спраў, занесеных у вопіс, колькасці заведзеных спраў па наменклатуры. Пры праглядзе спраў правяраецца:

1. Адпаведнасць загалоўка справы зместу дакументаў у справе;
2. Правільнасць афармлення і групоўкі дакументаў, уключаных у справу;
3. Якасць падшыўкі і вокладкі спраў;
4. Правільнасць нумарацыі лістоў у справе;
5. Наяўнасць у справе, у неабходных выпадках, унутранага вопісу справы і правільнасць яе складання; наяўнасць і правільнасць завяральнага подпісу справы;
6. Афармленне вокладкі справы.

У выпадку выяўлення якіх-небудзь парушэнняў яны павінны быць ухілены.

Кожнаму з вышэй пералічаных элементаў артыкула, які выконвае вызначаную функцыю, адпавядае свая графа ў лісце вопісу.

**Графа 1** - "Парадкавы нумар" - адлюстроўвае ўліковую функцыю вопісу, замацоўвае паслядоўнасць размяшчэння спраў у фондзе. Прысвоены ў парадку валавай нумарацыі нумар апошняга артыкула паказвае на колькасць адзінак захоўвання, уключаных у вопіс. Пры змене колькаснага складу спраў вопісу робіцца адпаведны запіс у канцы вопісу ("Выніковыя запісы").

**Графа 2** - "Справаводчы нумар (індэкс справы)" - гэта "родны" для справы нумар, прысвоены ў справаводстве.

**Графа 3** - "Загаловак справы" - адлюстроўвае інфармацыйную функцыю вопісу, раскрывае склад і змест дакументаў кожнай справы.

У загалоўку павінны быць толькі агульнапрынятыя скарачэнні, прадугледжаныя ў спісе, складзеным дзяржаўным архівам, ці прынятыя ў рэлігійнай тэрміналогіі. Найменне ўстановы, арганізацыі і прад-

прыемства даецца першапачаткова цалкам, а ў дужках - агульнапрынятае скарачэнне. У гэтую ж графу вопісу, з новага радка пасля асноўнага загалоўка, заносіцца анатацыя дакументаў.

**Графа 4** - " Крайнія даты" - раскрывае даты пачатку і канца справы. Найменне месяца, як правіла, пішацца вялікімі літарамі. Пры пазначэнні даты спачатку паказваецца дзень, затым месяц і год. Калі крайнія даты ўключаюць адзін год, то для іх напісання ў графе адводзіцца 3 радкі, а калі крайнія даты ўключаюць 2 гады, то - 4 радкі. Апошні радок даты павінен супадаць з апошнім радком загалоўка.

**Графа 5** - "Колькасць лістоў" - дае ўяўленне пра аб'ём адзінкі захоўвання.

**Графа 6** - "Тэрмін захоўвання" - ставіцца тэрмін захоўвання (да 10 гадоў, звыш 10 гадоў, увесь час). У нашым выпадку тэрмін захоўвання для ўсіх спраў архіва Лідскага дабрачыння з'яўляецца пастаянным.

**Графа 7** - "Заўвага" - запаўняецца з мэтай тлумачэння загалоўка да справы, пры змене ўліковых звестак ("выбыла", "перададзена" і іншыя), пры пазначэнні пазоўных дадзеных на справы ці анатацыі на дакументы і ў іншых выпадках.

Вопіс спраў складаецца з уласна вопісу, г.зн. пераліку спраў (апісальных артыкулаў) і дапаможнага даведкавага апарата да яго. Апісальны артыкул вопісу складаецца са звесткі пра пэўную справу (адзінку захоўвання) і з'яўляецца элементам інфармацыі ў вопісе. Уласна вопіс завяршаецца выніковым запісам, які фіксуе колькасны склад спраў, занесены ў дадзены вопіс.

З прычыны таго, што дадзеная навуковая праца не ставіць за мэту сфармаваць усю архіўную дакументацыю ў адпаведнасці з патрабаваннямі да архіўнага справаводства, аўтар нязначна змяніў форму складання вопісаў, аднак прывёў усю неабходную інфармацыю (гл. *Дадаткі 5- 12*).

### 3.9. Агляды дакументаў

**Агляд архіўных дакументаў** - гэта даведнік, які ўключае сістэматызаваныя звесткі пра склад і змест асобных комплексаў дакументаў, злучаных паміж сабой фондавай прыналежнасцю (**агляд фонду**), або тэматыкай (**тэматычны агляд**). Агляд складаецца толькі да дакументаў, якія маюць актуальнае значэнне і захоўваюцца, як правіла, у буйных, але мала вывучаных фондах.

Агляд складаецца з характарыстыкі арганізацыі-фондаўтваральніка (у аглядзе фонду), характарыстыкі дакументаў і пошукавых дадзеных. Характарыстыка дакументаў уяўляе сабою комплекс анатацый (звестак пра склад і змест дакументаў). Анатацыі змешчаны ў аглядзе ў адпаведнасці з вызначанай класіфікацыйнай схемай (структурнай, галіновай, храналагічнай і інш.). Анатацыі могуць складацца як на групу аднастайных па зместу дакументаў, так і на асобныя дакументы. Пры характарыстыцы дакументаў інфармацыя выкладаецца коратка і дакладна, у форме вольнага апавядання. Пошукавыя дадзеныя, на якія анатуюцца дакументы, уключаюць нумары фондаў, вопісаў, спраў і лістоў. У склад даведкавага апарата агляду ўваходзяць тытульны ліст, змест, спіс скарачэнняў, паказальнікі і, для тэматычных аглядаў, спіс фондаў, інфармацыя пра якія ўключана ў агляд [155, с. 77].

Вышэйпаказаныя патрабаванні не знайшлі адлюстраванне ў дадзенай працы, бо яны па-першае: не ўваходзяць у аб'ём пастаўленых навуковых задач. Па-другое: могуць быць выкананы толькі доўгачасовай калектыўнай працай, якая заключаецца ў разборы (ці перакладзе) кожнага дакумента. Аднак аўтар палічыў неабходным асвятліць гэтыя пытанні для метадычнай дапамогі наступным даследнікам архіва Лідскага дабрачыння.

### 3.10. Гістарычна-архіўная даведка

**Гістарычная даведка** пра фондаўтваральніка і фонд неабходна для вызначэння і ўдакладнення складу матэрыялаў архіўнага фонду; правядзення экспертызы каштоўнасці дакументаў фонду; усталявання сістэмы ўтварэння фонду і распрацоўкі схемы класіфікацыі яго дакументаў; для ўліку дакументаў фонду; стварэння паўнавартасных архіўных даведнікаў, якія раскрываюць склад і змест дакументаў фонду (вопісаў, аглядаў, каталогаў, даведнікаў і інш.) [205, с. 55].

Гістарычная даведка пра фондаўтваральніка і фонд павінна складацца з чатырох частак: гісторыі фондаўтваральніка, гісторыі фонду, характарыстыкі дакументаў фонду, спісу скарыстаных крыніц і літаратуры [205, с. 55].

У першай частцы - **гісторыя фондаўтваральніка** - сціснута, дакладна, з абавязковымі спасылкамі на заканадаўчыя крыніцы і дакументы фонду выкладаецца гісторыя фондаўтваральніка. У выніку павінны быць установлены: крайнія даты дзейнасці фондаўтваральніка; задачы і змест дзейнасці фондаўтваральніка; маштаб дзейнасці фондаўтваральніка; месца і роля ў дзяржаўным апараце, у грамадска-культурным жыцці; арганізацыйная структура, яе змены; умовы і акалічнасці, якія выклікалі ліквідацыю фондаўтваральніка і перадачы яго функцый іншай установе; асаблівасці арганізацыі дакументаў у справаводстве фондаўтваральніка [205, с. 56]. Наяўныя дакументы архіва асвятляюць царкоўную дзейнасць у дадзеным рэгіёне ў перыяд з пачатку XIX - сярэдзіна XX стст., але агульная карціна гісторыі Лідскага дабрачыння прадстаўлена ў *Дадатку 13*.

У другой частцы - **гісторыі фонду** - прыводзяцца кароткія звесткі па гісторыі архіўнага фонду (дзе, у якіх умовах, у якім складзе знаходзіўся фонд да яго паступлення ў архіў, час паступлення фонду ў архіў, якія змены адбыліся з ім у архіве). Падчас вывучэння гісторыі фонду неабходна ўстанавіць: крайнія даты дакументаў і колькасць адзінак захоўвання ў фондзе; час паступлення фонду ў архіў і дадзеныя па яго гісторыі да гэтага паступлення; наяўнасць структурных частак фонду (аддзелы, аддзяленні і да т.п.), крайнія даты матэрыялаў і колькасць адзінак захоўвання па кожнай частцы ў асобнасці; ступень захаванасці матэ-

рыялаў; агульны стан матэрыялаў фонду і даступнасць іх для выкарыстання. Дадзеная інфармацыя апісана аўтарам на пачатку 3-яй часткі.

Трэцяй часткай гістарычнай даведкі з'яўляецца **характарыстыка дакументаў фонду**. Яна павінна коратка раскрыць склад і змест матэрыялаў фонду (гл. *Дадатак № 4.*) і паказаць іх навукова-гістарычнае, практычнае і іншае значэнне; па якіх тэмах яны былі скарыстаны; ці маюцца публікацыі; якія працы напісаны на падставе гэтых матэрыялаў.

У чацвёртую частку - **спіс крыніц і літаратуры** - уносяцца ўсе крыніцы і літаратура па гісторыі фондаўтваральніка і гісторыі фонду, скарыстаныя пры напісанні гістарычнай даведкі [205, с. 56].

Поўная гістарычная даведка, як правіла, складаецца пасля прывядзення ў парадак дакументаў фонду, але гісторыя фондаўтваральніка павінна быць напісана раней, бо вызначыць склад матэрыялаў архіўнага фонду і навукова абгрунтаваць сістэму пабудовы фонду не магчыма без ведаў гісторыі фондаўтваральніка. Адзін асобнік гістарычнай даведкі павінен захоўвацца ў справе фонду [205, с. 57].

### 3.11. Улік дакументаў у архіве

У архіве ўліку падлягаюць фонды, аб'яднаныя фонды, калекцыі, апісаныя і неапісаныя справы, і іншыя адзінкі захоўвання.

У архіве ў абавязковым парадку выкарыстоўваюцца (вядуцца) наступныя асноўныя ўліковыя дакументы:

1. Кніга паступлення і выбыцця дакументаў;
2. Спіс фондаў;
3. Лісты фондаў;
4. Вопісы спраў;
5. Наменклатура спраў;
6. Кніга выдачы спраў у часовае карыстанне;
7. Формы статыстычных справаздач (звестак) пра склад, аб'ём фондаў і г.д., якія прадстаўляюцца ва ўстановы дзяржаўнай службы.

Усе асноўныя ўліковыя дакументы захоўваюцца ўвесь час. Дапускаецца выкарыстанне дапаможных уліковых дакументаў (рэестраў, вопісаў, кніг уліку дакументаў, якія перадаюцца ў іншыя архівы і інш.), неабходнасць якіх вызначаецца самім архівам.

Такім чынам, можна зрабіць выснову, што метадыкі святара Льва Паеўскага, А.П. Сапунова, М.І. Грыгаровіча, І.А. Хлябцэвіча, А. Энгеля, М.І. Гарбачоўскага і Г. Семенчука, ужытыя аўтарам пры складанні архіва Лідскага дабрачыння, з'яўляюцца добрым практычным дапаможнікам пры стварэнні фондаў, вопісаў і апісанні архіўных спраў. Гэтыя методыкі былі досыць распрацаваны да 1917 г. Затым, у савецкі перыяд, даследчыкі не надавалі належнай увагі праблеме навуковага даследавання царкоўных архіваў. Сітуацыя пачала змяняцца ў лепшы бок у другой палове 80-х гг. XX стагоддзя. Аднак, кожны архіў сам па сабе ўнікальны, і няма, на погляд аўтара, абсалютна ўніверсальных методык, таму пры складанні фондаў ім быў ужыты сінтэз некалькіх метадычных падыходаў, а таксама ўласныя аўтарскія распрацоўкі і метадалагічныя рашэнні пры стварэнні архіва. Падчас працы ўсе дакументы былі прыведзены ў належны стан (гл. *Дадатак 15*), кожнай справе прысвоены ўласны нумар, сфармаваны фонды і складзены фондавыя вопісы (гл. *Дадаткі 5 - 12*). Акрамя таго, аўтарам былі сфармаваны некаторыя ўліковыя архіўныя дакументы: лісты фондаў (*Дадатак 4*) і архіўна-гістарычная даведка Лідскага дабрачыння (*Дадатак 13*).

У выніку фармавання фондаў архіва Лідскага дабрачыння аўтар прадставіў вынікі сваёй навукова-практычнай дзейнасці. Яны заключаюцца ў наступных палажэннях:

Архіў Лідскага дабрачыння ўключае 3 фонды:

- фонд № 1 "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг.";
- фонд № 2 "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1940-х - 1950-х гг. Фондавы россып: XX ст.";
- фонд № 3 "Архіў Лідскага дабрачыння. Ноты".

Дакументы фонду № 1 ахопліваюць перыяд з 1811 па 1939 гг.;

Дакументы фонду № 2 ахопліваюць перыяд з 1901 па 1952 гг.;

Дакументы фонду № 3 утрымоўваюць ноты Жыровіцкага манастыра.

Фонд № 1 налічвае 6 вопісаў;

Фонд № 2 налічвае 1 вопіс;

Фонд № 3 налічвае 1 вопіс.

Усяго архіў Лідскага дабрачыння налічвае 8 вопісаў.

Вопісы фонду № 1 уключаюць 211 архіўных спраў (вопіс № 1 - 19 спраў, вопіс № 2 - 33 справы, вопіс № 3 - 43 справы, вопіс № 4 - 30 спраў, вопіс № 5 - 47 спраў, вопіс № 6 - 39 спраў), агульным лікам 48744 лісты;

- вопіс фонду № 2 уключае 5 спраў, агульным лікам 1155 лістоў;
- вопіс фонду № 3 уключае 47 спраў, агульным лікам 2729 лістоў.

Усяго архіў Лідскага дабрачыння ўтрымоўвае 263 справы, агульным лікам 52628 лістоў.

Архіўныя дакументы ў справах складзены на рускай, польскай, нямецкай, беларускай мовах (гл. *Дадаткі 16 - 18*);

Архіў Лідскага дабрачыння ўтрымоўвае наступныя віды дакументаў:

- кнігі ўваходных дакументаў;
- акруговыя лісты;
- рэестры ўваходных і выходных дакументаў;
- спавядальныя роспісы;
- кнігі шлюбных росшукаў;
- вопісы спраў дабрачыння;
- перадшлюбныя сведчанні;
- ведамасці пра людзей, якія нарадзіліся, бралі шлюб і памерлі;
- акты агляду прычэтніцкіх пабудоў;
- ведамасці пра зборы і ахвяраванні;
- ведамасці пра прыходскія землі;
- падпісныя лісты пра ахвяраванні;

- ведамасці царкоўнай маёмасці;
- справы цэркваў;
- апраўдальныя дакументы да прыходна-расходных кніг;
- кліравыя ведамасці;
- нотныя зборнікі.

Дадзенае даследаванне паказала, што захаваныя дакументы архіва Лідскага дабрачыння асвятляюць падзеі папярэднія і наступныя Полацкаму царкоўнаму сабору (1839 г.) пра ўз'яднанне ўніятаў з праваслаўем, перыяду Расійскай дзяржаўнасці і часу існавання II Рэчы Паспалітай на тэрыторыі заходняй часткі Беларусі і Лідскага дабрачыння ў прыватнасці. У іх утрымоўваюцца звесткі пра духоўную і свецкую дзейнасць Праваслаўнай Царквы, гісторыю храмавага дойлідства, прыходскую дзейнасць, царкоўна-дзяржаўныя адносіны і біяметрычныя звесткі пра насельніцтва Беларусі XIX - сярэдзіны XX стст. у межах Лідскага дабрачыння.

Такім чынам, паказаныя дакументы архіва Лідскага дабрачыння значна дапаўняюць усе існыя царкоўныя, гістарычныя, гістарыяграфічныя і краязнаўчыя навуковыя матэрыялы пра перыяд XIX - 30-х гг. XX стст. на тэрыторыі Беларусі.

*Дадатак 3*

**Спіс кліравых ведамасцяў, скарыстаных В. Завалам у працы "Гісторыя Праваслаўя ў Лідскім павеце ў XX стагоддзі", але адсутных цяпер у архіве Лідскага дабрачыння**

1. Беліцкая Свята-Духава царква: 1854 г., 1867г., 1868 г., 1869 г., 1877 г., 1880 г., 1882 г., 1890 г., 1903 г.
2. Беліцкая Крыжа-Ўзвіжанская царква: 1930 г., 1931 г., 1933 г., 1938 г., 1941 г., 1949 г., 1954 г., 1956 г.
3. Баброўская Крыжа-Ўзвіжанская царква: 1869 г., 1870 г., 1877 г., 1880 г., 1881 г., 1885 г., 1891 г., 1892 г., 1893 г., 1896 г., 1900 г., 1911 г., 1930 г., 1931 г., 1932 г., 1934 г., 1935 г., 1936 г., 1937 г.
4. Голдаўская Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы царква: 1869 г., 1872 г., 1873 г., 1877 г., 1878 г., 1880 г., 1881 г., 1882 г., 1885 г., 1889 г., 1896 г., 1901 г., 1903 г., 1910 г.
5. Ганчароўская Свята-Пакроўская царква: 1856 г., 1869 г., 1870 г., 1875 г., 1877 г., 1878 г., 1882 г., 1884 г., 1898 г., 1912 г., 1932 г., 1937 г.
6. Дакудаўская Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы царква: 1867 г., 1868 г., 1871 г., 1873 г., 1874 г., 1877 г., 1879 г., 1889 г., 1890 г., 1891 г., 1900 г., 1908 г., 1910 г., 1911 г., 1930 г., 1935 г., 1936 г., 1938 г., (1952г.), (1953 г.).
7. Жыжмянская (Князікоўская) Свята-Пакроўская царква: (1865 г.), 1867 г., 1870 г., 1874 г., 1875 г., 1877 г., 1878 г., 1881 г., 1883 г., 1884 г., 1887 г., 1888 г., 1889 г., 1891 г., 1892 г., (1897 г.), (1903 г.), 1910 г., 1911 г., 1912 г., 1931 г., 1935 г., 1938 г., 1951 г., 1953 г., 1957 г., (1994 г.).
8. Зблянская Свята-Пакроўская царква: 1870 г., 1877 г., 1881 г., (1890 г.), 1892 г., 1895 г., 1896 г., 1900 г., 1903 г., 1908 г., 1909 г., 1910 г., 1912 г., 1921 г., 1928 г., 1930 г., 1932 г., 1933 г., 1934 г., 1935 г., (1944 г.), (1948 г.), (1958 г.).
9. Лябёдская Свята-Мікалаеўская царква: 1869 г., 1870 г., 1874 г., 1879 г., 1882 г., 1883 г., 1884 г., 1885 г., (1889 г.), 1892 г., 1896 г., 1905 г., 1910 г., 1912 г., 1914 г., 1930 г., 1933 г., 1935 г., 1958 г.
10. Лідская Свята-Георгіеўская царква: 1928 г., 1929 г., 1935 г., 1936 г., 1938 г., (1951 г.).
11. Лідскі Свята-Міхайлаўскі сабор: 1891 г., 1905 г., 1910 г.
12. Маламажэйкаўская Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы царква: 1867 г., 1877 г., 1878 г., 1879 г., 1884 г., 1885 г., 1888 г., 1893 г., 1896 г., 1898 г., 1910 г., 1912 г., 1913 г.
13. Мыцкая Свята-Мікалаеўская царква: (1867 г.), 1868 г, 1870 г., 1871 г., 1872 г., 1877 г., 1878 г., 1880 г., 1884 г., 1885 г., 1888 г., (1889 г.), (1891 г.), 1892 г., 1895 г., 1898 г., (1903 г.), (1904 г.), 1905 г., 1910 г., 1911 г., (1930 г.), 1936 г., 1956 г., 1958 г.
14. Радзівонішская Свята-Ўспенская царква: (1847 г.), 1868 г., 1873 г., 1877 г., 1880 г., 1881 г., 1885 г., 1896 г., 1897 г., 1898 г., (1903 г.), 1905 г., 1928 г., (1930 г.), 1931 г., 1932 г., 1935 г., (1937 г.), 1949 г., 1958 г.

У дужках паказаны кліравыя ведамасці, на якія маюцца тэкставыя спасылкі ў працы В. Завалы, але не прыведзеныя ў частцы "Бібліяграфія".

*Дадатак 4*

**Лісты фондаў архіва Лідскага дабрачыння**

**Ліст фонду 1**

**1. Фонд 1. "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг.". Вопіс № 1. "Дакументы перыяду да 1840 года"**

У вопісе № 1 фонду 1 утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы і распараджэнні, а таксама перапіска з прыходскімі і дзяржаўнымі структурамі. Дакументы напісаны на рускай і польскай мовах.

Усе справы вопісу № 1 размяшчаюцца ў храналагічным парадку іх фармавання, па гадах, пачынальна з 1811 года, і заканчваючы 1836 годам. Аднак у вопісе № 1 маюцца некаторыя дакументы 1841 года з прычыны таго, што справа № 17 утрымоўвае матэрыялы перыяду 1835 - 1841 гг.

У вопісе № 1 налічваецца 19 спраў, якія складаюцца з арыгінальных дакументаў фондаўтваральніка, і 2 справы (№ 20 і № 21), у якія ўключаны ўсе дакументы фондавага россыпу паказанага перыяду.

**2. Фонд 1. "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг.". Вопіс № 2. "Дакументы перыяду 1840 - 1860 гг."**

Вопіс № 2 фонду 1 складаюць журналы рэгістрацыі і дакументы, якія змяшчаюць інфармацыю пра

епархіяльныя ўказы і распараджэнні, адрасаваныя Лідскаму дабрачыннню, дзелавую перапіску, рапарты і справаздачную дакументацыю прыходаў, дакументы гаспадарчай і прыходскай дзейнасці, а таксама ўваходную дакументацыю інфармацыйнага характару.

Усе справы вопісу № 2 размяшчаюцца ў храналагічным парадку іх фармавання, па гадах, пачынальна з 1840 года і заканчаючы 1859 годам. У вопісе № 2 прысутнічаюць дакументы да 1866 года, бо яны з'яўляюцца неад'емнай часткай спраў, якія маюць дату пачатку фармавання ў храналагічных рамках вопісу № 2. Напрыклад, у справе № 24 утрымоўваюцца матэрыялы да шлюбнай кнігі (перадшлюбныя сведчанні) Зблянской царквы, якія маюць датоўку 1851 - 1862 гг.

Вопіс № 2 утрымоўвае 33 справы, сфармаваныя з арыгінальных дакументаў на рускай мове, і адна справа (№ 34), у якую ўвайшлі дакументы фондавага россыпу ўказанага перыяду.

**3. Фонд 1. "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг.". Вопіс № 3. "Дакументы перыяду 1861 - 1880 гг."**

Вопіс № 3 фонду 1 утрымоўвае дакументальныя матэрыялы епархіяльных указаў і распараджэнняў Лідскаму дабрачыннню, журналы іх рэгістрацый, справаздачную прыходскую дакументацыю, рапарты святароў, дакументацыю гаспадарчай і грамадскай дзейнасці, напісаную на рускай мове.

Справы вопісу № 3 размяшчаюцца ў храналагічным парадку ў адпаведнасці з датай іх складання, з 1861 года па 1880 год. Аднак, утрымоўваюцца і дакументы да 1897 года, з прычыны іх гістарычнай прыналежнасці да справы. Напрыклад, справа № 36 утрымоўвае акты па аглядзе прычэтніцкіх пабудоў цэркваў Лідскага дабрачыння ў перыяд 1879 - 1897 гг.

Вопіс № 3 складаецца з 43-х спраў, чатыры з якіх (№ 40, № 41, № 42, і № 43) утрымоўваюць фондавы россып.

**4. Фонд 1. "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг.". Вопіс № 4. "Дакументы перыяду 1881 - 1900 гг."**

Вопіс № 4 фонду 1 складаецца з указаў і епархіяльных распараджэнняў Лідскаму дабрачыннню, дзелавой і справаздачнай дакументацыі прыходаў дабрачыння, рэгістрацыйных журналаў уваходных і выходных дакументаў, а таксама дакументацыі гаспадарчай дзейнасці дабрачыння. Дакументы напісаны на рускай мове.

Справы вопісу № 4, у колькасці 30-ці, з якіх дзве справы (№ 29 і № 30) сфармаваны з самастойных дакументаў фондавага россыпу, размяшчаюцца ў храналагічным парадку па даце фармавання, пачынальна з 1881 года і па 1899 год. Выключэннем з'яўляюцца справа № 25, у якой складзены дакументы перыяду 1897 - 1904 гг., і справа № 28, у якой знаходзяцца шлюбныя росшукі Беліцкай царквы ў перыяд 1898 - 1902 гг.

**5. Фонд 1. "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг.". Вопіс № 5. "Дакументы перыяду 1900 - 1939 гг."**

Вопіс № 5 фонду 1 уяўляе сабою дакументы архіва Лідскага дабрачыння, напісаныя на рускай і польскай мове, якія змяшчаюць уваходную і выходную інфармацыю епархіяльнага і прыходскага характару, а таксама справаводчую дакументацыю дабрачыння.

Справы вопісу № 5 размяшчаюцца ў храналагічным парадку, па датоўцы іх фармавання. Даты дакументаў усіх спраў знаходзяцца ў межах перыяду 1901 - 1939 гг., за выключэннем справы № 46 (Метрычная кніга Баброўскай царквы, перыяду 1939 - 1940 гг.).

У вопісе № 5 налічваецца 47 спраў. Фондавы россып гэтага перыяду па практычных прычынах уключаны ў фонд № 2, бо ўтрымоўвае несістэматызаваныя дакументы за наяўны перыяд ХХ стагоддзя (1901 - 1952 гг.).

Вопіс № 5 фонду 1 уяўляе сабою справаздачы і дакументы па перапісцы, епархіяльнага і прыходскага характару. Справа № 47 перыяду 1939 - 1941 гадоў утрымоўвае арыгіналы некалькіх рапартаў святароў пра першыя дні Вялікай Айчыннай вайны, а таксама распараджэнні для іх. Адметнай асаблівасцю справы № 48 з'яўляецца тое, што ў ёй утрымоўваюцца ўнікальныя дакументы перыяду нямецкай акупацыі (1942 - 1943 гг.), уласнаручна падпісаныя вядомымі царкоўнымі дзеячамі таго часу (біскуп Апанас (Мартос), архімандрыт Серафім (Шахмуть) і інш.).

**6. Фонд 1. "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг.". Вопіс № 6. "Кліравыя ведамасці цэркваў"**

Вопіс № 6 фонду 1 утрымоўвае кліравыя ведамасці цэркваў Лідскага дабрачыння ўказанага перыяду, напісаныя на рускай і польскай мовах. У кліравых ведамасцях утрымоўваецца кароткая інфармацыя пра гісторыю самой царквы, кліру, а таксама пра прыпісаныя да яе цэрквы і капліцы.

У вопісе № 6 утрымоўваецца 39 спраў, размешчаных у алфавітным парадку назвы населенага пункта, а ў кожнай справе кліравыя ведамасці размеркаваны ў храналагічным парадку. Выключэннем з'яўляецца справа № 18-1, якая складаецца з прыходскай дакументацыі Зблянскай Свята-Пакроўскай царквы перыяду 1864 - 1934 гг., сфармаванай з фондавага россыпу розных перыядаў.

**Ліст фонду 2**

**1. Фонд 2. "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1940-х - 1950-х гг. Фондавы россып: ХХ стагоддзе". Вопіс № 1. "Дакументы перыяду 1941 - 1952 гг. Фондавы россып: ХХ стагоддзе"**

Вопіс № 1 фонду 2 утрымоўвае 5 спраў, разме-

шчаных у храналагічным парадку паводле даты іх фармавання, з якіх дзве справы (№ 4 і № 5) складаюцца з фондавага россыпу дакументаў перыяду 1901 - 1952 гг., напісаных на рускай, нямецкай і польскай мовах.

**Ліст фонду 3**

**1. Фонд 3. "Архіў Лідскага дабрачыння. Ноты". Вопіс № 1. "Ноты Жыровіцкага манастыра"**

Вопіс № 1 фонду 3 складаюць рукапісныя і друкаваныя ноты набажэнсцкіх і царкоўных спеваў, якія па ўскосных дадзеных належаць Жыровіцкаму манастыру і што, хутчэй за ўсё, фармаваліся ў 50-я гады XX стагоддзя.

Вопіс № 1 гэтага фонду складаецца з 42-х спраў, якія ўключаюць у сябе ноты розных набажэнсцкіх спеваў, для спеву па партыях і галасах. Аднак зрабіць выснову пра іх захаваную поўнасць складана, з прычыны вялікай насычанасці прадстаўленага матэрыялу. Акрамя таго, у вопісе № 1 фонду 3 знаходзіцца пяць спраў (№ 43, № 44, № 45, № 46, № 47), якія ўключаюць фондавы россып нот.

*Дадатак 5*

**Фонд 1**

**Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг. Вопіс № 1. Дакументы перыяду да 1840 года**

1. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 1.

Вопіс спраў, якія падлягаюць перадачы дабрачыннаму (Вопіс актаў дабрачыннага Іяана Канеўскага).

Кол-сць лістоў: 69 (многія пашкоджаны);

Мова: польская, руская;

Перыяд: 1811 - 1833 гг.;

Прыводзіцца кароткі змест указаў.

2. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2.

Кніга ўваходных папер (Указы з Берасцейскай рыма-ўніяцкай духоўнай кансісторыі Лідскаму дэкану каноніку).

Кол-сць лістоў: 214;

Мова: польская, руская;

Перыяд: 1817 г.

3. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 3.

Кніга ўваходных папер (Указы з Берасцейскай рыма-ўніяцкай духоўнай кансісторыі Лідскаму протапрасвітару Берасцейскаму каноніку Іяану Канеўскаму).

Кол-сць лістоў: 183;

Мова: польская, руская;

Перыяд: 1821 г.

4. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 4.

Кніга ўваходных папер (Указы з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму Іяану Канеўскаму).

Кол-сць лістоў: 232;

Мова: польская, руская;




Перыяд: 1821 - 1836 гг.

5. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 5.

Кніга ўваходных папер (Указы з Літоўскай грэка-ўніяцкай духоўнай кансісторыі Лідскаму протапрасвітару Берасцейскаму каноніку Іяану Канеўскаму).

Кол-сць лістоў: 171;

Мова: польская, руская;

Перыяд: 1823 г.

6. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 6.

Кніга ўваходных папер (Указы з Берасцейскай духоўнай кансісторыі Лідскаму протапрасвітару Берасцейскаму каноніку Іяану Канеўскаму).

Кол-сць лістоў: 141;

Мова: польская, руская;

Перыяд: 20 студзеня - 20 снежня 1825 г.

7. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 7.

Кніга ўваходных папер (Указы з Берасцейскай духоўнай кансісторыі Лідскаму протапрасвітару Берасцейскаму каноніку Іяану Канеўскаму).

Кол-сць лістоў: 190;

Мова: польская, руская;

Перыяд: 1826 - 1827 гг.

8. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 8.

Кніга ўваходных папер (Указы з Берасцейскай уніяцкай духоўнай кансісторыі Лідскаму протапрасвітару Берасцейскаму каноніку Іяану Канеўскаму).

Кол-сць лістоў: 179;

Мова: польская, руская;

Перыяд: 1827 г.

Сярод дакументаў знаходзяцца ўзоры тэкстаў

прысяг пра няўдзел у масонскіх ложах (ліст 36 - 40). Акрамя таго, утрымоўваецца частка дакументаў па ўніяцтве (ліст 42; 73; 87; 112; 127; 129; 134 і г.д.).

9. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 9.

Кніга ўваходных папер (Указы з Берасцейскай духоўнай кансісторыі Лідскаму протапрасвітару Берасцейскаму каноніку Іяану Канеўскаму).

Кол-сць лістоў: 257;
Мова: руская, польская;
Перыяд: 1828 г.

10. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 10.

Кніга ўваходных папер (Указы з Літоўскай грэка-ўніяцкай духоўнай кансісторыі Лідскаму протапрасвітару Берасцейскаму каноніку Іяану Канеўскаму).

Кол-сць лістоў: 117;
Мова: польская, руская;
Перыяд: 1831 г.

11. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 11.

Кніга ўваходных папер (Указы і акруговыя лісты з Літоўскай духоўнай кансісторыі кіраўніку Лідскага дэканату Іяану Гарбацэвічу).

Кол-сць лістоў 101;
Мова: польская, руская;
Перыяд: 1832 - 1837 гг.

12. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 12.

Кніга пратаколаў паседжанняў (Акруговыя лісты (Пратаколы епархіяльных распараджэнняў) Лідскага дабрачыння на ўказы з Літоўскай духоўнай кансісторыі).

Кол-сць лістоў: 158;
Мова: руская;
Перыяд: 1832 - 1843 гг.

13. Ф.1. Воп. 1. Спр. 13.

Кніга ўваходных папер (Указы з Літоўскай духоўнай кансісторыі выканаўцу абавязкаў Лідскага дэкана Іяану Гарбацэвічу).

Кол-сць лістоў: 91;
Мова: руская, польская;
Перыяд: 17 ліпеня - 12 снежня 1833 г.

14. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 14.

Рэестр прыходных спраў (Вопіс спраў, якія паступілі з грэка - ўніяцкай духоўнай Літоўскай кансісторыі да Лідскага дабрачыннага Іяана Гарбацэвіча).

Кол-сць лістоў: 45 (з 25 ліста - чыстыя);
Мова: руская;
Перыяд: 1832 - 1835 гг.

15. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 15.

Кніга ўваходных папер (Указы з Літоўскай грэка-ўніяцкай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму Самсону Брэну).

Кол-сць лістоў: 226;
Мова: руская, польская;
Перыяд: 1835 г.
Прыводзіцца кароткі змест дакументаў.

16. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 16.

Журнал уваходных дакументаў (Журнал рэгістрацыі ўваходных дакументаў Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 188 (з 93 ліста - чыстыя);
Мова: руская;
Перыяд: 1835 - 1839 гг.

Аформлены ў выглядзе канцылярскай кнігі. Прыводзіцца парадкавы нумар дакумента, дата, і яго кароткі змест.

17. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 17.

Кніга ўваходных папер (Указы і епархіяльныя распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).

Кол-сць лістоў: 372;
Мова: руская;
Перыяд: 1835 - 1841 гг.

18. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 18.

Кніга ўваходных папер (Указы і епархіяльныя распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).

Кол-сць лістоў: 533;
Мова: руская;
Перыяд: 1836 г.

19. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 19.

Кніга ўваходных папер (Указы і епархіяльныя распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).

Кол-сць лістоў: 355;
Мова: руская;
Перыяд: 1836 - 1837 гг.

20. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 20.

Фондавы россып. Не сшыты. Не сістэматызаваны.

Кол-сць лістоў: 99;
Мова: польская, руская;
Перыяд: да 1840 года.

21. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 21.

Фондавы россып. Не сшыты. Не сістэматызаваны.

Кол-сць лістоў: 119;
Мова: польская, руская;
Перыяд: да 1840 года.

Разам: У фондзе 1 "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг.", вопіс № 1 "Дакументы перыяду да 1840 года" ўтрымоўвае 21 (дваццаць адну) справу, агульным лікам 4040 (чатыры тысячы сорак) лістоў.

***Дадатак 6***

**Фонд 1**

**Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг. Вопіс № 2. Дакументы перыяду 1840 - 1860 гг.**

1. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 1.

Журнал выходных папер (Журнал рэгістрацыі выходных дакументаў Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў 126;
Мова: руская;
Перыяд: 1840 - 1842 гг.

2. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 2.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабра-

чыннаму. Справаводчая перапіска з прыходамі).

Кол-сць лістоў: 434;

Мова: руская;

Перыяд: 1842 г.

3. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 3.

Спавядальныя роспісы (Спавядальныя роспісы Свята-Пакроўскай Зблянскай царквы).

Кол-сць лістоў: 630;

Мова: руская;

Перыяд: 1843 - 1844 гг.

У дакументах прыводзяцца дадзеныя, хто з жыхароў прыходскіх вёсак быў у споведзі і прычасці, з указаннем полу, узросту і сваяцкіх адносін.

4. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 4.

Журнал выходных папер (Журнал рэгістрацыі выходных дакументаў Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў 123;

Мова: руская;

Перыяд: 01 студзеня 1843 - 31 снежня 1844 гг.

Паказаны даты і кароткі змест 1259 (адной тысячы двухсот пяцідзесяці дзевяці) выходных дакументаў.

5. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 5.

Кніга шлюбных росшукаў (Шлюбныя росшукі Зблянскай Свята-Пакроўскай царквы).

Кол-сць лістоў: 40;

Мова: руская;

Перыяд: 1844 - 1846 гг.

6. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 6.

Вопіс спраў дабрачыння (Вопіс папер, якія перадаюцца з архіва Наваградскага дабрачыння ў Лідскае).

Кол-сць лістоў: 12;

Мова: руская;

Перыяд: 1844 - 1848 гг.

Паказаны дата, асабісты нумар і кароткі змест кожнага дакумента.

7. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 7.

Кніга ўваходных папер (Указы і рапарты з Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 139;

Мова: руская;

Перыяд: 1844 - 1850 гг.

Утрымоўвае ўказы, рапарты, падшытыя без храналагічнага парадку і сістэмы. Належыць неўстаноўленаму прыходу.

8. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 8.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Менскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму. Справаводчая перапіска з прыходамі).

Кол-сць лістоў: 725;

Мова: руская;

Перыяд: 1844 - 1860 гг.

9. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 9.

Кніга ўваходных папер (Указы з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).

Кол-сць лістоў: 674;

Мова: руская;

Перыяд: 12 студзеня - 21 снежня 1845 г.

10. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 10.

Журнал выходных папер (Журнал рэгістрацыі выходных дакументаў Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 116;

Мова: руская;

Перыяд: 1845 - 1847 гг.

Прыводзіцца кароткі змест дакументаў і дата адпраўкі.

Размяшчэнне: 1845 г. - (1 - 44 ліст), 1846 г. - (45 - 94 ліст), 1847 г. - (95 - 115 ліст).

11. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 11.

Кніга ўваходных дакументаў (Указы і рапарты Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 90;

Мова: руская;

Перыяд: 1845 - 1854 гг.

Без пачатку. Належыць неўстаноўленаму прыходу.

12. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 12.

Кніга ўваходных папер (Указы з Менскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннюо).

Кол-сць лістоў: 480;

Мова: руская;

Перыяд: 1845 - 1854 гг.

13. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 13.

Журнал выходных папер (Журнал рэгістрацыі выходных рапартаў Зблянскай царквы).

Кол-сць лістоў: 36;

Мова: руская;

Перыяд: 1845 - 1863 гг.

14. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 14.

Кніга шлюбных росшукаў (Шлюбныя росшукі Зблянскай царквы).

Кол-сць лістоў: 161;

Мова: руская;

Перыяд: 1846 - 1853 гг.

Размяшчэнне: 1846 г. - (1 - 49 ліст), 1847 г. - (50 - 65 ліст), 1848 г. - (66 - 82 ліст), 1849 г. - (83 - 99 ліст), 1853 г. - (100 - 112 ліст).

15. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 15.

Журнал выходных папер (Журнал рэгістрацыі выходных дакументаў Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 63;

Мова: руская;

Перыяд: 1848 - 1850 гг.

Коратка прыводзіцца змест дакументаў і іх дата.

16. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 16.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Менскай духоўнай кансісторыі Наваградскаму дабрачыннаму).

Кол-сць лістоў: 286;

Мова: руская;

Перыяд: 1848 - 1852 гг.

17. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 17.

Кніга шлюбных росшукаў.

Кол-сць лістоў: 200;

Мова: руская;

Перыяд: 1848 - 1852 гг.

Прыходскую прыналежнасць устанавіць не ўдалося.

18. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 18.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 647;
Мова: руская;
Перыяд: 12 студзеня - 26 снежня 1849 г.
19. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 19.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Менскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннню).
Кол-сць лістоў: 504;
Мова: руская;
Перыяд: 03 кастрычніка - 12 снежня 1849 г.
20. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 20.
Перадшлюбныя сведчанні.
Кол-сць лістоў: 188;
Мова: польская, руская;
Перыяд: 1849 - 1858 гг.
Некаторыя дакументы маюць сургучныя пячаткі, завераныя родавымі гербамі, а таксама пячаткі розных цэркваў і касцёлаў. Аднак не магчыма ўстанавіць, для якога прыходу яны выдаваліся.
21. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 21.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 525;
Мова: руская;
Перыяд: 1850 г.
22. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 22.
Кніга ўваходных папер (Указы з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 482;
Мова: руская;
Перыяд: 23 снежня 1850 - 19 снежня 1851 гг.
23. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 23.
Матэрыялы да шлюбнай кнігі (Перадшлюбныя сведчанні Зблянскай царквы).
Кол-сць лістоў: 23;
Мова: польская, руская;
Перыяд: 1851 - 1862 гг.
24. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 24.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 505;
Мова: руская;
Перыяд: 1852 г.
25. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 25.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 330;
Мова: руская;
Перыяд: 1853 г.
26. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 26.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму. Справаводчая перапіска з прыходамі).
Кол-сць лістоў: 960;
Мова: руская, польская;
Перыяд: 1853 - 1855 гг.
Утрымоўваюцца кліравыя ведамасці, ведамасці пра цэрквы і розныя прыходскія справаздачы.
27. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 27.
Журнал выходных папер (Журнал рэгістрацыі выходных дакументаў Лідскага дабрачыння).
Кол-сць лістоў: 138;
Мова: руская;
Перыяд: 01 студзеня 1854 - 31 снежня 1856 гг.
Прыводзіцца дата і кароткі змест выходных дакументаў. Змест напісаны дробным і неразборлівым почыркам.
28. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 28.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Менскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннню).
Кол-сць лістоў: 414;
Мова: руская;
Перыяд: 1854 - 1858 гг.
29. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 29.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 306;
Мова: руская;
Перыяд: 1855 г.
30. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 30.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 392;
Мова: руская;
Перыяд: 1857 г.
31. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 31.
Кніга шлюбных росшукаў (Шлюбныя росшукі Зблянскай царквы).
Кол-сць лістоў: 203;
Мова: руская;
Перыяд: 1859 - 1866 гг.
32. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 32.
Кніга ўваходных папер (Указы, распараджэнні і іншыя дакументы з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 303;
Мова: руская;
Перыяд: 1860 г.
33. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 33.
Фондавы россып.
Не сістэматызаваны. Не сшыты.
Кол-сць лістоў: 91;
Мова: руская, польская;
Перыяд: 1840 - 1860 гг.

Разам: У фондзе 1 "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг.", вопіс № 2 "Дакументы перыяду 1840 - 1860 гг." утрымоўвае 33 (трыццаць тры) справы, агульным лікам 10346 (дзесяць тысяч трыста сарок шэсць) лістоў.

***Дадатак 7***

**Фонд 1**

**Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг. Вопіс № 3. Дакументы перыяду 1861 - 1880 гг.**

1. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 1.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 298;
Мова: руская;
Перыяд: 1861 г.
Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.
2. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 2.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 269;
Мова: руская;
Перыяд: 1862 г.
Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.
3. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 3.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 226;
Мова: руская;
Перыяд: 1863 г.
Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.
4. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 4.
Журнал рэгістрацыі споведзі і прычасця. (Ведамасці ўліку вернікаў Зблянскай царквы, якія спавядаюцца і прычашчаюцца ў Вялікі пост).
Кол-сць лістоў: 32;
Мова: руская;
Перыяд: 1864 г.
Прыводзяцца звесткі і па прыпісных цэрквах.
5. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 5.
Журнал выходных папер (Журнал рэгістрацыі выходных дакументаў Лідскага дабрачыння).
Кол-сць лістоў: 134;
Мова: руская;
Перыяд: 1864 - 1905 гг.
6. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 6.
Вопіс спраў дабрачыння (Вопіс папер Лідскага дабрачыння).
Кол-сць лістоў: 8;
Мова: руская;
Перыяд: 1865 г.
7. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 7.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 334;
Мова: руская;
Перыяд: 1865 г.
Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.
8. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 8.
Журнал рэгістрацыі споведзі і прычасця (Ведамасці ўліку вернікаў Зблянскай царквы, якія спавядаюцца і прычашчаюцца ў Вялікі пост).
Кол-сць лістоў: 166;
Мова: руская;
Перыяд: 1865 - 1869 гг.
Паказаны П.І.Б., пол і ўзрост вернікаў.
9. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 9.
Журнал выходных папер (Журнал выходных дакументаў Лідскага дабрачыння).
Кол-сць лістоў: 114;
Мова: руская;
Перыяд: 02 жніўня 1864 - 08 кастрычніка 1871 гг.
Паказаны дата і кароткі змест дакументаў.
10. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 10.
Кніга шлюбных росшукаў (Шлюбныя росшукі Зблянскай царквы).
Кол-сць лістоў: 202;
Мова: руская;
Перыяд: 1866 - 1874 гг.
11. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 11.
Спіс сялян, спакушаных з праваслаўя ў каталіцызм (Спіс сялян, спакушаных з праваслаўя ў папства, па вёсках Лідскага дабрачыння).
Кол-сць лістоў: 10;
Мова: руская;
Перыяд: 1867 г.
Паказаны вёска, П.І.Б., узрост і год нараджэння.
12. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 12.
Нарад папер (Уваходныя дакументы Лідскага дабрачыння).
Кол-сць лістоў: 225;
Мова: руская;
Перыяд: 1867 г.
13. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 13.
Нарад папер (Уваходныя дакументы Лідскага дабрачыння).
Кол-сць лістоў: 263;
Мова: руская;
Перыяд: 1868 г.
Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.
14. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 14.
Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).
Кол-сць лістоў: 245;
Мова: руская;
Перыяд: 1869 г.
Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.
15. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 15.
Ведамасці пра царкоўна-прыходскія апякунствы (Дакументацыя пра апякунствы пры цэрквах Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 34;

Мова: руская;

Перыяд: 1870 г.

16. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 16.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 474;

Мова: руская;

Перыяд: 1872 г.

17. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 17.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 316;

Мова: руская;

Перыяд: 1873 г.

18. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 18.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 358;

Мова: руская;

Перыяд: 1873 г.

Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходсая карэспандэнцыя.

19. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 19.

Журнал выходных папер (Журнал рэгістрацыі выходных дакументаў дабрачыння 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 72;

Мова: руская;

Перыяд: 1873 г.

Прыводзіцца дата і парадкавы нумар дакумента, з указаннем яго кароткага зместу.

20. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 20.

Журнал уваходных папер (Журнал рэгістрацыі ўваходных дакументаў дабрачыння 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 95;

Мова: руская;

Перыяд: 1873 - 1874 гг.

Паказаны дата і кароткі змест дакументаў.

21. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 21.

Журнал выходных папер (Журнал рэгістрацыі выходных дакументаў Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 134;

Мова: руская;

Перыяд: 15 лютага 1873 - 17 лістапада 1881 гг.

Паказаны дата і кароткі змест дакументаў.

22. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 22.

Нарад папер (Уваходныя дакументы Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 235;

Мова: руская;

Перыяд: 1874 г.

Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.

23. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 23.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 634;

Мова: руская;

Перыяд: 1874 г.

Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.

24. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 24.

Кніга шлюбных росшукаў (Шлюбныя росшукі Зблянскай царквы).

Кол-сць лістоў: 214;

Мова: руская;

Перыяд: 1874 - 1882 гг.

25. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 25.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 609;

Мова: руская;

Перыяд: 1875 г.

Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.

26. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 26.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.

Кол-сць лістоў: 798;

Мова: руская;

Перыяд: 1875 г.

27. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 27.

Журнал выходных папер (Журнал рэгістрацыі выходных дакументаў дабрачыння 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 135;

Мова: руская;

Перыяд: 29 снежня 1875 - 07 сакавіка 1878 гг.

Паказаны дата ўказу, адрасат і кароткі змест дакументаў.

28. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 28.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 566;

Мова: руская;

Перыяд: 1876 г.

Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.

29. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 29.

Матэрыялы да шлюбнай кнігі (Перадшлюбныя сведчанні выдадзеныя вернікам розных цэркваў і касцёлаў).

Кол-сць лістоў: 103;

Мова: польская, руская;

Перыяд: 1876 - 1879 гг.

Прыналежнасць да прыходскай царквы ўстанавіць не магчыма.

30. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 30.

Ведамасці пра асобаў, якія нарадзіліся, узялі

шлюб і памерлі (Ведамасці пра асобаў, якія нарадзіліся, узялі шлюб і памерлі па дабрачынні 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 18;

Мова: руская;

Перыяд: 1877 г.

31. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 31.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 771;

Мова: руская;

Перыяд: 1877 г.

Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.

32. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 32.

Журнал рэгістрацыі споведзі і прычасця (Спавядальныя роспісы Зблянскай царквы).

Кол-сць лістоў: 626;

Мова: руская;

Перыяд: 1877 - 1893 гг.

33. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 33.

Нарад папер (Нарад папер Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 150;

Мова: руская;

Перыяд: 1878 г.

Утрымоўваюцца ўказы і распараджэнні Літоўскай духоўнай кансісторыі, а таксама прыходская карэспандэнцыя.

34. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 34.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 686;

Мова: руская;

Перыяд: 1878 г.

Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.

35. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 35.

Журнал уваходных папер (Журнал рэгістрацыі ўказаў па дабрачынні 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 142;

Мова: руская;

Перыяд: 01 сакавіка 1878 - 04 студзеня 1880 гг.

Паказаны дата і кароткі змест дакументаў.

36. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 36.

Акты агляду прычэтніцкіх пабудоў цэркваў (Акты агляду прычэтніцкіх пабудоў цэркваў Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 35;

Мова: руская;

Перыяд: 1879 - 1897 гг.

37. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 37.

Нарад папер (Уваходныя дакументы Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 156;

Мова: руская;

Перыяд: 1875 - 1893 гг.

Утрымоўваюцца епархіяльныя ўказы, распараджэнні і прыходская карэспандэнцыя.

38. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 38.

Журнал уваходных папер (Журнал рэгістрацыі ўваходных дакументаў дабрачыння 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 114;

Мова: руская;

Перыяд: 29 снежня 1875 - 07 сакавіка 1878 гг.

Паказаны дата і кароткі змест дакументаў.

39. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 39.

Ведамасці пра зборы і ахвяраванні (Ведамасці пра зборы сродкаў па дабрачынні 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 57;

Мова: руская;

Перыяд: 1880 - 1893 гг.

40. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 40.

Фондавы россып.

Не сістэматызаваны. Не сшыты.

Кол-сць лістоў: 169;

Мова: руская;

Перыяд: 1861 - 1880 гг.

41. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 41.

Фондавы россып.

Не сістэматызаваны. Не сшыты.

Кол-сць лістоў: 195;

Мова: руская;

Перыяд: 1861 - 1880 гг.

42. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 42.

Фондавы россып.

Не сістэматызаваны. Не сшыты.

Кол-сць лістоў: 378;

Мова: руская;

Перыяд: 1861 - 1880 гг.

43. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 43.

Фондавы россып.

Не сістэматызаваны. Не сшыты.

Кол-сць лістоў: 688;

Мова: руская;

Перыяд: 1861 - 1880 гг.

Разам: У фондзе 1 "Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг.", вопіс № 3 "Дакументы перыяду 1861 - 1880 гг." утрымоўвае 43 (сорак тры) справы, агульным лікам 11458 (адзінаццаць тысяч чатырыста пяцьдзесят восем) лістоў.

***Дадатак 8***

**Фонд 1**

**Дакументы архіва Лідскага дабрачыння перыяду 1811 - 1939 гг. Вопіс № 4. Дакументы перыяду 1881 - 1900 гг.**

1. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 1.

Матэрыялы да шлюбнай кнігі (Перадшлюбныя сведчанні Мірскай царквы).

Кол-сць лістоў: 167;

Мова: руская;

Перыяд: 1881 г., 1884г., 1886 г., 1887 г.

2. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 2.

Нарад папер (Указы, распараджэнні і рапарты Лідскага дабрачыння).

Кол-сць лістоў: 131;

Мова: руская;

Перыяд: 1882 г.

3. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 3.

Кніга шлюбных росшукаў (Шлюбныя росшукі Зблянскай царквы).

Кол-сць лістоў: 201;

Мова: руская;

Перыяд: 1882 - 1889 гг.

4. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 4.

Ведамасць пра прыходскія школы (Справаздачная дакументацыя пра царкоўна-прыходскія школы па дабрачынні 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 415;

Мова: руская;

Перыяд: 1884 - 1894 гг.

Утрымоўваюцца ведамасці паспяховасці вучняў, а таксама іх пісьмовыя працы (матэматыка, дыктоўка).

5. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 5.

Журнал выходных папер (Журнал рэгістрацыі выходных дакументаў дабрачыння 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 88;

Мова: руская;

Перыяд: 1885 - 1895 гг.

Паказаны дата і кароткі змест дакументаў.

6. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 6.

Кніга рэгістрацыі споведзі і прычасця.

Кол-сць лістоў: 50;

Мова: руская;

Перыяд: 1888 г.

Утрымоўвае гадавыя справаздачы пра вернікаў, якія спавядаюцца і прычашчаюцца цэркваў: Астроўкаўскай, Беліцкай, Беразавецкай, Баброўскай, Вольнаўскай, Ганчараўскай, Гарадзейскай, Голдаўскай, Дакудаўскай, Далматаўшчынскай, Ярэміцкай, Жыжмянскай, Вяліка - Жухавіцкай, Мала - Жухавіцкай, Задвейскай, Залужскай, Зблянскай, Ішкальдскай, Карэліцкай, Лідскай, Ліпскай, Любаніцкай, Лябёдскай, Маламажэйкаўскай, Малеўскай, Мірскай, Мыцкай, Радзівонішскай, Сноўскай, Турэцкай, Чарніхоўскай.

7. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 7.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 773;

Мова: руская;

Перыяд: 1888 г.

8. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 8.

Ведамасць пра прыходскія землі (Ведамасці пра прыходскія землі Мыцкай царквы).

Кол-сць лістоў: 6;

Мова: руская;

Перыяд: 1889 г.

9. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 9.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 137;

Мова: руская;

Перыяд: 1899 г.

10. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 10.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі дабрачыннаму 2-ой акругі Наваградскага павета).

Кол-сць лістоў: 1018;

Мова: руская;

Перыяд: 1889 - 1890 гг.

11. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 11.

Кніга шлюбных росшукаў (Шлюбныя росшукі Зблянскай царквы).

Кол-сць лістоў: 216;

Мова: руская;

Перыяд: 1889 - 1897 гг.

12. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 12.

Нарад папер (Прыходская дакументацыя Зблянскай царквы).

Кол-сць лістоў: 33;

Мова: руская;

Перыяд: 01 траўня - 30 снежня 1890 г.

13. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 13.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).

Кол-сць лістоў: 184;

Мова: руская;

Перыяд: 1890 г.

14. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 14.

Матэрыялы да шлюбнай кнігі (Перадшлюбныя дакументы да росшукавай кнігі Зблянскай царквы).

Кол-сць лістоў: 63;

Мова: руская;

Перыяд: 1890 - 1892 гг.

15. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 15.

Ведамасці пра прыход, выдаткі і рэшту грашовых сум і капіталаў (Ведамасці пра прыход, выдаткі і рэшту грашовых сум і капіталаў Зблянскай царквы).

Кол-сць лістоў: 20;

Мова: руская;

Перыяд: 1891 - 1899 гг.

16. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 16.

Кніга ўваходных папер (Указы і распараджэнні з Літоўскай духоўнай кансісторыі Лідскаму дабрачыннаму).

Кол-сць лістоў: 220;

Мова: руская;

Перыяд: 1892 г.

17. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 17.

Падпісныя лісты паўсюднага па імперыі збору ахвяраванняў (Падпісныя лісты паўсюднага збору ахвяраванняў у карысць пагарэльцаў мястэчка Мір, Менскай губерні).

Кол-сць лістоў: 1322;

Мова: руская;

Перыяд: 1892 г.

Утрымоўвае справаздачы пра грашовыя зборы ў розных губернях Расійскай імперыі.

18. Ф. 1. Воп. 4. Спр. 18.

Кніга ўваходных папер (Указы з Літоўскай

Лябёдскай Свята-Мікалаеўскай (1914, 1915 гг.), і Голдаўскай Нараджэння-Багародзіцкай цэркваў (1919 - 1924 гг.). - 200 л.

12. Ф. 922. Воп. 2. Спр. 4.

Метрычная кніга памерлых Голдаўскай царквы (1915 г., 1918 - 1929 гг.). - 97 л.

13. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 1.

Спісы вернікаў Дзікушскай царквы (1911 г.), Кніга запісу перадшлюбных росшукаў і спісы вернікаў Радзівонішкаўскай царквы (1923 г.), Кніга запісу перадшлюбных росшукаў Лябёдскай царквы (1929 г.). - 183 л.

14. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 2.

Метрычная кніга народжаных Голдаўскай царквы (1915 г., 1918 - 1930 гг.). - 407 л.

15. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 3.

Пасямейныя спісы вернікаў Дзікушскай царквы (1912 г.), Метрычная кніга асоб, якія ўзялі шлюб, Голдаўскай царквы (1915 г., 1918 - 1919 гг.), Кніга запісу перадшлюбных росшукаў вернікаў Зблянскай царквы (1928 г.). - 79 л.

16. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 4.

Метрычная кніга народжаных Сабакінскай царквы (снежань 1914 - 1915 гг., 1918 г., 1921 - 1927 гг.). - 322 л.

17. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 5.

Кніга запісу перадшлюбных сведчанняў і росшукаў вернікаў Голдаўскай, Дзікушкаўскай, Зблянскай, Лябёдскай, Мыцкай цэркваў (1915 г., 1919 - 1924 гг., 1931г.). - 93 л.

18. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 6.

Метрычная кніга народжаных Сабакінскай царквы (1917 - 1918 гг.), асоб, якія нарадзіліся, узялі шлюб і памерлі Астрынскай царквы (1923 г.). - 196 л.

19. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 7.

Метрычная кніга народжаных і памерлых Голдаўскай царквы (1918 - 1924 гг.). - 103 л.

20. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 8.

Метрычная кніга пра народжаных Зблянскай царквы (снежань 1918 - 1921 гг., 1923 - 1929 гг.). - 477л.

21. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 9.

Метрычная кніга народжаных Маламажэйкаўскай царквы (1918 - 1926 гг., 1921 - 1922 гг., 1924 - 1925 гг.), Мыцкай (1930 - 1931 гг., 1936 - 1938 гг.) і Радзівонішкаўскай (1941 - 1942 гг.) цэркваў. - 298 л.

22. Ф. 922. Воп. Спр. 10.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Ганчарскай царквы (1919 - 1938 гг.). - 409 л.

23. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 11.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Лябёдскай царквы (1919 - 1944 гг.). - 164 л.

24. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 12.

Метрычная кніга народжаных Ганчарскай царквы (1919 - 1928 гг.). - 468 л.

25. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 13.

Кніга запісу перадшлюбных росшукаў вернікаў Зблянскай царквы (1919 г., 1922 - 1924 гг., 1927 г.). - 153 л.

26. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 14.

Метрычная кніга народжаных Лябёдскай царквы (1919 г., 1922 - 1930 гг.). - 462 л.

27. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 15.

Метрычная кніга памерлых Маламажэйкаўскай, народжаных і ўзяўшых шлюб Мыцкай, узяўшых шлюб Радзівонішскай цэркваў (1941 - 1942 гг.). - 334 л.

28. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 16.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Зблянскай цэрквы (1919 - 1921 гг., 1923 - 1938 гг.). - 391 л.

29. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 17.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Жыжмянскай (травень 1919 - 1932 гг., 1934 - 1938 гг.) і Мыцкай (ліпень 1921 - 1922 гг., 1924 - 1925 гг., 1930 - 1931 гг., 1936 - 1938 гг.) цэркваў. - 241 л.

30. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 18.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Дакудаўскай царквы (1920 - 1938 гг.). - 360 л.

31. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 19.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Голдаўскай царквы (1920 - 1938 гг.). - 366 л.

32. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 20.

Метрычная кніга народжаных Дакудаўскай царквы (1920 - 1928 гг.). - 392 л.

33. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 21.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Лідскай царквы (1920 - 1938 гг.). - 274 л.

34. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 22.

Метрычная кніга народжаных Лідскай царквы (1920 - 1929 гг.). - 426 л.

35. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 23.

Метрычная кніга народжаных Дэмбраўскай царквы (снежань 1920 - 1929 гг.). - 357 л.

36. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 24.

Метрычная кніга народжаных Зблянскай (снежань 1921 - 1922 гг.), Радзівонішскай (лістапад 1922 - 1938 гг., 1943 - 1944 гг.) і Мыцкай (1932 г.) цэркваў - 443 л.

37. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 25.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Баброўскай царквы (1922 - 1938 гг.). - 212 л.

38. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 26.

Метрычная кніга народжаных Лідскай царквы (1922 - 1938 гг.). - 402 л.

39. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 27.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Зблянскай (1922 г.), Мыцкай (1932 г.), узяўшых шлюб і памерлых Радзівонішскай цэркваў (1923 - 1938 гг., 1923г.). - 172 л.

40. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 28.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Беліцкай царквы (кастрычнік 1922 - 1944 гг.). - 351 л.

41. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 29.

Метрычная кніга народжаных Беліцкай царквы (жнівень 1922 - 1930 гг.). - 370 л.

42. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 30.

Метрычная кніга народжаных Турэйскай царквы (жнівень 1922 - 1930 гг.). - 319 л.

43. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 31.

Кніга запісу перадшлюбных росшукаў вернікаў Дзікушкаўскай (1922- травень 1925 гг.) і Баброўскай

(люты 1926 - лістапад 1928 гг.). Пасямейные спісы вернікаў Лябёдскай (1923 - 1928 гг.) і Зблянскай (1941 - 1951 гг.) цэркваў.

44. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 32.

Метрычная кніга народжаных Глыбоцкай (снежань 1922 - 1923 гг.) і Астрынскай (1924 - 1927 гг.) цэркваў. - 422 л.

45. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 33.

Метрычная кніга народжаных Сабакінскай царквы (снежань 1922 - 1929 гг.). - 506 л.

46. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 34.

Кніга запісу перадшлюбных росшукаў вернікаў Лябёдскай царквы (травень 1922 - лістапад 1928 гг.). - 135 л.

47. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 35.

Метрычная кніга памерлых Сабакінскай царквы (1923 - 1930 гг.). - 220 л.

48. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 36.

Метрычная кніга народжаных Арлянскай царквы (1924 - 1931 гг.). - 330 л.

49. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 37.

Пасямейныя спісы вернікаў Лябёдскай царквы (1925 - 1934 гг.). - 378 л.

50. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 38.

Пасямейныя спісы вернікаў Дакудаўскай царквы (1925 - 1934 гг.). - 182 л.

51. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 39.

Метрычная кніга народжаных (1925 - 1934 гг.) і памерлых (1925 - чэрвень 1935 гг.) Голдаўскай царквы. - 140 л.

52. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 40.

Пасямейныя спісы вернікаў Радзівонішскай царквы (1925 г.). - 202 л.

53. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 41.

Кніга запісу перадшлюбных росшукаў вернікаў Голдаўскай царквы (люты 1925 - кастрычнік 1926 гг.). - 40 л.

54. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 42.

Кніга запісу перашлюбных росшукаў вернікаў Голдаўскай царквы (кастрычнік 1926 - 1933 гг., лістапад 1947 - сакавік 1951 гг.). - 200 л.

55. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 43.

Метрычная кніга народжаных Дакудаўскай (1929 - 1938 гг.), асоб, якія нарадзіліся, узялі шлюб і памерлі Беліцкай (1943 г.) цэркваў. - 359 л.

56. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 44.

Метрычная кніга народжаных Ганчарскай царквы (1929 - 1938 гг.). - 400 л.

57. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 45.

Метрычная кніга народжаных (1930 - 1938 гг.), узяўшых шлюб (1942 - 1943 гг.) і памерлых (1942 - 1943 гг.) Зблянскай (1943 г.) царквы. - 419 л.

58. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 46.

Пасямейныя спісы вернікаў Лябёдскай царквы (1930 - 1936 гг.). - 372 л.

59. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 47.

Кніга запісу перадшлюбных росшукаў вернікаў Зблянскай царквы (травень 1930 - чэрвень 1936 гг.). - 205 л.

60. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 48.

Метрычная кніга пра ўзяўшых шлюб Голдаўскай царквы (люты 1934 - лістапад 1947 гг.). - 200 л.

61. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 49.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Зблянскай царквы (ліпень 1936 - чэрвень 1943 гг.). - 200 л.

62. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 50.

Метрычная кніга ўзяўшых шлюб Дакудаўскай царквы (кастрычнік 1936 - 1940 гг., 1942 г.). - 117 л.

63. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 51.

Пасямейные спісы вернікаў Зблянскай царквы (1937 - 1951 гг.).

64. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 52.

Метрычная кніга асоб, якія нарадзіліся, узялі шлюб і памерлі (1939 - 1941 гг.) і кніга запісаў перадшлюбных росшукаў вернікаў Лябёдскай царквы (1942 - 1947 гг.). - 160 л.

65. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 53.

Кніга запісу перадшлюбных росшукаў вернікаў Радзівонішскай (жнівень 1941 - верасень 1948 гг.), і Мыцкай (1930 - 1932 гг.) цэркваў. - 80 л.

66. Ф. 922. Воп. 3. Спр. 54.

Кніга запісу перадшлюбных росшукаў вернікаў Зблянскай царквы (ліпень 1943 - чэрвень 1947 гг.). - 67 л.

***Дадатак 15***



***Фота 1****. Стан і ўмовы захоўвання дакументаў пасля сістэматызацыі. Жнівень 2009.*



***Фота 2****. Стан і ўмовы захоўвання дакументаў пасля сістэматызацыі. Жнівень 2009.*

***Дадатак 16***



***Фота.*** *Дакумент на польскай мове, 1817 г.*
*Ф. 1, Воп. 1, Спр. 2, Л. 45.*



***Фота.*** *Дакумент на польскай мове, 1817 г.*
*Ф. 1, Воп. 1, Спр. 2, Л. 45 аб.*

***Дадатак 17***



***Фота.*** *Распараджэнне Старэйшага саборнага протаіерэя Антонія Тупальскага, 1835 г.*
*Ф. 1, Воп. 1, Спр. 4, Л. 87.*

***Дадатак 18***

**Дакументы перыяду Вялікай Айчыннай вайны**



***Фота.*** *Цыркуляр дабрачынным, падпісаны протаіерэем Яўгенам Катовічам, 1941 г.*
*Ф. 1, Воп. 5, Спр. 47, Л. 71.*

***Фота.*** *Распараджэнне Лідскаму дабрачыннаму ад 28 красавіка 1942 г, падпісанае архімандрытам Серафімам (Шахмуцем).*

*Ф. 2, Воп. 1, Спр. 1, Л. 18.*

***Фота.*** *Пропуск на праезд, выпісаны на імя протаіерэя Аляксандра Апанасевіча, 7 красавіка 1942 г.*

*Ф. 2, Воп. 1, Спр. 1, Л. 22.*

***Фота.*** *Распараджэнне Лідскаму дабрачыннаму, падпісанае біскупам Апанасам (Мартосам) 4 траўня 1942 г..*

*Ф. 2, Воп. 1, Спр. 1, Л. 19.*

# Ксёндз Раймунд Зямацкі

Вельмі заслужаны род Зямацкіх, які карыстаўся гербам Равіч, асеў на Літве яшчэ ў XVI ст.

Раймунд Мікалай Зямацкі нарадзіўся 19 верасня 1810 г. у Лоску - вёсцы Навагрядскага ваяводства, а раней мястэчку, якое належала Кішкам. Яго бацька, Андрэй Зямацкі быў дзедзічам 12 - валокавых Дахаў у Ашмянскім павеце, ротмістрам таго ж павета. Тытул гэты здабыў у шэрагах Тадэвуша Касцюшкі. З жонкай Катажынай з Камінскіх меў старэйшых сыноў - Юзафа і Раймунда. Абодва вучыліся ў айцоў трынітарыяў у Маладзечне, пасля чаго іх паслалі вучыцца ў Вільню ва ўніверсітэт. (Наймалодшы іхні брат - Францішак Зямацкі - будучы бацька прафесара Ўніверсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні Юзафа Зямацкага). Юзаф Зямацкі (старэйшы) загінуў падчас лістападаўскага паўстання. Раймунд падчас сутычкі, калі паўстанцаў дашчэнту разбілі, і расейцы ўчынілі крывавую разню ў Ашмянах, атрымаў “чатыры ўдары казацкай пікай і два ўдары шабляй". Страціўшы прытомнасць, застаўся на полі бою сярод трупаў. Прабуджаны холадам ночы, сцякаючы крывёй, дапоўз да найбліжшага засценка. Вяртанне ў родны двор было не мажлівае, бо Дахі былі пад наглядам паліцыі. Туляўся па вакольных дворыках, баючыся навесці небяспеку на гаспадароў. Родны дом адведваў пакрыёма. У той час дома вырашылі, што Раймунд "для заціранняслядоў" паступіць у духоўную семінарыю.

Святарскае пасвячэнне Раймунд Зямацкі атрымаў у 1838 годзе. Быў вікарыем пры касцёле святога Рафала ў Вільні ў 1848-49 гадах. З 1849 года выконваў абавязкі пробашча ў мястэчку Вавёрка ў Лідскім павеце. Час залячыў цялесныя раны. Душпастарская праца прынесла веру ў дабро таго, што рабіў. Раны маральныя..., тыя заўсёды былі жывыя. Даўнія ўспаміны і надзеі ажылі з наступленнем 1863 года.

У ноч з 24 на 25 студзеня (стар. ст., *рэд.* ) у дзверы плябані пастукаў незнаёмы мужчына і ўручыў пробашчу ліст з загадам прачытаць яго з амбона ў найбліжэйшую нядзелю. Быў гэта маніфест Літоўскага паўстанцкага ўраду, які надаваў уладальнікам свабоду і зямлю, заклікаючы люд да абароны сваёй Айчыны. Змест маніфесту быў наступны:

*"Правінцыйны часовы ўрад на Літве і Белай Русі ад імя Польскага Нацыянальнага ўраду абвяшчае наступнае:*

*1. Ад сённяшняга дня ўсе сяляне і ўсе жыхары хоць якога паходжання і веры ёсць вольныя, як старапольская шляхта.*

*2. Польскі Нацыянальны ўрад аддае сялянам: панскім і скарбовым на вечныя часы ў поўнае валоданне без чыншаў і выкупаў тую зямлю, якую яны да таго часу мелі, а ўсякія распараджэнні маскоўскага ўраду становяцца няважнымі, бо гэтая зямля польская, а не маскоўская.*

*3. Сяляне за тое, як шляхта, павінны бараніць польскі край, грамадзянамі якога, ад сённяшняга дня з'яўляюцца.*

*4. Парабкі, звольненыя жаўнеры і ўсе, якія толькі пойдуць бараніць польскі край ад маскалёў, атрымаюць самі або іх сем'і ва ўзнагароду надзел зямлі не менш, як тры моргі.*

*5. Польскі ўрад узнагародзіць грамадзян за панесеныя імі ахвяры з нацыянальных фондаў.*

*6. Калі хоць хто не будзе паслушны гэтаму маніфесту, ці ён пан, ці селянін, ці чыноўнік, ці хто іншы, будзе пакараны паводле польскага ваеннага права.*

*Божа, ратуй Польшчу.*

*Дадзены ў Вільні 1 лютага (*паводле новага стылю - *прып. аўт.) 1863 г.*

*(Пячатка).”*

У сваю чаргу ў лісце, скіраваным да ксендза гаварылася:

*"Вяльможнаму Зямацкаму, Вавёрскаму пробашчу ў Вавёрцы.*

*Паводле загаду Часовага правінцыйнага ўраду на Літве і Белай Русі далучаны Маніфест Польскага ўраду мае быць у нядзелю 27 студзеня* (ст. стылю, *рэд.) у Вавёрскай парафіі мясцовым капланам абвешчаны з амбона сабранаму люду. У выпадку невыканання гэтага даручэння пробашч будзе прызнаны за здрадніка Айчыны і як такі на падставе пункта 6 таго ж маніфесту будзе пакараны паводле польскага ваеннага права.*

*№1805. 1863, лютага 2 дня, Вільня."*

Лісты з ідэнтычным зместам даставілі таксама да пробашчаў іншых парафій.

Адны не прачыталі іх наогул, іншыя, баючыся помсты паўстанцаў, хочучы захаваць сваю пасаду, паведамілі паліцыі і папрасілі аховы. Не зрабіў таго, як піша Я. Обст, ксёндз Зямацкі, ён свядома выканаў



***Касцёл Святога Рафала ў Вільні***

свой абавязак патрыёта, потым, як шчыры хрысціянін і католік, прымяніў перад судом усялякія годныя сродкі абароны, нікога, аднак, не выдаўшы, на нікога не звальваючы віны, калі прагучаў вырак, прыняў яго, як герой.

27 студзеня (ст. стылю, *рэд.*) у касцёле ў Вавёрцы адпраўленне сумы прыпала маладому вікарыю. Ксёндз Раймунд узяў аднак на сябе "цяжкі абавязак зачытвання маніфесту". Добра разумеў, што маладога чалавека чакае вязніца і кара.

- Я ўжо стары, да паважнага веку будуць, можа, больш пачцівыя. Зрэшты, мне на шмат менш жыцця засталося, чым табе, - падрахаваў ён.

Адразу пасля прачытання маніфесту ксёндз Зямацкі быў арыштаваны мясцовым спраўнікам, высланы ў Вільню і пасаджаны ў кляштарнай вязніцы пры касцёле Святога Духа.

У загадзе "камандуючага войскамі і генерал-губернатара" ад 3 траўня 1863 г. м. ін. гаварылася: *"Аддаць пад палявы суд ксяндзоў Ішору, Фалькоўскага і Зямацкага* (усе з Лідскага павету, *рэд.*)*, а таксама пісара Гаеўскага, лясніка Яшчэвіча і арганіста Калясінскага за прачытанне подбухторчага маніфесту і падбухторванне сялян да паўстання", "справу належыць залатвіць на працягу 24 гадзін".*

Знойдзеная ў гарадскім архіве ў 1922 г. папка з надпісам "Справа аб прачытанні ў Вавёрскім парафіяльным касцёле пробашчам кс. Зямацкім польскага падбухторчага маніфесту" ўтрымоўвала таксама пратакол следства, сведчанні некалькіх мясцовых жыхароў, якія баранілі ксендза, і абвінаваўчы акт. Між іншым у прыгаворы з дня 8 траўня 1863 г. гаварылася: *"... кс. Раймунда - Мікалая Зямацкага, 52 гадоў, за распаўсюджанне падбухторчага маніфесту на грунце ваеннага крымінальнага права, кніга 1, пар. 177, пункт, пакараць смерцю цераз расстрэл. Адначасова магчымасць змягчэння кары суд робіць залежным ад рашэння вышэйшай улады, адзначаючы, што асуджаны, канешне, мог прачытаць маніфест пад прымусам, што, паводле ўласнага прызнання, пасля прачытання маніфесту дадаў, што не радзіць нікому яго выконваць, але гэтая акалічнасць не была следствам высветлена, толькі пацверджана двума мясцовымі землеўладальнікамі і таму не можа быць замоўчана."*

За ксендза Зямацкага гаварыў таксама факт, што адразу пасля арышту яго ў Вавёрцы спраўнікам ён ва ўсім прызнаўся. Вышэй названая акалічнасць павінна была змягчальна ўплываць на памер кары, і, нават, найбліжэйшыя да ксендза былі перакананыя, што расейскія ўлады не пойдуць на крайнія меры. Сітуацыю радыкальна змяніў прыезд у Вільню Мураўёва з вядомай мянушкай "Вешальнік". 21 траўня 1863 года (ст. ст.) ён накіраваў ліст "камандзіру другой пяхотнай дывізіі гвардыі":

*"Не бачу дастатковых прычын для аблягчэння кары асуджанаму ксендзу Зямацкаму, бо сведчанні двух мясцовых жыхароў-католікаў ніякай вагі не маюць, як тых, якія належаць да люднасці варожай ураду. Таму загадваю споўніць вырак над Зямацкім паводле прыгавору ваеннага суда, г.зн. пакараць яго смерцю цераз расстрэл. Споўніць вырак згодна з 549 параграфам, другой кнігі вайсковага крымінальнага статута публічна на адным з Віленскіх пляцаў...*

*Камандуючы войскамі, генерал ад інфантэрыі Мураўёў".*

5 чэрвеня 1863 г. на Лукішскім пляцы ў Вільні ксёндз Зямацкі быў публічна расстраляны. Загінуў па выраку расейскага суда за спрыянне студзенскаму паўстанню. Расейская куля, якая праляцела міма ў 1831-м годзе, дагнала яго ў 1863-м.

Пляменнік Раймунда Зямацкага Юзаф Зямацкі ў 1889 годзе як лекар Абухаўскага гарадскога шпіталя ў Пецярбурзе пазнаёміўся з жанчынай (па паходжанні віленкай), якая, як нарачоная афіцэра расейскай жандармерыі, прысутнічала на экзекуцыі ксендза Зямацкага. Прафесар запісаў:

*"Памятаю, што быў гэта чалавек ужо паважнага веку, добра прыпамінаю яго рысы, меў ужо сівыя валасы, быў вельмі аслаблены хваробай, якую пеажыў у вязніцы, не мог ісці пешшу, быў прывезены на дрожках. Пасля вываду яго з падамініканскіх муроў, дзе была вязніца, нейкі расейскі вайсковец высокага рангу падышоў да яго прасіць дабраславенства. Бо быццам бы сярод расейцаў існуе забабон, што дабраславенства прыгаворанага на смерць прыносіць шчасце ў будучым жыцці.*

*Ксёндз Зямацкі дабраславіў яго знакам крыжа, а той пацалаваў яму руку. (Пра такі забабон ніколі не чула...). Адразу пасля залпа карабінаў ксёндз павіс бяссільна на вяроўках, якімі быў прывязаны да слупа; бачыла потым, калі цела было адвязана ад слупа і ляжала ўжо на зямлі, сутана на грудзях была моцна заліта крывёю, а некалькі плям крыві аказалася пазней і на сівых валасах. Побач з ксендзам Зямацкім, наводдаль за колькі крокаў, быў страчаны таксама цераз расстрэл вельмі малады чалавек, Лясковіч* (таксама з Лідскага павету, *рэд.*)*. Целы іх абодвух адразу пасля экзекуцыі ўкінулі ў магілы, загадзя прыгатаваныя перад слупамі, да якіх былі прывязаны асуджданыя. Целы засыпалі зямлёй, магілы выраўнялі".*

У адным з архіўных дакументаў чытаем: *"Зацверджаны камандуючым войскамі Віленскай вайсковай акругі дня 21 траўня пад нумарам 616, вырак над ксендзам Раймундам Зямацкім быў выкананы 24 траўня* (паводле старога стылю, *прып. аўтара*)*; кс. Зямацкі расстраляны публічна на гандлёвым пляцы ў 11 гадзін раніцы...*

*Віленскі камендант. Ген.-лейт. (подпіс).*"

Целы расстраляных былі адкапаныя ноччу, каб таямніца не выйшла на яву. З пляца св. Якуба іх перавезлі *"на Трыкрыжскую гару, да рэдута, які быў насыпаны на самай вярхушцы гары, і ў якім былі ўстаноўлены падчас паўстання 1863 года гарматы, павернутыя да горада".* Целы *"былі пакладзены на вярхушцы Трыкрыжскай гары ў магілы, падрыхтаваныя загадзя ўздоўж паўночнага вала рэдута. У тым рэдуце, каля паўднёвага яго краю стаялі тры дрэвы, а за імі праз адзін або два крокі тры высокія крыжы."*

У зборніку, выдадзеным у Пецярбурзе ў 1906 г. палякамі, якія там жылі, з мэтай ушанавання памяці пра Элізу Ажэшку знаходзяцца таксама дадатковыя звесткі прафесара Юзафа Зямацкага, якія датычацца месца вечнага спачыну яго дзядзькі: ксендза Раймунда. Юзаф Зямацкі згадвае пра сваю размову з навочным сведкам - полькай, віленкай, нарачонай афіцэра жандармерыі, нейкай N. *"Пасля пахавання,* - піша Ю. Зямацкі, - *акрэсліла яна вельмі дакладна размяшчэнне магіл. Ведала, што месца пахавання парэштkaў страчаных з'яўляецца вялікай таямніцай. Мела сабе загад на абсалютнае маўчанне, і таму ўзнікла ў яе галаве думка, каб хоць у будучыні дакладна абазначыць тое месца, а паколькі ноч была светлая, і зоркі свяцілі, то магла дасканала акрэсліць бакі свету і запомніла выразна сітуацыю: ад усходняга крыжа - 17 крокаў, проста на поўнач выпадае магіла кс. Зямацкага, на лева ад яго, г.зн. на захад - Лясковіча, а як даведалася ад нарачонага, направа ад кс. Зямацкага - магіла кс. Ішоры, страчанага пару дзён пасля таго. Магілы наступных страчаных - а было іх шмат - размешчаны ў храналагічным парадку налева, г.зн. на захад".*

Пасля атрымання гэтых звестак у 1889 годзе прафесар Ю. Зямацкі паехаў у тым жа годзе ў Вільню з мэтай правесці замеры на Трыкрыжскай гары. *"Крыжоў у той час ужо не было.* - успамінае ён, - *але я памятаў пра тое, што былі тры дрэвы, якія да гэтага часу існуюць* (прафесар пісаў той артыкул у 1906 г., *прып. аўтара*), *то не цяжкай мне была арыентацыя, і на самай справе на вярхушцы гары, ад месца, дзе павінен быў стаяць крыж, проста на поўнач ёсць 17 крокаў аж пад паўночны вал. Такое дакладнае акрэсленне той адлегласці ў памяці N пасля 26 год, дало мне шмат для роздуму (...)."*

Тры дрэвы на вярхушцы гары Трох Крыжоў былі зрэзаны ў 1916 годзе пры пабудове Трыкрыжскага помніка аўтарства А. Вівульскага. Я. Обст канстатуе: *"Сёння на вяршыні ўзгорка над магіламі ахвяр дзікай звышсілы падымаюцца промні трох крыжоў - сімвал пакутніцтва і ўваскрэсення, прысвечаныя памяці святых пакутнікаў. Тых, якія сваю ахвярную кроў пралілі ў лона нашай Маці-Зямлі дзеля будучага плёну святла і свабоды!"*

Праз шэсцьдзесят год пасля паўстання, калі на Замкавай вежы развіваўся бела-чырвоны штандар, Ян Обст, заснавальнік Музея Міцкевіча ў Вільні і адзін з найбольш чынных папулярызатараў гісторыі Віленшчыны, гісторык па адукацыі, публічна заклікаў: *"(...) сёння першым нашым абавязкам ёсць скласці паклон тым сейбітам свабоды, ценям бацькоў нашых і дзядоў, палеглых за Айчыну ў няроўнай барацьбе",* у гадавіну смерці кс. Зямацкага *"годна было б тую непараўнальна прыгожую, шляхетную постаць, якая назаўжды застанецца ў нашай мартыралогіі, ушанаваць умураваннем сціплай табліцы з адпаведным надпісам у касцёле св. Рафала (...)".*

У 1923 годзе ў друкарні "Зара" ў Вільні з'явілася брашурка Я. Обста пад назвай **"Кс. Раймунд Зямацкі. У 60-ю гадавіну смерці пакутніка за Айчыну"**. *"У якасці матэрыялу*, - зазначае аўтар, - *паслужылі нам перш за ўсё дэталёвыя ўспаміны пляменніка с.п. кс. Раймунда - шаноўнага прафесара і сузаснавальніка ўніверсітэта імя Баторыя - Юзафа Зямацкага, а таксама арыгінальныя судовыя акты, якія датычацца той справы, за расійскімі часамі недаступныя для польскіх даследчыкаў, а цяпер знойдзеныя ў гарадскім архіве".*




**Мемарыяльная дошка ў Ваверскім касцёле (Лідскі р-н). На дошцы надпіс:**
*"Кс. Раймунд Зямацкі, 19.09.1810-05.06.1863. Пробашч парафіі ў Вавёрцы, загінуў пакутніцкай смерцю, расстраляны ў Вільні за ўдзел у Студзеньскім паўстанні. Чэрвень 2003 г. Парафіяне, Таварыства польскай культуры на Лідчыне."*

І ў тым жа 1923 годзе з правага боку на франтоне касцёла Св. Архanёла Рафала (Рафаіла), была змешчана мемарыяльная дошка з наступным надпісам:

*"S.P. Кс. Раймунд Зямацкі. Нар. у Лоску*
*19 верасня 1810 г.,*
*удзельнік паўстання 1831 г.*
*Вікарый касцёла Св. Рафала ў Вільні,*
*пазней пробашч у Вавёрцы Лідскага павету.*
*Каплан - герой, загінуў пакутніцкай смерцю,*
*расстраляны на Лукішскім пляцы ў Вільні*
*5 чэрвеня 1863 г.*

А на Бернардынскіх могілках у Вільні знаходзіцца магіла пляменніка Раймунда Зямацкага, доктара медыцыны, звычайнага прафесара тапаграфічнай анатоміі і хірургіі Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні Юзафа Зямацкага, які адраджаў Віленскі ўніверсітэт, укладаючы ў гэтую справу шмат працы як рэктар у перыяд арганізацыі, а пазней прарэктар. На магіле надпіс:

*"S.P. Д-р Юзаф Казімір Зямацкі, прафесар*
*Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні, кавалер*
*ордэна Адраджэння Польшчы,*
*нар. 18 верасня 1856 г.,*
*пам. 20 верасня 1929 г".*

Годныя прадстаўнікі годнага роду Зямацкіх.

***Ліліяна Нарковіч.***
*(Пераклад Станіслава Судніка.)*

*Альвіда Антаніна Баёр*

# Баляслаў Колышка - двойчы павешаны

*Мы, як птушкі з тых азёраў,*
*Сёння тут, а там за морам*
*Будзем недзе ўжо.*

*Што сніць сэрца, перасніцца,*
*Песні цвёрдыя, як жыцце,*
*Хай вядуць у бой.*

*Рукі ціснуць рукаяцці,*
*Шчыры ўціск, пакуль аб'явіць*
*З неба хвілю Бог.*

*Шчасце, доля потым, можа,*
*Толькі Ты знаць здольны, Божа.*
*Што спаткае нас.*

*Можа, шчасце ўсмешкі мілай,*
*Можа, кветку на магілу*
*Нам рыхтуе час.*



Гэта "Песенька жаўнера", словы Мечыслава Раманоўскага, аднаго з апошніх паэтаў - рамантыкаў. Ён быў удзельнікам паўстання 1863 г., у якім загінуў.

Бог абвясціў яму з неба хвілю, калі Раманоўскаму было 29 гадоў... Паэты - прарокі не толькі чужых лёсаў, але і ўласных.

Раманоўскі загінуў у бітве. Баляслаў Колышка скончыў зямны шлях на шыбеніцы па выраку Мураўёва-Вешальніка. Вешалі яго два разы...

**Баляслаў Каятан Колышка**, гербу Яліта быў адным з выбітных правадыроў паўстання 1863 года на Літве. Нарадзіўся 26 ліпеня 1837 г. у фальварку Карманішкі, размешчаным блізка ад Бутрыманцаў. Быў сынам Вінцэнта і Апалоніі з Банкоўскіх, у першым шлюбе Юрша (брала шлюб з Вінцэнтам, як удава, мела на той час 36 гадоў). Бацька Баляслава, Вінцэнт Колышка быў сынам Яна і Янны з Бразоўскіх. Маці Баляслава, Апалонія з Банкоўскіх, у першым шлюбе Юрша, паходзіла з маёнтка Навіцкішкі (парафія Эйшышская), у сваю чаргу яе маці была з Жаброўскіх.

Навіцкішкі ў сярэдзіне XVIII стагоддзя належалі Юршам. Вінцэнт і Апалонія Колышкі жылі ўпачатку менавіта ў Навіцкішках, крыху пазней аселі ў Карманішках і жылі там у 1836-1843 гадах, адкуль зноў вярнуліся ў Навіцкішкі.

Баляслаў рос у вялікай сям'і, браты Ян Вінцэнт, Фелікс Генрык, Уладзіслаў і Браніслаў, а таксама сястра Адальфіна.

Баляслаў спачатку вучыўся ў Навіцкішках, потым удасканальваўся ў павятовай школе ў Лідзе, гімназію скончыў у Вільні. Вывучаў права ў Маскоўскім універсітэце. У той час ён належаў да рэвалюцыйнай арганізацыі студэнтаў "Агул", у якой таксама дзейнічалі Зыгмунт Серакоўскі і Цітус Далеўскі. Была гэта вельмі моцная арганізацыя. У Маскоўскім універсітэце вучылася ў той час 600 выхадцаў з былой Рэчы Паспалітай. Афарбоўка іх была "чырвоная". Паэзія, эміграцыйныя брашуркі і літаграфічныя лісткі былі поўныя нацыянальнага дынаміту ("Ода да маладосці", "Дасвецце", "Ода да свабоды"). Не сходзілі з вуснаў напоўненыя рэвалюцыйнай экспрэсіяй вершы Зыгмунта Красінскага.

За ўдзел у студэнцкай маніфестацыі ў 1861 годзе Баляслаў Колышка быў арыштаваны. У канцы 1861 года ўдалося яму прабрацца ў Італію, дзе ўступіў у польскую вайсковую школу ў Генуі-Кунеа.

Школа тая была заснавана галоўным чынам стараннямі Марцэля Любамірскага і пры ўдзеле генерала Мераслаўскага і Гарыбальдзі ў кастрычніку 1861 года. Збірала яна ў сабе моладзь, якая ад пачатку 1860 года досыць актыўна эміgравала з колішняй Рэчы Паспалітай, каб па закліку Мераслаўскага стаць у шэрагі арганізаванага ім Італьянскага замежнага легіёна. Легіён той мусіў узяць удзел у спланаванай Гары-

бальдзі выправе супраць Аўстрыі.

Першым дырэктарам школы быў генерал Мераслаўскі, пазней генерал Высоцкі. Камендантам школы быў палкоўнік Фіялкоўскі. Праз пару месяцаў, у сакавіку 1862 года, школа была перанесена ў Кунеа. Не гледзячы на нязгоду, суперніцтва і зайздрасць паміж двума польскімі генераламі - Мераслаўскім і Высоцкім - тая школа падрыхтавала каля 150 інструктараў для паўстання. Многія з іх адыгралі выбітную ролю і вызначыліся на полі бою. Сярод іх быў і Баляслаў Колышка.

**Баі Баляслава Колышкі**

Колышка прыбыў на Ковеншчыну ў канцы лютага або ў пачатку сакавіка 1863 года і заспяшаўся ў арганізаваны ў Ковенскім павеце (паміж Чакішкамі і Высокім Дваром) аддзел Браніслава Жджарскага (у іншых крыніцах - Жарскага), які не адчуваючы ў сабе сілы кіраваць партыяй, сышоў з кіраўніцтва на карысць Колышкі. Колышка мэтанакіравана ўзяўся за рассыланне маніфестаў, выдадзеных Цэнтральным Нацыянальным Камітэтам 22 студзеня 1863 года. Тыя адозвы з чыннай дапамогай пробашчаў акалічных парафій хутка трапілі пад сялянскія стрэхі і пачалі прыносіць карысць. Маладыя, старэйшыя і нават старыя па-аднаму або групамі пачалі сцягвацца ў паўстанцкі лагер, а ўжо найвялікшая хваля наплывала з моманту, калі ў лагеры з'явіўся ксёндз Антоні Нарвойш з Панявежы.

У першыя дні партыя складалася з больш, чым 60 чалавек, і сярод іх Уладзіслаў Млынскі, звольнены ротмістр Смаленскага палка ўланаў, а таксама Антоні Стырпейка, выхаванец Шляхецкага інстытута ў Вільні.

На працягу некалькіх дзён аддзел вырас да ліку 250 чалавек, і тады Колышка пачаў арганізоўваць партыі.

Першым батальёнам камандаваў Браніслаў Жджарскі (Жарскі), другім Юзаф Радовіч, трэцім так зв. батальёнам "В" - былы расейскі афіцэр (прозвішча з прычын, якія лёгка дадумаць, у рапарце не было названа). Ад'ютантам быў Антоні Стырпейка, скарбнікам Турчыновіч, справай забеспячэння займаўся Уладзіслаў Млынскі, што таксама было справай няпростай.

Правізію і зброю дастаўлялі вяскоўцы - часткова дарма, часткова за грошы, плачаныя партыяй (прысылаў іх доктар Длускі - Ябланоўскі). Адчувальным быў недахопу абутку, на 213 чалавек не хапала 105 пар ботаў, не ставала бялізны, сярмяг.

Вестка аб арганізоўваным паўстанчым аддзеле дайшла неўзабаве да расейскіх уладаў, і камендант расейскіх войскаў Ковенскай губерні, генерал-маёр Сухабольскі выслаў маёра Сцяпанава на чале дваццаці стральцоў Капорскага палка, каб разаслаў маніфест, выдадзены царом Аляксандрам II, абяцаючы амністыю тым паўстанцам, якія складуць зброю і падпішуць вернападданіцкі адрас. Тэрмін цар вызначыў да 12 траўня 1863 года (адсюль той, які наступіў пазней выезд Мураўёва з Пяцябурга, 12 траўня - не дачакаўшыся заспакаення непакорных падданых цар аддэлягуе ўжо неўзабаве "Вешальніка" ў Вільню, прызначыўшы яго "ваенным генерал-губернатарам").

Але цяпер яшчэ толькі канец сакавіка. І там, на Ковеншчыне Сухабольскі апрача дваццаці стральцоў пад кіраўніцтвам Сцяпанава пасылае на аддзел Колышкі яшчэ роту стральцоў пад камандаваннем капітана Міхалоўскага, які падцягнуўся да мястэчка Ваўкі, адтуль да Чакішак і тут спаткаўся са стральцамі маёра Сцяпанава. Камандзіры расейскіх аддзелаў былі ў шоку ад весткі, што паўстанцкая партыя, якая стаіць лагерам пад Высокім Дваром, складаецца больш, чым з 700 чалавек. Канешне тыя непраўдзівыя пагалоскі распускаліся мэтанакіравана, паўстанцкія сілы былі па сутнасці напалову меншыя.

Расейскае войска рушыла ў кірунку Высокага Двара, узяўшы з сабой яшчэ сто казакаў.

Паўстанцы і далей заставаліся ў Высакадворскіх лясах. Неўзабаве дойдзе да спаткання лоб у лоб. А выглядала гэта так.

У густым яловым лесе была невялікая паляна, працятая дарогай і невялікім ручайком. Не вельмі высокі пад'ём мясцовасці зніжаўся да берага ў даліне. За колькі дзясяткаў крокаў ад лесу віднеліся пабудовы лоўчага Падбельскага, з другога боку стаяла хата лесніка.

Батальён Жджарскага (Жарскага) знайходзіўся ў будынках лоўчага, дзе размяшчалася і галоўная кватэра. Батальён "В" быў у хаце лесніка, Радовіч жа з рэштай людзей знаходзіўся ў лесе.

28 сакавіка на світанні расейскае войска прыбыло ў Высокі Двор. Вясенні ранак быў імглісты, і казакі Сцяпанава, схаваўшы конныя пікеты, падышлі незаўважнымі да пярэдняй варты.

І ў той жа час, убачыўшы Колышку, выязджаўшага з будынкаў лоўчага, пачалі страляць у яго з адлегласці каля 800 крокаў. Агонь трываў 15 хвілін, ад стрэлаў загарэліся пабудовы ляснічага, а неўзабаве адбыўся выбух пораху, забытага пры ўцёках паўстанцамі.

Расіяне занялі бліжнія хаты. Частка паўстанцаў адстрэльвалася з ускрайку лесу, частка разбеглася. Колышка, сабраўшы сваіх людзей, кінуўся на бесперапынна страляўшых расейскіх салдатаў, каб здабыць займаныя імі пазіцыі, калі ж, аднак, атака не ўдалася, адступіў. Пасля гэтага ён пачаў асцярожна акружаць войска непрыяцеля, каб неспадзявана ўдарыць па ім з тылу. Манеўр Колышкі быў заўважаны. Колышка вярнуўся да займанай перад тым хаты і пачаў збіраць рэшткі паўстанцаў. Была гэта першая сутычка, аднак прайграная.

Страты, якія панеслі паўстанцы ў той высокадворскай сутычцы, цяжка дакладна акрэсліць. Мядэнша ў сваёй "Манаграфіі паўстанцкіх аддзелаў па Жмудзі" ("Айчызна", Бэндлікон, 1864) падае, што было 16 забітых і 1 паранены, затое лік уцёкшых паўстанцаў акрэсліў як 200.

У высакадворскай сутычцы быў забіты ксёндз, які ехаў брычкай з Чакішак, адна жанчына цяжка параненая, яе дзіця ўкінулі ў агонь, а дачку лоўчага Пад-

бельскага закалолі штыкамі.

Колышка, атрымаўшы ад начальніка Наднявежскай партыі Тадэвуша Кушлейкі вестку з просьбай, каб паспяшаў яму на дапамогу, рушыў да Ленчаў і Ажытанаў, дзе ў блізкіх лясах знаходзілася партыя Кушлейкі. У баі пад Ленчамі аб'яднаныя сілы паўстанцаў таксама панеслі значныя страты, але разгромлены не былі.

**Гонар, Айчына... Галоўнае гонар.**

Згодна з тым, як яно ёсць на нацыянальным штандары: гонар, а потым Айчына. Як паступаў Колышка са сваімі палоннымі непрыяцелямі або з палякамі, якія былі на службе ў расейскіх уладаў. Вось адзін з прыкладаў, занатаваных пазней у рапарце.

7 красавіка, познім вечарам Колышка прыбыў у Эйраголу, арыштаваў прыстава Апульскага і пры яго доме паставіў варту. Пазней загадаў рэквізаваць з гміннай управы і паліцэйскай канцылярыі меўшыяся там акты, кнігі, праўныя кодэксы, урадавыя паперы, вывезці іх за мястэчка і спаліць. Адабраў таксама ад прыстава дзве штукі зброі, а ад касіра грошы (у агульнай суме 365 рублёў 80 капеек) і ў поўнач пакінуў Эйраголу, забраўшы з сабой Апульскага, чыноўніка з паліцэйскай канцылярыі Фелікса Раманоўскага, а таксама гміннага пісара. Пазней разам са сваім аддзелам Колышка рушыў гасцінцам углыб Расіенскага павета.

Колышка затрымаўся у карчме яўрэя Гіркоўскага і выпусціў вязняў на волю, сурова забараніўшы найперш Апульскаму пачынанне якіх-небудзь перашкод паўстанцам.

Эйрагола, Чакішкі, Расіены. Лясы, пушчы, пераправы цераз рэкі - цераз Шушву, Дубісу...

У "Мураўёўскім архіве", як ужо згадвалася, знаходзіцца мноства прызнанняў удзельнікаў тых баёў. Факты, мясцовасці, прозвішчы... Што тычыцца прозвішчаў, то тут трэба захоўваць выключную асцярожнасць, бо могуць гэта быць псеўданімы або наогул прозвішчы выдуманыя (асабліва тых, якія яшчэ жылі, хаваліся па лясах).

Ніжэй падаём факты, здарэнні. Мясцовасці, запісаныя ў расейскіх (часткова ў польскіх) вайсковых рапартах, а таксама з прызнанняў самога Колышкі.

8 красавіка партыя Колышкі наткнулася на ліставую пошту, пры паштовым прыстанку ў Чакішках. Колышка загадаў усю прыватную карэспандэнцыю спаліць, а ўрадавую забраў з сабой, зрэквізаваўшы пры тым брычку і пару коней, на што таксама выдаў квітанцыю. Таго самага дня паўстанцы затрымаліся ў Міхалове (павет Расіенскі) у маёнтку Доўгірда і забралі знойдзеную там зброю і запасы прадуктаў, а таксама раскідалі ўлёткі - маніфест, які абвяшчаў вызвалення сялян ад прыгону.

9 красавіка Колышка выслаў у Гіртакольскую гмінную ўправу, якая знаходзілася паблізу ад Расіен, пяць узброеных людзей, якія знішчылі акты, што там былі. Потым паўстанцы пераправіліся цераз рэчку Дубісу паромам, які пасля пераправы быў пасечаны, а пасля спалены.

Потым паўстанцы перайшлі ў Ковенскі павет, дзе разбілі лагер у лясах, якія належалі генеральшы Кайзеравай каля вёскі Місюны. Было гэта месца вельмі небяспечнае, бо Кайзерава, як і яе мужыкі, была варожа настроеная супраць паўстанцаў.

Аднак жа - сталася. Пра месца пастою партыі Колышкі ўжо наступнага дня данеслі палкоўніку Бежайранаву, камандзіру 1-га стралецкага батальёна, які размяшчаўся ў Шымкайцях. Бежайранаў вырушыў на Місюны. Сутыкненне абодвух войскаў адбылося 11 красавіка.

Пачуўшы трывожны стрэл, Колышка адвёў лагер углыб лесу, выбраўшы 44 стральцоў, загадаў ім заняць пазіцыю на ўскрайку лесу. Пасля гадзіны чакання расейскае войска заатакавала партыю Колышкі, але, прывітанае градам густых стрэлаў, адступіла, а затым расейцы пачалі абхопліваць паўстанцаў з флангаў. Паўстанцкія стральцы, заўважыўшы той манеўр, адступілі ўглыб лесу і пад аслонай густых зарасляў працягвалі страляць, пакуль расейскае войска не пакінула поле бою.

У сутычцы пад Місюнамі паўстанцы панеслі аднак сур'ёзныя страты. Страцілі частку пік, шабель, пісталетаў рознага роду, запасы прадуктаў, а таксама частку папер, забраных у гміннай управе ў Эйраголе. Тут загінуў Тадэвуш Нямчэўскі, вучань Канстанцінаўскай школы падхарунжых, адзін з найбольш актыўных паўстанцаў, які прывёў у аддзел Колышкі найбольш дабраахвотнікаў.

Тадэвуша Нямчэўскага называе расейскі рапарт і ўсе польскія крыніцы. Расейскі рапарт называе яшчэ двух з боку паўстанцаў, прозвішча аднаго не ўстаноўлена, прозвішча другога - Крукоўскі.

Расейцы, паводле расейскага рапарту, страцілі толькі двух, памерлых ад нанесеных ран, затое польскія крыніцы называюць 6 забітых. Колышка ж у сваім рапарце падае, што расейцы страцілі 8-10 забітых і параненых.

Праз пару гадзін пасля бітвы дабраўся да Колышкі аддзел Жджарскага (Жарскага). Паўстанцы дакладна здавалі сабе справу з таго, што расейцы з пераважнай сілай не адступяць ад намеру разбіць партыю Колышкі, таму Колышка зрабіў спробу адступлення за Дубісу.

Пасля перапавы цераз Дубісу паўстанцы спаткалі пасланца, які паінфармаваў Колышку пра планы расейскіх войскаў, і што расейцы намерваюцца атакаваць яго 15 красавіка. Колышка зноў адступіў у лясы, каб адцягнуць увагу непрыяцеля ў выпадку, калі б зноў мусіў перапраўляцца цераз Дубісу. Манёўр удаўся. Расейскія войскі вярнуліся на свае сталыя месцы побыту.

Аднак сітуацыя ў паўстанцаў не была найлепшай. Неўзабаве Колышка зноў атрымаў інфармацыю, што расейскае войска з Кейдан у колькасці 2 рот пяхоты і 1 эскадрона кавалерыі намерваецца выцяць на яго. Колышка прыняў бліскавічнае рашэнне - перайшоў Дубісу амаль на вачах расейскіх салдатаў. Неўзабаве зноў спаткаў пасланца, які парадзіў яму сысці ў Расіенскі павет або схавацца ў Панявежскіх лясах. Колышка

выбраў Панявежскія лясы.

Расейцы наблізіліся да паўстанцкага лагера і такім чынам зрабілі паўстанцам немажлівым дабрацца да Панявежы. У гэтай сітуацыі Колышка перасунуў свой аддзел так, што аказаўся каля дарогі, якая вяла з Расіен на Эйраголу. Дарогу тую Колышка вырашыў перайсці ноччу - хоць бы мусіў прабівацца сілай цераз суцэльныя вайсковыя лагеры.

Вечарам расейскія войскі адышлі да Эйраголы. Колышка скарыстаўся з той магчымасці - перайшоў дарогу і пераправіўся цераз Дубісу. Каб замаскаваць свой адварот, пакінуў малы конны аддзел, які меў ноччу напасці на Эйраголу, устрывожыць расейскае войска, а затым злучыцца з рэштаю аддзела. Хітрасць удалася. Расейцы, даведаўшыся, што частка паўстанцаў пераправілася цераз Дубісу, былі пераканаы, што гэта толькі малы аддзел быў высланы па прадукты. Таму раніцай 15 красавіка асцярожна пайшлі да пакінутага лагера. Пераканаўшыся ў сваёй памылцы, рушылі ў пагоню.

Адзін аддзел, кіруючыся на Бейсаголу, рушых у бок Шаўлёў, другі накіраваўся на Кіманты. Трэці, падумаўшы, што, можа, Колышка рушыў на Панявежу, павярнуў у бок Крокаў.

Колышка, ішоўшы цэлую ноч, аказаўся перад світаннем у Кімантах, і, каб унікнуць набліжаўшайся ў той бок пагоні, пасля паўнадзённага маршу павярнуў на ўсход і перайшоў Шушву. У той час расейскае войска, кіруючыся на Крокі, не асмелілася лезці ў лясы, якія акалялі Лешчу і затрымалася. Колышка мог адпачыць - з таго боку не пагражала небяспека.

Колышка са сваім аддзелам адпачыў суткі ў Крокаўскіх лясах, затым фарсіраваным маршам перайшоў дарогу, якая вяла з Панявежы на Кейданы, пераправіўся цераз Нявежу каля Кейдан і павярнуў на Крамянцішкі, дзе намерваўся злучыцца з аддзелам Зыгмунта Серакоўскага.

Паўстанцы правялі на вельмі цяжкім маршы 3 дні і 4 ночы і 18 красавіка злучыліся з Серакоўскім.

Жаўнеры былі змучаны доўгім маршам, але гэта быў найбольшы аддзел, прыведзены ў лагер Зыгмунта Серакоўскага (быў гэта другі дзень Велікодных святаў).

Гэтае спатканне будзе пазней з энтузіязмам апісана яго сведкамі, якія выжылі.

Праз гады напіша пра гэта жонка Зыгмунта Серакоўскага Апалонія з Далеўскіх Серакоўская:

*“Паводле слоў сведкаў, якія прыбывалі з рапартамі ў Вільню, узрушвальным быў від спаткання тых правадыроў і жменяк моладзі ў глыбокай пушчы, сярод голых, яшчэ бязлістых дрэваў, на зямлі, пакрытай снегам, а месцамі граззю. Радасць біла з вачэй усіх, калі тыя правадыры сталі насупраць адзін аднаго. Колышка сагнуў калена, кладучы зброю да ног Даленгі* (псеўданім Серакоўскага, *заўв. А.А.Б.*) *са словамі прысягі ісці з ім на жыццё або смерць за Айчыну. Гарачыя словы Даленгі, іх сардэчныя, братэрскія абдымкі зэлектрызавалі моладзь, якая з захапленнем віталася, абдымалася.*

*Колышка - вучань Уладзіслава Касоўскага з Кунеа - ведаў Зыгмунта".*



***Зыгмунт Серакоўскі***

Далучэнне аддзела Колышкі замыкала першы этап арганізацыі вялікага згрупавання партызан на Ковеншчыне.

Другі этап, на жаль, трываў коратка. Разам з Серакоўскім Колышка браў удзел у бітвах пад Генетынямі і Каршакішкамі.

Аднак паўстанцы не мелі шчасця. У цяжкай бітве пад Біржамі, калі сілы слаблі, а ксёндз Антоні Мацкевіч са сваім аддзелам не здалеў прыйсці з дапамогай, аб'яднаная партыя паўстанцаў была дашчэнту разбіта.

Баляслаў Колышка і схаваны ў хаце лесніка паранены Зыгмунт Серакоўскі былі ўзяты ў палон, перавезены ў Вільню і прыгавораны да смерці.

**Як сапраўды было з тым арыштам?**

Паводле прызнанняў самога Колышкі перад следчай камісіяй і расійскіх рапартаў было так.

Пасля паразы пад Біржамі Колышка разам з пяццю чалавекамі адышоў у бок пушчы Зялёнкі. Пасля цэланочнага маршу паўстанцы дабраліся да лесу паблізу ад мястэчка Попел. Псіхічна надламаныя паразай, змардаваныя доўгім маршам, заснулі ў пушчы. Тут акружыў іх і ўзяў у палон атрад расейскіх войскаў пад камандаваннем капітана Казакевіча. Паўстанцаў прывезлі ў Попел, адтуль адаслалі ў вёску Дашэйкі, дзе знаходзілася ў той час галоўная кватэра генерала Ганецкага. Потым Колышку адвезлі ў Вільню і там заключылі ў цытадэлі ў гмаху № 14.

Ва ўспамінах жонкі Зыгмунта Серакоўскага, Апалоніі Серакоўскай, абапёртых на словы аднаго з непасрэдных сведкаў арышту, паўстанца Доніча была замацавана ў крыніцах версія дыяметральна адрозная.

*“Апавядаў мне Доніч пасля вяртання з Сібіры, таварыш Колышкі ў момант арышту апошняга. "Пасля бітвы, пасля адходу Зыгмунта ў Скробішкі*

(Зыгмунт Серакоўскі атрымаў у той час сур'ёзныя раны - *заўв. А.А.Б.*), *пасля збору раскіданых аддзелаў, першыя словы Колышкі былі: "Дзе камандзір? Хто яго суправаджае?" Пачуўшы адказ, выгукнуў: "Недарэкі, пагубім яго! За мной - дзесяць чалавек з майго аддзелу. Паспяшым яму на дапамогу! Да бяспечнага месца толькі шэсць гадзін дарогі, перанясём яго лясамі на руках". Наблізіўшыся да Сербанішак, зайшоў Колышка па больш дакладную інфармацыю ў прыдарожную хаціну. Амаль у тую ж хвілю ўскочыла гаспадыня гукаючы: "Уцякайце! Маскалі ідуць!" Некалькі суправаджаўшых Колышку паўстанцаў выскачыла цераз акно ў бок лесу. Калі Колышка намерваўся зрабіць тое ж самае, пачуў ужо каля хаты словы салдата: "Теперь, когда Доленга* (псеўд. Серакоўскага) *пойман...". Колышка ўпаў на лаву са словамі: "Няма ўжо чаго ўцякаць - усё страчана - камандзір узяты!" Салдаты ўварваліся. На пытанне, кім ёсць? - адказаў: "Колышка, якога ад даўна шукаеце".*

А якім чынам арыштавалі Зыгмунта Серакоўскага? Піша яго жонка Апалонія Серакоўская.

*"Раніцай аглядзелі раны паўторна, моцная гарачка яшчэ ўзмацнілася, у канцы Зыгмунт заснуў сном цяжкім, гарачкавым.*

*Недалёка ад Скробішак Юзаф Касцялкоўскі меў роднага брата Ільдэфонса Касцялкоўскага, да яго тры разы пасылалі суправаджаўшых Зыгмунта паўстанцаў па воз і каня, на іхнія ўзмоцненыя ўгаворы жонка Ільдэфонса адказвала рэзкай адмовай. Нарэшце пайшоў сам Юзаф, забраў воз і каня сілай (...) Пасля забрання каня Юзафам жонка Ільдэфонса пайшла да спраўніка Сясіцкага, дзе ў той час знаходзіўся генерал Ганецкі (паводле апісання жонкі Сясіцкага, якраз у хвілю яе прыбыцця піў каву на ганку). Не зважаючы на прысутнасць генерала. Ільдэфонсіха голасна прасіла спраўніка, каб яе не прыцягвалі да адказнасці за ўзяты воз і каня для раненага Даленгі, які ў гэты час знайходзіцца ў Камароўскіх у Скробішках. Ганецкі адышоў, каб арганізаваць неадкладны арышт Даленгі.*

*Колышка пасля арышту быў адпраўлены ў Мядэйкі. Туды таксама адразу пасля арышту ў Скробішках быў прывезены Зыгмунт Серакоўскі. 29 красавіка (10 траўня) ўсе: Зыгмунт Серакоўскі, Баляслаў Колышка і некалькі дзясяткаў арыштаваных разам з імі маладых паўстанцаў, у тым ліку Траскоўскі, Юзаф Касцялкоўскі і Касакоўскі пад моцнай вартай з жандармскім палкоўнікам Собіным экспрэсам прывезены ў Вільню."*




Апісанні арышту ў пазнейшых успамінах сведкаў разняцца таксама - у дэталях і не толькі ў дэталях. Падобна, што Серакоўскім перад арыштам апекаваўся доктар Сатурнін Якубоўскі. Але з іншых крыніц вядома, што Якубоўскі быў у той час таксама цяжка паранены ў бітве пад Мядэйкамі каля Біржоў і ляжаў не ў двары, а ў хаце лесніка ці мужыка і адтуль быў узяты расейцамі і разам з Серакоўскім перавезены ў Вільню. Магчыма, што і Серакоўскі мог быць туды перавезены са Скробішак яшчэ раней сваімі апекунамі (для бяспечнага ўкрыцця, да таго пакуль Ганецкі арганізаваў яго арышт).

Каму верыць?

Пачуццёва - бліжэйшая нам, мабыць тая рамантычная версія: Колышка, зламаны пасля страшнай паразы, на вестку, што Даленгу (Серакоўскага) злавілі, здае сабе дакладна справу, што ўсё страчана, і што, паколькі так нядаўна кляўся свайму любімаму камандзіру ісці з ім на смерць і на жыццё, выбірае дарогу "ісці на смерць" і ганарова здаецца ў рукі расіян. Гэтая версія адпавядала б яго гарачаму маладому тэмпераменту...

Але з прызнання самога Колышкі і з расейскіх вайсковых рапартаў гэты арышт выглядае цалкам іначай.

Мы мусім хутчэй верыць версіі, той, на жаль, празаічнай. Не "літаратурнай", не "фільмовай".

Можа хто калі замахнецца на здымкі пра Колышку ігравога фільма. У іграваым вобразе ўсё можна. Ствары тут яшчэ якую лінію пра яго каханне да дзяўчыны, прыгожай, напрыклад, панны з Карманішак, Бутрыманцаў ці Эйшышак, гарачай патрыёткі (праводзіць яго з букетам белых ружаў, ён ужо на кані, нахіляецца, бярэ, цалуе... Яна яму дае нейкі медальёнчык ці стужку... Аднекуль там далятаюць гукі апошняй мазуркі...).

А так, напраўду, мабыць не меў той хлопец ні адной дзяўчыны, не хапіла яму часу.

Выракам палявога суда Баляслаў Каятан Колышка быў прыгавораны на смерць цераз расстрэл. Мураўёў - Вешальнік кару тую замяніў на больш паніжальную - смерць цераз павешанне. Загад той выканалі 28 траўня (па старым стылі, па новым 9 чэрвеня 1863 г.) у Вільні на Лукішскім пляцы. Колышка ў апошняе імгненне жыцця, калі надзелі яму пастронак на шыю, сам выпхнуў лаўку з-пад ног; шнур парваўся. Вешалі яго два разы. Нават у найбольш варварскіх краінах у падобных выпадках паўторна не вешалі, вінаватаму даравалі жыццё...

Зыгмунт Серакоўскі быў павешаны на тым самым Лукішскім пляцы 16 чэрвеня (27 па новым стылі) 1863 года.

Браты Баляслава таксама ўдзельнічалі ў паўстанні, з якіх побач з Баляславам асабліва праславіўся Фелікс Генрык.

Фелікс нарадзіўся ў 1838 годзе. Пасля заканчэння гімназіі ў Вільні служыў у расейскім войску, ваяваў на Каўказе з горцамі Шаміля. У 1859 годзе па ўласнай просьбе быў пераведзены ў рэзерв у званні маёра. Вярнуўся на Літву. Спачатку пасяліўся ў Кейданах, дзе працаваў на будоўлі адрэзка Вільня-Коўня-

Вярбалава Пецярбуржска-Варшаўскай чыгункі. У 1862 годзе пасяліўся ў Вільні, працаваў на чыгунцы. У адказ на вестку пра выбух паўстання стаў на бок сваіх. Быў адным з найбольш таленавітых камандзіраў паўстання на Літве. Змагаўся ў паўстанцкай партыі, ім жа арганізаванай, у Рудніцкай пушчы, на тэрыторыі Троцкага павету пад Кашадарамі, Алькенікамі, Аранамі; у злучэнні з іншымі партыямі, аддзеламі біўся ў сутычках пад Аўгустовым. Быў у вялікім згрупаванні паўстанчым Яна Судка, Аляксандра Стаброўскага, Аляксандра Парандоўскага. У верасні 1863 года з прычыны хваробы перадаў свой аддзел Мітрафану Кіянскаму і выехаў у Германію, потым у Францыю. Абарочваўся там у польскіх эміграцыйных колах, працаваў у чыгуначнай адміністрацыі. Памёр у Мантане ў Францыі ў 1889 годзе.

***Можа шчасце ўсмешкі мілай,***
***Можа кветку на магілу***
***Нам рыхтуе час.***

Баляславу Колышку ані "мілай усмешкі", ані кветкі ніхто да гэтага часу не паклаў.

Целы Баляслава Колышкі, Зыгмунта Серакоўскага, ксендза Ішоры царскія каты таемна пахавалі па загадзе Мураўёва на Замкавай гары. У тыя часы доступ цывільных людзей быў туды забаронены.

Пра тыя магілы захавалася вусная памяць, таму пасля адступлення расіян з Вільні ў 1915 годзе было пацверджана, што фактычна спачываюць там целы страчаных у 1863 годзе, якія для цяжкасці распазнання былі залíты вапнай па загадзе Мураўёва. Пляцоўка з магіламі герояў у той час была аздоблена клумбай з крыжам пасярэдзіне, выкладзеным з кветак.

Упрыгожана таксама кветкамі месца на Гары Трох Крыжоў, дзе быў пахаваны страчаны таксама на Лукішскім пляцы ксёндз Зямацкі.

У першым "Праваднíку па Вільні", выдадзеным у першым (1919) годзе вызвалення (аднаўлення Польшчай незалежнасці), яго аўтар, дырэктар Віленскага архіва Вацлаў Гізберт-Студніцкі піша, што на Замкавай гары былі пахаваны таксама іншыя браты Баляслава Колышкі.

Якія браты? Ці ўдасца гэта гісторыкам калінебудзь устанавіць. Акрамя Баляслава Каятана і Фелікса Генрыка, былі яшчэ два браты: Ян Вінцэнт (нар.1834) і Ўладзіслаў (1836), найстарэйшы з братоў Колышкаў Браніслаў памёр у дзяцíным узросце.

У зборах Літоўскага дзяржаўнага архіву ў Вільні захоўваецца здымак аднаго з братоў Колышкаў. Безыменны, з подпісам па-расейску: "Брат повешенного". Каторы гэта можа быць з братоў, сёння цяжка ўстанавіць. Здымак знайшоў у архіве віленскі гісторык Чэслаў Малеўскі.

Баляслаў Каятан Колышка быў ахрышчаны ў Бутрыманскім касцёле пв. св. Арханёла Міхаіла 10 кастрычніка 1837 года. Хрышчонымі бацькамі былі: Барталамей Юндзіл, межавы суддзя і Люцыя Сумарок.

16 чэрвеня 2013 года званілі званы за душы с.п. Баляслава Колышкі і ўсіх тамтых Колышкаў з суседніх Карманішак. Ніколі дагэтуль "з той аказіі" званы ў Бутрыманцах не званілі. У тых змрочных часах глуха маўчалі. Можа толькі білі за здароўе такога або такога цара і яго сям'і (Аляксандра II, Аляксандра III).

Касцёл Св. Арханёла Міхаіла ў Бутрыманцах у 150-я ўгодкі студзеньскага паўстання годна ўшанаваў памяць Баляслава Каятана Колышкі. Гэтая прыгожая постаць няўхільна звяртае ўсё большую ўвагу гісторыкаў, пісьменнікаў і іншых творчых асяродкаў. Пра Колышку больш вядома на тэрыторыі даўняга Ковенскага павета, на Жмудзі, чым на яго роднай зямлі - бо там на тым гарачым паўстанцкім абшары вёў баі і замацаваўся ў памяці таварышаў па зброі.

Датошныя гісторыкі вычапяць у архівах выданні з 1863-64 гадоў (расейскія і польскія), дабяруцца да вайсковых рапартаў, да ўспамінаў тых, хто выжыў. Праца гэта сізіфава, а даўжэйшае часаёмкае капанне грунтоўна адаб'е ахвоту нават найцярплíўшаму даследчыку. "Аўтэнтычныя" аповесці занатаваныя факты выразна спрачаюцца між сабой. У архіве, так зв. "Мураўёўскім" у Вільні ёсць прызнанне самога Колышкі, пасля яго арышту складзенае перад мураўёўскай следчай камісіяй пад кіраўніцтвам генерала Веселіева. Але і ім таксама нельга верыць да канца, бо з пэўнасцю ўсёй праўды непрыяцелям не выдаў. На думку тых, якія яго ведалі, "падаў прозвішчы толькі тых, якія загінулі ў паўстанні, з жывых нікога не назваў".

*(Пераклад Станіслава Судніка.)*



***Касцёл Св. Арханёла Міхаіла ў Бутрыманцах***

*Леанід Лаўрэш*

# Царква ў Мураванцы



Маламажэйкаўская Багародзіцкая царква-цвердзь - адна з тых трох культавых пабудоў памежжа XV-XVI ст. (другая і трэцяя - гэта Сынкавіцкі і Супрасльскі храмы-цвердзі), дзякуючы якім Беларусь увайшла ў гісторыю еўрапейскай архітэктуры.

Маламажэйкаўская царква - выбітны помнік пачатку XVI ст. Гэты храм - манументальная мураваная пабудова з круглымі вежамі па вуглах. Вінтавыя лесвіцы ў вежах вядуць да байніц, якія апяразваюць верхнюю частку храма. Царква чатырохстоўпная, аднаапсідная з высокім двухсхільным дахам, які з боку галоўнага фасада прыкрыты фігурным шчыпцам. Апсіда займае ўсю шырыню храма, што стварае інтэр'ер зальнай прасторы. Царква мае своеасаблівую канструкцую перакрыццяў: спляценні гуртоў і нервюр, утвараюць трохкутнікі і ромбы рознага абрысу і велічыні, сістэма гатычных скляпенняў характарызуецца вытанчанасцю і тонкім малюнкам. Вонкавыя сцены, франтон і вежы ўпрыгожаны шматлікімі неглыбокімі нішамі. Круглае акно над уваходам - звычайны прыём для культавых пабудоў раманскай і гатычнай архітэктуры. Яшчэ М. Шчакаціхін заўважыў, што ў характэрнай статычнасці і ўраўнаважанасці архітэктурных формаў царквы адчуваюцца павевы протарэнесансу.

У гэтым артыкуле аўтар неаднаразова будзе звяртацца да клерыкальна-краязнаўчага артыкула а. Льва Савіцкага "Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь" надрукаванага ў № 33, 34, 36, 42 "Литовских Епархиальных Ведомостей" за 1873 г. Трэба адзначыць, што артыкул нясе ў сабе звыклы набор тэзаў "інфармацыйнай вайны", якую расейскі ўрад вёў у тыя часы ў "Северо-Западном крае". Нават макетаванне артыкула ўказвае на вялікую колькасць рэдактарскіх правак на этапе, калі артыкул быў ужо набраны ў друкарні. Тым не менш, не гледзячы на стандартную, асабліва ў той час, канфесійную небесстароннасць, тэкст Савіцкага дае дастатковую інфармацыю для аналізу і аб'ектыўнага разумення адбыўшыхся падзей.

Крытычна аналізуючы артыкул а. Льва Савіцкага з прыцягненнем усіх магчымых крыніц па тэме, аўтар зрабіў спробу з максімальна магчымай падрабязнасцю рэканструяваць гісторыю гэтай знакамітай царквы.

У 1870-х гадах а. Леў Савіцкі пісаў пра сваю царкву: *"Маламажэйкаўская царква знаходзіцца ў Лідскім павеце, за 30-ць вёрст па паштовай дарозе ад Ліды на Гародню. Царква гэтая, з некалі прыналежнымі да яе землямі і некалькімі дварамі пасяленцаў, пад назвай Агароднікі, размешчана на даволі ўзнёслай мясцовасці, якая апускаецца пахіла да невялікага раўчука, маляўнічыя берагі якога аблямоўвае густы хмызняк і высокія дрэвы, творачы значны гай, які як бы наўмысна вырашчаны тут для прыгажосці і для абароны ад заходніх вятроў. Гэтая мясцовасць у старажытнасці вядома пад назвай "Багданаўшчына", тут размешчаны будынкі святара ...(...). Некаторыя асобы, камандзіраваныя ў апошнія гады для агляду славутых помнікаў нашай краіны, не маючы дакументаў і гістарычных дадзеных, не маглі нават спадзявацца, сустрэць ў падобнай глухмені такую выдатную сваёй архітэктурай святыню. Шмат хто думаў, што гэты будынак пабудаваны ў даўнія часы татарамі для мячэці, а потым ужо перароблена на царкву, але ясныя сляды крыжоў, выштукаваныя з цэглы ў вежах з заходняга боку і мясцовыя пісьмовыя помнікі, пераконвалі іх у адваротным"*[1]. Святар разумеў і абарончы характар пабудовы, бо лічыў, што *"загадкавая архітэктура Маламажэйкаўскай царквы мімаволі прымушае думаць, што гэтая царква была не толькі домам малітвы, але і сховішчам ... маёмасці падчас спусташальных войнаў і спалучаных з імі рабункаў"*[2].

### 1. Некаторыя заўвагі пра стыль і архітэктуру храма

З афіцыйным хрышчэннем Літвы ў каталіцтва, ў канцы XIV ст. праз дзейнасць жабрацкіх манаскіх

[1] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 297.

[2] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 297.



***Касцёлы Бернардынаў і Св. Ганны ў Вільні. Фота Тацяны Вароніч, 2013 г.***

тэктурных форм з традыцыйным мясцовым дойлідствам расквітнела цудоўная самабытная беларуская готыка[3].

Ролю Фларэнцкай уніі ў справе адаптацыі еўрапейскага стылю на Беларусі адзначае беларускі гісторык А.А. Семянчук: *"... калі адкрыта прызнаць і паказаць, што ідэі Фларэнцкай царкоўнай уніі ў Вялікім Княстве Літоўскім адыгрывалі значную ролю ў культурна-рэлігійным і палітычным жыцці, то можна вырашыць адразу некалькі загадкавых пытанняў нашай гісторыі. ... Аналіз крыніц і літаратуры дазваляе зразумець, адкуль узяліся, з аднаго боку, цудоўныя гатычныя храмы ў Супраслі, Мураванцы, Сынкавічах, а, з другога, - капліцы з праваслаўнымі роспісамі ў Кракаве, Любліне, Сандаміры"*[4]. Лагічным з'яўляецца меркаванне аб тым, што ўсе храмы беларускай готыкі, пабудаваныя прыблізна ў адзін перыяд, з'яўляюцца вынікам распаўсюджання ідэй Фларэнцкай уніі сярод уплывовай праваслаўнай эліты Вялікага Княства Літоўскага. Нездарма гэтыя саборы з'явіліся на землях, якія ў той ці іншай форме кантраляваліся ўплывовымі асобамі, і якія паставілі

ордэнаў францысканаў і бернардынаў, а таксама ганзейскіх гандляроў ("Фара Вітаўта" ў Коўні, касцёлы св. Мікалая, бернардынаў і св. Ганны ў Вільні) у мастацтва ВКЛ пранікла готыка. Вытокі і сутнасць готыкі - у метадзе мыслення і тэалагічнай дактрыне Сярэднявечча: "Прыгажосць, створаная па імкненні душы мастакоўскімі рукамі, бярэ пачатак ад той прыгажосці, якая вышэй за ўсё" *(Святы Аўгусцін)*. Узаемасувязь паміж мастацтвам, тэалогіяй і філасофіяй была ўвасоблена ў формах французскіх гатычных сабораў, якія ўзніклі адначасова з "саборамі ідэй" - універсітэтамі. Мастацтва архітэктуры было адной з формаў малітвы. Галоўная матывацыя стварэння гатычнай структуры сабора закладзена ў духоўным паняцці святла, бо "Бог ёсць святло". Дзеля "дыялога з Богам" майстры французскай готыкі стварылі нібыта "празрыстыя сцэны" і "балдахінную сістэму скляпенняў", чым дасягнулі ілюзіі нематэрыяльнасці архітэктурных мас. З Францыі гатычны стыль пачаў распаўсюджвацца ў краінах Паўночнай і Цэнтральнай Еўропы. Праз ўзаемадзеянне гатычных архі-



***Прачысценскі сабор у Вільні. Фота Тацяны Вароніч, 2013 г.***

---

[3] Габрусь Тамара. Саборы помняць усё. Готыка і рэнесанс у сакральным дойлідстве Беларусі. Мінск, 2007. С. 148.

[4] Семянчук А. А. Распаўсюджанне ідэй Фларэнцкай уніі ў Вялікім княстве Літоўскім ў канцы XV - пачатку XVI ст. / / Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: зб. навук. арт.: у 2 ч. Ч. 1 / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: С.В. Марозава [і інш.]. - Гродна, 2009. С. 158.

свае подпісы пад лістом да папы Сікста IV ад 14 сакавіка 1476 г. і былі часткай палітычнай эліты ВКЛ[5].

Архітэктар Юлія Шастак заўважыла, што істотным чыннікам фармавання вобразу храма абарончага тыпу, з'яўляецца распаўсюджанне ў хрысціянскім свеце ідэі пра наступленне канца Свету ў 1492 г. ад нараджэння Хрыстова. У чаканні гэтай падзеі знаходзілася ўся Еўропа і ў той час назіраецца агульнаеўрапейская тэндэнцыя да формаўтварэння "Храма-Горада"[6].

На тэрыторыі сучаснай Беларусі першыя мураваныя гатычныя святыні пабудаваны ў XIV ст. (касцёлы Яна Хрысціцеля ва Ўсялюбе, Св. Тройцы ў Ішкалдзі, Усіх Святых у Навагрудку, св. Пятра і Паўла ў Іўі). Тады ж гатычныя стральчатыя аркі і нервюрныя скляпенні з'явіліся таксама і ў замкавым будаўніцтве Беларусі. Трохі пазней, на мяжы XV-XVI стст. элементы готыкі былі адаптаваны будаўнікамі праваслаўных храмаў. Сінтаз са старымі візантыйскімі традыцыямі вызначыў мастацкую адметнасць і ўнікальнасць мясцовай готыкі[7]. Таму ў беларускім манументальным дойлідстве канца XIV-XVI ст. готыка і рэнесанс набылі вельмі адмысловыя "мясцовыя" стылістычныя рысы.

Заснавальнік беларускай школы мастацтвазнаўства Мікола Шчакаціхін лічыў, што калі да XVI ст. мы можам казаць толькі аб готыцы ў Беларусі, рэпрэзентаванай першымі пабудовы нямецкай готыкі ў Вільні, дык пачынаючы з гэтага часу мы можам ужо казаць аб асобнай беларускай готыцы, укладаючы ў гэтае паняцце не толькі тэрытарыяльны, але стылістычны сэнс. Прыкладам чыстай, нямецкай, перанесенай да нас готыкі, з'яўляецца касцёл Св. Ганны ў Вільні[8]. Характэрным для беларускай готыкі з'яўляецца тып царкоўнага будынка, умацаванага з дапамогай вуглавых вежаў, першы такі тып намеціўся ў канструкцыі Віленскага Бернандынскага касцёла. Вялікі, масіўны Бернардынскі касцёл абарончага тыпу, пакідае моцнае ўражанне. Касцёл пабудаваны ў 1475-1480 гг., у 1794-м годзе ён быў амаль разбураны расейскім войскам. У 1864 г. ордэн бернандынаў скасаваны, а будынкі кляштара былі адабраныя пад казармы. Гэты касцёл захаваў свой першапачатковы сярэднявечны, характэрны для касцёлаў-цвердзяў, выгляд. Яшчэ і зараз з паўночнага боку налева ад фасаду відаць шэраг байніц. Абарончую ролю выконвалі і вежы з абодвух бакоў фасаду. Характар цвердзі асабліва выразна відаць з усходняга боку, дзе захаваліся пяцігранныя апсіды і масіўныя контрфорсы. Унутры касцёла асабліва ўражваюць познегатыцкія скляпенні з вельмі разнароднымі структурамі, дзе кожнае скляпенне - новы карунак[9].

Да нашага часу захаваліся цэрквы-цвердзі ў вёсках Сынкавічы, Малое Мажэйкава і ў польскім горадзе Супраслі. Гэтыя тры будынкі вельмі падобныя паміж сабой у канструкцыйных і стылістычных рысах аднак адрозненні ў некаторых дэталях вызначаюць этапы паступовага развіцця стылю беларускай готыкі. М. Шчакаціхін, аналізуючы розніцу паміж імі, давёў, што Міхайлаўская царква ў Сынкавічах была пабудавана раней за Маламажэйкаўскую царкву, прычым у агульных рысах царква ў Сынкавічах мае падабенства да вышэй згаданага Бернандынскага касцёла ў Вільні[10].

У адзін шэраг з зараз існымі цэрквамі-цвердзямі трэба паставіць і Свята-Мікалаеўскую царкву абарончага тыпу ў Берасці, якая існавала ў XIV-XIX стст. на ўніяцкім пляцы акольнага горада (цэнтральным вост-



***Свята-Мікалаеўская царква абарончага тыпу ў Берасці, існавала ў XIV-XIX стст.***

[5] Там жа. С. 160.

[6] Шастак Ю. Культавая мураваная архітэктура Беларусі XV-XVI стагоддзяў у агульнаеўрапейскім кантэксце // Рэжым доступу: http://pawet.net/library/o_atr/150/Шастак Ю. Культавая мураваная архітэктура Беларусі XV-XVI стагоддзяў у агульнаеўрапейскім кантэксце. html. - Дата доступу: 12.08.2013.

[7] Габрусь Тамара. Саборы помняць усё. Готыка і рэнесанс у сакральным дойлідстве Беларусі. Мінск, 2007. С. 149.

[8] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т.1. Менск,1928. С. 221, 229.

[9] Луцкевіч Лявон. Вандроўкі па Вільні. Вільня, 1998. С. 25.

[10] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т.1. Менск,1928. С. 242-243, 249.



***Сафійскі сабор ў Полацку, з малюнкаў XVI-XVIII ст. (паводле М. Ткачова)***

Унутраную прастору храма асвятлялі ўласцівыя готыцы вокны спічастай формы, якія мелі складанапрафіляваныя адхоны. З гравюр бачна, што гэта быў гатычны будынак, які меў франтоны трохвугольнай формы і высокі двухсхільны дах. Царква неаднаразова перабудоўвалася, апошні раз ў 1865-68 гг.[15]

М. Шчакаціхін адзначаў, што калі ў Сынкавіцкай царкве вежы былі яшчэ толькі дадаткам да разбітага па візантыйскай схеме плану царквы, дык у Маламажэйкаўскай царкве вежы ўжо не маюць у плане поўных акружнасцяў, але нібыта ўцягнуты ў вуглы будынка, муры якога беспасрэдна пераходзяць у іх акруглыя корпусы і складаюць з імі агульную архітэктурную масу. Гэтым спосабам дасягаецца больш кампактнае і закончанае адзінства будынка.

раве сучаснай цвердзі). Царква згадваецца ўжо ў 1390 г. пры наданні Берасцю Магдэбургскага права. У гэтай царкве ў 1596 г. была падпісана славутая Берасцейская унія. Сабор не захаваўся да нашага часу, бо быў знесены разам з усім цэнтрам Берасця, каб вызваліць пляцоўку пад будаўніцтва зараз існай цвердзі[11].

Знаны гісторык і археолаг М. Ткачоў не пагаджаўся з канцэпцыяй эвалюцыі беларускай царкоўнай готыкі М. Шчакаціхіна. Ён вызначыў, што ў 1494-1501 гг. старажытны сабор св. Сафіі ў Полацку быў перабудаваны ў абарончы і таму лічыў яго "першым цытадэльным храмам з чатырма наружнымі вежамі"[12]. Але ж археолагі не знайшлі ніякіх рэштк аў “наружных” абарончых вежаў у Полацкай Сафіі. Выбітны беларускі мастацтвазнаўца Тамара Габрусь лічыць, падмуркі вежаў не знойдзены, "таму што тут абарончыя вежы не былі ўзведзенымі ад падмуркаў, як меркаваў М. Ткачоў і іншыя, а надбудаваны над квадратнымі ў плане вуглавымі кампартыментамі старажытнага Сафійскага сабора. Менавіта тут і такім чынам адбыўся пераломны момант у фармаванні новага тыпу чатырохвежавых праваслаўных цэркваў-цвердзяў, шляхам творчага знітавання рэгулярнай схемы замкавага будаўніцтва з візантыйска-рускім тыпам крыжова-купальнага храма"[13].

Яшчэ а. Леў Савіцкі знаходзіў "падабенства з ... старажытным Прачысценскім Мітрапалітальным саборам у Вільні, які відаць па ўсяму служыў для будаўнікоў Маламажэйкаўскай царквы прататыпам, храмастваральнік нават прысвяціў яго імю Прачыстай Багародзіцы"[14]. Першапачаткова гэта была крыжовакупальная 3-апсідная пабудова з 4-мя вежамі па вуглах.




***План Маламажэйкаўскай царквы***

[11] Лаўроўская І.Б. Памяць. Брэст. т. І. Мінск. Белта. 1998. // Рэжым доступу: http://www.radzima.org/be/brest/5913.html. - Дата доступу: 13.08.2013.

[12] Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі ХШ-XVШ стст. Мінск, 1978. С. 127.

[13] Габрусь Тамара. Саборы помняць усё. Готыка і рэнесанс у сакральным дойлідстве Беларусі. Мінск, 2007. С. 49.

[14] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 298-299.

[15] Аляксандр Кушнярэвіч. Віленскі Прачысценскі сабор // Вялікае Княства Літоўскае. Энцыклапедыя. Том 1. Мінск., 2005. С. 433.

Другая істотная розніца палягае ў форме алтарнай часткі. У Сынкавіцкай царкве, не гледзячы на гатычны характар канструкцыі, яшчэ выкарыстана візантыйская схема плана царквы: падзел асноўнай прасторы на тры нефы і падзел алтарнай часткі на тры паасобныя апсіды. У Маламажэйкаўскай царкве ўнутраная прастора таксама падзелена на тры нефы, прычым падабенства да візантыйскіх крыніц тут нават павялічваецца прысутнасцю хораў звычайнага царкоўнага тыпу. Аднак як і ў Сынкаваічах, слупы якія дзеляць унутраны аб'ём, трымаюць не візантыйскую канструкцыю перакрыццяў, а складаныя познегатычныя скляпенні. У Маламажэйкаўскай царкве падзел будынка на тры прадоўжныя нефы ўжо страціў сваю канструкцыйную выразнасць з-за адсутнасці паасобных апсід па канцах гэтых нефаў і адсутнасці падзелу адзінага вялікага алтара. У цяперашні час алтар ад царквы аддзяляе ўнутраны мур, у якім зроблены тры традыцыйныя пралёты, але мур гэты - пазнейшая дабудова: спачатку алтар раскрываўся ў царкву адной вялікай паўцыркульнай аркай, сляды якой былі бачны там, дзе яна замуравана пазнейшай дабудоўкай. Такім чынам, візантыйскі характар алтарнай часткі тут ужо страчаны і формай сваёй яна ўжо набліжаецца да раманскіх ці ранне-гатычных апсід. У параўнанні з Сынкавіцкай царквой, Маламажэйкаўская царква як бы робіць яшчэ адзін крок у готыку. Узмацненне элементаў готыкі ў Маламажэйкаўскай царкве выяўляецца ў яе ўнутранай канструкцыі. Будынак пакрываюць вельмі складаныя зорчатыя скляпенні з рэзка прафіляванымі нервюрамі, якія ў некаторых месцах пераходзяць у так званыя крышталёвыя скляпенні - там дзе нервюрны касцяк ужо зліваецца ў распалубкамі перакрыцця. Нервюры густымі пучкамі зыходзяцца да цэнтральных слупоў, а з супрацьлеглага боку абапіраюцца на муры, якія не маюць контрфорсаў з надворнага боку. Уся гэтая сістэма ў параўнанні з Сынкавіцкай царквой з яе звычайнымі крыжовымі скляпеннямі, з'яўляецца значна больш прасунутай у прыёмах гатычнага будаўніцтва[16]. Прытым у архітэктуры Маламажэйкаўскага храма прысутнічаюць адначасова некаторыя формы і дэталі не толькі гатычнага, але і раманскага стылю. Нішы на франтонах, круглыя вежы - абавязковыя атрыбуты раманскай архітэктуры, стральчатыя аркі аконных праёмаў, зорнае скляпенне ў і высокі двухсхільны дах з вострым франтонам - характэрныя элементы готыкі.

За асновы для дэкарацыі тут, як у Сынкавіцкай царкве, узяты прыём апрацоўкі паверхні мұроў з дапамогай дэкаратыўных ніш, прычым, такую апрацоўку атрымалі не толькі франтоны, але і фасады, да таго ж форма ніш і сістэма іх размяшчэння былі зменены[17]. Фасады Маламажэйкаўскай царквы насычаны дэкаратыўнымі элементамі. Нішамі ўпрыгожаны не толькі сцены, але і вежы, апсіда. Усё збудаванне ахоплівае дэкаратыўны паясок - рад цэглы, пакладзенай над вуглом. Спалучэнне цёмна-чырвонага фону сцяны з белымі паясамі і нішамі надае храму асаблівае харaство і таму яго фасады не выклікаюць уражання суровасці і велічнасці[18].

Абарончы тып царквы выяўляецца ў вежах, у досыць значным ліку байніц і ў адмысловай прыладах для аховы ўваходных дзвярэй - падвесных жалезных кратаў на ланцугах, зараз ужо знішчаных. Аднак архітэктура Маламажэйкаўскай царквы адышла ад суровага ўзору Сынкавіцкай царквы, беларускае дойлідства стварыла тут значна болей лёгкую і аздобленую пабудову, дзе абаронная аснова засланілася незалежнай ад яе апрацоўкай надворных форм, дзе нават баявыя вежы служаць не толькі для абароны, але і маюць эстэтычнае значэнне. Першапачаткова, вежы былі аднолькавай вышыні, што падкрэслівала гарманічную статыку кампазіцыі. Тым не менш па функцыянальным прызначэнні вежы розняцца паміж сабою. Заходнія вежы ў дыяметры большыя за ўсходнія, у іх размешчаны мураваныя кручаныя ўсходы. Яны прыкрывалі адзіны ўваход у святыню, таму мелі больш развітую сістэму байніц (5 ярусаў). Вітыя ўсходы ва ўсходніх вежах былі драўляныя і колькасць байніц меншая (4 ярусы)[19].

**2. Пачатак гісторыі царквы, XVI ст.**

Паспрабуем прасачыць гісторыю Маламажэйкаўскай царквы і мясцовасці, дзе яна знаходзіцца.

Яшчэ ў XV ст. па ўсёй тэрыторыі гістарычнай Лідчыны цягнулася вялікакняская пушча. У часы Вітаўта тут яшчэ не было сталага насельніцтва і менавіта гэты Вялікі князь пачаў надзяляць баяраў землямі, а надаць ім ён мог толькі лясы і рэкі. Гэтая маёмасць каштавала не шмат бо гаспадар павінен быў карчаваць лес і вось так праз выкарчоўку лесу і занянцце новых пусташаў рухалася каланізацыя Лідчыны[20].

Да 1506 г. Мажэйкава было вялікакняскай маёмасцю, першы вядомы ўспамін пра гаспадара Мажэйкава разам з суседнімі Дзікушкамі (Бікушкамі) знойдзены пакуль толькі ў 8-м томе Метрыкі ВКЛ: *"1506.09.02. Мельник. Лист наместнику жолудокскому о пожаловании Михаилу Гагину двора Можейковского и дворца Бийкушского Жолудокского повета, до очищения имений его путивльских и киевских от неприятеля"*[21]. Міхаіл Гагін у 1508 г. пад час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ здрадзіў і перайшоў на

[16] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т.1. Менск,1928. С. 254-256.

[17] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т.1. Менск,1928. С. 257-258.

[18] Трацэўскі У.В. Цэрквы-крэпасці ў Сынковічах і Малым Мажэйкаве. Гістарычна-архітэктурны нарыс. Мінск, 1989. С. 12-13.

[19] Габрусь Тамара. Саборы помняць усё. Готыка і рэнесанс у сакральным дойлідстве Беларусі. Мінск, 2007. С. 67.

[20] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. Ze studiow nad ksztaltowaniem sie i rozanicowaniem spolecznym bojarstwa litewskiego // SZ. Warszawa, Poznan, 1959. T. IV. S. 96.

[21] Lietuvos metrika. Knyga Nr. 8 (1499 - 1514). Нац. бібл. РБ: 1БА91074К. - Реестр актов и записей: №177, С. 175. // Рэжым доступу: http://starbel.narod.ru/metrika/rgada100.htm. - Дата доступу: 13.08.2013.

бок вялікага князя маскоўскага Васіля III, таму Мажэйкава перадаецца Льву Тышкевічу: *"1508.05.26. Новогрудок. Привилей дворянину господарскому Льву Тишкевичу на дворцы Можейково и Бикушки в Жолудокском повете, до очищения его отчины от вел. кн. московского"*[22].

Праз палову года ад Тышкевіча маёмасць перадаецца князю Васілю Андрэевічу Палубенскаму: *"1508.12.14. Вильно. Лист дворянину господарскому Льву Тишкевичу, чтобы уступил ему пожалованные дворцы Можейково и Бикушки Жолудокского повета Василью Андреевичу Полубенскому, которому были пожалованы ранее"*[23]. Льву Тышкевічу засталіся Дзікушкі. Князь Палубенскі за зносіны са здраднікам Міхалам Глінскім быў арыштаваны, але потым памілаваны і ў 1514 г. зноў атрымаў пацвярджэнне на валоданне Мажэйкавам[24].

Кароль і Вялілі князь ВКЛ Аляксандр 27.01. 1505 г. пацвярджае будучаму фундатару пабудовы Маламажэйкаўскай царквы Шымку Мацкавічу права на валоданне зямлёй у Жалудоцкім павеце і *"на дворец на Тури близко Рожанки"*. З пацверджання бачна, што яшчэ бацька Шымкі - Мацка Андрушкавіч атрымаў пустэчу якая звалася Трашэўшчына ў Жалудоцкім павеце і потым, з дазволу Вялікага князя, абмяняў сваю зямлю з баярамі васілішскімі і жалудоцкімі і прыкупіў поле з лесам у баярына Багдана Пацэвіча і *"дворец ихъ на Тури близко Рожанки обел вечно..."*[25]. 1508.08.27 Шымка Мацкавіч атрымлівае 2 чалавекі і 4 пусташы ў Жалудоцкім павеце[26], у 1509 г. - прывілей на людзей і на двор на рацэ Тур'я[27].

У 1514 г. кароль пісаў намесніку Жалудоцкаму: *"Біў нам чалом падконюшы Віленскі Шымка Мацкавіч і распавёў перад намі, што лоўчы наш, намеснік Ожскі і Пераломскі, пан Міколай Юр'евіч Пацевіч, калі ад нас Жалудок трымаў, даў яму зямельку на пусташы ... ў Жалудоцкім павеце пад назвай Мажэйкаўшчына ..., а ён тую зямлю ў дзержанні меў аж да гэтага часу, і сам пан Мікалай нам распавёў што тую зямлю даў трымаць яму да нашай волі, і ён біў чалом, каб яму на тое далі наш ліст. I мы яму на тое наш ліст даём: няхай ён тую зямлю трымае з усім тым, што да яе здаўна належыць, а нам з таго службу земскую заступае ..."*[28]. Такім чынам, яшчэ да 1514 г. Шымка Мацкавіч атрымаў пустэчу ў яшчэ адзіным Мажэйкаве. Потым частка Мацкевіча атрымала назву Малое Мажэйкава. Як пісалася вышэй, у тым жа 1514 г. князь Палубенскі атрымаў пацверджанне сваіх правоў на двор Мажэйкава ў Жалудоцкім павеце і, відочна, ягонай часткай стала будучае Вялікае Мажэйкава.

Другім шлюбам, пасля смерці сваёй першай жонкі князёўны Аксінні Заслаўскай, князь Васіль Андрэевіч Палубенскі, Мсціслаўскі, Бабруйскі і Барысаўскі стараста і дзяржаўны маршалак у вельмі пажылым узросце ажаніўся з ўдавой Шымкі Мацкевіча (цівуна і гараднічага Віленскага, старасты Ушпольскага, Пенянскага і Радунскага) - Сафіяй Паўлаўнай. Верагодна, яна, як пасаг, прынесла Малое Мажэйкава другому мужу. Бо ў 1546 г. ён адпісвае жонцы адну траціну сваіх уладанняў, 2000 коп літоўскіх грошаў ад сядзібы Мажэйкава, і адначасова сваймy сыну князю Івану траціну ўсіх сваіх маёнткаў, за выключэннем Мажэйкава (раней ужо адпісанага жонцы Сафіі Паўлаўне). Апошнюю траціну сваіх уладанняў Васіль Андрэевіч Палубенскі адпісваў, як пасаг, для сваёй унучкі Марыны, дачкі яго сына Льва, якая засталася сіратой пасля смерці бацькі. Князь Васіль Андрэевіч Палубенскі памёр 4-га сакавіка 1550 г. у сядзібе Гарадзішча. Удава перавезла яго цела ў Кіеў і пахавала ў Кіева-Пячэрскай Лаўры, у царкве Прачыстай Багародзіцы Пячэрскай, каля ягонага сына Льва.

У 1563-м годзе, Марына, дачка памерлага князя Льва Васільевіча Палубенскага і жонка Станіслава Паўлавіча Нарушэвіча (спраўцы староства Гарадзенскага) сумесна з мужам выступае з заявай, што маёнтак Мажэйкава быў падараваны каралём Аляксандрам *"яе дзеду князю Васілю Андрэевічу Палубенскаму, старасце Мсціслаўскаму"*, апошні, аўдавеўшы, узяў шлюб з Сафіяй Паўлаўнай, удавой Шымкі Мацкевіча ..., якой адпісаў гэты маёнтак *"у вечнае карыстанне"*. Яна ж сама *"перапісала"* гэты маёнтак на свайго сына Яна Шымкавіча (маршалка і пісара гаспадарскага (вялікакняскага), дзяржаўца Тыкоцінскага). Паколькі ў 1563 г. Марына была адзінай спадчынніцай свайго дзеда Васіля, бацькі Льва і дзядзькі Івана, усе свае правы на маёнтак Мажэйкаў яна перадала Шымкавічу, які ўжо і так меў на гэты маёнтак каралеўскае пацверджанне. У сваю чаргу Шымкавіч упісаў сядзібу Мажэйкава ў так званы "пасаг" сваёй жонкі, князёўны Аляксандры Іванаўны Вішнявецкай[29].

---

[22] Lietuvos metrika. Knyga Nr. 8 (1499 - 1514). Нац. библ. РБ: 1БА91074К. - Реестр актов и записей: №315, С. 257. // Рэжым доступу: http://starbel.narod.ru/metrika/rgada100.htm. - Дата доступу: 13.08.2013.

[23] Lietuvos metrika. Knyga Nr. 8 (1499 - 1514). Нац. библ. РБ: 1БА91074К. - Реестр актов и записей: №379, С. 287. // Рэжым доступу: http://starbel.narod.ru/metrika/rgada100.htm. - Дата доступу: 13.08.2013.

[24] Энцыклапэдыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1994, Т.2, С. 423.

[25] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494-1506): U?ra?ym? knyga 6 / Lietuvos istorijos institutas; pareng? A. Baliulis. Vilnius, 2007. C. 308.

[26] Lietuvos metrika. Knyga Nr. 8 (1499 - 1514). Нац. библ. РБ: 1БА91074К. - Реестр актов и записей: №355, С. 277. // Рэжым доступу: http://starbel.narod.ru/metrika/rgada100.htm. - Дата доступу: 13.08.2013.

[27] Lietuvos metrika. Knyga Nr. 8 (1499 - 1514). Нац. библ. РБ: 1БА91074К. - Реестр актов и записей: №488, С. 319. // Рэжым доступу: http://starbel.narod.ru/metrika/rgada100.htm. - Дата доступу: 13.08.2013.

[28] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута: Исторические очерки. М., 1892. С. 602.

[29] Князья Полубинские. Сборник исторических материалов по истории рода (составитель: Дмитрий Георгиевич Карпинский). // Рэжым доступу: http://www.wikiznanie.ru/ru-wz/index.php/Полубинские. - Дата доступу: 13.08.2013.

**2.1. Заўвагі да пытання аб датаванні пабудовы царквы**

Да нашага часу існуюць розныя меркаванні пра дату пабудовы Маламажэйкаўскай царквы. Найбольш верагодным фундатарам пабудовы муракванай царквы лічыцца Шымка Мацкавіч, аб чым, дарэчы запісана ў актах візітацыі, напрыклад у візітацыі 1784 г.: *"Мажэйкаўская царква пад тытулам нараджэння Панны Марыі, даўнейшай фундацыі васпанства Мацкевічаў Шлёнскіх"*[30], але існуе меркаванне, што фундатарам царквы мог быў князь Васіль Палубенскі, які ў 1508 г. атрымаў ад вялікага князя двор Мажэйкава[31].

"Главная опись церковного имущества Маломажейковской Рождественно-Богородичной церкви Лидского уезда", складзеная ў 1860-х гг. пачынаецца са словаў: *"Царква пабудавана на сродкі абшарніка Шымкі Мацкавіча Юндзілавіча Шклёнскага ў 1542 г."*[32]. Старэйшай болей, чым на 100 гадоў царкву "зрабіў" а. Леў Савіцкі сваім артыкулам надрукаваным у 1873 г. Пасля яго даследчыкі час пабудовы царквы адносілі да 1407 году (траўня 10 дня), у доказ прыводзіўся больш позні, ад 1524 г. дакумент які падае ў сваім артыкуле а. Леў Савіцкі: *"... отец Федосий Воротынский, протопоп Лидский, до книг метрополитальныхъ въ дворы нашемъ, в Новогрудку будучи, покладалъ, и ку актыкованью подалъ листъ ограничный церкви Маломожейковской Мурованной, грунтов, лесов, сеножатей, самого седлиска и прочих принадлежностей, сходно стародавнаго фундушу учиненнаго чрезъ зошлого его милости пана Шимка Мацкевича Шкленскаго, подконюшего Виленского, державцы Ушпольскаго, Пенянскаго и Радунскаго, наданыхъ и належачихъ на туюжъ церковь Мурованную, в повете Лидском лежачую и им побудаваную, року 1407 мая 10 дня"*[33]. На сённяшні дзень верыфікаваць гэты дакумент не ўяўляецца магчымым, і ён выклікае вялікі сумнеў, бо ў 1407 г. Шымкі Мацкавіча яшчэ не было на свеце, а ў 1542 г. ён зрабіў тастамант на карысць Маламажэйкаўскай царквы, якая да таго часу ўжо была пабудавана. Можна выказаць здагадку, што перапісваючы старую паперу святар памыліўся пры распазнанні асобных слоў і такім чынам змяніў першасны сэнс дакумента. Аднак менавіта на падставе гэтага тэксту, у 1907 г. святкавалася меркаванае 500-годдзе царквы, і ў Вільні была надрукавана адмысловая брашура[34].

Зараз лічыцца, што сучасная мураваная царква пабудавана каля 1524 г. Гісторык Ю. Ядкоўскі, які па даручэнні Маскоўскага археалагічнага таварыства даследаваў Маламажэйкаўскую царкву ў 1913 г., датаваў яе першай паловай XVI ст. З ім быў згодны беларускі мастацтвазнаўца М.М. Шчакаціхін. Спецыяліст па абароннаму будаўніцтву на Беларусі ў XVI-XVIII ст. М.А. Ткачоў таксама датаваў храм першай паловай XVI ст. - паміж 1516 і 1542 г.[35]

На карысць больш позняга за 1407 г. будаўніцтва Маламажэйкаўскай царквы ўскосна сведчыць яе архітэктура. Названыя храмы абарончага тыпу ў Вільні, Супраслі, Сынкавічах і Малым Мажэйкаве, на думку беларускіх і польскіх вучоных, пабудаваны прыблізна ў адзін перыяд (звычайна называецца памежжа XV-XVI ст. або пачатак XVI ст.).

Храмы абарончага тыпу, па меркаванні шэрагу даследчыкаў той эпохі, з'яўляюцца вынікам і праявай распаўсюджвання ідэй Фларэнцкай уніі 1439 г. сярод уплывовай праваслаўнай эліты Вялікага Княства Літоўскага[36]. Гэтыя храмы першыя ў гісторыі праваслаўнага культавага будаўніцтва ў Беларусі спалучылі ў сабе рысы візантыйскага тыпу і заходнееўрапейскай готыкі, што стала магчымым дзякуючы жывучасці ў ВКЛ традыцый уніі 1439 г.

Аднак аб тым, што царква пабудавана ў XV ст., як быццам сведчаць знаходкі падчас рэканструкцыі 1870 г.: *"Пры расчыстцы месца ўсярэдзіне царквы было адкапана мноства вялікіх камянёў, пад якімі былі сляды мёртвых целаў, на некаторых камянях былі пазначаны, ледзь прыкметна славянскімі літарамі, гады ад стварэння свету, так на адным атрымалася разабраць год ад Н. Хр. 1469 г. і надпіс: Хрыстоў раб Іерей Авраамъ. Гэты камень быў пакінуты на месцы"*[37]. Такім чынам пад храмам не перанесеныя пад час будоўлі асобныя надмагіллі, а саўпраўдныя магілы з захаваўшыміся надмагіллямі.

Артыкул Савіцкага змяшчае інфармацыю, якая дазваляе вырашыць пытанне датоўкі пабудовы царквы. Святар піша: *"Як абвяшчае паданне і бачныя зараз сляды падмурка, на пляцы каля царквы фундатары пабудавалі манастыр, ... верагодна драўляны, і ўжо трухлявы ў 1524 г."*[38]. Такім чынам, яшчэ ў XIX ст. каля сучаснай царквы існавалі падмуркі старой сакральнай пабудовы і захоўвалася народная памяць пра яе. Істотна, што ў Метрыцы ВКЛ таксама ёсць успамін пра царкву - папярэдніцу сучаснай: 5 снежня 1528 г. Шымка Мацкавіч скардзіўся на Васілішскага і Мар-

---

[30] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага Дэканата. 1784 г. С. 42.

[31] Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII-XVI ст. Мінск, 1993. С. 73-74.

[32] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 8. Спр. 1443. С. 1.

[33] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 297.

[34] Гл: Маломожейковская "Мурованная" церковь. На память о 500-летии каменной церкви Рождества Пречистой Богоматери в селе Маломожейков, Лидского уез., Виленской губ. 13 мая 1907 г. Издание Виленского Православного Св.-Духовск. Братства. Вильна. 1907.

[35] Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII-XVI ст. Мінск, 1993. С. 75.

[36] Семянчук А. А. Распаўсюджанне ідэй Фларэнцкай уніі ў Вялікім княстве Літоўскім ў канцу XV - пачатку XVI ст. // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: зб. навук. арт.: у 2 ч. Ч. 1 / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: С.В. Марозава [і інш.]. Гродна, 2009. С. 162.

[37] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №36-1873. С. 322.

[38] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №34-1873. С. 306.

каўскага дзяржаўцу Яна Мікалаевіча Радзівіловіча (Радзівіла), бо той пачаў забіраць сабе тое, *"што давалі людзі на капліцу Вітаўтаву"*[39]. Вядома, што Мажэйкава ўваходзіла ў Троцкае ваяводства[40], спадчынным уладаром якога быў Вітаўт, і знаходзілася зусім недалёка ад старажытнага шляху з Вільні ў Кракаў, і таму з'яўленне тут "капліцы Вітаўта" не павінна здзіўляць.

Відавочна, сучасны мураваны храм - другі па ліку, а першым тут быў пабудаваны драўляны храм. Таму дапушчальна прыняць за дату пабудовы першага драўлянага храма год які дае а. Леў Савіцкі - 1407 г.[41] Гэта цалкам магчыма, бо напрыклад, суседняя, Дзікушская драўляная царква у 1442 г. ужо існавала[42].

Такім чынам сучасная гатычная царква абарончага тыпу, верагодна, была пабудавана каля старой драўлянай капліцы Вітаўта, падмуркі якой і памяць пра яе існаванне захаваліся да другой паловы XIX ст., ды і сама яна доўгі час магла стаяць побач з мураванай царквой. Пры гэтым некалькі пахаванняў з могілак, якія раней узніклі вакол капліцы Вітаўта, трапілі ў перыметр сучаснай царквы, і гэта захавала для нас імя аднаго з першых мажэйкаўскіх святароў - іерэя Аўраама.

Мы маем падставы лічыць што Маламажэйкаўскі прыход быў заснаваны на пачатку XV ст. разам з капліцай Вітаўта, такім чынам датаванне пабудовы мураванай царквы ў першай палове XVI ст. не выклікае ніякіх пярэчанняў.

### 3. Гісторыя царквы, XVI стагоддзе

Калятар[43] Шымка Мацкавіч Шклёнскі ў 1524 г. надзяляе царкву дзясятай капой ад жыта, ячменю і пшаніцы з свайго маёнтка Мажэйкава[44], дакументы 1542 і 1554 гадоў, пацвярджаюць гэтае наданне, а ў дакуменце ад 10 траўня 1547 г. калятар піша: *"Дали есмы тые добра къ непрерываемой хвале Божой на вечные часы, якъ мы склоняючися къ побожности Христианской того хочечи, абы хвала Божая въ той церкви не переставала, а больше примножаная зостала"*[45].

Дакумент 1529 г. падрабязна апісвае ўсе ўчасткі царкоўнай зямлі перададзеныя ад Шымкі Мацкавіча. Бачна, што царкоўная зямля знаходзілася ў 13 урочышчах, на якіх штогод засявалася 25 бочак жыта і збіралася 300 вазоў сена. Акрамя таго, святару з маёнткаў Малога і Вялікага Мажэйкава давалася дзесяціна жыта, пшаніцы, ячменю, і чалавек, як царкоўная прыслуга пры святары[46]. З гэтых 13-ці ўрочышчаў царкоўнай зямлі, некаторыя нават у XIX ст. мелі ранейшыя назвы, іншыя ж пад уплывам часу страцілі іх. Межы гэтых урочышчаў падрабязна апісаны ў дакументах дарогамі, камянямі, ракой, лесам і вёскамі якія належалі царкве[47]. Дарэчы ў вернікаў гэтай царквы было старажытнае паданне якое пераходзіла ад дзядоў да ўнукаў, аб тым, што падчас надзялення зямлёй царквы, быў сабраны ўвесь прыход разам з малагадовымі

[39] Сліўкін В. Малое Мажэйкава // Лідскі летапісец №25-26. С. 41.

[40] ЭГБ. ... Т.2, С.423.

[41] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 297.

[42] Лаўрэш Л. Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне. Полацк, 2012. С. 44.

[43] Калятар - асоба, якая ўнесла сродкі на пабудову царквы, касцёла і мае адпаведнае права адносна яе.

[44] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 297.

[45] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 298.

[46] Дакумент 1542 г.: *"Во имя Божие станьсе. Я Шимко Мацкевич ознаймую всему посполъству теперешнему и на потом будущему, кому бы то ведати належало, ижъ надаю на церковь Божую Мурованую, въ повете Лидскомъ лежачую Можейковскую, съ имения моего Можейкова Великаго збожа моего дворного отъ жита, ячменя и пшеницы десятую копу записываю, тожъ съ будынками, съ полемъ и сеножатью, которое поле на пять бочекъ, и тоже поле Нечиковщина, котораго поля на три бочки; который кольвекъ въ той церкви священникъ будетъ, повиненъ за мое здоровье и за моихъ прирожоныхъ въ четвергъ молебенъ Св. Николаю пети, ни въ чемъ ни выступаючи съ того моего постановленья, а священникъ, который коли кольвекъ будетъ у тое церкви, маетъ мети съ тое десятины ко службе на тые дни ладанъ и просфоры. А по смерти моей, жена моя и дети мои, если ихъ мети буду, такъ тежъ и ближніе мои и хтожъ кольвекъ въ предыдущій векъ тое именіе мое Можейковъ великій держати будетъ, съ того постановенья моего ни въ чемъ не выступаючи, маютъ вечне тую десятину на тое церкви давать, такъ тожъ и жена моя и дети мои маютъ дати человека на службу Андрейа Василькевича съ детьми его на тую церковь вышереченную. А хто бы порушилъ той мой запись, што я записалъ ко пречистой Божіей Матери, той со мною разсудится на суде предъ Богомъ. Писанъ въ Можейкове, лета отъ воплошенія сына Божія 1542 года"* - цыт. па ЛЕВ №33-1873. С. 299.

[47] У дакументу вызначаюцца межы царкоўных земляў: *"Напередъ церковь Божая вымураваная, подъ именем Рождества Пресв. Богородицы, стоит на грунте названном Богдановскимъ, где и седиба священника. При той церкви съ давных часовъ Огородниковъ мешкаетъ седмь, у которых домовъ вольно священникови Можейковскому давати на шинкъ, пиво, медъ и вино, за которыми то домами, до кола седибы священника грунтъ однимъ бокомъ граничитъ съ грунтомъ фольварку Скрыбовскаго "Дырдовщизна" названного, а др. боком одъ нивы переходитъ через дорогу, также грунту фольваркового клином, который идет по дорозе идучей съ Скрыбовщизны до Оленковцевъ, третьимъ бокомъ одъ Дудовщины недалеко фольварку Скрыбовского. Другая нива до той церкви належачая "Колита" называемая; третья нива, называемая Дедовщина, съ сеножатью мурожною до той церкви належачая; четвертая нива, прозываемая Рожство, до которой сеножать належитъ, Дворцы званная, отъ дороги идучей до Вильны ажъ до самой церкви; пятая нива Грабовешкъ (и теперь принадлежит церкви); шестая нива, въ которой полъ волоки старой меры, называемая Новиковская; седьмая нива за селомъ Скрыбовцами, Лихиповщина званая (тоже принадлежит теперь церкви); восьмая - за селомъ Скрыбовцами Иванковская; девятая - Флоры называемая, за селом Русановцами; десятая - Бартошиха званая, съ сеножатью на 80 возовъ мурожного сена; нива знову сеножать. Понтусовщина прозываемая на 30 возов; нива въ селе Русановцахъ, уволока*

дзеткамі. Па загаду ўладальніка-калятара дзяцей лупілі розгамі на месцах межавых знакаў, пры гэтым ім было запаведана: памятаць межы царкоўнай зямлі і паказваць іх сваім дзецям, унукам і праўнукам[48].

Кароль Жыгімонт 1542.05.12 піша: *"Пан Шимъко Мацкевичъ, будучи самъ у форобе, за которою не могъ у нас быти"*[49]. Пасля смерці Шымкі Мацкавіча яго жонка ў 1559 г. дала на службу ў царкву чалавека па прозвішчу Васількевіч. Гэтаму Васількевічу ў вёсцы Навасадах была выдзелена валока зямлі і сенажаць, пры канцы дакумента аб наданні, калятарка запісала, што калі б яе нашчадкі ці хто іншы, валодаючы Мажэйкавым *"вздумалъ когда либо въ будущем причинить кривду церкви, таковаго злочинцу, священникъ воленъ позвать на суд, а я съ мужемъ моимъ таковаго на второе пришествие Христово позываю (Писано в Можейкове Великом с подписями трех свидетелей)"*. Акрамя таго царква карысталася правам *"дарового млива на р. Лебеди безъ черги"*, бясплатным перавозам праз раку не толькі святара, але і яго прыслугі. Выпісы XVI ст. з кніг "духовных справ вечистых" паказваюць і іншыя палёгкі для царквы, а менавіта: вольны выпас на прасторы ад сяла Русанаўцаў да млына на р. Лебяда і рыбная лоўля на гэтай жа рацэ[50].

Пасля смерці Яна Шымкавіча Мажэйкава было падзелена паміж яго дочкамі (або пляменніцамі): Альжбетай (Гальшскай) - жонкай падскарбія ВКЛ Крыштафа Мікалаевіча Нарушэвіча і Багданай - жонкай мсціслаўскага ваяводы Андрэя Сапегі. Нарушэвічы атрымалі Малое Мажэйкава, а Сапегі - Вялікае[51]. Як бачым з імёнаў, ужо сын Шымкі Мацкавіча - Ян, як і ўнучкі, дакладна не былі праваслаўнымі. Таму ў дакуменце 1598 г., які дзяліў маёнтак, фундатары пацвердзілі недатыкальнасць царкоўнай маёмасці і выказалі жаданне, каб царква заставалася ў сваім усходнім абрадзе. Справа ў тым, што гэты час адзначыўся моцным уздымам пратэстанцызму, і вялікая частка шляхты стала пратэстантамі. Напрыклад, з-за адсутнасці вернікаў зачыніўся Лідскі Фарны касцёл, а суседнія Ваверскі і Дылеўскі касцёлы на некаторы час сталі пратэстанскімі зборамі. Таму фундатары запісалі: *"... въ той церкви иншое набоженство не маетъ быть уживано, одно на што есть уфундовано старожитное веры светобливое хрестианское, закону хрестианского, а который бы зъ насъ инакшое набоженство въ тую церковъ внести хотелъ, тотъ одъ подаванья тое церкве и одъ грунтовъ"* адхіляецца[52]. Зразумела, што калятары-католікі стараліся захаваць грэка-каталіцкую царкву і не дапусціць яе пераходу ў пратэстанцтва разам з прыхаджанамі.

Савіцкі пісаў, што ў выпісе з кніг мітрапалітальных Кіеўскіх за 1648 г. захаваўся дакумент 1529 г., з прыпіскі да якога, між іншым, бачна што "благочестивые" святары, не пажадаўшыя падпарадкавацца ўніяцкім царкоўным уладам, сышлі і ўзялі з сабой усе паперы і дакументы, якія датычылі царквы і яе фундуша.

Па-першае, відочна, што 1529 г. гэта апіска, бо агульнавядома, што унія існуе з 1596 г., магчыма аўтар хацеў напісаць 1599 г.

Па-другое, уніяцкія святары ў 1648 г. назвалі б праваслаўных святароў "схізматамі" ці "дызунітамі" а не "благочестивыми отцами".

Па-трэцяе, з артыкула бачна, што ад першага згадвання ў 1524 г. і да сярэдзіны XVII ст., усе святары Маламажэйкаўскай царквы былі з роду Варатынскіх, што не дзівіць, бо ў тыя часы было нормай калі святар-бацька перадаваў сваё месца сыну а сам дажываў пры ім. Таму верагоднасць сыходу святара-бацькі ад сына "ў белы свет" выклікае вялікае сумненне.

Тым не менш нейкі інцыдэнт, можа, і адбыўся, бо менавіта ў тыя часы пры невядомых абставінах адбылася страта каштоўных царкоўных дакументаў. Менавіта ў сувязі са стратай дакументаў, пратапоп (дэкан) Лідскі, новы парах[53] Маламажэйкаўскай царквы Фядосі Варатынскі, як і належала ў такім выпадку, прасіў мясцовыя улады: *"Івана Завішу, падкаморага Лідскага, і Андрэя Іванавіча Сапегу, старасту Аршанскага, дзяржаўцу Аранскага, яшчэ раз размежаваць зямлю, сенажаці, пашы і аддаць у вечнае валоданне згаданаму Варатынскаму, зацвердзіць гэта сваім подпісам і подпісам рукі рэвізора Івана Праствіловіча і возната Яго Каралеўскай Міласці Каспера Асіпавіча"*[54].

Але, падобна на тое, што адразу пасля Берасцейскай царкоўнай уніі, прыход захоўваў належнае падпарадкаванне свайму законнаму грэка-каталіцкаму кіраўніцтву.

Вось усё, што вядома пра царкву ў першае стагоддзе яе існавання.

### 4. Гісторыя царквы, XVII стагоддзе

У 1616 г. Вялікае Мажэйкава купіў Віленскі ваявода Януш Скумін-Тышкевіч. Пасля яго смерці ў

---

*земли съ сеножатью старой меры, съ давнихъ часовъ до церкви Божой належачая, на которой уволоцы двухъ подданыхъ мешкаетъ; один Адам Думайко съ женою и детьми; другой Иван Заяц также съ женою и детьми, которыхъ приналежитость есть священникова на письме данная. А тая волока въ своихъ границахъ, межахъ съ вековъ ненарушимая, которое ограничене, верно списавши, подписываю. Деялося въ Малымъ Можейкове року 1529 Мая 26 дня. Кроме сего фундуша, церковь наделена была еще десятиною и землею на 8 бочек посева"* - цыт. па ЛЕВ №33-1873. С. 299-300.

[48] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 299.

[49] Метрыка ВКЛ. Кніга 28 (1522-1552 гг.). Мінск, 2000. С. 138.

[50] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 300.

[51] ЭГБ. ... Т.2, С. 423.

[52] Маломожейковская "Мурованная" церковь. Вильна. 1907. С. 9-10.

[53] Парах - святар які мае паўнаважанні стала кіраваць парфіяй (прыходам).

[54] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 299.

1642 г. маёнткам валодала ягоная дачка Яўгенія Кацярына, потым яе сын Бэлзскі ваявода князь Дзмітры Вішнявецкі, які прадаў маёнтак падканцлеру ВКЛ Аляксандру Нарушэвічу (†1668), уладальніку суседняга Малога Мажэйкава[55]. Каля 1660 г. падканцлер ВКЛ Аляксандр Нарушэвіч запісаў Малы Мажэйкаў разам з фальваркамі Дзікушкі і Лебёдка, якія потым уваходзілі ў аб'яднаны Вялікамажэйкаўскі двор, сваёй жонцы Тадоры Аляксандры з Сапегаў (дачцэ Паўла Яна Сапегі, гетмана ВКЛ)[56]. Пасля смерці А. Нарушэвіча маёмасцю валодала яго ўдава Тадора Аляксандра, а калі яна памерла ў 1678 г., маёнтак дастаўся яе дачцэ Марыяне Тэклі (жонка абознага ВКЛ Юрыя Караля Хадкевіча), яна прынесла гэтую маёмасць Хадкевічам[57].

Адносна спакойныя XVI - першая палова XVII ст. і шчодрыя калятары забяспечвалі нябеднае існаванне царквы. Грунтуючыся на дакументах, а. Леў Савіцкі піша, што дабрадзеямі Маламажэйкаўскай царквы спачатку быў род Мацкевічаў (Шымкавічаў) з роду Юндзілівічаў Шклёнскіх, потым Андрэй Сапега, жанаты на дачцы Яна Шымкавіча (сына Шымкі Мацкевіча), і Ян Завіша, клопатам якіх зроблена падрабязнае размежаванне ранейшых царкоўных земляў і выклапатаны ў караля Жыгімонта III-га за подпісам канцлера Льва Сапегі ад 28 жніўня 1612 г. прывілей на вечнае валоданне царкоўнымі землямі і розныя палёгкі. Тыя ж правы за царквой былі прызнаны князем Саламарэцкім, падкаморыем Пінскім, потым Іванам Нарымунтам, пісарам ВКЛ, і князямі Агінскімі, гетманамі ВКЛ. Аднак пасля Агінскіх вялікая частка фундушу была забрана Маламажэйкаўскім дваром[58]. Да XIX ст. не захаваліся дакументы, з якіх было б бачна, што царкве надаваліся новыя фундушы. Наадварот, дакумент 1636 г. паказвае, што некаторыя ўчасткі царкоўнай зямлі былі ў руках свецкіх асоб, на што жаліўся пераемнік святара а. Лаўрына Варатынскага а. Фёдар (па іншых дакументах Фядосі) Варатынскі мітрапаліту Руцкому. Мітрапаліт выдаў адкрыты ліст на права патрабаваць праз суд вяртанне ўсіх ранейшых надзелаў[59].

Усе дакументы першага стагоддзя існавання храма, якія захоўваліся ў царкве, расказвалі пра царкоўныя надзелы, але маўчалі аб падзеях з жыцця прыходу. Ад моманту пабудовы першай царквы, да паловы XVII ст. зрэдку згадваюцца святары з роду Варатынскіх, якія служылі пры гэтай царкве[60], і, як пісалася вышэй, толькі са знойдзенага надмагілля мы ведаем пра іерэя Аўрама які памёр ў 1469 г. Тым не менш, вядома, што аўтарытэт святароў Маламажэйкаўскай царквы з роду Варатынскіх і вялікія фундушы царквы забяспечвалі за Фядосіем Варатынскім чын пратапопа (потым гэты чын называўся дэканам), г.зн. ён быў галоўнай духоўнай асобай сярод грэка-католікаў Лідскага павета[61].

Пачынаючы з паловы XVII ст. нам вядомы прозвішчы ўсіх святароў, якія служылі тут.

Знішчальнай навальніцай пракаціліся па нашым краі ваенныя падзеі 1654-1667 г. У 1655 г. рускія войскі спустошылі Ліду і яе ваколіцы. Відочна гэта былі самыя цяжкія ў гісторыі царквы часы - царкоўныя дакументы паказвалі, што храм неаднаразова падвяргаўся спусташэнням ад расейскіх войск і казакоў. Пасля паразы войска ВКЛ пад Слонімам у 1656 г. расейцамі быў спалены будынак плябаніі[62] а святар Федар (ці Федосі) Варатынскі быў закатаваны "от людей царя Московского". Расейскія войскі з'явіліся ў ваколіцах Мажэйкава ўжо пасля захопу Вільні 8 жніўня 1655 г., бо пра вялікую небяспеку параха Варатынскага папярэдзіў манах-базыльянін Раман Рожыц, якім сам уцякаў з разрабаванай і спаленай сталіцы ў Быценскі манастыр, а потым у Пінск, дзе ён раней быў парахам. Базыльянін па дарозе заехаў у Маламажэйкаўскую плябанію і распавёў аб падзеях ў краі, ён раіў хаваць самую каштоўную царкоўную маёмасць у базыліянскіх манастырах. Не вядома, ці паслухаў Варатынскі манаха, але наступствам рабункаў расейцамі, сталася поўнае зглаленне царквы. Засталіся толькі некаторыя ўніяцкія формы святарскіх рыз, тры срэбныя грубапазалочаныя чашы з прыборамі (па сведчаннях дзячка Філона Варатынскага адна з чаш была закладзена Фядосіем Варатынскім нейкаму Гладавіцкаму, бо святар меў патрэбу ў грашах, каб выплаціць падаткі для вядзенне вайны з Масквой у памеры 10 коп літоўскіх грошаў), срэбны пазалочаны крыж і вельмі старажытнае рукапіснае Евангелле ў багатай вокладцы з пяццю

---

[55] ЭГБ. ... Т.2, С. 423.

[56] Aftanazy R. Dzieje rezydencji T. 4. Wroclaw, 1993. S. 228.

[57] ЭГБ. ... Т.2, С. 423.

[58] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №34-1873. С. 306.

[59] Вельямін Руцкі, мітрапаліт Кіеўскі, на просьбу Фядосія Варатынскага піша: *"Ознаймуемъ тымъ листомъ нашимъ каждому, кому о том ведати будетъ належало, ижъ дошла до насъ ведомость отъ честнаго отца Федосія Воротынского, пресвитера Можейковскаго, же грунты по смерти зошлого отца Лаврентия Воротынского, пресвитера Можейковскаго, отъ давнихъ часовъ, презъ ружныхъ фундаторовъ на церковь Рожественскую Можейковскую наданые, въ ружные руки особъ светскихъ зашлы, которые и теперь въ чужыхъ рукахъ не ведытъ якъ суть въ уживаню. Мы, архиепископъ, почуваючися въ повинности удару нашего пастырского зверхного и стараючися отзыскать тые добра церковныя абы въ рукахъ светскихъ не были, каждаго таковогo добра церковные держачаго отдаляемо и честному отцу Федосіеви Воротынскому, пресвитеру Можейковскому, въ дозоръ и забудоване и спокойное уживане поручаемъ и доходиты тыхъ добръ, если бы якіе отошли, приказуемъ отзыскати подъ святымъ послушенствомъ, якобы тыя добра въ рукахъ людей светских не были, и на то даем сей нашъ листъ съ печатью и съ подписомъ руки нашое. Иван Веліаминъ архіепископъ. Писанъ въ Новогородку року 1636, мца Октября 19 дня. Рафаилъ, архидиаконъ"* - цыт. па ЛЕВ №33-1873. С. 299-300.

[60] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 300.

[61] Маломожейковская "Мурованная" церковь. Вильна. 1907. С. 10.

[62] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 300.

срэбнымі абразкамі па краях. Дзячок пісаў, што іншыя набажэнсцкія кнігі былі падабраны ім па палях пасля ад'езду казакоў, але яны ўсе былі папсаваныя, напрыклад Апостал не меў пачатку і канца, знайшліся толькі чатыры кнігі Міней і г.д. Найкаштоўнейшае рукапіснае евангелле захоўвалася ў царкве ажно да 1864 г. У акце візіты царквы ад 1784 г. гэта кніга апісваецца так: *"Евангелле напрастольнае рукапіснае, у аксаміт апраўленае, на якім таблічак пяць срэбных пазалачоных, з другога боку puklow*[63] *4 пазалочаных"*[64]. Пра далейшы лёс гэтай сапраўднай святыні беларускага народа, а. Леў Савіцкі у 1873 г. пісаў: *"Гэтае евангелле ўзята ў 1864 г. 23 кастрычніка, святаром Лідскай царквы К. для Археаграфічнай Камісіі ў Вільні, дзе зараз і знаходзіцца. Шануючы важнасць такога помніка старажытнасці, я прасіў у свой час пра вяртанне Евангелля ў Маламажэйкаўскую царкву, на што мне было сказана, што былы начальнік краю, граф Мураўёў, заўважыўшы старажытнасць Евангелля, абяцаў зрабіць срэбна-пазалочаныківот для яго захоўвання на прыстоле Маламажэйкаўскай царквы, для якой яно каштоўны помнік яшчэ і таму, што на адной са старонак яго ёсць запісы царкоўных надзелаў і іншыя нататкі пра царкву. Але і дагэтуль няма ні ківота, ні евангелля"*[65]. Савіцкі не пажадаў наўпрост сказаць, хто пазбавіў нас гэтага Евангелля, але для чалавека, які ведае гісторыю, зразумела, што *"святар Лідскай царквы К."* гэта, у той час, памочнік Лідскага дабрачыннага (хутка сам стане дабрачынным) Іосіф Каяловіч (брат заснавальніка так званай "заходне-рускай" плыні ў гістарычнай навуцы М. Каяловіча), святар, які ў той час яшчэ толькі пачынаў рабіць сваю кар'еру[66].

Прыкладна ў 1656 г. царква была перададзена параху а. Раману Рожыцу, які прасіў уніяцкіх епіскапаў пра афіцыйнае замацаванне праз каралеўскія прывілеі правоў на ранейшыя царкоўныя фундушы і палёгкі[67].

Хутка пасля бызыльяніна Рожыца царкоўным парахам стаў святар а. Фёдар Гладкевіч. Верагодна, прызначаны біскупам манах Рожыц не задавальняў калятара царквы. Святар а. Фёдар Гладкевіч паходзіў са шляхты. На падставе прывілея караля Жыгімонта Аўгуста ён, праз Лідскі гродскі суд, вярнуў раней страчаныя царквой землі. Каралеўскія прывілеі мелі вялікую вагу для ўладальнікаў Вялікага і Малога Мажэйкава, яны не парушалі каралеўскую волю, не забіралі царкоўныя землі і плацілі царкве належную дзесяціну. У сваю чаргу, за нададзеныя царкве фундушы, святары павінны былі праводзіць ў храме адмысловыя набажэнствы па чацвяргах і паніхіды па суботах Па меркаванні Савіцкага, спрыяльны зыход судовай справы ў Лідскім гродскім судзе стаўся прычынай, чаму ўсе самыя важныя царкоўныя дакументы, прывілеі і пацверджанні князёў беззваротна зніклі з царкоўнага архіва.

У 1870-я гады яшчэ заставаліся паперы 1656 і 1660 гг., з якіх мы і даведваемся пра стан царквы і яе маёмасці і пра склад яе прыходу. Ніжэй прыводзіцца фрагмент дакумента 1660 г., які быў складзены пры ўводзе новага параха Гладкевіча ў кіраванне прыходам, пры гэтым мерапрыемстве прысутнічалі свецкія ўлады, калятары і г.д., рабіўся вопіс царквы. Фрагмент гэтага найкаштоўнейшага дакумента падаецца ў тым выглядзе, па-старабеларуску, як яго надрукаваў Савіцкі[68]:

*"Року тысяча шестьсотъ шестьдесятого Мца Мая 5 дня. З воли и росказаня ясне вельможнаго, а въ Богу найпревелебнейшаго, его милости отца Гавріила Коленды, Митрополита целой Руси, Пана и Пастыря намъ вельце милостиваго, зъехавши до Можейкова Малого, подали церковь и плебанію з грунтами, сеножатьми, зарослями зо всими до тоей церкви здавна належачими приналежностями честному отцу Федору Гладкевичу, которая церковь и плебанія таксе въ соби маетъ. Самая церковъ мурованая, маючая въ соби двери железныя совсимъ, окон десять зъ гратами также железными. Церковь Божая Деисусемъ писнымъ преоздобленная. На великомъ олтару, венерабиле, в пущце оцыновой цыборіум стоитъ, на тымъ же олтарю антымесъ подважный, тепеперышняго архипастыря и тувален две, литоновъ три, антыпедыя крашаненовая небесная и образковъ московскихъ въ бляшки оправныхъ четыре, целихъ сребный съ патыною и з звездою и лыжыцею суто злоцистый, другій - цыновый. На другимъ олтарю передъ пресв. Богородицею тувален три, и антыпедыя зеленаго гарусу старая; на образе патерекъ простыхъ шнуровъ десять и кораль два шнуры; на третьем олтарю перед Спасителем тувален две и обрусъ третій, антыпедыя зеленаго гарусу также старая, а др. кармазыновая едвабная ситковой работы; ризъ трое, одны аксамиту фиолетоваго съ петрахилемъ и наракввицами, другій адамашку кармазыноваго съ петрохилемъ и нараквицами, третий жалобны аксамиту взористаго съ петрахилемъ и нараквицами и четвертый барзо старый - едвабный; стихаровъ два съ гоморалами, пасковъ два, покровцевъ до келиха три, одинъ накладаный червленымъ золотомъ, гафтованый и мерлами саженый, др. жалобный тогоже аксамиту, що риза, третій мухояровый белый гафтованый и два барзо старые, паръ три до келиха; мирница циновая; фигура Пана Езуса дужая сницерской работы, звонов два ... . Книги звычайныя давныя, зеленая оправа потребуе новой ... на которой таблице сребныхъ позлоцистых пять и кляузуров две и пуклевъ на др. стороне пять сребныхъ; потребныхъ*

[63] Падстаўка-ножка на ніжняй дошцы абкладкі кнігі.

[64] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага Дэканата. 1784 г. С. 45.

[65] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №34-1873. С. 306.

[66] Пра І. Каяловіча гл. Протаіярэй Іосіф Каяловіч // Лідскі летапісец № 1-2 (45-46)-2009. С. 23.

[67] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 300.

[68] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №34-1873. С. 306.

*псалтыровъ, четыя минеи, октай, которыя книги до церкви належатъ маютъ вечными часы. Плебанія - изба белая съ комороюю, сенями, напротив пекарня хворостомъ окрыта, одрына, такъ же хлевы хворостяные съ подрубомъ дерева. Грунту шаховницъ великихъ и малыхъ 24, а волока въ Русановцах подъ подданными, другая волока съ Великаго Можейкова наданая въ парафіи тойже церкви въ с. Новосадахъ, там же подъ гаемъ дубовымъ грунту шаховницъ 4, сеножать на возовъ шесть, которые грунты и сеножате особливое свое маютъ ограниченіе. Парафія тоей церкви: Оленковцы, Ковали, Огородники великае, Зеневцы, Церковцы, Скрыбовцы, Новосады, Гордеевцы, Шпильки, Бешанки, Гостиловцы, Огородники малые, Русановцы, Кярели, Овтушки, Костеневъ, Великое Село, Красное Село, Свириды, Коробки, Лемошовцы, Нарчи, Боярское Село, Козлы, Русановцы Костеневскіе, Волчинки, Зеневичи Глиничи, Губичи и Лазовцы, которую то церковь съ грунтами, сеножатями, с парафиею з давна до тоей церкви належачею честному отцу Гладкевичу в моцъ, в держане и счастливое уживанье подавши при печати моей подписуюсе. Въ Можейкове року и дня звышъ писаного. Павелъ Краскевичъ протопоп Новгородский, пресвитер Лидский"*[69].

Звяртаюць на сябе ўвагу словы "образковъ московскихъ въ бляшки оправныхъ четыре". Так называліся рэчы праваслаўнага паходжання, "маскоўскія" рэчы купляліся і прывозіліся з Маскоўскай дзяржавы ці, што малаверагодна, былі падараваны прадстаўнікамі новых часовых расійскіх уладаў у часе вайны[70]. Так сама цікава, што задоўга да Замойскага сабора 1720 г., Маламажэйкаўская царква ўжо абсталявана па-ўніяцку, так як звыкла абсталёўваліся цэрквы ў другой палове XVIII ст. Відочна, што з'мены ў царкоўных інтэр'ерах ішлі "знізу", а Замойскі сабор толькі зацвердзіў звыклыя да таго часу рэчы.

### 5. Гісторыя царквы, XVIII стагоддзе

Ад пачатку XVIII ст. на нашых землях Швецыя і Расія вялі паміж сабой Паўночную вайну. Пад час гэтай чужой для нас вайны, Беларусь страціла трэцюю частку насельніцтва. Абодва бакі прымянялі на нашай тэрыторыі так званую тактыку "выпаленай зямлі". Загінула ў баях, ад гвалту, голаду, эпідэмій каля мільёна чалавек. Праз паўстагоддзе пасля страшэннай вайны сярэдзіны XVII ст. наш край зноў напаткала разруха гаспадаркі, зноў зараслі кустоўем палі, абязлюдзелі гарады і мястэчкі, зноў галеча апанавала вёску.

Карл XII, ваюючы з рускімі войскамі, 10 лютага 1706 г. стаў на зімовыя кватэры ў мястэчку Жалудок і загадаў шведскаму генералу Штэнбоку недалёка адгэтуль, каля вёскі Орля, будаваць мост цераз Нёман[71]. На паўночнай сцяне Маламажэйкаўскай царквы аж да рамонту ў 1870-х гадах існавалі выбоіны. Народная памяць захавала падданне пра тое, што шведы падчас стаянкі лагерам Карла XII у Жалудку абстрэльвалі царкву з гармат бо з-за свайго высокага даху царква была добра бачная адтуль[72]. З гэтых часоў да першай паловы XIX ст. царква грунтоўна не рамантавалася. Відочна цяжкія для Рэчы Паспалітай часы яе падзелаў не дазвалялі сканцэнтраваць для гэтага неабходныя рэсурсы.

З канца XVII ст. Мажэйкавам валодалі Хадкевічы: Ян Кароль (1686-1712), потым сын Адам Тадэвуш (1711-1745), берасцейскі ваявода, які быў жанаты з Евай Чапскай (†1769) і жыў у Вялікім Мажэйкаве, потым Ян Мікалай (1738-1781), Жмудскі кашталян, які ў Мажэйкаве не жыў[73]. Верагодна, з канца XVIII ст. Хадкевічы пачалі распрадваць сваю Мажэйкаўскую маёмасць, бо ўжо ў акце візіты Маламажэйкаўскай царквы ад 1784 г. Кастравіцкія з'яўляліся яе калятарамі (як мінімум з 1773 г.)[74]. Сям'і Кастравіцкіх у той час акрамя Малога Мажэйкава, належалі так званыя "ключы" Паперня (разам з фальваркамі і лясамі 3 000 га), Вавёрка (6 000 га), Кавалі (3000 га) і Касцянёў (3750 га), усяго разам каля 17 000 га. Аднак, дастаткова хутка Кастравіцкія, частка якіх жыла ў Вене, пачалі распрадаваць сваю маёмасць. Гэты род знаходзіўся ў сваяцтве з Апалінарам Кастравіцкім - дзедам знакамітага французкага паэта Гіёма Апалінэра[75].

Неабходна некалькі слоў сказаць пра філіяльную царкву ў Воўчынках, якая з сярэдзіны XVII ст. была прыпісана да Маламажэйкаўская царквы і знаходзілася на землях абшарніка Паплаўскага. Філіяльная царква таксама мела свае фудушовыя землі (3 валокі). Першапачаткова царква была прыходскай, з актаў візітацый бачна, што яна была драўлянай, але атынкаваная знутры, крытая гонтай, з адным купалам, з царкоўных рэчыў мела чашу з усім прыборам і абраз Божай Маці ў срэбнай рызе[76]. Савіцкаму яшчэ давялося убачыць гэтую царкву, ён пісаў, што яна была драўлянай і вельмі трухлявай, мела ўжо саламяны дах, каля яе былі таксама трухлявыя гаспадарчыя будынкі у якіх жыў арандатар абшарніка, ён апрацоўваў былую царкоўную зямлю. Калі закрылася Ваўчынкаўская царква, невядома, але Савіцкі піша, што гэта закрыццё адбылося пасля з'яўлення драўлянага базыльянскага манастыра з мураванай царквой у Васілішках, і, нібыта, менавіта бызыльяне прычыніліся да закрыцця філіяльнай царквы і адабрання фундушовых земляў. Але

[69] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №34-1873. С. 307.

[70] Візіты ўніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага сабораў 1680-1682 гг.: Зб. дак-таў / Склад. Д.В. Лісейчыкаў. Мінск, 2009. С. 24.

[71] Корева А. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Виленская губерния. СПБ., 1861. С. 738.

[72] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 299.

[73] Aftanazy R. Dzieje rezydencji T. 4. Wroclaw, 1993. S. 229.

[74] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага Дэканата. 1784 г. С. 43.

[75] Aftanazy R. Dzieje rezydencji T. 4. Wroclaw, 1993. S. 163.

[76] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №36-1873. С. 322.



***Старажытны абраз Багамаці Ваўчынкаўскай, уратаванай а. Львом. Малюнак з кнігі "Маломожейковская "Мурованная" церковь". Вільня. 1907.***

гэта цалкам немагчыма, бо базыльянскага манастыра ў Васілішках ніколі не было, а сам факт пераказу Савіцкім гэтай легенды ў якасці рэальнай гісторыі, чарговы раз прымушае крытычна ставіцца да яго інфармацыі і ўжываць яе толькі пасля ўважлівага аналізу.

Канонік Паплаўскі, калятар царквы ў Воўчынках, у 1751 г. прасіў святара Маламажэйкаўскай царквы Сасіновіча прыняць да сябе гэтую царкву на правах філіі, а за адпраўленне ў ёй набажэнстваў прызначыў гадавую плату ў 40 рублёў у пераводзе на грошы сярэдзіны XIX ст. Гэтыя грошы атрымлівалі Маламажэйкаўскія святары яшчэ пры параху Яну Плаўскім, які служыў у Воўчынках па суботах. Аднак *"царква, тры гады назад, невядома чаму і па чыім дазволе, прададзена за самы нікчэмны кошт яўрэям на лазню і перавезена ў м. Васілішкі. Цвінтар царкоўны стаўся могілкамі для вёсак, якія належалі некалі да гэтай капліцы: Воўчынак, Зяневіч, Глініч, Губіч і Лазоўцаў"*[77].

### 5.1. Царква ў актах візітацый XVIII ст.

З актаў візітаў часоў Афанасевіча бачна, што будынак царквы быў ў дрэнным стане: *"Крыта дахоўкай, якая ўжо папсаваная, цвінтар не агароджаны, на цвінтары званіца на 4-х слупах з крытым гонтай дахам, дзе адзін звон вагой ў 2,5 камяні*[78]*, другі 29 фунтаў".* Яшчэ існавалі жалезныя дзверы-герсы на уваходзе з *"прабоямі, клямкай ланцуговай і навясным замком".* Так сама *"ў вежы з абодвух бакоў драўляныя дзверы на жалезных завесах з прабоямі і зашчэпкамі. Чацвёртыя дзверы, якія вядуць на хоры, на жалезных завесах, з зашчэпкамі і прабоямі. Скляпенні знутры мураваныя, на слупах з цэглы пасярэдзіне, зруйнаваныя, пасярэдзіне царквы склеп. Вокнаў 10 папсаваных і пабітых з жалезнымі кратамі, амбон пафарбаваны, стары, лавак 3, канфесіяналы сталярскай работы, брамкі для ўладкавання Труны Панскай фарбаваныя".*

Пасля агульнага апісання стану царквы, акт візіты пераходзіць да апісання алтароў, якіх у царкве было тры.

Вялікі алтар з абразам Найсвяцейшай Панны, на ім дзве срэбныя кароны і чатыры шнуркі з бісерам і белая фіранка. Прыстол мураваны, пафарбаваны ў чорны колер, на ім даразахавальніца сталярнай работы. Прыстол на два ўзроўні. *"У верхнім узроўні Манстрацыя, у ніжнім Пушка*[79] *срэбная з навершам і крыжыкам, у добрым стане, дзе Захоўваюцца Святыя Дары".* Далей па тэксту ідзе падрабязнае апісанне алтара. За алтаром знаходзяцца два сталы, накрытыя абрусамі, адзін - для апранання святара, а на другім ляжыць яго вопратка.

Бакавы алтар сталярнай работы, стары, пафарбаваны ў чорны колер з абразом Нараджэння Панны Марыі, на абразе дзве срэбныя кароны.

Другі бакавы алтар таксама стары і сталярнай работы з абразом Святога Юрыя, на якім срэбная карона.

Іншыя малыя алтары "з абразамі" не апісваюцца, паколькі зусім не прыдатныя для выкарыстання і таму вартыя знішчэння"[80].

Савіцкі цытуе, верагодна, больш ранні акт візітацыі, з якога бачна, што ў храме была *"трэцяя выява Пятра і Паўла з каронамі срэбнымі, чацвёртая выява Святога Юрыя ..., пятая выява Бязгрэшнага Зачацця, шостая выява Дабраслаўёнага Язафата"*[81].

Акт візітаў падрабязна апісваюць царкоўнае начынне, і трэба адзначыць што царква мела шмат каштоўных і якасных рэчаў, напрыклад: срэбная Манстрацыя з падвойнымі пазалочанымі праменямі і "Мельхіседэкам, які промысел Божы выказвае", два старасвецкія срэбраныя келіхі і дыскасы, пазалочаныя знутры і звонку, срэбная, пазалочаная знутры даразахавальніца, срэбная пазалочаная лыжачка, 15 таблічак і срэбная вялікая ватыва на Манстрацыі, "як сведчыць рэверсал[82], нададзеныя ў дар ад яснаяльможных Кастравіцкіх, калятараў", і г.д.

Царква мела наступныя кнігі. Старажытнае, "у

[77] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №42-1873. С. 369-370.

[78] Старая адзінка вагі. Назва паходзіць ад каменнага жорна, 12,96 кг.

[79] Puszka, Bursa, Monstracya. - адмысловыя дараносіцы, спецыяльны посуд для Святых Дароў, якую выкарыстоўваюць для перанясення запасных Святых Дароў, каб здзейсніць Сакрамант сабаравання цяжкахворым.

[80] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага і Дэканата. 1792 г. С. 25.

[81] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №34-1873. С. 307.

[82] Кніга, у якую заносяцца распіскі ахвярадаўцаў.

аксаміт апраўленае", напрастольнае рукапіснае Евангелле, пра якое пісалася вышэй. Мшал ін-фоліо[83] *"віленскага друку, стары, патрабуе рэпарацыі, мшалаў лацінскіх два, адзін ін-фоліо новы, 2-гі ін-актава*[84] *стары, метрыкі хрышчэння, шлюбаў і смерці, а таксама і рэестр парафіі разам з табелем насельніцтва"*.

Царква мела сваіх падданых.

Першыя падданыя - Сымон і Павел Насеннікі, родныя браты, разам з жонкамі, і сын Сымона - Стэфан 9 гадоў. Браты мелі 3 дачкі.

Сымон і Павел Насеннікі жылі у *"добрай хаце з каморай і сенямі крытай саломай"*. Мелі хлеў, гумно, адрыну. Усе гэтыя пабудовы былі з хросту[85] і крытыя саломай. Некаторыя пабудовы былі купленыя праз Маламажэйкаўскага параха сярэдзіны XVIII ст. Канцевіча, а потым былі аплачаны падданымі.

Браты мелі пару валоў, дзве каровы, 6 авечак і 9 свіней.

Яны апрацоўвалі тры палі на наваколлі: першае поле пад Рубоўнікамі, *"пачынаецца ад дарогі, якая ідзе да Аленкаўцаў, заканчваецца да зямлі Скрыбаўскай паміж зямлі Русанаўскай з абодвух бакоў. Другое поле за Хвойнікам пачынаецца ад дарогі Аленкаўскай, заканчваецца ля мяжы зямлі Русанаўскай і паміж землямі Русанаўскімі. Трэцяе поле, названае Прудзец, пачынаецца ад дарогі, якая ідзе да царквы, а заканчваецца ля мяжы двара, адным бокам ад зямлі Русанаўскай, а другім (бокам) да зямлі Скрыбаўскай, Сенажаць у Луках на 5 вазоў сена, пад ракой на Карчы на 4 вазы сена, на задвор'і на адзін воз сена"* [86].

Другі падданы - Даніла Насеннік *"удавец, з-за галечы валацуга"*, меў сыноў Лукаша (23 гады), Стэфана (16 гадоў), Міхала (8 гадоў). Даніла з сям'ёй жыў у *"новай хаце, з каморай, сені старыя, хлеў з хросту, гумно з хросту, гэтыя усе будынкі стараннямі цяперашняга Параха пабудаваныя, адрамантаваныя, зямля падданага ў тым жа самым месцы і межах, як у першага, таксама і сенажаць у адным месцы"*.

Павіннасці падданых. Мужчына (адпрацоўваюць паншчыну - *Л.Л.*) 3 дні на тыдзень. Жанчына 3 дні, а ад восеньскага Св. Юрыя аж да вясенняга Св. Юрыя па 4 дні і выплачваюць падымны падатак.

Каля царквы, у *"хаце з каморай і сенямі"* жыў панамар. Меў хлеў з хросту і драўлянае гумно на двух сохах. *"Усё пабудавана панамаром, а часткова вялебным Парахам. Усё крыта саломай. Панамар 3 гады як памёр, а будынкі часткова праз Двор* (Маламажэйкаўскі - *Л.Л.*) *зруйнаваны, аб чым вядзецца судовае разбіральніцтва"*.

Так сама, каля царквы, была плябанія, *"хата белая, з каморай, двое дзвярэй на жалезных завесах з зашчапкамі і прабоямі жалезнымі. Вокнаў 3. Печ кафляная, зялёная, столь з габляваных дошак, стол маляваны, праз сені пякарня з каморай, двое дзвярэй на жалезных завесах, вокнаў 3. ... будынак крыты саломай, гумно на 10 сохах з 3-мя брамамі падвойнымі, саломай крытае, свіран стары, саломай крыты, дзверы на жалезных завесах з прабоямі. Бровар, стаенка саломай крытая, варывенка*[87] *і хлявок, дзе была раней плябанія, саломай крыты. Усе будынкі пастаўлены і рамантаваліся як былымі парахамі, так і цяперашнім Парахам"*.

Тут можна зрабіць некалькі заўваг.

Па колькасці і якасці царкоўнага начыння, Маламажэйкаўская царква не можа лічыцца беднай. Гэта добра бачна пры параўнанні яе з іншымі цэрквамі Лідскага ці іншых беларускіх уніяцкіх дэканатаў таго часу[88].

Плябанія і прысядзібная гаспадарка з'яўляліся асноўным паказчыкам прэстыжнасці для параха. Даследчык гісторыі ўніяцкай царквы Дзяніс Лісейчыкаў, на падставе аналізу актаў візітаў некалькіх дзесяткаў беларускіх цэркваў склаў табліцу асноўных тыпаў будынкаў, характэрных для рознай ступені прэстыжнасці плябаній[89]. Згодна з гэтай табліцай, Маламажэйкаўскую плябанію, якая мела хату, камору, пякарню, хлеў, свіран, гумно, варыўню, бровар, стаенку і нават сваіх прыгонных (рэдкая з'ява для ўніяцкай царквы), можна лічыць заможнай ці нават багатай.

Але царквы была занядбана, і візітатар пры канцы акта піша: *"У сувязі са значным разбурэннем тутэйшай царквы як знутры, так і звонку, неабходна было б забараніць багаслужэнне, але мы, улічваючы некаторыя слушныя нагоды, у тым ліку абяцанні паноў калятараў у хуткім часе адрамантаваць царкву, і тое, каб парафіяне мелі магчымасць адпраўляць набажэнствы і ратаваць душу, устрымліваемся ад закрыцця на адзін год і шэсць тыдняў"*.

Заканчваецца акт такімі словамі:

*"Так сама прапаную расшукаць царкоўныя Метрыкі, раней узятыя да двара Мажэйкаўскага, а тым часам загадваем акуратна запаўняць Метрыкі памерлых. ... загады архіпастырскія, каб чыталіся ў царкве для забеспячэння выканання абавязкаў як мясцовага царкоўнага старасты, таксама і саміх парафіянаў. Сам Парах, які цяпер у вельмі сталым узросце,*

[83] In folio - саамы буйны памер, старонка кнігі роўная палове памера друкарскага ліста. Дакладны памер залежыць ад памеру друкарскага ліста. Пасля пераходу на рулонную паперу 'in folio' стала азначаць прыкладны памер у 38 см (у вышыню).

[84] In octavo - на друкарскім лісце размяшчаюцца 16 старонак, 20-25 см.

[85] Плецены з галля.

[86] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага і Дэканата. 1792 г. С. 25аб.

[87] Варыўня - гаспадарчая пабудова якая выкарыстоўвалася для захоўваньня бульбы, буракоў, малака, морквы і інш. Разам з прыпасамі ў варыўні трымалі дробны гаспадарчы інвентар.

[88] Гл:. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленскаго Учебнаго Округа. Т. XIII. Вильна, 1902. С. 154-235; То же. С. XIV. Вильна, 1904. С. 56-125.; Візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага сабораў 1680-1682 гг.: Зб. дак-таў / Склад. Д.В. Лісейчыкаў. Мінск, 2009. с., 270 с.: іл.

[89] Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839. Мінск, 2011. С. 66.

*мае жыць прыстойна і надалей, колькі жыццё дазволіць, рэгулярна набажэнствы адпраўляць, сачыць за прыстойным жыццём даручаных яму душ парафіян і паказваць прыстойны прыклад згодна свайму духоўнаму стану, што мы загадваем гэтым рэфармацыйным дэкрэтам"*[90].

**6. Гісторыя царквы, XVIII стагоддзе, *працяг***

З захаваўшыхся у 1870-х гг. царкоўных дакументаў было бачна, што ў XVIII ст. ішла зацятая барацьба за фундушы царквы. На баку царквы пасля Руцкога, выступалі мітрапаліты Антоні Сялява, Кішка, Календа, якія дапамагалі судзіцца з калятарамі.

Пасля Сасіновіча Маламажэйкаўскім святаром быў Міхал Канцэвіч (у 1770 г. ён ужо камісар Лідскага ўніяцкага дэканата[91]), а потым Пётр Афанасевіч.

Пры гэтым святары адбыўся канчатковы захоп царкоўнага фундуша, ва ўрочышчы "Пантусаўшчына" забрана зямлі на 300 вазоў сена, за вёскай Русанаўцы, ва ўрочышчы Ажаўнік - на 200 вазоў, Вяліка-Мажэйкаўскі двор забраў каля вёскі Навасады валоку зямлі, якая звалася Воўкаўшчына, аднак з тэксту Савіцкага бачна, што Казімір Кастравіцкі вярнуў нейкую частку зямлі, бо ў 1832 г. зямля *"з усімі сенажацямі, лясамі, пашамі і зараслямі, нададзеная царкве Казімірам Кастравіцкім, ягоным сынам Рамуальдам была зноў адабраная"*[92].

У візітацыі ад 1792 г. ёсць успамін пра судовы працэс з удзелам святара ў Лідскім гродскім судзе, працэс быў пачаты *"васпанам Кастравіцкім, старастам Цыбарскім, шамбелянам яго Каралеўскай Мосці, калятарам гэтай царквы Мажэйкаўскай у Лідскім гродскім судзе, аб адбіранні ... грунтоў, лугоў, сенажацяў і зарасляў"* але, здаецца, візітатар віну за страту царкоўных земляў, ускладвае на параха, бо пісана, што *"цалкам сучаснага Параха, крыўда, што ад яго адпалі... грунты, лугі і зараслі"* [93].

Пётр Афанасевіч высвечаны ў святары 31 жніўня 1749 г. мітрапалітам Грабніцкім. У Малым Мажэйкаве атрымаў прэзенту[94] ад свайго калятара, старасты Цыбарскага Казіміра Кастравіцкага 24 кастрычніка 1773 г., 24 кастрычніка 1773 г. быў інсталяваны мітрапалітам Валадкевічам[95]. Царква нададзена яму Лідскім дэканам Пятровічам 19 лістапада 1773 г.[96] Як бачым, Афанасевіч стаў Маламажэйкаўскім парахам праз 24 гады пасля высвячэння ў святары, гэта значыць што ў 1773 г. яму было не меней за 50 гадоў.

З гэтым святаром адбылася дзіўная гісторыя, шырока вядомая ў пераказе Бацюшкава, зробленым у стылі народнай казкі пра злога пана, аповяды пра зверствы каторага робяць ураханне народнай казкі з тыповым сюжэтам, трафарэтнымі персанажамі і гратэскавай манерай выкладання[97]. Маламажэйкаўскі святар а. Леў Савіцкі першым апісаў неверагодныя падзеі, якія адбыліся вакол царквы пры Афанасевічу, і ягоны артыкул стаў крыніцай для Бацюшкава і іншых эпігонаў. Але ў адрозненне ад больш позніх аўтараў тэкст Савіцкага яшчэ паддаецца аналізу і дазваляе збольшага зразумець, што ж магло насамрэч адбыцца. Савіцкі пераказвае гісторыю, якую яму як быццам паведаміў стары эканом маёнтка Кастравіцкіх, які памёр у 1869 г. ва ўзросте 90 гадоў. Па версіі Савіцкага, Пётр Афанасевіч паходзіў з мясцовай лідскай шляхты, ягоныя бацькі нават трымалі ў арэндзе маёнтак Кастравіцкіх і канешне, не былі беднай "шарачковай" шляхтай. Пётр Афанасевіч разам з Казімірам Кастравіцкім - будучым уладальнікам Малога Мажэйкава, вучыўся ў "езуіцкай акадэміі", г. зн. ва ўстанове, якую мы звычайна называем Віленскім універсітэтам. Савіцкі піша, што Пётр вучыўся і адначасова прыслужваў "маладому магнату" (Кастравіцкія ніколі не былі магнатамі), што канешне з'яўляецца фантазіяй, бо Афанасевіч у той час ужо быў сталым, значна старэйшым за Казіміра Кастравіцкага чалавекам (зноў нагадаю, што Афанасевіч стаў Маламажэйкаўскім парахам праз 24 гады пасля высвячэння ў святары) і не мог вучыцца разам з ім.

Але будзем аналізаваць аповед Савіцкага далей: *"Выпрабаваўшы характар Афанасевіча, Кастравіцкі закончыў курс навук і ўступіў ў валоданне багатым маёнткам, пры гэтым пажадаў мець яго ў сябе святаром. Ён даў яму прэзенту на атрыманне прыходу. Цвярозае жыццё, бездакорныя паводзіны, пастырская дзейнасць прынеслі яму любоў Кастравіцкага, які, як мы бачым з метрычнага запісу 1776 г., быў хросным бацькам сына Пятра, нарачонага ў хрышчэнні Іосіфам, а ў памазанні Антоніем, і ў яго брата Яна, адміністратара*[98] *Голдаўскай царквы ў 1780 г. пры хрышчэнні сына Андрэя"*. Такім чынам адносіны да сям'і Афанасевічаў былі на гэтулькі добрыя, што абшарнік нават быў хрышчоным бацькам дзетак абодвух

[90] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага і Дэканата. 1792 г. С. 26аб.

[91] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 261.

[92] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №42-1873. С. 370.

[93] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага і Дэканата. 1792 г. С. 26 аб.

[94] Презента - дазвол калятара на атрыманне месца параха.

[95] Феліцыян Піліп Валадкевіч (1762-1778), епіскап уладзіміра-валынскі, які пры уступленні расійскіх войскаў пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай ў 1772 годзе, з'ехаў у Прусію.

[96] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага і Дэканата. 1792 г. С. 26 аб.

[97] Гл.: Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. СПб., 1890. Дадатак В. Виды местностей и зданий. С. 129.

[98] Калі царква поўгода не мела параха, для часовага кіравання ёй прызначаўся адміністратар.

братоў-святароў. А вось, што адбылося далей, дакладна даведацца ўжо ніколі не будзе магчымы. Перад спробай правесці рэканструкцыю тых падзеяў, заўважу:

- па-першае, версія Савіцкага ці ягонага рэдактара ў "ЛЕВ", што Кастравіцкага менавіта *"прагнасць да золата заахвоціла да гвалтоўнага ўчынку"* не вытрымлівае крытыкі. Можна сколькі заўгодна прагнуць золата, але калі святар яго не мае, дык такая прага не мае сэнсу.

- па-другое, паўтаруся, у акце візітацыі 1792 г. напісана *"Сам Парах ... цяпер у вельмі сталым узросце"*.

- па-трэцяе, Казімір Кастравіцкі, безумоўна, быў чалавекам свайго жорсткага часу.

Але вернемся да тэмы.

Такім чынам: *"У 1793 г. разышлася чутка, быццам святар, разламаўшы труну заснавальніка царквы Шымкі Мацкевіча, знайшоў у труне шмат золата, залаты з каштоўнымі камянямі пояс і дзве цыдулкі, якія ўказвалі месца, дзе схаваны матэрыял неабходны ... для рамонту царквы. Пачуў пра гэта пан. Першым чынам ён выказаў сваю лютасць да малодшага брата Пятра - Андрэя, пазбавіўшы яго эканомскага месцы пры сваім двары ў Мажэйкаве. Пачаліся затым допыты і вышукі ў кватэры Пятра, дзе, як кажуць, знойдзены быў залаты гузік"*. Праверыць, ці разрабавана магіла Шымкі Мацкавіча ў сутарэннях царквы, было вельмі проста, і было б дзіўна, каб менавіта так не паступіў Кастравіцкі. Знаходка ж залатога гузіка ў хаце святара, і, відавочна, менавіта гузіка з магілы Шымкі Мацкавіча, прывялі ў лютасць пана, які, дарэчы, як калятар царквы, і павінен быў выступаць гарантам яе недатыкальнасці. "Прадбачлівасць" жа Шымкі Мацкавіча, які ў перашай палове XVI ст. схаваў не грошы, а нават "матэрыял неабходны ... для рамонту царквы" ў другой палове XVIII ст., мне здаецца цалкам неверагоднай.

*"Першай ахвярай зрабілася жонка Пятра, яна памерла ад катаванняў, а па словах іншых, была ўдушана нейкім Памарнацкім, верным слугой пана"*[99]. Такім чынам, магчыма, не святар, а ягоная жонка абрабавала ці арганізавала рабаванне магілы, што і выклікала лютасць калятара. Але яе забойства выклікае сур'ёзныя сумненні, бо ў 13 томе "Археографического сборника документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Виленском учебном округе" у главе "Акты судовых кансісторскіх разглядаў ..." ёсць судовая справа за 1795 г. шляхцянкі, удавы Тарэсы Афановіч (у "Подробном алфавитном указателе к I-XIII томам ..." яе прозвішча падаецца як "Афанасовіч"[100]) супраць вялебнага святара Базыля Бількевіча, віца-дэкана Лідскага ўніяцкага дэканата. У справе разглядаецца нявыплата Бількевічам нейкай пазыкі[101]. Зразумела, што ў кансісторскім судзе маглі разглядацца толькі справы паміж асобамі духоўнага саслоўя, у нашым выпадку паміж удавой былога мужа-святара і віца-дэканам. Абсурдная сітуацыя: прыкладна праз два гады пасля сваёй "гвалтоўнай смерці" (па версіі Савіцкага), удава святара падае позву ў суд. Гэта дазваляе паставіць пад сумнеў, прынамсі, факт забойства жонкі святара.

Далейшыя падзеі, калі верыць апавядальніку, развіваліся яшчэ больш трагічна: *"Жадаючы ўпрасіць абшарніка памілаваць яго і дзяцей, святар адправіўся да яго ў дом, дзе быў прыняты на ганку, ён ... быў аблашчаны панам і нават запрошаны на закуску. Двудушны Кастравіцкі, напаіўшы святара ... і не даведаўшыся пры гэтым нічога новага, загадаў свайму конюху ўзяць святара на ланцуг і паставіць у адно стойла з казлом на стайні, загадаўшы яму вучыць казла спяваць так, як ён сам спявае ў царкве. Гэта сцэна працягвалася цэлую ноч, на другі дзень дваровыя людзі забралі ўсё быдла і амаль усю маёмасць святара ..., забараніўшы яму выезд далей межаў свайго прыходу. Такія непрыемнасці канчаткова маральна і фізічна змучылі беднага святара, які ... перад Калядамі моцна захварэў. Пакінуты на волю лёсу, кінуты ўсімі, ён прасіў свайго цесця, святара Менскага павета з в. Сенна, Яна Савіча, узяць яго да сябе, але Кастравіцкі не дазволіў гэтага, толькі дапусціўшы Савіча да выканання трэбаў на некаторы час, са снежня па люты 1794 г. Нарэшце стомлены голадам і холадам Пётр Афанасевіч памёр 1794 г., красавіка 19 дня, і, так як не дазволена было пахаваць яго пры Маламажэйкаўскай царкве, быў пахаваны пры Лябёдскай царкве святаром Андрэям Кастыцэвічам, каля кліраса, па правым баку. Гісторыя пра ... грошы працягвалася яшчэ пасля смерці святара Афанасефіча, асабліва пад вялікім падазрэннем быў брат нябожчыка Ян, парах Голдаўскай царквы, які не пусціў прыслугу Кастравіцкага для пяратрусу ў сваёй хаце, наступствам чаго быў падпал святарскай хаты, дзе згарэла мноства дакументаў і метрычных кніг. Таму святар Ян Афанасевіч метрычныя запісы сваіх дзяцей занёс у кнігу Маламажэйкаўскай царквы"*[102]. Трэба адзначыць яшчэ адну недакладнасць аповяду - Голдаўскім парахам у той час быў Ян Мыслевіч[103].

З'яўленне ў гэтай гісторыі як дзейснай асобы лябёдскага параха Кастыцэвіча - яшчэ адзін дрэнны для Афанасевіча знак. Справа ў тым, што Кастыцэвіч меў вельмі адмоўны імідж на Лідчыне. *"Лебедски парох Андрей Костыцевич"*, пра якога "Архіў уніяцкіх

[99] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №34-1873. С. 308.

[100] Подробный Алфавитный указатель к I-XIII томам Археографическкого сборника документов издаваемого при Виленском учебном округе. Вильна, 1905. С. 6.

[101] Археографический сборник документов издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1902. Т. 13. С. 87.

[102] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №34-1873. С. 308.

[103] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага і Дэканата. 1792 г.

мітрапалітаў" згадвае пад 1783 г., вядомым нам у сувязі з абвінавачваннем у *"неблагоповедении"* [104]. А ў 1797 г. інстыгатар[105] Лідскага дэканату Ян Мыслевіч абвінавацію яго ў амаральных паводзінах і невыкананні сваіх абавязкаў. Большасць абвінавачванняў была даказана, святара адхілілі ад службы ў царкве і адправілі на шэсць тыдняў у Лаўрышаўскі манастыр. Было вырашана, што калі рэкалекцыі і цвічэнні ў манастыры не перавыхаваюць святара, дык ён будзе адхілены ад сваіх абавязкаў назаўжды[106].

Такім чынам, аповяд Савіцкага не вытрымлівае праверкі на дакладнасць праз дакументы і ў лепшым выпадку ўтрымлівае вялікую долю прыдумак, а можа і цалкам сфальсіфікаваны.

Калі, як кажуць, "нешта было", дык можна выказаць здагадку, што Пётр Афанасевіч ці ягоная жонка, абрабавалі шанаваную ўсімі магілу будаўніка і першага фундатара царквы Шымкі Мацкавіча, што справакавала рэакцыю калятара. Аднак нельга забываць, што Афанасевіч - шляхціц, і адзіна законным быў бы яго судовы пераслед. Нагадаю, што шляхціц, не мог быць арыштаваны і няслушна пакараны без рэчаісных доказаў віны, а судзіць яго маглі толькі роўныя яму, гэта значыць - шляхта. Можа судовая справа паміж святаром і калятарам, якая, верагодна, павінна быць у Лідскім гродскім судзе, калісці будзе знойдзена. Тады і стане канчаткова зразумела, што ж адбылося ў Маламажэйкаўскай царкве ў 1793 г.

Відочна, аповяд Савіцкага - адзін з многіх аповядаў другой паловы XIX ст. пра "забітасць" і празмерную падпарадкаванасць абшарнікам уніяцкіх святароў, ад якой іх выратавала гвалтоўнае скасаванне іх грэка-каталіцкай царквы і далучэнне да пануючай у Расейскай імперыі рэлігіі.

Пасля Пятра Афанасевіча, з 1794 па 1810 гг. святаром у Малым Мажэйкаве быў Андрэй Міцкевіч. Адзін з візітатараў пісаў ў Генеральную Кансісторыю Літоўскай мітраполіі, што Міцкевіч пад час знаходжання пры манастырах Антопальскім і Барунскім у айцоў-базыльянаў русчызнай і асабліва іншымі навукамі займаўся, мае добрую атэстацыю аб сваіх паводзінах ад архімандрытаў тых манастыроў і сведчанне за подпісам Віленскай кансісторыі пра паспяховае вывучэнне маральнай тэалогіі ў Ахонаўскай царкве. Пасля папярэдняга іспыту ў 1790 г. быў пасвечаны ў іпадыяканы, а 13 красавіка 1793 г. - у сан святара. Пасля гэтага атрымаў прэзенту на Маламажэйкаўскую царкву[107]. У "Актах судовых кансісторскіх разглядаў ..." ад 1795 г. ёсць судовая справа Андрэя Міцкевіча, адміністратара Маламажэйкаўскай царквы, супраць адміністратара Арлянскай царквы Ануфрыя Ясінскага. Суд разглядзеў патрабаванне Міцкевіча вярнуць няслушна забраныя царкоўныя рэчы і заплаціць грошы за паслугі. Ясінскі патлумачыў, што ніякіх рэчаў не забіраў, а купіў і прадэманстраваў распіску аплаты[108]. Відочна, Міцкевіч спрабаваў вярнуць у царкву рэчы, якімі гандляваў ягоны папярэднік, што дадае новыя рысы "справе Афанасевіча".

У тых жа "Актах судовых кансісторскіх разглядаў ..." за 1796 г. ёсць некалькі пратаколаў паседжанняў, на якіх разглядалі справу святароў Андрэя Міцкеіча і таго самага лябёдскага параха Кастыцэвіча. Святары абвінавачваліся ў *"сварках і звадах са шляхтай у горадзе Лідзе, на вуліцы, што прывяло да нападу на расейскі пастарунак, пасля чаго яны былі арышаваны і ўсю ноч пратрыманыя пад арыштам"*. Перад сваркай Кастыцэвіч *"ужыў алкагольныя напоі, таму рабіў розныя непрыстойнасці і быў ганебна затрыманы ..."*[109].

Хто ведае, можа менавіта пасля гэтага, калятар Казімір Кастравіцкі забраў фундушовыя землі і нават пачаў не пускаць народ у царкву, аб чым святар Міцкевіч падаў скаргу новым расейскім уладам у асобе начальніка Лідскага павета маёра Ілінскага. Аднак скарга не дапамагла, новыя ўлады не пажадалі ўмешвацца.

У канцы XVIII ст. у царкве з'яўляецца арган і ўсе прыхаджане пачынаюць спяваць (а не прагаворваць пра сабе) літургію, што цалкам адпавядае пастановам Замойскага сабора 1720 г. Час ад часу у царкве з пропаведзямі выступалі манахі-кармеліты[110].

Кс. Станіслаў Лазінскі, плябан Ішчалнскі, у "Вопісах парафій Лідскага дэканату ў 1784 г." апісаў мясцовасць каля Малога Мажэйкава: "[дарога ад Ішчалны да Дылева] *адначасова з'яўляецца публічным Віленскім трактам, ад Ішчалнскага касцёла на летні ўсход, праз некалькі сотняў крокаў будзе карчма пана Валя пад назвай Гіня, адтуль па правую руку праз палову чвэрці мілі бачна вёска Ішчалняны яснавяльможнага пана Хадкевіча. Далей па дарозе, праз некалькі дзесяткаў крокаў млын васпана Валя з грэбляй і мостам, пераехаўшы мост праз поле пачынаецца нядаўна выраўнаваная дарога, потым бярозавы лясок яснавяльможнага пана Хадкевіча, выехаўшы з якога, па правай руцэ праз чвэрць мілі бачны фальварак Марцінішкі таго ж Хадкевіча,*

[104] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 434.

[105] Інстыгатар - духоўны суддзя які адказваў за маральнае аблічча парахаў.

[106] Археографический сборник документов издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1902. Т. 13. С. 136-139.

[107] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №36-1873. С. 321.

[108] Археографический сборник документов издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1902. Т. 13. С. 86.

[109] Археографический сборник документов издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1902. Т. 13. С. 99-100, 104.

[110] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №36-1873. С. 321.

*далей, праз чвэрць мілі пры дарозе ёсць два каналы і дварэц яснавяльможнага пана Хадкевіча пад назвай Вялікае Мажэйкава, мінуўшы дварэц, праз некалькі стай па левай руцэ мураваная карчма і вёска Агароднікі таго ж ягамосці, па правай руцэ праз палову чвэрці мілі вёска Зінеўцы васпана Кастравіцкага і мураваная царква, якая называецца Мажэйкаўскай, далей цераз поле вядзе сухая пясчаная і камяністая дарога праз палову мілі двор васпана Кастравіцкага Малое Мажэйкава, пасля двара, праз некалькі сотняў крокаў каля Лябёдскага перавозу стаіць карчма таго ж ягамосці, і тут парафія Ішчалнская мяжуе з Дылеўскай"* [111].

Пры канцы XVIII ст. праз Малое Мажэйкава прайшоў паштовы тракт з Пецярбурга ў Варшаву (карта паказвае, што па Лідскім павеце тракт прайшоў праз Раклёўцы - Малы Ольжаў - Белагруду - Арлянку - Тарнова - Масявічы - Лебяду - Малое Мажэйкава - Вялікае Мажэйкава - Ішчалну - Шчучын). Тракт прыносіў добры прыбытак абшарнікам, якія трымалі корчмы, у тым ліку і Кастравіцкім.

## 7. Гісторыя царквы, XIX стагоддзе

Каля 1826 г. Малое Мажэйкава перайшло ў спадчыну да Рамуальда Кастравіцкага, сына Казіміра. З апісання маёнтка ў Малым Мажэйкаве ў 1835 г. бачна, што тут былі *"дзве сажалкі, пры якіх пабудаваны два млыны і адзін валюш. Карчма на паштовай дарозе ад горада Ліды ў горад Гародню прыносіць гадавога даходу 1000 рублёў асігнацыямі... Дом жылы драўляны, стары, даўжынёй 30 аршынаў, шырынёй 22 аршыны, страха гонтавая, пакояў - 20, вокнаў - 36, печак галандскіх (стаякоў) - 8, комінаў - 5. Флігель драўляны, даўжынёю 50 аршынаў, шырынёю 15 аршынаў, пакояў - 10, печаў - 5, ваконцаў - 14, комінаў - 2, страха саламяная. Вінакурня новая, сцены з дзікага каменю таўшчынёю 1 аршын, вышынёю 3 аршыны, даўжынёю 40 аршынаў, шырынёю 15 аршынаў, комінаў - 2. Страха з дранкі з прыборам паўпаравым медным. Валоўнік драўляны даўжынёю 30 аршынаў, шырынёю 12 аршынаў, страха саламяная. Гумно новае з мураванымі слупамі, даўжынёю 110 аршынаў, шырынёю 25 аршынаў, страха саламяная. Хлеў драўляны, новы даўжынёю 70 аршынаў, шырынёю 25 аршынаў, страха саламяная. Хлявы ў квадрат 200 аршынаў, страха саламяная. Кузня з дзікага каменю, сцяна таўшчынёю 1 аршын 6 вяршкоў, вышынёю 3 аршыны, даўжынёю 10 аршынаў, шырынёю 5 аршынаў. Комін 1. Страха гонтавая. Амбар з дзікага каменю таўшчынёю 1 аршын 6 вяршкоў, у акружнасці 40 аршынаў, вышыня 4 аршыны, страха гонтавая. Дом для жылля садоўніка драўляны даўжынёю 16 аршынаў, шырынёю 8 аршынаў. Сад 3 дзесяціны, у большай палове засаджаны пладовымі дрэвамі"* [112].

Спусташальная вайна сярэдзіны XVII ст., Паўночная вайна на пачатку XVII ст. і цяжкія эканамічныя ўмовы пасля яе, запар два дрэнныя святары прывялі царкву ў стан руіны і, верагодна, таму на пачатку XIX ст. візітацыі ў царкве адбываліся амаль што кожны год, візітатары пагражалі зачыніць царкву, калі не пачнецца яе рамонт, і таму храм быў на мяжы закрыцця, аднак гэтага не адбылося. Вось што пісаў візітатар 1804 г. Антоні Налеч-Тупальскі ў акце візітацыі пра стан царквы: *"... Маламажэйкаўская царква не мае ніводнай прыстойнай аздобы, стаіць без вокнаў, дах працякае, даведзена да стану руіны і ў такім стане павінна быць зачынена. Акт закрыцця быў бы ўжо пададзены, калі б вялебны айцец Адміністратар не быў абнадзеены калятарам яшчэ ў гэтым годзе пачаць рамонт. Таму покуль устрымліваемся ад закрыцця царквы ў надзеі, што на працягу года будуць адрамантаваны дах, купалы і вокны ... . Што датычыцца адукацыі і паводзін вялебнага айца Адміністратара, а таксама крыўдаў фундушовых, трэба, каб вялебны айцец Міцкевіч захоўваў цвярозасць і спакой уласцівы яго стану, праз нейкі час усё ўладкуецца, галоўная яго задача - навучаць людзей рэчам неабходным для збавення. Крыўды з-за адбірання зямлі і дзесяціны згодна з старымі і новымі фундушамі неабходна праз судовы працэс, грунтуючыся на моцы дакументаў, вырашаць. Дапамагчы пачаць судовы разгляд павінен вялебны айцец дэкан і дыяцызіяльнае кіраўніцтва ... . Знішчаныя будынкі плябаніі адрамантаваныя ....*

*Вынятак з акту генеральнай візіты і пячаткай Яго Вялебнасці Ігната Булгака, Берасцейскага біскупа ўніяцкай царквы зацверджана.*

*Антоні Наленч Тупальскі, ..., дэкан Віленскі, генеральны візітатар"* [113].

Савіцкі піша, што Антоні Налеч-Тупальскі забраў з сабой 20 дакументаў з архіва царквы. Можна выказаць здагадку, што ён зрабіў гэта, каб дапамагчы ў судовым разглядзе справы з калятарам, аднак далейшы лёс гэтых дакументаў не вядомы[114].

Магчыма з-за неўладкаванасці царквы, частка прыхаджан была прыпісана да Ішчалнскага касцёла і верагодна, да сваёй капліцы ў Вялікім Мажэйкаве, згодна з хронікай касцёла ў Ішчалне ў 1801 г. грэка-католікаў ў Вялікім Мажэйкаве было ажно 1300 чалавек[115].

З 13 жніўня 1810 па 1860 г. Маламажэйкаўскім парахам служыў Ян Плаўскі, а вікарыем у яго 22 гады быў М. Сцепуржынкі (памёр ў 1865 г.)[116]. Гэтаму свя-

---

[111] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. // Лідскі Летапісец № 1(61). С. 30.

[112] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1. воп. 10. спр. 1591.

[113] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №36-1873. С. 321.

[114] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 299.

[115] Круцікаў У., Лаўрэш Л. Гісторыя парафіі ў Ішчалне // Наша слова. 2005. 15 чэрвеня.

[116] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №36-1873. С. 321.

тару ўдалося дабіцца вяртання царкоўных зямель. 13 жніўня 1810 г. Яну Плаўскаму былі выдзелены ў розных месцах пляцы зямлі агулам на 12 бочак пасеву яравога і азімага зерня і сенажаці (лугоў) на 44 вазы сена, што кажа пра заканчэнне канфлікту паміж святарамі і калятарам царквы. Выдзеленая зямля была ў царкоўным валоданні да 1832 г. - года смерці Казіміра Кастравіцкага.

Пры канцы 1805 г. ад удару маланкі у алтарную частку абрынуўся дах. Толькі ў студзені 1810 г. быў зроблены першасны рамонт даха, а ўвесну пачаты агульны рамонт. У 1811 г. візітатар занатаваў, што устаўлены чатыры новыя акны, вялікі алтар з цыборыюмам[117] пафарбаваны ў белы колер, слупкі пазалочаны, на адной з вежаў усталяваны куплены калятарам звон вагой ў трыццаць пудоў (у сярэдзіне XIX ст. гэтага звона ўжо не было)[118].




***Малюнак Маламажэйкаўскай царквы да перабудовы 1871-72-х гг.***

Падчас паездкі з Вільні ў Гародню Маламажэйкаўскую царкву наведаў расейскі імператар Аляксандр І. Падарожнічаючы па паштовым гасцінцы, які тады ішоў цераз Ішчалну, ён заўважыў у баку адрозны ад іншых мураваны будынак, а калі даведаўся што гэта царква, пажадаў аглядзець яе. Імператар зразумеў каштоўнасць царквы і загадаў адрамантаваць яе. Нагляд за рамонтам быў даручаны слонімскаму абшарніку Юндзілу.

Пачынаючы з 1810 г. пачаўся паступовы рамонт будынка царквы, які закончыўся перабудовай і аднаўленнем 1871-72 гг.

Рамантавалася царква і адразу пасля 1812 г., але, якія работы былі выкананы, не вядома. Пад час рамонту 1817 г. ліквідаваны адмысловы ход у сценах які вёў вакол усёй царквы і знятыя цяжкія жалезныя дзверы-герсы, якія падымаліся і апускаліся адмысловым механізмам. Трошкі змяніўся агульны выгляд царквы - новы дах стаў ніжэйшы: "*Старыя распавядаюць, што тады царкоўны дах паніжаны на 8 аршын, а зберажонай старой дахоўкай пакрыта астатняя частка царквы. Бэлькі пакладзены новыя, амбразуры абтынкованыя і выпраўленыя, вежы і вокны адрамантаваныя, падлога выкладзена цэглай, падчас ачысткі алтара, знойдзены царскія вароты пад смеццем каля сцяны, якія былі адрамантаваны, пазалочаны і пастаўлены на сваім месцы*" [119]. Тады перарабілі верхнюю частку франтонаў. У памяць пра гэты рамонт, калятарам унутры царквы была павешана мемарыяльная дошка, пра якую будзе сказана ніжэй.

У 1832 г. зямля *"з усімі сенажацямі, лясамі, пашамі і зараслямі"*, нададзеная царкве Казімірам Кастравіцкім, ягоным сынам Рамуальдам была зноў адабраная, аб чым была 27 жніўня царкве выдадзена распіска, якую падпісаў Рамуальд Кастравіцкі і яго жонка. У візіце 1834 г. 26 чэрвеня запісана *"зямля дзячка забрана разам з зямлёй святара на двор Маламажэйкаўскі, а на сядзібнай зямлі дзячка ў 1734 г.* (пэўна памылка, верагодна ў 1834 г. - *Л.Л.*) *пастаўлена карчма і дзве хаты"*. У 1835 г. уладальнік Вялікага Мажэйкава Рафал Грабоўскі забраў валоку былой царкоўнай зямлі з сенажаццю і лесам у вёсцы Навасады. Пра дзеянні Грабоўскага 22 чэрвеня 1835 г., а. Янам Плаўскім быў пададзены рапарт у Кансісторыю і грамадзянскаму начальству, а яшчэ раней падаваліся розныя скаргі супраць гэтых дзеянняў Кастравіцкага. Але законным шляхам вырашаць праблему не атрымалася, гэта наводзіць на думку, што калятары ўсе ж дзейнічалі ў межах закону. Дарэчы, з тэксту Савіцкага бачна, што прынамсі не ўсе скаргі святара датычалі адабрання зямлі, часам калятары мянялі адны ўчасткі зямлі на іншыя ў залежнасці ад сваіх гаспадарчых патрэбаў. Бясспрэчна дзеянні абшарнікаў былі выкліканы разуменнем таго, што унія будзе хутка скасавана ўрадам. Яны ўлічвалі тое, што праваслаўная царква таго часу была дзяржаўнай структурай, і таму іхняя зямля адышла б да дзяржавы (калі казаць па сучаснаму - была б рэпрыватызвана) і назаўжды страчана.

З дакументаў бачна, што перад ліквідацыяй уніі прыхаджане, як па ўсёй Беларусі, не хочучы далучэння да афіцыйнага праваслаўя, пераходзілі у рыма-каталіцтва. Напрыклад 20 траўня 1836 г. святар піша пра 106 "спакушаных у лацінства" чалавек, праз нейкі час ужо пра 149 "спакушаных", але ў 1873 г. Савіцкі пісаў пра 32 "спакушаных", з якіх "да праваслаўя далучана" 18.

Яшчэ на пачатку 1836 г. у царкве быў арган, аднак ужо ў красавіку таго ж года вайсковы начальнік

[117] Дараносіца

[118] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №36-1873. С. 322.

[119] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №42-1873. С. 370.

Лідскага павета даклаў губернатару, што ва ўсіх цэрквах Лідчыны *"арганы, пабочныя прыдзелы, званочкі, лаўкі ўжо знішчаны"* [120].

На 29 чэрвеня 1838 г. 388 прыхаджан царквы належала Кастравіцкім і 108 - Грабоўскім[121].

У 1852 г. на Маламажэйкаўскага святара Яна Плаўскага мітрапалітам Сямашкам быў накладзены штраф у памеры 1 срэбны рубель за несвоечасовае дастаўленне ведамасцяў аб споведзях[122].

Агульны стан царквы ў 1860-х гадах адлюстроўвае "Главная опись церковного имущества Маломажейковской Рождественно-Богородичной церкви Лидского уезда"[123]. Згодна з "Вопісам..." царква - *"будынак мураваны, вялікі, чырвонай цэглы, купалаў на ім няма ..."*.

Прыстол, ахвярнік і іканастас у царкве былі драўляныя, падсвечнікі свінцовыя.

Званы: першы звон вагой у дзесяць пудоў адліты ў 1805 г., другі звон у царкве з 1792 г., трэці звон фундаваны ў 1830 г.

Евангеллі: Напрастольнае, маскоўскага друку 1839 г., у дошках абцягнутых прыгожым аксамітам, на верхняй дошцы, пасярэдзіне абраз Уваскрэсення Господняга. Евангелле для трэб, маскоўскага друку 1838 г., у аксамітавай вокладцы. Для асабістага карыстання ў святара была Біблія сінадальнага друку 1824 г. і некалькі расійскіх кніг духоўнага зместу[124]. Зразумела, што да таго часу ўсе беларускія старадрукі паводле неаднаразовых загадаў мітрапаліта Сямашкі былі знішчаныя.

У 1873 г. царква мела чатыры перамены рызаў з прыборам, два ўборы на прастол і ахвярнік, неабходныя для набажэнстваў кнігі[125].

У XIX ст. царкву пачалі вывучаць прафесійныя даследчыкі. У 1858 г. аглядаў царкву член Імператарскага Археалагічнага таварыства ў Санкт-Пецярбурзе Стобедзеў, у 1864 або 1865 гг. таксама царкву даследаваў член таго ж Археалагічнага таварыства Гарнастаеў. З Вільні прыязджалі Цвердахлебаў, барон Нольдэ і многія іншыя[126].

А. Леў Савіцкі дае вялізнае апісанне сваёй царквы, як яна выглядала ў 1870 г. Гэтае апісанне, з-за яго каштоўнасці мае сэнс прывесці цалкам:

"[Царква] *ўся мураваная з моцнай, як жалеза, цэглы, якая з часам ўтварыла адну суцэльную масу, аброслую мохам, за выключэннем тых месцаў у старадаўніх паглыбленнях, якія былі атынкованы ... . Верагодна, у гэтых паглыбленнях першапачаткова былі абразы, ці, быць можа, яны былі афарбаваны, таму што сляды фарбы былі ясна прыкметныя пры разбіўцы тынкоўкі. Такіх паглыбленняў ніжэй даху ў выглядзе дугападобных даўгаватых рам, якія заканчваюцца мысам у верхняй частцы - шэсць, месцаў жа дванаццаць, паміж імі ідуць сценкі ў выглядзе пілястра. Вышэй іх, пад самым дахам, знаходзіцца пяць невялікіх вокнаў са стромымі адтулінамі, якія ідуць унутр пад дах. Вокнаў у царкве дзевяць - тры акны ў сценах даўжынёй у сажань, шырынёй у аршын, з жалезнымі кратамі, паміж імі ідуць пілястры, якія перамяжаюцца доўгімі паглыбленнямі, раней прызначанымі, верагодна, таксама для нейкіх малюнкаў, астатнія тры акны асвятляюць уласна алтар, памерам яны меншыя ад першых і дугападобныя. Усе чатыры вежы аднолькавыя, на адну сажню вышэй ад сцен царквы, у верхняй іх частцы зроблены тры акны даўжынёю ў аршын і шырынёю ў 12 вяршкоў, у заходняй частцы царквы гэтыя вокны большыя, чым ва ўсходняй, бо і самыя вежы тут маюць большы памер у дыяметры. Ва ўзровень са сцяной у вежах зроблены такія ж адтуліны, якія знаходзяцца пад дахам царквы, толькі ў падвойным памеры, лікам па тры. У сярэдняй частцы вежаў знаходзяцца адтуліны, якія звужваюцца вонкі і пашыраюцца ўнутр і якія, па меры адлегласці ад зямлі, даўжэй і шырэй. Вакол усёй царквы і вежаў на адзін аршын вышэй ад цоколя, які агінае вакол ўсю царкву, ідзе шэраг зубцоў у родзе пілы. Пра першапачатковую архітэктуру карнізаў нічога нельга сказаць, бо аўтару не давялося знайсці іх у цэласці. Годна заўвагі, што крыжы з цэглы ў заходніх вежах засталіся цэлыя і па цяперашні час. Старажылы распавядаюць, што на вежах, з заходняга боку, былі пастаўлены два анёлы вялікага памеру, адзін з трубой, другі з мячом, якія паварочваліся па кірунку ветру. Дзверы для ўваходу ў царкву адны, шырынёю 1 аршын і $11^{1}/_{4}$ вяршкоў, вышынёй 1 сажань і 3 вяршкі, з унутранага боку яны абаронены другімі цяжкавагавымі жалезнымі дзвярамі, якія апускаліся з зробленай у сцяне нішы. Якім чынам гэтыя дзверы замыкаліся, мне не ўдалося дазнацца ад старажылаў, з якіх некаторыя бачылі яшчэ гэтыя дзверы, забраныя ў 1817 г. панам Кастравіцкім. Уваходныя дзверы маюць вытанчанае аздабленне. Дзве калоны ўпрыгожваюць дугападобны ўваход у царкву, які заканчваецца ўгары ў выглядзе кароны. Прытвора не было да 1825 г.*

*Усярэдзіне царквы алтар аддзяляецца ад храма суцэльнай мураванай сцяной з трыма пралётамі для царскай, паўночнай і паўднёвай брамы, апошнія дзве адтуліны маюць форму няправільнага трохкутніка і над паўночнымі дзвярамі пралёт меншы ад паўднёвага. Алтарная частка мае прастору ў даўжыню 2 сажні і $1^{1}/_{2}$ аршын, шырыню 4 сажні і 9 вяршкоў. Прыстол быў квадратны, мураваны, у паўночнай і паўднёвай частцы алтара знаходзяцца два малыя і два вялікія дугападобныя паглыбленні, прызначаныя для*

[120] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1. воп. 19. спр. 1005.

[121] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1. воп. 19. спр. 1752.

[122] Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 1021.

[123] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 8. Спр. 1443.

[124] Там жа. С.2-21.

[125] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №42-1873. С. 370-371.

[126] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. №8-1907. С. 168.

*захоўвання царкоўнага начыння. Ахвярнік раней быў уладкаваны ў паглыбленні, у выглядзе невялікай пячоры, якая існуе і ў наш час толькі закрыта абразам. Царская брама - 2 аршыны шырыні і 3 вышыні. Сам храм мае ўсярэдзіне 6 сажняў даўжыні 5 сажняў 12 вяршкоў шырыні. Вокны ад падлогі на 2 сажні. Скляпенні круглыя, корабавыя, якія абапіраюцца на 4 масіўныя калоны, да якіх сыходзяцца ў выглядзе мноства нітак. З царквы зроблены хады ва ўсе вежы, куды раней вялі цагляныя лесвіцы ў выглядзе спіралі, знішчаныя ва ўсходніх вежах у 1817 г., пасярэдзіне царквы ёсць невялікі склеп, дзе знаходзілася некалькі дубовых трун у выглядзе ночваў з такім жа вечкам, у верхняй частцы якіх у галовах зроблена круглая адтуліна, забраная шклом. Усярэдзіне, у частцы прылеглай да прытвора ўладкованы хоры, куды вядзе лесвіца з вежы паўднёва-заходняга боку.*

*У царкве ёсць дзве мармуровыя пліты, адна з іх ўмайстравана ў паўднёвай сцяне над труной заснавальніка царквы, са зробленым Каструвіцкім наступным надпісам:*

**D.O.M. Mortalibus exuviis I.M.D. Szmko Macko Lundzilowicz M.N.M.D.L. His abao MDCCCLXXXIV guiescentis fundatoris eccleciae nujus I.V.D. Cazimirus Costrovicki coet. Herres ei collator ae de sacra restaurata noc monumentum MDCCCYIIIDAD**

(Найвялікшаму і наймілейшаму Богу, Пасмяротныя астанкі Шымкі Мацкі Лундзілавіча, тут ад 1884 года пахаванага, фундатар гэтай царквы Казімір Кастравіцкі, спадчыннік, паставіў яму гэты помнік у адрэстаўраванай святыні, 1808 год).

*Другая пліта некалькі вышэй ад першай, большага памеру, на ёй намаляваны старадаўнія вайсковыя даспехі Польска-Літоўскіх войскаў, паміж якімі прыкметныя: гарматы, стрэльбы, шаблі, каскі, сцягі і г.д., на ёй наступны надпіс:*

**D.O.M. Et ad majorem gloriam h(n)oc monumentum posuit in ha(o)c Ecelesia pro perpetua memoria I.M. Kazimirus de Kostrova Kostrovicki Cap. Cib. Camer. cur. Red. Polon. Heres in Mozejkov, liden et in Podole Slonim district collator. Hans ecclesiam de noviter restauravit ac fundavit altar Rit. Roman, pro P.P. Carmelit Zoluden. anno MDCCCXXII**

(Найвялікшаму і наймілейшаму Богу і ў Яго славу паставіў гэты помнік у гэтай царкве на вечную памяць Казімір з Кастрова Кастравіцкі, дзедзіч у Мажэйкаве Лідскага павета і ў Падоллі Слонімскага павета. Гэтую царкву ён па-новаму аднавіў і фундаваў алтар рымскага абраду для жалудоцкіх кармелітаў, 1822 год).

*Вышыня царквы з фронту - 15 сажняў, а сцен 7 сажняў. Алтаром яна павернутая на ўсход, і агульны выгляд яе мае дасканалае падабенства з аднаўленым старажытным Прачысценскім Мітрапалітальным саборам у Вільні, які як бачна па ўсяму, служыў для будаўнікоў Маламажэйкаўскай царквы прататыпам. Будаўнік храма нават прысвяціў яго імю Прачыстай Багародзіцы. Загадкавая архітэктура Маламажэйкаўскай царквы мімаволі прымушае думаць, што гэтая царква была сховішчам не толькі для малітвы, але і сховішчам людской маёмасці падчас спусташальных войн і спалучаных з ёю рабаванняў падчас Рэчы Паспалітай. З іншага боку яна была абаронай ад нападу непрыяцеляў. Як сховішча і абарона падчас войн, яна была забяспечана да 1817 г. ходам у сценах, вакол царквы, некалькімі таемнымі адтулінамі ў сценах, склепам пад царквой, аддзеленым мураванӑй сцяной ад такога ж невялікага склепа, змешчанага ў самай царкве, да якога, па ўсёй верагоднасці, ёсць яшчэ дзе-небудзь іншы ход, і чатырма аднастайнымі спічастымі вежамі з вокнамі ў тры ярусы, якія звужваюцца вонкі і такімі ж вокнамі ў сценах, пад дахам. Сцены будынка таўшчынёй у сажань, жалезныя дзверы, якія апускаліся на ланцугах - дзверы цяжкавагавыя, што адчыняліся толькі рукамі дасведчанага служкі, мімаволі прыводзяць да перакanання, што царква гэтая была абаронай ад непрыяцеляў, якія валодалі ў сярэднія вякі не такой небяспечнай зброяй, якая вынайдзена сучаснай цывілізацыяй"* [127].

Зразумела, што перапісанная Савіцкім с памятнай дошкі дата пахавання Шымкі Мацкавіча "1884" (лац. MDCCCLXXXIV) - памылка. Фундатар пабудовы царквы памёр у 1542 (лац. MDXLII) ці 1543 гг. (лац. MDXLIII). Зразумела, што пры перапісцы гэтых дат, памылкова запісаць "MDCCCLXXXIV" было немагчыма. Але калі на дошцы быў выграўіравана 1794 г. (лац. MDCCLXXXXIV) дык усё становіцца зразумелым, замест "CC" святар напісаў "CCC" а замест "XXXX" - "XXX", чыста механічная памылка. А гэта азначае, што дошка, зробленая ў 1808 г., была прымацавана ў памяць пра паўторнае перазахаванне шанаванага фундатара пабудовы царквы Шымкі Мацкавіча, што ўскосна пацвярджае факт рабавання яго магілы.

У 1871-72-х гадах была зроблена поўнае аднаўленне і перабудова храма. Адразу неабходна сказаць, што пры гэтых рэпарацыйных працах не лічыліся з археалагічнай каштоўнасцю помніка і вельмі мала дбалі пра захаванне яго першачатковага выгляду, так што некаторыя яго часткі падлеглі досыць грунтоўным пераробкам. Па-першае да царквы быў прыбудаваны прытвор, які засланіў ранейшыя ўваходныя дзверы і значна змяніў агульнае аблічча заходняга фасада. Падругое абедзве заходнія вежы былі надбудаваны ў вышыню (на 6 аршын), прычым адна з іх перароблена на званіцу. Па-трэцяе, першапачаткова неатынкаваныя часткі фасадаў былі пакрыты пластамі тынку і афарбаваны, што зусім знішчыла ранейшы характар іх дэкарацыі, які грунтаваўся да гэтага (як і ў Сынкавіцкай

[127] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №33-1873. С. 298-299.

царкве) на эфектным кантрасце цёмна-чырвоных муроў і белых плям тынку ў дэкарацыйных нішах[128].

Урадам на рамонт царквы было асігнавана 7 716 руб. і 15 капеек. Для арганізацыі працаў быў утвораны адмысловы камітэт, у які уваходзіў міравы пасярэднік, святар царквы, царкоўны стараста, старэйшына Лябёдскай воласці, часткай якой быў Малы Мажэйкаў і царкоўна-прыходскага апякунства, архітэктар Полазаў. Планавалася пачаць работы ў 1865 г., але ўзніклыя праблемы адцягнулі пачатак працаў на 1871 г. Камітэт па рамонту вырашаў шмат праблемаў, прышлося шукаць адмысловую цэглу, звычайная тынкоўка не прыставала да старых муроў і для яе прыгатавання, выкарыстоўвалася гіграскапічная вапна. Дастаўку неабходных матэрыялаў забяспечвалі прыхаджане царквы.

Маламажэйкаўскі святар быў адным з тых, хто арганізоўваў і кіраваў рамонтам і перабудовай царквы, ён жа падрабязна апісаў гэты працэс, пачаўшы з дзіўнай заўвагі, якую не мае сэнсу нават каментаваць: *"Паводле інструкцыі, дадзенай мясцоваму камітэту, царква адноўлена ў ранейшым выглядзе"*. Потым ён адзначаў, што сапсаваныя часткі сцен былі атынкаваныя гідраўлічнай вапнай, іншыя неатынкаваныя часткі пафарбаваныя ў колер цэглы. Вежы пакрыты бляхай. Царкве быў пакінуты стары дах - з плоскай дахоўкі. У Рызе былі замоўлены і выраблены 8 жалезна-пазалочаных крыжоў. Усярэдзіне храма сцены атынкованы і выраўнаваны. У вежах выпраўленыя мураваныя прыступкі, аконныя рамы зроблены з дубу з жалезнымі кратамі, замест цаглянай падлогі зроблена драўляная. Прыстол пастаўлены на мураваным пад-мурку так, каб яго ножкі ўваходзілі ў адмыслова зробленыя паглыбленні. Ва ўсходніх вежах ўладкавана рызніца. Алтарная частка і салея з чатырма прыступкамі паднятыя на адзін аршын вышэй ад царкоўнай падлогі з выступам у $2\frac{1}{2}$ аршына ад іканастаса, перад якім уладкаваная балюстрада такарнай работы. Пішучы пра новы іканастас Савіцкі заўважыў:

*"Іканастас, хоць не багаты, але па прыгажосці пераўзыходзіць усе сельскія цэрквы ў павеце. Аздабленне іканастаса і ўсталёўка яго на месца абышліся камітэту вельмі дорага з-за таго, што іканастас быў дасланы за чатыры гады да пачатку ўсіх работ і з-за недагляду сапсаваўся. Акрамя таго, ён быў зроблены не па плану, так што пасля ўсталявання яго на месца, не зусім гармануе з іншымі часткамі храма. Драўляныя часткі іканастаса афарбаваны ў тры колеры: белы, светла- і цёмна-блакітны. Абразы наступныя: па правы бок царскай брамы - мясцовая выява Збаўцы, Унебаўзяцце Божай Маці, на паўднёвых дзвярах Арханёл Міхаіл, далей храмавая выява Нараджэння Прачыстай Багародзіцы, Аляксандра Неўскага і Марыі Магдаліны. Па левы бок царскай брамы - старажытны абраз Божай Маці, рыза якой ізноў пазалочана, далей абраз Св. Сямейства, на паўночных дзвярах Арханёла Гаўрыіла, далей Звеставанне Прачыстай Багародзіцы і Георгія Пераможца. У другім ярусе ўсталяваны чатыры двухмесныя абразы Св. Айца і Праайца, Апосталаў Пятра і Паўла, свяціцеля Мікалая і Сергія Цудатворца. Выявы, змешчаныя над паўночнымі і паўднёвымі дзвярамі, увянчаны крыжамі, так сама, як і іканастас, які заканчваецца драўляным вызалачаным крыжом з зззяннем. На горнем месцы выява Св. Тройцы. Усе гэтыя абразы жывапісу акадэміка Васільева"* [129].

А. Леў Савіцкі прывадзіць поўны каштарыс праведзенага рамонту:

Цэглы ўжыта 27 860 шт., 414 р. 60 кап.
Вапны - $235\frac{1}{2}$ бочак, 401 р. 40 кап.
Цэменту портланд - $235\frac{1}{2}$ бочак, 401 р. 40 кап.
Жалеза - 34 пуды $18\frac{1}{2}$ ф., 85 р. 73 кап.
Цвікоў - 25 п. 14 ф., 101 р. $25\frac{1}{2}$ кап.
Мулярам - 1458 р. 60 кап.
Іканастас з пераробкай - 1550 р.
Звон - 200 р.
Страхарам - 135 р. 84 кап.
Бляхі 2-х гатункаў - 442 лісты, 495 р. $65\frac{1}{2}$ кап.
Лес, дошкі і дрэва - 382 р. 45 кап.
Сталярам - 206 р. 51 кап.
Фарбавальшчыкам - 180 р.
Алею, фарбы - 131 р. $21\frac{1}{2}$ кап.
Балюстрада - 100 р. $62\frac{1}{2}$ кап.
Кавалям - 51 р.
Крыжы пазалочаныя - 680 р.
Шкляру - 82 р. 35 кап.
Цяслярам - 43 р.
4% архітэктару з сумы … 380 р. $64\frac{1}{2}$ кап.
…………………
Разам 7668 р. $86\frac{1}{2}$ кап.

Астатнія грошы ад сумы 7716 р. 15 кап. ужыты на гербавую паперу для контрактаў і іншыя выдаткі. Падчас папраўкі царквы шмат што неабходнае было зроблена звыш сумы і, не гледзячы на гэта, камітэт не выйшаў з грошай, асігнаваных урадам.

а. Леў Савіцкі зазначае: *"Застаецца толькі жадаць, каб надалей гэты выдатны будынак не быў пакінуты без падтрымкі ў сучасным выглядзе і прыгажосці, на што, вядома, запатрабуюцца з часам не малыя выдаткі, якія пры малалікасці і беднасці вернікаў не могуць быць імі выдаткаваны"*.

Асвячэнне царквы адбылося 21 студзеня 1873 г., па дабраслаўленні правялебнага Іосіфа, мясцовым дабрачынным протаіерэем Каяловічам, разам з двума святарамі і дыяканам, пры зладным спеве хлопчыкаў Дзікушскай народнай вучэльні. Мясцовым святаром было сказана адпаведнае выпадку павучанне. Пасля набажэнства, у якім удзельнічалі 8 святароў, было абвешчана шматгоддзе "Августейшему Государю и всему Царствующему Дому", высакапрывялебнаму Макарыю і вечная памяць заснавальніку гэтага храма, парэшткі якога пахаваны пры правай сцяне храма. Не

[128] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Менск, 1928. Т.1. С. 256.
[129] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №36-1873. С. 322.

гледзячы на моцны вецер, прыйшло шмат багамольцаў з мясцовага і суседніх прыходаў[130].

Праз больш, чым 30 гадоў, падчас святкавання юбілею царквы ў 1907 г., Савіцкі расказаў цікавыя падрабязнасці пра знаходкі ў царкве пры яе перабудове ў 1871-72 гг. Падчас рамонту, пры кладцы падлогі з дошак (да гэтага часу падлога была цагляная), *"знаходзілі шмат трунаў пад цаглінамі і на некаторых былі магільныя помнікі, з выявай крыжа, абведзенага кругам*[131]*. Былі такія велізарныя пліты, што патрабавалася сіла 3-4 чалавек, што б зрушыць іх з месца. І вось на адной з такіх пліт і быў прачытаны надпіс* "Христовъ рабъ Іерей Авраамъ" і год "1469". *Чыталі гэты надпіс былы будаўнік царквы архітэктар Полазаў і член люстрацыйнай камісіі палкоўнік дэ-Лазары".* Выняць камень з надпісам з-пад падлогі было складана і патрабавала дадатковых выдаткаў. Таму *"камень гэты як і іншыя апушчаны ў зямлю пры раўнанні грунту пад падлогай. Дубовыя труны, якія былі ў магілах і якія смуродзілі ў царкве, па распараджэнні былога епіскапа Ковенскага Аляксандра ў 1864 г. вынесены і разам з прахам пахаваны на могілках у агульнай магіле. Над гэтай магілай пастаўлены драўляны крыж, які ўжо струхлеў і ўпаў. Там жа знойдзена некалькі медных крыжоў вялікага і малога памеру. З іх толькі тры крыжыкі трапілі ў рукі мясцовага святара, адзін падобны на крыжы, якія зараз носяць святары, і два меншыя, на 2 - 1,5 цалі, з выявамі па абодвух баках грубай работы і няяснымі літарамі"* [132].

**8. Гісторыя царквы, другая палова XIX ст. - першая палова XX ст., а. Леў Савіцкі**

З 1863 г. па 1926 гг. гісторыя царквы злучана з яе настаяцелем а. Львом Савіцкім.

Савіцкі быў прызначаны Ковенскім епіскапам Аляксандрам настаяцелем Маламажэйкаўскай царквы адразу пасля заканчэння поўнага курса Літоўскай духоўнай семінарыі.

На жаль, пра гэтага чалавека, вядома не шмат. Ён нарадзіўся ў 1841 г. у в. Спорава Слонімскага павета[133], і ўсе жыццё прысвяціў сваёй царкве і прыходу, перабудаваў царкву, хоць і тэндэнцыйна, але першым напісаў яе гісторыю і сумленнай святарскай працай заслужыў пашану сярод прыхаджан.

Практычна адразу пасля прызначэння, святар пачаў шукаць грошы для рамонту сваёй царквы, нават звяртаўся да тагачаснага Віленскага генерал-губернатара Мураўёва, але грошай не атрымаў[134]. Грошы на рамонт, як пісалася вышэй, былі выдзелены ўрадам толькі ў 1871 г.

У Маламажэйкаўскай царкве знаходзіліся два шанаваныя абразы Божай Маці: адзін мясцовы, злева ад царскіх варот, другі, у асобным ківоце, раней знаходзіўся ў філіяльнай Воўчынкаўскай царкве[135]. Леў Савіцкі апісаў гісторыю сваіх пошукаў гэтага абраза. У апісаннях філіяльнай Воўчынкаўскай царквы абраз апісваўся як *"абраз Божай Маці ў срэбнай рызе з малюнкам паўкружжа Месяца пад абліччам Багамаці"*. А. Леў Савіцкі пісаў, што гэты абраз быў выпадкова адкрыты *"з прычыны асаблівага Промыслу Божага, які дзейнічаў праз адну вельмі хворую жанчыну з блізкай вёскі, якая адкрыла мне на споведзі пра сваё бачанне, быццам нейкая цудоўная жанчына ва ўбогім адзенні, з'явіўшыся, сказала ёй: "Памаліся абразу Божай Маці, што быў раней у капліцы ў Воўчынках, а зараз у цёмным і смуродным месцы знаходзіцца і тады пазбавішся хваробы". Словы жанчыны прымусілі мяне, не вяртаючыся дахаты, адправіцца да абшарніка з просьбай пра выдачу абраза, узятага з Воўчынкаўскай капліцы і паказаць пры гэтым тое месца, дзе яго хаваюць"*. Абшарнік адказваў, што ў яго няма ніякага абраза, і *"сам адправіўся ў паказанае мною месца, дзе нічога не было знойдзена. Пацярпеўшы яшчэ некалькі разоў няўдачу ў росшуках абраза, я ... два гады не звяртаўся да абшарніка па гэтай справе, чакаючы больш спрыяльнага выпадку, які і не замарудзіў хутка прадставіцца"*. Па дамашніх справах абшарнік павінен быў пераехаць у іншы маёнтак, а свой маёнтак аддаць у арэнду аднаму шляхціцу, у якога фактарам быў яўрэй. З прыватных чутак святар даведаўся, што абраз павінен быць у свіране. Пасля таго ён узяў з сабой двух самых дбайных вернікаў, з якіх адзін быў чальцом царкоўнай рады, даў ім патрэбныя інструкцыі і адправіў іх у гэты маёнтак прыцаніцца да свірана, які быццам быў прызначаны абшарнікам да продажу. Фактар, не падазраваючы пра хітрасць, адчыніў свіран, дзе і быў знойдзены абраз Божай Маці ў такім выглядзе, як ён апісаны ў дакуменце. *"Тады абраз з рызай і епітрахіллю быў ўзяты са свірана, з належным гонарам у 1868 г. перанесены ў храм і пастаўлены ў прыстойным месцы па левым баку ў куце іканастаса. На гэтым абразе знаходзіцца надпіс: "Іосіф і Кацярына Аўсяны", па выглядзе - абраз вельмі старажытны. Застаецца яшчэ вярнуць чашу з прыборам і звон"* [136].

Толькі праз больш, чым 30 гадоў, падчас святкавання юбілею царквы ў 1907 г., святар назваў імёны дзейных асоб гэтай гісторыі: абшарнік маёнтка Канцюгі Юліян Паплаўскі, хворая жанчына якая бачыла

[130] Литовские Епархиальные Ведомости. №4-1873. С. 51.

[131] Крыж абведзены кругам, мае традыцыйную назву Кельцкі ці Сонечны крыж - раўналучавы крыж з кругам. З'яўляецца характэрным сімвалам кельцкага хрысціянства. Сімвалізуе сонца, паветра, зямлю і ваду ў адзінстве, пазначае цыклічнасць і замкнёнасць. Крыж з'явіўся ў Ірландыі, да VIII ст. Існуюць шматлікія прыклады выяваў крыжа і круга.

[132] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. №8-1907. С. 168.

[133] Горны Аляксандр. Страсці вакол Мураванкі // Поколение. № 2-2013. С. 46.

[134] Завала Віктар. Нараджэння Прасвятое Багародзіцы Маламажэйкаўская царква // Праваслаўе. №9-2000. С. 63.

[135] Маломожейковская "Мурованная" церковь. Вильна. 1907. С. 17.

[136] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №42-1873. С. 369-371.

сон - Людвіка Сцяпанаўна Чурган, дбайныя прыхаджане, абодва з Бешанак - Іван Міхайлавіч Хлус (член царкоўнай рады) і муж хворай жанчыны Тамаш Аўгусцінавіч Чурган[137].

Пры канцы XIX ст. аб цудам захаваным старажытным абразе Божай Маці і аб знаходцы скарбу срэбных і залатых манет пад адной з вежаў Маламажэйкаўскай царквы пісаў дырэктар Віленскага музея старажытнасцей археолаг Ф. В. Пакроўскі[138].

У 1867 г. Маламажэйкаўскі прыход Нараджэння Прасвятой Багародзіцы налічваў 143 двары і 1089 прыхаджан. У карыстанні царкоўнага прычту знаходзілася 59 дзесяцін зямлі, у дадатак ад казны ішло жалаванне ў памеры 360 рублёў у год.

З 1864 г. у прыходзе існавала царкоўна-прыходская школа, якая месцілася па прыватных хатах. З 1871 г. да 10 лютага 1882 г. яна размяшчалася ў царкоўным доміку, пабудаваным на сродкі а. Льва Савіцкага. Пажар знішчыў гэты дом, пасля чаго прыхаджане пабудавалі на царкоўныя сродкі новы вучылішчыны дом. Перад Першай сусветнай вайной пры прыходзе дзейнічалі ўжо тры царкоўна-прыходскія школы: у вёсках Малым Мажэйкаве, Шпільках і Агародніках. У гэтых школах вучылася 150 дзетак. Увесь прыход у гэты час налічваў 1505 прыхаджан. У карыстанні прычту было 186 дзесяцін зямлі, і на яго ўтрыманне яшчэ выдзялялася жалаванне ў памеры 517 рублёў 60 капеек штогод[139].

Святар Леў Савіцкі меў вельмі цікавае захапленне, якое, дарэчы, давала і добры дадатак да яго даходаў. "Литовские Епархиальные Ведомомости" у 1902 г. пісалі, што з 20 траўня па 20 чэрвеня 1902 г. па пастанове Літоўскай епархіяльнай вучылішнай рады ў Маламажэйкаве праводзіліся курсы пчалярства. Курсы на сваім пчальніку (які складаецца з 47 вулляў) праводзіў святар мясцовай царквы Леў Савіцкі. На курсы было выклікана 15 настаўнікаў царкоўна-прыходскіх школ Літоўскай епархіі. *"Абедалі настаўнікі ў доме святара, а чай пілі ў доме псаломшчыка. Савіцкаму на курсы было адведзена 339 рублёў 95 кап. 16 чэрвеня курсісты хадзілі ў м. Вялікае Мажэйкава, дзе разам з кіраўніком курсаў аглядалі знакаміты парк і сад абшарніка Грабоўскага і яго пчальнік. Пану Грабоўскаму і ўсім сялянам Маламажэйкаўскага і суседніх прыходаў а. Савіцкім паказаны рацыянальныя спосабы пчалярства. У цяперашні час звяртаюцца да яго па параду, дасылаюць лісты абшарнікі і святары з іншых паветаў і губерняў"* [140].

У 1906 г. на сродкі Віленскага Свята-Духавага Брацтва адбыўся чарговы рамонт царквы[141].

13 траўня 1907 г. святкавалася ўмоўнае 500-годдзе царквы.

Царкоўная ўрачыстасць пачалася з прыбыццём у Маламажэйкаўскую царкву 12 траўня Архіепіскапа Літоўскага і Віленскага Нікандра. Стараннямі мясцовых жыхароў, мясцовага земскага начальніка і абшарніка М.М. Скосырава[142] па дарозе ад станцыі Скрыбаўцы да царквы былі пастаўлены высокія аркі, прыбраныя зелянінай і сцягамі імперыі, гэтак жа былі ўпрыгожаны і масты па дарозе руху ўладыкі. У 9 гадзін раніцы Архіепіскап з суправаджаўшымі яго асобамі прыбыў у дом Маламажэйкаўскай святара а. Льва Савіцкага, а ў 9.30 раніцы была пачата памінальная літургія. На літургіі і паніхідзе паміналі памерлых заснавальнікаў, дабрачынцаў, і настаяцеляў Маламажэйкаўскай царквы.

З раніцы ў Малым Мажэйкаве пачалі збірацца госці. Цягніком з Вільні прыбыў Віленскі губернатар Д.Н. Любімаў, віленскі павятовы маршалак шляхты І.Р. дэ-Віт, прадстаўнікі лідскай павятовай адміністрацыі, прадстаўнікі віленскага Св. Духаўскага брацтва А.В. Бялецкі, Д.І. Даўгяла і А.І. Мілавідаў, прадстаўнікі "русского окраинного союза" Ф.Н. Дабранскі, Е.М. Крылоў і І.С. Саўчанка, ад "саюза рускага народа" В.Т. Лізін, ад "русского собрания" П.П. Шкот і ад таварыства "Крестьянин" С.А. Кавалюк. Дарэчы, большасць з іх - добра вядомыя "истинно-русские люди" ў нашым краі.

Таксама, каля 9.00 пачалі збірацца сяляне з ваколіцаў, хроснымі хадамі прыйшлі вернікі з Дзікушак, Радівонішкаў, Лебяды і, нават, Васілішак.

У 12 гадзін дня Архіепіскап адбыў у Баброўскую царкву, дзе свой зварот да прыхаджан пачаў з дакору, што "некаторыя з вас "совратились" у каталіцтва". Да "совращения" ў каталіцтва ў гэты час мы яшчэ вернемся трохі ніжэй.

Пасля Баброў Архіепіскап Нікандр вярнуўся ў Маламажэйкаўскую царкву, і тут з 18.00 пачалося усяночнае чуванне. К гэтаму часу з хроснымі хадамі прыйшлі вернікі з Орлі.

Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел сыны і зяці а. Льва: Міхаіл Львовіч, святар з Вялікіх Жухавіч Наваградскага павета; а. Іосіф Львовіч, святар Молчадскай царквы Гарадзенскай губерні; а. Мікалай Фалевіч, святар Таўрогенскай царквы Ковенскай губерні; а. Мікалай Марозаў, святар Дукштанскай царквы Ковенскай губерні; а. Арыстарх Білеў, святар Кабыльнікаўскай царквы Свянцянскага павета.

Пасля 24.00 Архіепіскап з суправаджаўшымі яго асобамі па чыгунцы ад'ехаў у Ліду.

Пад час святкаванняў а. Леў Савіцкі расказаў, што ў яго прыходзе было толькі 15 пераходаў у каталіцтва (з 1400 вернікаў) што, па яго словах, "малая коль-

---

[137] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. №8-1907. С. 169.

[138] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 100.

[139] Завала Віктар. Нараджэння Прасвятое Багародзіцы Маламажэйкаўская царква // Праваслаўе. №9-2000. С. 64-65.

[140] Литовские Епархиальные Ведомости. №45-1902. С. 375-377.

[141] Завала Віктар. Нараджэння Прасвятое Багародзіцы Маламажэйкаўская царква // Праваслаўе. №9-2000. С. 64-65.

[142] М.М. Скосыраў - бацька будучага караля Андоры Барыса I (Барыса Міхайлавіча Скосырава).

[143] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. №8-1907. С. 158-162.



***Здымак каля царквы 13 траўня 1907 г.***

*(Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. № 8-1907. С. 168.)*

***На здымку** ў цэнты групы - Архіепіскап Нікандр.*

***Па правы бок ад яго:** Віленскі губернатар Д.Н. Любімаў, настаяцель Маламажэйкаўскай царквы а. Л.І. Савіцкі, А.В. Бялецкі, Шчучынкі дабрачынны Станкевіч.*

***Па левы бок ад Архіепіскапа:** Стефаніда Міхайлаўна Савіцкая - жонка айца настаяцеля, Лідскі павятовы правадзіцель дваранства Л.В. Грабоўскі, Феафана Восіпаўна Савіцкая, жонка святара, Н.Н. Рыдман.*

***Ніжні рад:** В.Т. Лізін, Д.І. Даўгяла, А.І. Мілавідаў, два вучні Лідскай гарадской вучэльні, Р.А. Дружылоўская, Е.А. Дружылоўская.*

***Верхні рад, стаяць:** святар М.Л. Савіцкі, дыякан Жамайда, святар Мікалай Плаўскі, святар С. Марозаў, святар А. Чабоўскі, Ф.Н. Дабранскі, Клейн, І.П. Кукушкін, Іваноў, М.М. Скюсыраў, протаярэй М. Галянкевіч, Мельнікаў, святар М.М. Пашкевіч, спраўнік Васілеўскі, станавы прыстаў Васілішын, святар Панкратаў, І.Р. дэ-Віт, протаіерэй І.М. Рыбцэвіч, Е.М. Крылоў, дыякан Крукоўскі, прыстаў Грудзінскі, святар Ц. Юзвюк, протадыякан Нядзельскі, вучань Лідскай гарадской вучэльні.*

касць" [143]. Справа ў тым, што пасля рэвалюцыі 1905-06 гг. і так званага "Кастрычніцкага маніфеста", г.зн. практычна канстытуцыі Расейскай імперыі, сярод іншых, была дазволена і свабода сумлення. Цар падпісаў знакаміты ўказ аб рэлігійнай талеранцыі, бо да гэтага ўказу адыход ад праваслаўя лічыўся крымінальным злачынствам. Паводле ўказу, праваслаўе заставалася пануючай рэлігіяй у Імперыі, але цяпер можна было законна перайсці ў іншае веравызнанне. І нават праз 70 гадоў пасля скасавання уніі, па ўсім краі людзі пачалі пераходзіць у каталіцтва. Верагодна, рэкорд паставілі жыхары мястэчка Сапоцкін і навакольных вёсак (тэрыторыя якая ўваходзіла ў Царства Польскае, і дзе унія была скасавана толькі на пачатку 1875 г.), якія ў поўным складзе перайшлі ў каталіцтва. Па усёй Беларусі ў 1905-1909 гг. у каталіцтва перайшло 232 705 вернікаў[144].

Вельмі пацярпела Маламажэйкаўская царква падчас Першай сусветнай вайны. У 1915 г., калі фронт пачаў набліжацца да Лідчыны, у царкве зрабілі шпіталь для раненых расейскай арміі. Перад прыходам немцаў каштоўнасці храма (абразы, кнігі) былі эвакуяваны ў Маскоўскую епархіяльную кантору і, зразумела, назад ужо не вярнуліся. Падчас нямецкай акупацыі тут быў лагер для ваеннапалонных. Алтарную частку пераўтварылі ў месца захоўвання правіянту і таму гэта было "салодкае" месца для пацукоў, якія пагрызлі падлогу, сапсавалі сцены. Ваеннапалонныя разбурылі агароджу, браму, спалілі пабудовы пры храме і, як кажуць, "нават святатаствавалі" [145].

Разам з расейскімі войскамі а. Леў Савіцкі пакінуў родныя мясціны, а вярнуўся ў 1920 г. Пасля вяртання ён застаў царкву ў страшным становішчы і адразу пачаў клапаціцца аб яе аднаўленні.

Польскія ўлады ў той час распачалі працэс рэвіндыкацыі - вяртання раней забраных каталіцкіх хра-

[144] Вашкевіч Андрэй. Грэка-каталіцкае насельніцтва Аўгустоўшчыны ў канцы XVIII - пачатку XX стст.(канфесійныя змены і фармаванне этнічнай свядомасці) // "Bialoruskie Zeszyty Historyczne" №24-2005. С.46. 53-54.

[145] http://www.zvyazda.minsk.by/ru/pril/article.php?id=101149.





***Маламажэйкаўская царква на пачатку XX ст.***

маў. Але разам з былымі касцёламі час ад часу рабіліся спробы адабрання цэркаў, якія былі раней уніяцкімі і ніколі не былі рыма-каталіцкімі. Нажаль, патрапіла ў гэты лік і Маламажэйкаўская царква, хоць вакол яе ў той час пераважала праваслаўнае насельніцтва.

Свой далейшы аповед пра лёс царквы ў 1920-30-х гадах я буду ў асноўным грунтаваць на выдатным даследванні гарадзенскага гісторыка Аляксандра Горнага.

Вярнуўшыся на радзіму а. Леў Савіцкі на той час быў адным з найстарэйшых святароў Віленскай епархіі. Анкетны ліст прычту царквы, складзены ў той час, дазваляе ўявіць стан прыходу на пачатку 1920-х гг.: прычт меў 63 дзесяціны зямлі, прыход складаўся з паўтары тысячы вернікаў, у яго склад акрамя сваіх уваходзілі і вёскі зачыненага Васілішскага прыходу. Святар жыў у доме каля храма, дом знаходзіўся ў вельмі дрэнным стане[146].

Часопіс "Праваслаўны беларус" пісаў, што Маламажэйкаўская царква вельмі спадабалася чыгуначным службоўцам - каталікам з суседняй станцыі Скрыбаўцы, якія і падалі хадайніцтва каталіцкаму біскупу аб перадачы ім царквы[147]. Пэўна, яшчэ адной нагодай стала "нядабранадзейнасць" протаіерэя а. Льва Савіцкага - старога, яшчэ з XIX ст., байца змагання з рыма-каталіцтвам. Лідскі староста адмовіў яму ў выдачы польскага грамадзянства з-за "палітычнай недабранадзейнасці", а без грамадзянства святар не мог выконваць свае абавязкі і павінен быў праз нейкі тэрмін пакінуць межы Польскай дзяржавы.

Верагодна ўсё гэта і прадвырашыла далейшы лёс прыходу: у 1924 г. у прычту была адабраная і аддадзеная ў арэнду зямля, а 10 кастрычніка таго ж года па распараджэнні Міністэрства асветы і рэлігійных вызнанняў і пры паразуменні з вышэйшымі ўладамі Польскай праваслаўнай царквы, праваслаўны прыход у Малым Мажэйкаве быў скасаваны. Прыхаджане і а. Леў Савіцкі не пакладалі рук, каб уратаваць свой прыход. Пісаліся розныя заявы ў адміністрацыйныя інстанцыі, звярталіся да варшаўскага мітрапаліта, ураду і дэпутатаў польскага сойму з просьбай аб абароне. 4 красавіка 1925 г. у доме святара паліцыяй быў зроблены ператрус, а праз некалькі месяцаў намеснік навагрудскага ваяводы даслаў віленскаму епіскапу Фядосію ліст, у якім патрабаваў перавесці Савіцага ў іншае месца, бо ён *"не хоча выконваць распараджэння польскіх уладаў і праводзіць агітацыю, шкодную для дзяржавы"* [148]. Фядосі ў сваім адказе, спрабуючы абараніць святара, пісаў, што Савіцкі ўжо глыбокі стары і за сваё амаль шасцідзесяцігадовае знаходжанне на адным месцы зрадніўся з насельніцтвам прыходу, таму перавод у іншае месца састарэлага протаіерэя Савіцкага можа стаць фатальным для яго жыцця… . Неўзабаве 85-гадовы стары злёг у ложак і 3 лютага 1926 г. памёр[149]. Аўтар газеты "Беларускае слова" які хаваўся пад псеўданімам "Праваслаўны беларус" пісаў ў карэспандэнцыі "Смерць пастыра" [150]: *"Ужо некалькі месяцаў хварэў наш дарагі духоўны пастыр - айцец Леў Савіцкі. У сераду, 3-га лютага, яго не стала. Весткі аб яго смерці хутка разышліся па ваколіцы і ўсюды выклікалі вялікі смутак і жаль. Леў Савіцкі прабыў у нас у Мураванцы 63 гады. ... Але апошнім часам нашаму дарагому пастыру прышлося перанесці адну бяду за другой. Яго прыход пастанавілі скасаваць.*

*Айцец Савіцкі, не гледзячы на свае 90 гадоў, пачаў энергічна працаваць, каб як-небудзь уратаваць царкву. Ён пісаў заявы да вышэйшых уладаў, потым ездзілі нават і прадстаўнікі нашага прыходу. Але ўсё гэта дарэмна. Праз нейкі час ад нашага прыходу адабралі ўсю царкоўную зямлю. Гэта было цяжкім ударам для ўсіх нас, а таксама і для нашага пастыра. Клопаты зусім падарвалі яго і без таго ўжо слабыя сілы, і ён хворы паклаўся ў ложак, каб больш не ўстаць.*

*Здавалася, што памёршы айцец ўжо нікому не*

[146] Горны Аляксандр. Страсці вакол Мураванкі // Поколение. № 2-2013. С. 46.
[147] Там жа.
[148] Там жа. С. 47.
[149] Там жа.
[150] Беларускае слова. №5-1926. С. 3.

*перашкаджае. Аднак жа выйшла інакш. Быў атрыманы ад мясцовага старасты загад, якім забаранялася хаваць нябожчыка каля царквы, прычына ..., што царква стаіць у населеным месцы. А два месяцы назад, у м. Беніцы Ашмянскага пав., пахавалі свяшчэнніка каля царквы, хаця апошняя і стаіць пасярод мястэчка. ... Дык прыйшлося нясці нашага пастыра за 2 вярсты на могілкі, дзе ў старой капліцы ён і знайшоў свой апошні прытулак"* [150].

Пэўна, а. Леў быў адзіным праваслаўным святаром на Лідчыне, якога ціснула новая ўлада. Бо ўсе астатнія святары ў 1926 г. ужо наўпрост атрымлівалі грошы ад польскага ўраду[151].

Павятовы стараста загадаў царкву зачыніць і ключы ад яе перадаць мясцоваму дабрачыннаму. Аднак, 25 лютага 1926 г. у Малое Мажэйкава да псаломшчыка прыехаў камендант паліцыі і адабраў ключы ад царквы. Не атрымаўшы ключы, дабрачынны ў прысутнасці двух святароў і панятых апячатаў царкву[152].

Тым не менш вернікі працягвалі барацьбу і маліліся ў невялікай капліцы на могілках, якая не магла змясціць усіх прыхаджан. Вось што пісаў у часопісе "Праваслаўная Беларусь" аўтар пад псеўданімам "Муравански прыхаджанін" у артыкуле пад назвай "Маламажэйкаўская "мураванская" царква": *"Вось ужо два гады, як нашая Маламажэйкаўская царква ..., зачынена. У лютым прошлага года памёр наш свяшчэннік а. Леў Савіцкі. ... З зачыненнем царквы палажэнне ў нашым прыходзе, маючым больш за 2000 душ, стала надта цяжкім. ... шмат прыхаджан не маюць магчымасці бываць у цэрквах суседніх прыходаў, якія знаходзяцца ад нас на досыць значных адлегласцях. Аб адчыненні царквы парафіяне клапаталі, дзе толькі можна. Ездзілі ў гэтай справе не толькі да п. старасты і п. ваяводы, але і ў Вільню да Архіепіскапа і ў Варшаву да Мітрапаліта і нават у Міністэрства. Усюды абяцалі разгледзець справу, але ... нажаль, ніякіх рэзультатаў не атрымалі. У астатні час нашым дэлегатам у старостве абвешчана, што ўся справа скіравана ў міністэрства; у міністэрстве ж кажуць: "Будзьце спакойны, справа адаслана да мітрапаліта, ад каторага ўсё залежыць", а мітраполія адпраўляе ізноў у міністэрства, кажучы, што ўся справа залежыць ад гэтага апошняга. З'явілася нейкае зачараванае кола. ..."*. Гэты ж аўтар пісаў, што ўлетку 1927 г. у вёску з прапановай пераходу ў унію прыязджаў уніяцкі святар Васіль Гапановіч ён меўся ўзяць на сабе справу аднаўлення царквы перад уладамі. Цікава што "Мураванскі прыхаджанін" у якасці доказу старажытнасці сваёй праваслаўнай царквы спасылаецца на васьміканцовыя крыжы на вежах, якія, як вядома, былі зроблены на надбудаваных вежах толькі падчас рэканструкцыі ў 1872 г.[153]

У 1927 г. царкоўныя ўлады прызначылі ў Малое Мажэйкава новага святара - выпускніка Віленскай духоўнай семінарыі Яна Жарскага. Звесткі наконт службы гэтага пастыра ў Маламажэйкаўскай царкве прыводзіць іерэй Фама Шаплыка ў сваёй кнізе "Радашковічы праваслаўныя": *"На царкве былі ўсталяваны каталіцкія і праваслаўныя крыжы. А. Ян хацеў прыбраць каталіцкія крыжы, але каталікі данеслі на яго ўладам, і ён ледзь не трапіў у турму. Пазбегнуўшы арышту ён быў накіраваны ў м. Рудамін, што за 15 км ад г. Вільня"* [154]. Гісторык Аляксандр Горны дапускае, што, ўжо ў 1926-1927 гг. рабіліся захады па змяненні знешняга выгляду храма, з разлікам, што ён раней ці пазней будзе належыць каталікам. Верагодна каталіцкія крыжы, якія збіраўся прыбраць святар Жарскі, былі ўсталяваны на прытворы царквы[155].

Трэба адзначыць, што аналіз фотаздымкаў царквы, зробленых на пачатку XX ст. і пры канцы 1980-х гг. паказвае, што, верагодна, пры канцы 1920-х гг. на царкоўных вежах праваслаўныя крыжы, усталяваныя а. Львом Савіцкім, былі зменены на так званыя "латарынгскія крыжы" (крыж з двума папярочкамі), такія крыжы ў нас называюцца "крыжамі Ефрасінні Полацкай" ці таксама - уніяцкімі.

9 лістапада 1928 г. Лідскі стараста прывёз мясцовага дабрачыннага протаіерэя Ўладзіміра Жданава і загадаў зрабіць улік царкоўнай маёмасці, пасля чаго абразы былі вывезены з царквы, іканастас дэмантаваны а царква перададзена рыма-каталіцкай грамадзе[156]. Было праведзена асвячэнне храма, які стаў касцёлам пад вызнаннем Валадара Езуса Хрыстуса. Новая каталіцкая парафія, замест Маламажэйкаўскай, пачала называцца Скрыбаўскай, бо менавіта там пражывала

[151] Спіс неадкладнай дапамогі праваслаўным духоўным Лідскага павета за сакавік і красавік 1926 г.: Голдаўскі прыход, Кудасаў Уладзімір (дабрачынны) - 80 злотых; Зблянскі прыход, Валкоўскі Мікалай (настаяцель) - 65 злотых; Жыжмянскі прыход, Шчэрбіцкі Юзаф (настаяцель) - 65 злотых; Дакудаўскі прыход, Аляхновіч Ян (настаяцель) - 65 злотых; Радзівонішскі прыход, Коршун Рыгор (настаяцель) - 65 злотых; Табальскі (Беліцкі) прыход, Яцкевіч Ян (настаяцель) - 65 злотых; Баброўскі прыход, Бяляеў Аляксандр (настаяцель) - 65 злотых; Ганчарскі прыход, Малевіч Дзмітры (настаяцель) - 65 злотых; Лідскі прыход, Кірык Уладзімір (настаяцель) - 65 злотых; Лябёдскі прыход, Шыкаловіч Сымон (настаяцель) - 65 злотых; Ракавіцкі прыход, Флораў Уладзімір (дабрачынны) - 80 злотых; Глыбоцкі прыход, Загорскі Антон (настаяцель) - 65 злотых; Дэмбраўскі прыход, Мышкоўскі Базыль (настаяцель) - 65 злотых; Дзікушскій прыход, Жэброўскі Барыс (настаяцель) - 65 злотых; Арлянскі прыход, Галянкевіч Мікалай (настаяцель) - 65 злотых; Астрынскі прыход, Ліхнякевіч Ян (настаяцель) - 65 злотых, Лебедзеў Мікалай (вікары) - 40 злотых; Пакроўскі (Сабакінскі) прыход, Шчастны Юстын (настаяцель) - 65 злотых; Турэйскі прыход, Ленько Кірыл (настаяцель) - 65 злотых; Шчучынскі прыход, Драздоў Рыгор (настаяцель) - 65 злотых. // Загідулін, А. М. Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.). Гродна, 2010. С. 162.

[152] Горны Аляксандр. Страсці вакол Мураванкі // Поколение. № 2-2013. С. 47.

[153] Праваслаўная Беларусь. №5-1927. С. 10-11.

[154] Горны Аляксандр. Страсці вакол Мураванкі // Поколение. № 2-2013. С. 47.

[155] Там жа.

[156] Завала Віктар. Нараджэння Прасвятое Багародзіцы Маламажэйкаўская царква // Праваслаўе. №9-2000. С. 65.

асноўная маса католікаў. Захаваліся імёны каталіцкіх ксяндзоў, якія да вайны служылі ў Мураванцы: Павел Чаплоўскі, Мікалай Вагнер, Уладзіслаў Мончка[157].

З кнігі Л. Маракова "Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі. 1917-1967" даведваемся, што сын Льва Савіцкага, Міхаіл Львовіч, які нарадзіўся ў 1869 г. у в. Мураванка Лідскага павета Віленскай губ., згодна з дадзенымі архіва НКУС *"беларус, з духоўнага саслоўя, сярэдняя адукацыя, святар царквы ў м. Старобін"* быў арыштаваны 06.08.37 г. і асуджаны 10.09.37 г. "тройкай" за антысавецкую агітацыю паводле арт. 72 КК БССР да вышэйшай меры. Расстраляны ў Слуцкай турме 17.09.37. г. Міхаіл Львовіч скончыў Літоўскую духоўную семінарыю і быў рукапаложаны ў іерэі ў 1894 г. З 1898 г. быў настаяцелем Раства-Багародзіцкай царквы в. Паўбераг Наваградскага павета. З 1906 г. служыў у Петра-Паўлаўскай царкве в. Вялікія Жухавічы Наваградскага павета. З лютага 1915 г. настаяцель Мікалаеўскай царквы ў мястэчку Старобін Слуцкага павета[158]. 8.09.1937 г. у Разані таксама быў арыштаваны ўнук а. Льва Савіцкага - настаўнік Разанскай спецыяльнай школы № 15 Савіцкі Вадзім Міхайлавіч (нарадзіўся ў 1903 г. у. в. Паўбераг). 19.10.1937 г. асуджаны камісіяй НКУС і пракуратуры СССР за *"сістэматычную антысавецкую агітацыю і контррэвалюцыйную прапаганду сярод насельніцтва"* да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Маскве на палігоне НКУС "Аб'ект Бутава" 21.10.1937 г.[159].

Так атрымалася, што ідэалагічная вайна, якую вяла імперыя, чыім верным жаўнерам быў а. Леў Савіцкі, пасля 1920-га года не скончылася і сапсавала яму старасць, а нашчадак царскай - "чырвоная імперыя" забіла яго сына і ўнука.

Можа і не трэба было б вяртацца да аналізу міфаў пра царкву, якія стварыў Савіцкі (першым з якіх з'яўляецца міф пра будаўніцтва царквы ў XV ст.) але гэтыя міфы зноў усё часцей транслююцца праз розныя газеты, турыстычныя сайты, і, як кожныя няпраўда, скажаюць рэчаіснасць і робяць няпэўнай будучыню.

Падобна, што а. Леў акрамя артыкула пра сваю царкву ў сваім жыцці больш нічога не напісаў. Але ён апошнім трымаў у руках старыя царкоўныя дакументы, і таму напісаная ім гісторыя Маламажэйкаўскай царквы, мае вялікую каштоўнасць і ставіць Савіцкага ў адзін шэраг са знанымі даследчыкамі нашай гісторыі XIX ст., уводзіць у пантэон лепшых краязнаўцаў Лідчыны. Святар Маламажэйкаўскай (Мураванкаўскай) царквы данёс да нас галоўны масіў інфармацыі пра гэты надзвычай важны ў гісторыі Лідчыны і ўсёй Беларусі храм. Усе сур'ёзныя даследчыкі пасля яго абавязкова давалі спасылкі на яго артыкул, але, на жаль, не ўсе ўважліва яго чыталі.

У рамане-ідыліі расейскага пісьменніка Аляксандра Чудакова "Кладзецца імгла на старыя прыступкі", распавядаецца пра лёс групы "ссыльнапасяленцаў" на мяжы Сібіры і Паўночнага Казахстана. У кнізе некалькі разоў вельмі сентыментальна ўспамінаецца родная для галоўных дзейных асобаў вёска Мураванка, якая знаходзіцца недзе ў гістарычнай Літве і прадзед - святар а. Леў. Прадзед ў рамане з'яўляецца ўзорам чалавека: ён моцны ("Ты б бачыў свайго прадзеда, айца Льва! Волат!"), разумны і справядлівы, а вёска Мураванка - лепшае месца на зямлі.

У рамане Чудакова збольшага дакладна апісваецца вялікая сям'я айца Льва, два сыны-святары а. Іосіф і а. Міхаіл (расстраляны бальшакамі) і трэці брат, які не стаў святаром і з'яўляецца дзедам галоўнага героя, ад асобы якога вядзецца апавяданне. Пісьменнік пераказвае гісторыю сваёй сям'і дзе ўсё пераплецена і выдумка не адрозніваецца ад успамінаў, але зразумела, што ён сам з'яўляецца нашчадкам (праўнукам) святара а. Льва.

За раман "Кладзецца імгла на старыя прыступкі" у 2011 г. Аляксандр Чудакоў пасмяротна атрымаў прэмію "Рускі Букер дзесяцігоддзя".

**9. Гісторыя царквы, другая палова XX стагоддзя**

Афіцыйна касцёл быў зачынены Савецкай уладай у 1946 г. Ужо з 1947 г. вернікі Маламажэйкаўскай царквы пачалі хадайніцтва перад епіскапам Гарадзенскім і Лідскім Варсафоніем і ўпаўнаважаным па справах рэлігіі па Гарадзенскай вобласці Макаранкам аб адкрыцці сваёй царквы. Але царква стаяла закінутая аж да 1987 г., больш за чатыры дзесяцігоддзі яна лічылася складам. Мясцовыя жыхары памятаюць, што царква аказалася ў запусценні і была месцам для гульняў тагачасных дзяцей.

З 1987 па 1993 гг. тут служыў святар Анатоль Нербаў. Ён пачаў праводзіць першасныя рамонтныя работы. З 1993 г. настаяцелем Маламажэйкаўскай царквы стаў святар Віктар Свянціцкі. Гэты святар нарадзіўся ў 1968 г. у мястэчку Орля Шчучынскага раёна ў сялянскай сям'і. У 1990 г. паступіў у Менскую духоўную семінарыю і на трэцім годзе навучання быў рукапаложаны ў дыяканы епіскапам Наваградскім і Лідскім Канстанцінам. 8 жніўня 1993 г. гэты ж епіскап рукапалажыў яго ў святары. 21 верасня 1993 г. загадам архіепіскапа Гарадзенскага і Ваўкавыскага Валянціна а. Віктар прызначаны на пасаду настаяцеля Маламажэйкаўскай царквы (царква в. Мураванка, Шчучынскага раёна). А. Віктар Свянціцкі неаднаразова праводзіў рамонтныя работы: скляпенні і сцены знутры пабеленыя, новыя роспісы не рабіліся. Іканастас зроблены ў два ярусы, у першым - дзевяць абразоў, у другім - тры. Прыстол адзін, асвечаны ў імя Нараджэння Прасвятой Багародзіцы. Антымiс быў асвечаны мітра-

[157] Горны Аляксандр. Страсці вакол Мураванкі // Поколение. № 2-2013. С. 47.

[158] Маракоў Л. Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі. 1917-1967. Т. 2. // Рэжым доступу: http://www.marakou.by/by/davedniki/repres_nastaunik/tom-iv-kniga-ii/index_24965.html. - Дата доступу: 12.08.2013.

[159] Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. Рэпрэсаваныя Настаўнікі Т. IV. Кн II. // Рэжым доступу: http://www.marakou.by/by/davedniki/repres_nastaunik/tom-iv-kniga-ii/index_24965.html. - Дата доступу: 12.08.2013.



*Царквы пры канцы 1980-х гг. з Латарынгскімі крыжамі*

палітам Менскім і Гарадзенскім Філарэтам у 1989 г.

Прыход мае 7 вёсак, на Вялікдзень, Каляды і прыстольнае свята Нараджэння Прасвятой Багародзіцы адбываюцца хрэсныя хады. У 1999 г. царкоўны прычт складаўся з святара Віктара Свянціцкага і псаломшчыка-рэгента, дзейнічала нядзельная школа, у якой святар і яго матушка навучалі 15 дзетак[160].

Дадаткі

**Рэестр дакументаў і розных папер, якія адносяцца да гісторыі Маламажэйкаўскай царквы з архіва а. Льва Савіцкага[161]**

1. Assecuracia, Нарушэвіча, старасты Ушпольскага, дадзенае Ф. Гладкевічу, протапрасвітару Лідскаму, святару Маламажэйкаўскаму, з пазначэннем дзесяціны з Маламажэйкава, чэрвеня, 12 д., 1673 г.

2. Ліст спадарыні Ліпніцкай, маршалковай Мазырскай, пісаны да святара Гладкевіча, прасвітара Мажэйкаўскага, у якім ёсць распараджэнне Кажанеўскаму, адміністратару Мажэйкаўскаму, пра аддачу квоты ад дзесяціны ў царкву Мураваную. Года і даты няма.

3. Запіс заснавальніка гэтай царквы на зямлю і дзесяціну да царквы і іншыя палёгкі, гэтыя палёгкі пацверджаны Янам Завішам і Андрэем Сапегам 1597 г. чэрвеня 10 дня. Выпіс зроблены з кніг Лідскіх гродскіх 1658 г., траўня, 9 дня. Гэты дакумент пісаны славянскімі літарамі і вельмі стары.

4. Дакумент стары, з подпісам рукі і пячаткі Сялявы, мітрапаліта (выпіс з кнігі духоўных мітрапалітаў Кіеўскіх спраў вячыстых), пра надзел царквы валокай зямлі ў вёсцы Навасадах і чалавекам, выдадзены жонкай заснавальніка Ірынай, 1542 г.

5. Дакумент Якава Кулешы, генерала павета Лідскага, датычны дзесяціны з маёнтка Красулі для Маламажэйкаўскай царквы, 1664 г., студзеня, 20 дня, пісаны па-старабеларуску з перакладам на польскую мову.

6. Арышт сумы Альшэўскай і Старпінскай пры продажы іх маёмасці і пры перадачы Красуляў Сяклюцкаму за неаддаванне дзесяціны ў царкву, 1664 года, студзеня, 30 дня.

7. Загад мітрапаліта Руцкога святару Мажэйкаўскаму, каб грунты некаторыя, забраныя людзьмі свецкімі, вярнуць да царквы, пісаны па-старабеларуску і перакладзены на польскую мову ў 1636 г.

8. Паданнне царквы ад двароў Вялікага і Малога Мажэйкава святару Раману Рожыцу пры генералу Асіповічу, пісаны па-старабеларуску, копія перакладзена на польскую мову, 1656 г., лютага, 3 дня.

9. Копія дакумента, дадзенага Сялявай Лаўрыну Варатынскаму, 1565 г.

10. Прывілей караля польскага Жыгімонта 3-га з подпісам рукі Льва Сапегі, канцлера Літоўскага, 1612 г., жніўня, 28 дня.

11. Прызнанне князя Саламарэцкага, падкаморага Менскага, занесенае ў кнігі канцылярскія з чатырма пячаткамі 1612 г., жніўня, 28 дня.

12. Дакумент Івана Нарымунта, адміністратара Велікамажэйкава, дадзены царкве Мажэйкаўскай, 1645 г.

13. Дзве старыя карткі, адна з пячаткай будаўнічага, другая таксама з невыразным подпісам, але занесена ў кнігі гродскія Лідскія 1644 г., кастрычніка, 5 дня Фядосіем Варатынскім, год і дзень не паказаны.

14. Перадача царквы праз Паўла Краскевіча, пратапопа Наваградскага, Фёдару Гладкевічу пры мітрапаліце Калядзе, 1666 г., траўня, 5 дня.

15. Вопіс царквы і плябані Мажэйкаўскай, зроблены з распараджэння Кішкі 1717 г. святару Баеўскаму.

16. Сведчанне святара Міхаіла Канцэвіча пра сенажаць і межы, 1761 г.

17. Прашэнне начальніку Лідскага павета, аб забранні царкоўных земляў Кастравіцкім, 1796 г.

18. Візіта святара Пятровіна, 1773 г.

19. Візіта Марціноўскага, 1774 г.

20. Інвентар дэкана Гарбацэвіча святару Міцкевічу, 1796 г.

21. Іншы інвентар 1801 г.

22. Генеральная візіта Антонія Тупальскага 1804 г., у якой сказана, што гэты візітатар узяў з сабой 20 штук царкоўных дакументаў у Жыровіцы.

23. Інвентар дэкана Яноўскага святару Плаўскаму, 1810 г.

24. Візіта архідыякана Вашчыловіча, 1818 г.

[160] Завала Віктар. Нараджэння Прасвятое Багародзіцы Маламажэйкаўская царква // Праваслаўе. №9-2000. С. 65-66.

[161] Савицкий Лев. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. №42-1873. С. 371-372.

***Вітольд Драмовіч***

# Ліда ў гады гітлераўскай акупацыі, 1941 - 43 гг.

### 1. Ліда ў 1941 г.

Ліду мы засталі ўжо не такую самую, як пару гадоў таму назад. Горад у першыя дні акупацыі, пасля двухкратнага бамбавання нямецкай авіяцыяй і масавых вывазак польскіх сямей углыб Расіі ў перыяд без малога двух гадоў савецкага ўладарання, рабіў уражанне як бы вымерлага.

Дамы ў цэнтры горада былі часткова спаленыя і разбураныя. На галоўнай вуліцы Сувальскай, у камяніцах, якія ацалелі, то пустыя магазінныя вітрыны, то вокны, свежа заслоненыя знутры драўлянымі акяніцамі або фанерай.

Перад выбухам вайны ў 1939 годзе ўвесь гандаль у горадзе, за нешматлікім выключэннем, быў у руках яўрэяў. Мясцовае польскае насельніцтва нават сімпатызавала яўрэйскім гандлярам, бо тыя былі ўслужлівыя і з разуменнем адносіліся да бяднейшых, даючы ім тавар у крэдыт. Цяпер яўрэі, як бы ў прадчуванні ліхога лёсу, які рыхтаваў ім гітлераўскі акупант, адгарадзіліся ад рэшты грамадства і замкнуліся ў чатырох сценах сваіх дамоў. Зрэшты, не на доўга, бо цяпер і адтуль немцы пачалі іх выцягваць і накіроўваць па розныя работы па добраўпарадкаванні, а спецыялістаў на працу ў майстэрнях. Людзі як бы ўкрадкам прабіраліся вуліцамі горада, не жадаючы нарвацца на праверку іх асобы нямецкімі патрулямі. Ад вечара і да самага ранку панавала паўсюдная забарона на пакіданне памяшкання. Выключэнне складалі нешматлікія цывільныя асобы, забяспечаныя адпаведнымі прапускамі з месца начной працы. Здараліся выпадкі расстрэлу людзей, якія рухаліся вуліцамі горада без прапускоў. Я сам аднаго ранку бачыў ляжаўшага мужчыну з карткай, прычэпленай да грудзей, якая інфармавала пра час затрымання і экзекуцыі: "Без пропуску". З цягам часу, такія крайне рыгарыстычныя адносіны немцаў да мясцовага насельніцтва падлеглі пэўнаму залагоджванню, хаця заўсёды належала лічыцца з непрадбачнай у сваёй сутнасці рэакцыяй любога з нямецкіх патрулёў ці выпадкова спатканага гітлераўскага афіцэра. Размешчаныя ў Лідзе нямецкія вайсковыя часткі спецыяльнага прызначэння прыступілі да арганізацыі дзейнасці мясцовай адміністрацыі і прамысловых прадпрыемстваў, якія з розных прычын бяздзейнічалі. Справа ішла пра тое, каб як мага хутчэй і як найлепей выкарыстаць мясцовы людскі і вытворчы матэрыял для падтрымкі "таварышаў салдатаў", якія змагаліся недзе там далёка на ўсходзе. Цяжкасці рознай прыроды ў пачатковай фазе арганізацыі тых служб былі пад канец пераадолены. Сярод людзей, сталых жыхароў Ліды і ваколіц, у тым ліку і выйшаўшых з укрыцця, якім у перыяд без малога двух гадоў савецкай акупацыі пагражаў арышт і вывазка ў Сібір, існавала пэўнае супраціўленне маральнай прыроды, ці можна і належыць супрацоўнічаць з новым, вядомым ужо для часткі палякаў, гітлераўскім акупантам. Аднак, хутка мясцовая польская супольнасць прыйшла да пераканання, што ёй аплаціцца тое супрацоўніцтва, тым больш, што немцы ўласна тыя ўсходнія тэрыторыі Польшчы лічылі беларускімі. Савецкі Саюз пасля таго як загроб ад Польшчы тыя землі і далучыў да сваіх тэрыторый з Менскам, як сталіцай, абвясціў іх самастойнай дзяржавай - Беларуссю. Немцы былі схільныя запоўніць нешматлікімі, але паказваўшымі ў той час асаблівую актыўнасць, беларусамі найважнейшыя пасады ў пакліканых да жыцця ўстановах і прамысловых прадпрыемствах. Упэўненыя ў карысці, якая ўзнікала з неадкладкага супрацоўніцтва з новым акупантам, палякі - людзі наогул адукаваныя, інтэлегентныя і прадпрымальныя выйгравалі спаборніцтва з больш прымітыўным, пераважна прышлым беларускім элементам, які пачуваўся на той тэрыторыі менш упэўнена. І так, у Лідзе амаль усе кіраўнічыя і менш значныя працоўныя пасады аказаліся ў руках палякаў. Канешне, пра нейкую самастойнасць у дзейнасці не магло быць і мовы, поўны нагляд над усім праводзілі насланыя нямецкія адміністратары - начальнікі, давераныя асобы і да т.п. І хутка запрацаваў у выдатным будынку былой дзяржаўнай гімназіі, выпускніком якой я быў, гебітскамісарыят (нешта ў родзе нашага даўняга старо ства ці нават ваяводства) часткова з польскімі ўрадоўцамі, якія трохі ведалі нямецкую мову.

Запуск у работу, досыць спраўна дзейнічаўшай з арганізацыйнага пункту гледжання, "машыны" ў значнай ступені аблегчыў палякам штодзённы побыт, калі ўлічыць паўсюдны недахоп тавараў і прадуктаў, што ў сваю чаргу спрычынілася да ўвядзення немцамі прадуктовых картачак. Трэба сказаць, што немцы ў пачатковы перыяд свайго "кіравання" ўсе справы рабілі, як гаворыцца "ад рукі" (кароткае прадпісанне з дзяржаўнай пячаткай на малой картцы паперы, накіраванае да канрэтна адпаведнага адрасата), гэта значыць у моцна спрошчаным і хуткім выкананні. Звярнуўшыхся да іх наведвальнікаў і просьбітаў прымалі наогул добразычліва і верылі іхнім просьбам ці скаргам, але калі за кім заўважылі або зразумелі, што былі ашуканыя, прымянялі адносна іншых як найсуроўшыя кары. Я чуў пра выпадак расстрэлу немцамі ў той час некалькіх палякаў, працаўнікоў мясцовай друкарні, сярод якіх быццам бы былі і два мае даўнія таварышы з гімназіі, якіх падазравалі і абвінавацілі ў друку звыш нормы і крадзяжы прадуктовых картачак.

Маладыя людзі, якія перамяшчаліся па горадзе

і ў любы момант маглі трапіць пад магчымую праверку нямецкага патруля, наогул насілі з сабой пасведчанне з месца працы, з-за гэтага знайсці хоць нейкі занятак стала для мяне патрэбай часу.

Больш шчасця меў мой брат, які ўжо ў першыя дні нашага побыту ў Лідзе спаткаў таварыша са школьных гадоў, нейкага М. Гэты таварыш якраз выконваў функцыі кіраўніка мясцовага тартака і аднаго дня, калі брат адведаў яго ў тым тартаку, па-просту прызначыў яго сваім намеснікам. Яшчэ перад выбухам вайны ў 1939 годзе ўладальнікам таго тартака быў нейкі яўрэй, які ўцёк разам з савецкім войскам, пакідаўшым Ліду ў чэрвені 1941 года.

З моманту ўступлення ў Ліду немцаў той жа таварыш М, паводле парады знаёмага яўрэя, які выконваў абавязкі кіраўніка ў тым тартаку, сам абвясціў сябе кіраўніком тартака, даручыўшы цяпер яўрэю, які быў да тога часу кіраўніком, дасканаламу зрэшты спецыялісту ў драўнянай галіне, агульны нагляд над работамі ў тым жа тартаку. Такі ўклад стасункаў у працы, аказаў вялікую дапамогу як М., так і майму брату, бо абодва ў галіне ведаў дэндралагічных былі прафанамі.

**2. Я працую ў надлясніцтве.**

Дзякуючы стасункам з гебітскамісарыятам, а дакладней гаворачы, з аддзелам па справе лясоў той жа ўстановы, якой кіраваў немец надляснічы Кайлер, брат мой даведаўся, што нядаўна створанае надлясніцтва ў Лідзе шукае работнікаў. Я адразу звярнуўся на ўказаны адрас надлясніцтва, якое размяшчалася ў афіцыне драўлянага будынка на вуліцы 3-га траўня. Тут жа пры ўваходных дзвярах у невялікім пакоі ўстановы я застаў двух паноў пажылога веку, як пазней аказалася палякаў - лясных інжынераў, якім нямецкія ўлады ў асобе надляснічага Кайлера даручылі стварэнне мясцовага надлясніцтва. Абодва паны (адзін з іх кульгаў) былі вельмі сімпатычнымі, маю працоўную прапанову, былога выпускніка мясцовай гімназіі прынялі проста з энтузіязмам, тым больш, калі даведаліся, што я сяк-так валодаю нямецкай мовай. Яны яе не ведалі і пры сваім нямецкім шэфе без перакладчыка пачуваліся цалкам бездапаможнымі. Мае новыя начальнікі ўпаўнаважылі мяне пры тым яшчэ працаўладкаваць ва ўстанове яшчэ адну асобу, найлепей маладую нябрыдкую - як гаварылася - дзяўчыну.

Я прапанаваў тую сакратарскую працу маёй даўняй сімпатыі, і нават першаму платанічнаму каханню Крысі Д., якая разам са сваёй малодшай сястрой і іхняй калекаватай апякункай была ў досыць цяжкай матэрыяльнай сітуацыі.

З атрыманай працы ў надлясніцтве я быў вельмі задаволены. Трохі перакладаў лістоў, якія паступалі ад Кайлера, рэдагаванне адказаў, дапамога пры афармленні ўжо начыста рознага роду табліц, эскізаў, карт, выкапіровак і да т.п., апрацаваных папярэдне двума інжынерамі. Гэтую апошнюю працу пераважна выконвала Крыся з тыповай жаночай стараннасцю і дакладнасцю. Седзячы насупраць Крысі, за сталамі, так размешчанымі, мы мелі час і на размовы. Шчырыя выказванні (погляды Красі адносна двух маіх школьных таварышаў з крайне рознымі характарамі, з-за таго і яе разлад с сабой самой), узаемныя парады, ці абмен досведам. У той матэрыі, то хутчэй я з больш багатай жыццёвай практыкай падказваў Крысі, якім спасабам належала б развязаць акрэсленыя праблемы і сітуацыі.

З наступленнем халоднай ужо восені, а затым і зімы ў двух пакоях, якія займалі мы ўчацвярых, у адным засядалі інжынеры, а ў другім Крыся і я, было цяплютка і прыемна.

Прынамсі недахопу дроў ў надлясніцтве быць не магло. Трэці, большы, пакой з вялікім сталом і некалькімі крэсламі ўжо не апальвалі, ён быў прызначаны для мерапрыемстваў - нарады і ведамасныя спатканні з гасцямі - леснікамі з тэрыторый. На добры лад той пакой быў нам зусім не патрэбны, бо, як памятаю, кантакт з нашай установай і з самім Кайлерам падтрымліваў толькі адзін ляснічы з тэрыторыі, а быў ім інжынер С. Квятак.

Квятка любілі мы ўсе. Ён з'яўляўся ў нас 2-3 разы ў месяц. Не было для яго справы, якую не мог бы залатвіць. Дзейны, жартаўлівы, дабразычлівы, патрапляў і нас заразіць сваім аптымізмам, а акрамя таго, што важна - не прыязджаў з пустымі рукамі. З сялянскай фурманкі, ці з саней, вымашчаных саломай, на якіх прыязджаў да нас з нейкай там вёскі, здабываў то пеўня, то гусь, то кавалак грудзінкі ці сала, мяшочак з мукой ці крупамі, а нават здаралася і кольца сухой, вясковай каўбасы. Дзяліліся на ўсіх, згодна з патрэбамі, тымі дарамі. Відаць, атрымоўваў там нешта ад Квятка і сам Кайлер, які неаднаразова і мусіць не без поваду гаварыў вельмі пахвальна пра Квятка, як пра найлепшага ляснічага ва ўсёй акрузе. Мая частка ад падзелу Квяткавых дароў была больш сціплай за іншыя, і гэта таму, што мы абодва з братам жылі "на пакоі", як гэта тады называлася - з поўным утрыманнем (і не згоршым) у маладой сям'і з дзіцем, панства К.

Калі мы ўдваіх з братам шукалі вольны пакой, сям'ю панства К. з вялікім жытлом параілі нам блізкія знаёмыя, якія жылі па-суседству на вуліцы ген. Шапцыцкага. У працэсе абгаворвання ўмоў найму пакоя наша будучая гаспадыня пані К., ужо ад пачатку аказвала нам асаблівую сімпатыю і зычлівасць, якія, як мы пазней зарыентаваліся, мелі сваю крыніцу ў яе матрынамінальных планах звесці каторага з нас - кавалераў - са сваёй сястрой паннай В., якая жыла з бацькамі на вёсцы, недзе блізка ад Ліды.

Калі аднаго дня панна В. прыехала ў Ліду да сваёй сястры, тым эвентуальным кандыдатам на мужа - як адчуў - стаў я, бо не хаваў сваёй сімпатыі да новай знаёмай дзяўчыны, досыць прыгожай і прывабнай блакітнавокай бландынкі. На наступны дзень рана панна В. вярнулася на вёску ў родны дом, але ад той пары адведвала сваю сястру ў Лідзе досыць рэгулярна, так што мы заўсёды знайходзілі трохі часу на гаворкі, флірт і сяброўскія жарты, і наша гаспадыня пані К. дарыла мне яшчэ больш сардэчнасці, шчырасці і даверу, ужо не хаваючы сваіх клопатаў з мужам, добрым з натуры і лагодных паводзін, але лішне часта і звыш меры заглядваўшым у кілішак.

Аднаго дня я заўважыў стаяўшую на двары фурманку, на якой звычайна панна В. прыязджала з вёскі.

З'вілася і сястра, унікаючы аднак спаткання са мной. Загаварыўшы пра прычыну таго стану рэчаў, пані К. паінфармавала мяне, што яе сястра па-просту не хоча, каб яе бачыў так пабрыдчаўшую з-за нейкіх высыпанняў на твары.

Тое заражэнне невядомага паходжання было прычынай раптоўнага прыезду сястры ў Ліду, да лекара. Я ўпёрся, што мушу яе ўбачыць. Угавораная старшай сястрой панна В. у канцы ўступіла. З-за прыаднятых рук убачыў яе апухшы і абсыпаны чырвонымі прышчамі твар. З ледзьве бачных блакітных вачэй панны В. сплывалі кроплі слёз. Я быў узрушаны такім жудасным выглядам. Хвіліну маўчаў, а пасля, калі твар ужо схаваўся ў далонях, бяздарна намагаўся яе ўцешыць. Недзе праз два тыдні ў выніку прыменены мераў паводле ўказанняў лекара-дарматолага твар маёй сімпатыі В. быў чыстым і свежым, як даўней, але я пастаянна меў перад вачыма яе жудаснае, знявечанае той хваробай аблічча. Пры далейшых спатканнях і кантактах з паннай В. я не быў ужо ў стане дэманстраваць да яе вельмі мілыя і прыязныя словы ці жэсты.

Амаль вясковыя ўмовы працы ў надлясніцтве ўзрушваў сваімі прыездамі надляснічы Кайлер. Малы, таўсматы, у зялёным, падагнаным і густа абшытым срэбрам мундзіры нямецкай лясной службы, упадаў як бура ў нашу спакойную кантору і кароткімі, гартаннымі крыкамі - нешта з роду камандаў - стараўся кампенсаваць фізічныя недахопы, рухомасцю юлы і паказной вайсковай выпраўкай. Заядлы гітлеравец, што неаднаразова дэманстраваў, з'яўляўся ў нашай канторы цяпер ужо без перакладчыка, выклікаючы мяне ў кабінет перапужаных інжынераў з мэтай перадазу ім розных пажаданняў і даручэнняў. І я асабіста, не валодаўшы нямецкай мовай бегла, меў пэўныя цяжкасці з перакладам яго слоў, гавораных хутка і мабыць на дыялекце "платдойч". Калі я прасіў, каб ён гаварыў больш павольна, ці паўтараў некаторыя з фраз, ён выразна знерваваны выкрыкваў, што зноў будзе мусіць прыязджаць сюды са сваім перакладчыкам. Адным словам - мае сутыкненні з Кайлерам не належалі да прыемных. Я адчуваў, што ён мяне не выносіць. Гэты пыхлівы гітлеравец выклікаў у мяне амярзенне хоць бы і з той нагоды, што выцягнутай перад сабой рукой і воклічам: "Хайль Гітлер!" - вітаў усіх стрэчных у калідоры гэбітскамісарыяту нямецкіх афіцэраў і... толькі афіцэраў. Вялікае шчасце, што візіты Кайлера ў нашую кантору не былі такія частыя, ды і мае з ім кантакты ў гэбітскамісарыяце былі спарадычныя, калі толькі я асабіста дастаўляў яму нейкія лісты і матэрыялы, апрацаваныя маімі начальнікамі - інжынерамі.

**3. Ядзя.**

Аднаго дня, якраз падчас майго знаходжання ў будынку гэбітскамісарыяту - маёй гімназіі некалькі гадоў таму назад, я заўважыў ішоўшую калідорам нейкую дзяўчыну ў чорнай сукенцы, шчыльна зашпіленай пад самую шыю. Чуўся яе роўны, трохі цвердаваты крок і мерны, быццам удары гадзінніка, стук абцасаў аб паркет пустога калідора. Дзве, тоўста сплеценыя, чорныя касы за плячыма звісалі дзяўчыне аж да пояса. Мінаючы, акінула мяне паглядам сваіх вялікіх, бронзавых вачэй і злёгку ўсміхнулася.

Праз некалькі хвілін, ад спатканага на тым самым калідоры майго сардэчнага прыяцеля яшчэ са школьнай лавы З., які працаваў у гэбітскамісарыяце - у эканамічным аддзеле, я даведаўся, што дзяўчына з чорнымі косамі - гэта полька, якая нядаўна працуе ў арганізацыйным аддзеле гэбітскамісарыяту. Пару дзён назад ён спаткаў яе тут і зачапіў. Адзінокая. Прыбыла ажно з Гародні. Аднак, у размове стрыманая і падазрона бегла размаўляе па-нямецку. Твор мае нябрыдкі, але ходзіць неяк цяжка, быццам бусел, падсумаваў З. свае думкі пра дзяўчыну.

Прыяцелю З. я ўдзячны адшуканнем дублікату майго атэстата сталасці з фатаграфіяй. Праходзячы цераз падворак нашай былой гімназіі я заўважыў тое пасведчанне, якое ляжала каля сметніка, напоўненага да краёў рознымі паперкамі. Так склалася, што арыгінал майго атэстата сталасці ў час вайны недзе згінуў, а дублікат таго ж атэстата захаваўся да сёння.

Аднойчы, ідучы вуліцай, я заўважыў, як у брамку аднаго з дамоў увайшла якраз гэтая дзяўчына - брунетка з гэбітскамісарыяту. “Аднак жа жыве недзе тут”,- падумаў я...

Выпадкова атрымалася, што праз некалькі дзён, недзе на змярканні, я аказаўся па той самай вуліцы, калі неспадзявана завыла сірэна, апавяшчаючы час забароны перамяшчэння па горадзе. Навучаны пагрозай наступстваў, не мог рызыкаваць прайсці яшчэ па некалькіх вуліцах і непазбежна наткуцца на нямецкі патруль, пакуль дабярэшся да свайго дому. А таму, быў вымушаны схавацца ў першай лепшай браме ці доме і там перачакаць каменданцкі час аж да раніцы. Але хто захоча зносіць прысутнасць незнаёмага яму чалавека на сваім падворку ці ўпусціць чужога ў сваё жытло і пратрымаць цэлую ноч. Раптам аднак прыпомніў сабе, што паблізу, ну можа з дзесяць крокаў адтуль жыве знаёмая мне ўжо навочна брунетка з гэбітскамісарыяту. Можа зразумее сітуацыю, у якой я аказаўся- падумаў - і згодзіцца мяне схаваць на тыя пару начных гадзін. Прыспешыў крок, ускочыў у яшчэ не замкнёную браму і наўгад застукаў у першыя з краю дзверы на першым паверсе будынка. Пстрык адсунутай засаўкі, і дзверы адчыніла, відавочна здзіўленая маім выглядам, дзяўчына з косамі. Упушчаны ў сярэдзіну, прадставіўся ёй і патлумачыў акалічнасці, якія змусілі мяне шукаць схованкі ў тую пару менавіта ў яе. Чытаў у яе вачах пэўную заклапочанасць, то зноў ваганні і... нарэшце, згода. Але пры пэўных умовах.

- Я жыву тут, як пан бачыць, адна вельмі сціпла. Няма ў мяне магчымасці на тое, каб пачаставаць пана вячэрай, але гарбату зараз прыгатую, а і нейкае печыва знайду, праўда сухое, але есці можна.

- Сардэчна дзякую за ўсё! - перапыніў я дзяўчыну. - Я не галодны, і да невыгод прызвычаены! Пару тых гадзін, калі пані дазволіць, перасяджу там пры акне, - паказаў я на фатэль з перакінутай цераз спінку суконнай хусткай.

- Але спярша ўмовы, - уставіла цвёрдым тонам

дзяўчына, - дасць мне пан слова, што будзе ветлівы і не скарыстае сітуацыі, будучы адзін на адзін з асобай супрацьлеглага полу. Ды яшчэ ноччу ў закрытым памяшканні.

- Гэта зразумела! - зрэагаваў я адразу, - чэснае слова даю!

- Не, гэтага мне не дастаткова, дамагаюся слова гонару. Бо ведаю, што ў спрыяльных акалічнасцях кожны з нас мае хвіліну слабасці.

Без вагання - словам гонару і словам афіцэра, неразважліва выявіўшы, што я польскі афіцэр, зацвердзіў дзяўчыну ў перакананні, што яна мае дачыненне з чалавекам гонару. Калі яна паказала мне месца пры століку, а сама рушыла ў кірунку прымітыўнай печкі, так зв. "казы" ("буржуйкі"), каб прыгатаваць гарбату, я ўрыўкамі разгледзеўся на пакоі.

Тапчан з пледам пры сцяне, на ёй ільняны дыван з васількамі ў збожжы і маленькі драўляны крыжык. Круглая печка з цёмнай трубой-комінам, збоку два старыя вядры, некалькі бярозавых пален, а далей бура-ўзорыстая шырма, якая хавала найпэўней мыцельнік, кухонную схованку, а можа нейкую шафку для бялізны ці вопраткі. З другога боку століка, пры якім я сядзеў яшчэ адно гнутае крэселка, а за ім у вузейшай сцяне простакутнага пакоя дзверы і акно з фіранкай і жоўтымі гардзінамі. Пад акном фатэль з драўлянымі поручнямі, дзе я прасяджу тыя некалькі начных гадзін. І гэта ўсё, сказаў бы, больш, чым сціплае ўбранства пакоя. А таму дзяўчына - не немка, пра што я падазраваў, бо з пэўнасцю магла б уладкавацца больш годна.

Мае падазрэнні пра нямецкае паходжанне Ядзі - свае імёны мы назвалі пры гарбаце - цалкам развеяліся, калі ў вольнай ужо размове я даведаўся, што яна поўная сірата ад ранняга дзяцінства. Пасля смерці маці ёй апекавалася і выхоўвала цётка, якая пасля вяртання Польшчай незалежнасці вярнулася з Германіі разам з групай палякаў да бацькоўскага краю. Штодзённыя кантакты з цёткай, якая ўжо слаба размаўляла па-польску, а таксама, прывезеныя ёю кнігі нямецкіх класікаў як Гётэ, Шылер ці рамантык Гейнэ, зрабілі так, што Ядзя зусім някепска засвоіла нямецкую мову. Дзяржаўную гімназію закончыла ў Гародні ў 1939 годзе, а праз год памерла яе цётка. Не маючы ніякіх сваякоў у Гародні і жывучы ў кутку ў расейцаў, якія пасля смерці цёткі занялі яе памяшканне, з моманту заняцца Гародні немцамі ў 1941 годзе пастанавіла змяніць месца жыхарства і пераехаць у Ліду, дзе знайшла працу ў гэбітскамісарыяце. У сваю чаргу і я ўстаўляў найбольш цікавыя эпізоды са свайго школьнага і студэнцкага жыцця, пасля чаго размова стала ўжо менш афіцыйнай, а больш круцілася вакол асабістых пачуццяў і ўражанняў галоўным чынам з перыяду савецкай і цяперашняй нямецкай акупацыі. Я прыглядзеўся да дзяўчыны бліжэй. Брунетка са светлым колерам цела, вялікія бронзавыя вочы, над імі густыя чорныя бровы, губы поўныя, толькі злёгку заціснутыя, квадратны падбародак. У суме не брыдкая, але не майго тыпу - мне больш падабаліся бландынкі. Рабіла ўражанне асобы халоднай, ураўнаважанай, якая паслядоўна рухалася да вызначанай для сябе мэты. Можа быць такую яе індывідуальнасць сфармавала сіроцкае дзяцінства і, як я дапускаў, цяжкія і, мабыць, праведзеныя ў самоце школьныя гады.

- Мы тут разводзім гавэнды, а ўжо поўнач, - сарвалася Ядзя з крэсла, глянуўшы на свой малы наручны гадзіннік. - Аднак жа мы абое працуем і мусім хоць трохі адпачыць.

- Прапановы Ядзі, некалькі разоў паўтораныя, каб я скарыстаўся тапчаном, у той час, калі яна зусім добра адпачне на фатэлі, я пастаянна адкідваў. Падыйшоў да акна, дзе стаяў фатэль і расеўся на ім, накрыўшы калені знятай са спінкі суконкай хусткай.

- Справа скончана, мне тут будзе вельмі выгадна, - рашуча сказаў я.

Тым часам Ядзя выразна адцягвала з укладваннем спаць. Прыбрала шклянкі са століка і знікла за шырмачкай, адкуль чутны быў стук посуду, нейкія рухі, то зноў плёскат вады. Я з прыплюшчанымі павекамі, удаючы сон, чакаў прыходу Ядзі. Нарэшце паказалася, ціхія крокі, трохі вазні з радам прыгожых гузічкаў на зялёным свэтры і цалкам аднак апранутая лягла на тапчане, укрыўшыся калматым пледам. Яшчэ прыпаднялася, дацягнулася да выключальніка і выключыла святло. Я не мог заснуць. З боку тапчана, дзе спачывала Ядзя, залягла поўная ціша.

Недзе праз гадзіну я адчуў цягнуўшы ад акна і, мусіць, няшчыльных дзвярэй выразны холад. Паварушыўся ў фатэлі і адразу пачуў ціхі, як бы прыглушаны голас Ядзі:

- Не холадна пану, бо мне так.

Я ў адну хвілю сарваўся з фатэля і ўжо быў пры тапчане. Падняў плед і адразу прыціснуўся да цела дзяўчыны. Праз лёгкі свэтрык і спадніцу адчуваў выразныя выпукласці дзявочых грудзей і дрыжыкі мяккіх сцёгнаў. Абдымкі без руху, у поўным маўчанні, праз пэўны час узаемна саграваліся. Лежачы на баку, тварам да твару, прыльнуў вуснамі да яе вуснаў. Не супраціўлялася, разтуліла вільготныя губы і аддавала што раз мацнейшыя пацалункі. Узнёслы і асмялеўшы ад такой жывой рэакцыі я сягнуў рукой пад спадніцу. Шырокая нацягнутая падвязка, кавалак голага цела, трусікі, набрынялае лона... і тут спаткаў нечакана адпор дзяўчыны. Схапіла мяне сутаргава за руку і раптоўна аддалілася, зрабіўшы немажлівымі якія-небудзь далейшыя правакацыйныя пяшчоты.

- А слова гонару, пан жа абяцаў перад тым, што будзе ветлівы.

Яе голас, на перарывістым дыханні, не гучаў пераканаўча, але для мяне быў сігналам трывогі, бо яшчэ хвіліна, і я не адказваў бы за свае далейшыя паводзіны. З цяжкасцю адарваўся ад дзяўчыны і вярнуўся на свой фатэль.

Яшчэ нейкі час раздумваў, ці не гледзячы ні на што, не варта вярнуцца да дзяўчыны і аднавіць любоўную гульню, хоць ужо не ў такім хуткім тэмпе, але развага, ну і афіцэрскае слова гонару ўзялі аднак верх над пачуццямі. У цішыні і не звёўшы вачэй датрываў да белай раніцы. Не адазвалася таксама і Ядзя, а калі ўстала, каб прыгатаваць нешта на снеданне, і я падарваўся з фатэля.

- Дзякую, няхай пані не клапоціць, не буду сне-

даць! Спяшаюся яшчэ дадому, каб развеяць неспакой брата і нашай гаспадыні, выкліканы маёй усяночнай адсутнасцю. Не меней горача падзякаваў Ядзі за выбавенне мяне з небяспекі, у якой апынуўся, за гасціннасць і клопат, ну і ... за мілую, разам праведзеную ноч. Калі я адходзіў, у цёмных, бронзавых вачах Ядзі ўбачыў нешта, як бы смутак і шкадаванне ўпушчанай аказіі перажыць любоўнае ўзнясенне. Ад той памятнай ночы Ядзі я ўжо ніколі больш не спатыкаў (не ведаў нават яе прозвішча), бо лёс так распарадзіўся, што праз вельмі кароткі час я мусіў пакінуць Ліду.

**4. Ляснічы Вольф.**

Аднаго дня, зімой 1942 года з'явіўся ў нашым бюро Кайлер і прадставіў нам прысланага яму ў дапамогу з Германіі ляснічага з прозвішчам Вольф. Пры малым, моцным і румяным Кайлеры, бледны і схуднелы Вольф рабіў уражанне ачуняўца, якога раней часу выпусцілі са шпіталя і якому зараз даручана цяжкая і адказная справа сфармавання ў Лідскай акрузе лясной службы, так зв. "Форстшутцкаманды" (“Forstschutz-kommando”. Мела яна служыць нібыта для аховы лесу - асабліва будаўнічага лесу, раскраданага навакольнымі сялянамі, а ў сапраўднасці неміласэрна вынішчанага нямецкім акупантам.

Кайлер - як мы заўважылі - не дарыў Вольфа асаблівай сімпатыяй, а яшчэ і вядомы выразнай непрыязню да маёй асобы, з месца прызначыў мяне новаму ляснічаму для дапамогі ў арганізацыі "Форстшутцу". Праўду кажучы, я зусім не адчуваў сябе пакрыўджаным тым перамяшчэннем, тым больш, што ранейшая праца падавалася мне надта манатоннай і лішне спакойнай. Мая супраца і стасункі з Вольфам, як на пачатак, склаліся нязгорш. Вольф аказаўся ў меру людскі і далікатны, хаця і ён мог часам узарвацца, калі нешта здаралася не на яго думцы.

- Найперш, - як ён мне сказаў, - мы павінны здабыць зброю для леснікоў, а потым падбяром сабе адпаведных людзей.

Першыя пачынанні Вольфа далі эфект больш, чым мізэрны. Некалькі старых, розных тыпаў карабінаў (у тым ліку і пашкоджаных), трохі гранат (для застрашвання - як мне гаварыў Вольф), боепрыпасы, нейкая дробная амуніцыя і г.д.

Потым з набыццём зброі было што раз цяжэй. Здабытае з розных крыніц узбраенне Вольф спачатку збіраў ва ўласным двухпакаёвым памяшканні з кухняй, а потым увесь той склад перавёз і размясціў у нейкім старынным мураваным хляве, на тэрыторыі вялікага склада дрэва ў лесе, паблізу Ліды. Адзіныя драўляныя дзверы ад хлява ахоўвала жалезная засаўка з навешаным на ёй вялікіх памераў замком, ключ ад якога разам з іншымі насіў пастаянна пры сабе Вольф. Маім заданнем, даручаным мне Вольфам, была рэгістрацыя і ўтрыманне ў належным парадку ляжаўшай на дзвюх доўгіх і шырокіх дошках - паліцах здабытай вайсковай амуніцыі. Каля супрацьлеглай сцяны хлява стаяў стары, расшэйданы стол, а збоку толькі адна табурэтка. У паўзмроку (у хляве былі толькі тры адтуліны, велічынёю ў дзве цагліны) я запісваў у сшытак акарчанелымі ад холаду пальцамі род і колькасць складзенага ў хляве ўзбраення. У вызначаныя дні і гадзіны я меў абавязак стаяць перад хлявом - складам, які асабіста адчыняў Вольф, каб потым праз дзве-тры гадзіны зноў яго замкнуць.

У складзе з адносна невялікай колькасцю старых, розных тыпаў карабінаў, бадай двух ці трох пашкоджаных савецкіх аўтаматаў, скрынак з боепрыпасамі рознага калібру і невялікай колькасці гранат наступальных і абаронных (у тым ліку і нямецкія булавы), шампалоў, квачоў і алівы ў банцы, я натуральна нудзіўся, перасоўваючы з месца на месца які-небудзь карабін ці гранату, каб у канцы заняцца чысткай і змазкай няшмат чаго вартых карабінаў. Тую апошнюю дзейнасць Вольф выразіў у словах, поўных прызнання ў мой адрас. Падчас выканання сваіх абавязкаў праз прыадчыненыя дзверы хлява ад часу да часу я паглядваў, што робіцца знадворку, бо Вольф забараняў, каб я ні на хвілю не пакідаў незамкнёнага ім хлява.

Тым часам на абшырным пляцы склада, запоўненага да краёў сціртамі дрэва - на дровы і таварнага, жэрдкамі, то зноў стваламі хваёвымі і лісцевымі, рух быў заўсёды не малы, бо гэта навакольныя мужыкі фурманкамі прывозілі на склад розныя гатункі дрэва, і ў сваю чаргу забіралі, развозячы ў розных кірунках, найчасцей меней каштоўнае дрэва на дровы. Канешне, усялякія гандлёвыя аперацыі з дрэвам муселі быць адпаведна задукаментаваны, найчасцей у форме пасведчання, выдадзенага зацікаўленай адміністрацыйнай часткай і замацаванага пячатнай з нямецкім арлом. Нагляд за цэласцю склада ажыццяўляў нейкі пажылога ўзросту сяржант з ТОДТ-у (ён меў пры гэтым пару чалавек для дапамогі з той жа арганізацыі). Да Вольфа, які круціўся на пляцы ў зялёным мундзіры лесніка са срэбнымі галунамі, сяржант з ТОДТ-у, як я заўважыў, меў выразную павагу. Не гледзячы на добра пасівелыя валасы, тоўсты сяржант выцягваўся што хвіля перад Вольфам і пастаянна яму ў нечым паддакваў. Пару раз я бачыў, як ён упіхваў Вольфу ў скураную сумку нейкія скруткі, з пэўнасцю кавалак саланіны ці вяндліны або нават яйкі, якія даставаў ад мужыкоў, прывозіўшых або вывозіўшых фурманкамі ці санямі дрэва са склада.

Майго начальніка, ляснічага Вольфа, пастаянна не задавальняў стан сабранай у складзе зброі, так што аднаго дня ён паведаміў мне, што ўжо заўтра раннім ранкам мы паедзем па карабіны і іншае ўзбраенне ў Менск - сталіцу Беларусі. Яшчэ ў той самы дзень, пасля паўдня Вольф сказаў мне прыйсці да яго кватэры і там уручыў мне савецкі ППШ з дыскам поўным патронаў, а да таго пасведчанне, выдадзенае Лідскім гэбітскамісарыятам, упаўнаважваўшае мяне мець названы тып аўтамата з мэтай прывозу з Менска ў Ліду ўзбраення для "Форстшутцу". Таксама і Вольф забяспечыўся падобным на мой экзэмпляр зброі - навюткім савецкім аўтаматам. Прадэманстраваў мне пры тым, як належыдць з ім абыходзіцца, хаця ведаў, што зброя тога тыпу мне не чужая. У нашым складзе меліся раней два такія, папсаваныя аўтаматы, якія я ў свой час разбіраў і чысціў (адзін з тых аўтаматаў быў нават у зброй-

ніка). Быць можа, Вольф хацеў мне заімпанаваць веданнем савецкай зброі, якую яму пазычылі на час нашага падарожжа ў Менск. Не гледзячы на тое, што я быў заспеты знянацку даверам, якім абдарыў мяне Вольф, уручаючы мне зброю, а можа па-просту здаваў сабе справу з небяспекі, якая пагражала нам абодвум падчас далёкага падарожжа на ўсход у той час, калі выпадкі падрыву нямецкіх чыгуначных транспартаў і акцыі савецкіх партызан здараліся што раз часцей.

Назаўтра на досвітку, узброены аўтаматам і ў меру цёпла апрануты (здаецца быў гэта люты 1942 года), я чакаў Вольфа ў зале чыгуначнага вакзала. Не гледзячы на раннюю пару, рух у абшырнай пачакальні вакзала быў ужо вялікі. Наўючаныя заплечнікамі з цялячай скуры нямецкія салдаты, з выразам твару ў цэлым не радасным, найпраўдападобней чакалі знаку ці загаду камандзіраў сваіх груп на пакіданне цёплага холу вакзала і пасадку ў вагонах некаторага з транспартаў, які ідзе на ўсход. Я стаяў у куце хола, тут жа пры ўваходных дзвярах вакзала, пільна выглядаючы Вольфа, які яшчэ ўчора некалькі разоў мяне папярэджваў, каб я нікуды не рушаўся з пачакальні, бо не вядома, калі мы зловім які-небудзь цягнік у кірунку Менска.

У гэты момант ва ўваходныя дзверы з перону ў хол вакзала ўвайшлі элегантна і аднолькава апранутыя пані ў цёмных коцікавых футрах і белых футравых капелюшах. Пань суправаджаў нямецкі вайсковец у мундзіры (здаецца, у званні капітана), а адразу за імі нейкі салдат цягнуў за сабой дзве валізкі, праўдападобна, багаж абедзвюх тых пань. Праходзячы праз хол вакзала к выхадным дзвярам у кірунку горада, прыгожыя пані ўсмешкамі рэагавалі на агульнае ўзрушэнне, шолах і ўздыхі атачаўшых іх жаўнераў.

Па хвілі, калі ўся кампанія пакінула ўжо хол, у дзвярах пачакальні зноў паказаўся афіцэр, але ўжо без жанчын і пачаў разглядацца па запоўненым войскам холе. Заўважыў мяне - адзінага цывільнага ў пачакальні вакзала. Падышоў да мяне і загадаў мне ісці з сабой да цягніка, які стаяў недзе на ўзбоччы вакзала, па рэшту багажа артыстак, якія толькі што з ім прыехалі на выступленне перад войскам, дыслакаваным у Лідзе. Я з цяжкасцю па-нямецку намагаўся давесці, што я еду па зброю для Форстшутца ў Менск і ў кожную хвілю чакаю прыходу свайго начальніка, які загадаў мне, каб чакаў ў холе вакзала і нікуды адсюль ні на крок не рушыў.

Нямецкі афіцэр, напэўна, зарыентаваўся, што мае дачыненне з палякам і з раз'юшанасцю выціснуў з сябе: "Ты польская свіня", - і адначасова сягнуў да кабуры і ўжо з пісталетам у руцэ прыгразіў мне, што калі зараз з ім не пайду па багаж, то ён на месцы мяне застрэліць. І ўва мне нешта ўзарвалася, не дазволю, каб мне пагражалі і гразілі, бо і я маю зброю і апераджу немца, перш, чым ён мяне застрэліць (а мог тое зрабіць) і мог бы загінуць пры такіх дурнаватых акалічнасцях.

У адну хвілю пастаўлены на падлогу ППШ я схапіў у абедзве рукі (быць можа немец нават і не заўважыў) і ўжо з пальцам на курку скіраваў зброю проста ў грудзі немца. Захоплены знянацку маёй рэакцыяй, немец адступіў некалькі назад, але накіраванага на мяне рэвальвера ўсё ж не выпускаў з рукі. За плячамі афіцэра я бачыў нямецкіх салдатаў. Сстумленыя, пра нешта там дыскутавалі, не ведаючы наступстваў інцыдэнту, які меў месца каля супрацьлеглай сцяны хола вакзала.

Я быў рашучы і нават меў непераадольную ахвоту пусціць цэлую чаргу куль у грудзі немца і ў стаяўшых далей за ім нямецкіх салдатаў. “Загіну, але спярша зраблю тут масакру”, - і ўжо долі секунд аддзялялі мяне ад згінання пальца на спуску аўтамата, як раптам у адчыненых дзвярах вакзала ад боку перона ўбачыў бледны твар і ўражаны выраз вачэй Вольфа.

- Хальт! - паспеў яшчэ крыкнуць Вольф.

Я павольна апусціў аўтамат, маючы на воку афіцэра, які таксама апусціў сваю дрыжаўшую руку з рэвальверам. Хвілю трываў, вытрыманы ў вострых танах, абмен думкамі паміж афіцэрам і Вольфам, апрануты у кароткі авечы кажушок, які рабіў немажлівым устанаўлення рангу асобы, з якой нямецкі афіцэр меў дачыненне, пасля чаго Вольф прыяцельскім жэстам узяў мяне за плечы і выправадзіў з холу вакзала.

- Мусім паспяшацца! - кінуў коратка, выразна знерваваны Вольф, - бо той вось цягнік, - тут ён паказаў на стаяўшы яшчэ далёка перад намі рад крытых таварных вагонаў, - можа ў кожную хвіліну рушыць на Менск.

У канцы мы абое ўладкаваліся ў тамбуры аднаго з таварных вагонаў. Не ведаю, што думаў Вольф пра адбыўшаеся здарэнне ў холе вакзала і пра яго мажлівыя скуткі. Не папракнуў мяне ні адным словам, акрамя відочнай знерваванасці, і ўжо, здавалася, быў у поўным задавальненні, калі я яму паведаміў, што для мяне святым быў яго загад не пакідаць ні на крок пачакальні вакзала. Цягнік не рухаўся з месца, а мароз у тамбуры даваўся нам што раз больш у знакі. Калі я выразіў сумненне, ці селі мы ў правільны цягнік, прамёрзлы Вольф (не гледзячы на тое, што быў у кажушку) сказаў мне, што ідзе да машыніста ўпэўніцца ў кірунку і часе адходу цягніка, а калі яму ўдасца знайсці месца ў цёплым лакаматыве, то я не павінен чакаць на яго вяртанне. Недзе праз чвэрць гадзіны цягнік рушыў. Сам не ведаю, якім цудам я не змёрз у маёй прывагоннай будцы за поўныя 24 гадзіны язды. Быць можа ўратаваў мяне рух і кароткія прабежкі на хрусткім, марозным снезе каля вагона падчас даўжэйшых пастояў цягніка. Нарэшце, працягла свіснуўшы, цягнік стаў на досвітку перад будынкам вакзала ў Менску. З жудасным болем скасцянелай ад марозу (той яшчэ не цалкам вылечанай пасля выпадку на лыжах) нагі рушыў, кульгаючы, уздоўж цягніка з пэўнай колькасці крытых таварных вагонаў, найпэўней пустых, бо не бачыў, каб нехта іх канваяваў. Калі я аказаўся ўжо блізка ад лакататыва, убачыў Вольфа, які няўклюдна спускаўся са стромкай лесвіцы таго ж лакаматыва. З перавешаным цераз плячо аўтаматам, з заплечнікам у руцэ, заспаны і са смешна ўмурзаным сажай тварам ён сваім выглядам нагадваў гашакавага Швейка, хоць з пэўнасцю і да маёй паставы пасля такога доўгага і цяжкага падарожжа можна было шмат чаго закінуць.

Сам Менск выклікаў у мяне прыгнечанае ўражанне. У значнай частцы зруйнаваны і выпалены. Над

руінамі друзу і цэглы прысыпаных снегам гуў марозны вецер. Пустыя абледзянелыя вуліцы, па якіх зрэдку праязджае нейкі грузавы аўтамабіль. Стомленыя дахodзім да комплексу ацалелых нейкім цудам некалькіх, а можа нават і больш за дзесятак мураваных будынкаў. Паміж імі кантрастуючы з атачэннем стаялі малыя драўляныя хацінкі. У брамах, перад дзвярамі домаўладанняў - то кабеты з дзецьмі, то старыя, закутаныя ў хускі, нейкія коцы (байкавыя коўдры), выцертыя куфайкі, або па-просту ў рызманы, маўклівыя, змучаныя, з запужанымі поглядамі і дакладна агаладалыя. Прыглядаюцца да нас недаверліва. На пытанні пра дарогу найчасцей адказваюць: "Не знаю". Яшчэ пару мінут маршу, і перад намі некалькіпавярховы пышны будынак, абвешаны палотнамі са свастыкай - нямецкая ўстанова, якую шукаў Вольф, дзе нарэшце мы маглі сагрэцца і чым-небудзь падсілкавацца.

У Менску стаpанні Вольфа пра хоць якую зброю не далі спадзяванакга выніку. Два пашкоджаныя савецкія аўтаматы, 4-5 звычайных карабінаў, заплечнік з гранатамі і патронамі - вось мабыць і ўвесь сціплы плён нашай выправы ў Менск.

**5. Зашыфрованая "кветка са сцяблом".**

Збіралася ўжо пад весну 1942 года. У складзе я, як звыкла, перакладваў з месца на месца смертаноснае начынне і прыпасы, стан якіх усё не задавальняў Вольфа, каб канчаткова сфармаваць адпаведную суполку "фортсшутцманаў".

Аднаго дня, калі я выйшаў на хвіліну з будынка, каб хаця трохі на сонцы падзагарэў твар, нейкі мужык, мабыць з тых, хто прывозіў дрэва на склад, праходзячы міма ўсунуў мне ўкрадкам у руку змяты, спісаны лісток паперы, у якой мяне прасілі, каб падацелю гэтага лістка я даў нешта з узброення, што знаходзіцца на складзе. У месцы подпісу аўтара карэспандэнцыі віднелася нарысованая кветка з пяцю пялёсткамі на доўгай ножцы. Падумалася, што гэта нейкі партызанскі аддзел просіць у мяне зброю. Што раз часцей даходзілі да нас чуткі пра іхнюю дзейнасць на нашай тэрыторыі. Але што абазначае тая кветка, хто хаваецца за тым малюнкам? Можа які правакатар?

Даведаўся нарэшце, але гэта ўжо значна пазней, што ўласна тым малюнкам - крыптаграмай карыстаўся добра мне знаёмы з працы ў Лідскім надлясніцтве лясны інжынер Квятак. Ён то, падтрымліваючы кантакт і супрацоўнічаючы з нейкай партызанскай групай, шукаў крыніцы і магчымасці забеспячэння партызан зброяй у найцяжэйшай, пачатковай фазе іх дзейнасці. Крыніцу то знайшоў - пасля папярэдняга правядзення адпаведнай выведкі - у складзе, якім кіраваў я пад наглядам Вольфа. Канешне падацелю лістка я ўкрадкам даў тады пры адсутнасці Вольфа, які ў той час круціўся недзе на складзе, дзве абаронныя гранаты. Гісторыя з уручанай мне ў такой форме і такога зместу карэспадэнцыяй і з пералікам нейкага там узбраення паўтаралася некалькіразова. Схаваныя ў вазах з дрэвам пакінулі склад - як памятаю - два карабіны з патронамі, адзін пашкоджаны ППШ, некалькі гранат і нейкае менш значнае вайсковае начынне.

Пэўнага ранку з'явіўся перад хлявом моцна знерваваны Вольф. Як я пазней даведаўся, ён атрымаў ад Кайлера вострую вымову, што справа "Форстшутца" рухаецца ў чарапахавым тэмпе, а ён усё яшчэ чакае на пашыцце ў кравецкай майстэрні мундзіраў для форстшутцманаў.

- Буду павінен дабрацца да шкуры тых жыдоўскіх краўцоў, якія шыюць у майстэрні, - размахваў пальцам у паветры Вольф.

Моцна абураны, адразу пасля адкрыцця склада ён прыступіў да лічэння зброі, і ўжо спачатку нешта яму ў тым лічэнні не сходзілася.

- Дзе карабін? Добра памятаю, ляжаў на гэтым месцы, а цяпер яго няма, ды і гранат як бы меней, - павысіў на мяне голас.

Я мусіў доўга тлумачыць, што чысціў яго разам з іншымі. Пэўна стаіць зараз там у куце разам з іншымі.

- Зараз палічым, - схапіўся я за сшытак,.

І колькасць гранат супадае са спісам. Можам праверыць. Але Вольф не хацеў ужо нічога правяраць і лічыць. Выскачыў са склада на пляц, а праз некаторы час вярнуўся ўжо значна больш спакойны і лагодны з вялікім пакункам пад пахай. З формы загорнутага ў ільняную анучку пакунка, які Вольф з цяжкасцю ўціснуў у сваю скураную сумку, я зрабіў выснову, што была гэта качка, а, можа, і малая гуська.

**6. У вязніцы на Каменцы.**

Праз два дні, калі мы разам з братам недзе так у час пасляпаўднёвы вярнуліся дадому, ужо ў дзвярах памяшкання спаткала нас цалкам перапужаная наша гаспадыня пані К.

- Некалькі гадзін назад, - сказала дрыжаўшым ад хвалявання голасам, - былі тут немцы. Праводзілі пeратрус у пакоі паноў, але, здаецца, што нічога не знайшлі. Не заўважыла, каб нешта ўзялі з сабой. Не сказалі, чаго яны ўласна хацелі, чаго шукалі! Было іх двое ў мундзірах, ветліва перапрапрасілі і пайшлі!

Праз адно імгненне мы былі ў пакоі. Раскідана пасцель на шырокім жалезным ложку, на якім мы ўдваіх з братам спалі "валетам", бо яшчэ не ўзялі ад суседзяў абяцанага другога складнога ложка. Адкрытая шафа для вопраткі з невялікай колькасцю нашага асабістага адзення і бялізны. На сярэдзіне пакоя на падлозе нашыя вялікія, старыя, выпатрашаныя чамаданы і моцна паношаны запасны абутак, які разам з чамаданамі мы хавалі пад ложкам. За тыя старыя боты я перажываў. Кінуўся да майго старога шнураванага бота і ўздыхнуў з палёгкай. У носе бота кончыкамі пальцаў адчуў змятыя карткі - карэспандэнцыя з крыптаграмай, у якой "кветка" прасіла мяне пра зброю - вядома, для каго.

Аднак не знайшлі нічога, што магло б нам пашкодзіць. Спакойна спачываў сабе таксама, схаваны ў металічнай раме ад ложка, тастамант яўрэя, былога кіраўніка тартака для сваякоў у Амерыцы, дзе ён паведамляў у дэталях пра пекла для яўрэяў пад нямецкай акупацыяй у Лідзе і прарочыў надыход хуткай іх гібелі. Ліст той брат мой, які працаваў у тартаку, пры надаранай аказіі меў пераслаць адрасантам у Амерыцы.

Мінула агульнае знерваванне, і мінорны настрой выразна паправіўся, калі мілае панства К. - нашы гаспадары запрасілі брата і мяне на сумесную вячэру, акрэпленую разведзеным і зафарбаваным сокам з вішні спіртам таемна хаваным гаспадаром дома на асаблівы выпадак. Нішто не прадказвала здарэння, якое так хутка наступіла і паўплывала на змену маіх далейшых лёсаў. І вось Вольф аднаго ранку паведаміў мне, што заўтра а 10-й гадзіне я павінен быць ў Кайлера ў гэбітскамісарыяце. Я папытаўся, з якой мэтай. Ён адказаў, што не ведае, мусіць, і фактычна не ведаў. Калі ў вызначаны час наступнага дня я прыйшоў у пакой-пачакальню перад вядомым мне ўжо здаўна абшырным кабінетам Кайлера (калісьці былі гэта школьныя класы, цяпер трохі перароблены, маёй гімназіі), дзверы кабінета прыадчыніліся, і я адразу каля вялікага стала з некальнімі крэсламі пры акне заўважыў двух рослых нямецкіх жандармаў у касках, з вісеўшымі на грудзях бляхамі.

- Гэта той! - сказаў Кайлер і, зрабіўшы невялікае паўкола, усеўся за бюро і пачаў нешта там пісаць. Жандармы падышлі да мяне. Адзін з іх адазваўся па нямецку: "Bist du verhaftet" ("Ты арыштаваны"), а другі пачаў мяне абмацваць і абшукваць кішэні. Забралі мае дакументы і дробныя прадметы асабістага ўжытку, з педантызмам расклалі на стале. Пасля чаго жандарм сказаў мне ісці з ім. Рабілася ўражанне, што ўсё, што датычыла маёй асобы, было ўжо перад тым дакладна абгаворана і падрыхтавана. Я асабіста быў дзіўна спакойны і зусім не зламаны гэтым неспадзяваным арыштам. Пасля вываду мяне з будынка гэбіткамісарыяту, ідучы ў суправаджэнні двух жандармаў, я жадаў толькі сабе, каб нехта знаёмы мяне заўважыў і мог паведаміць найбліжэйшым пра мой арышт. Нажаль, на ўсім адносна кароткім маршруце, які ішоў проста да турмы на Каменцы каля вул. 3-га Траўня, я не ўбачыў нікога са знаёмых.

Пара моцных удараў ботам жандарма ў жалезную браму, і акенца "жыдок" адкрылася, а праз хвілю са скрыгатам ключа адчыніліся дзверы ў браме. Каля ўзброенага карабінам нямецкага ахоўніка стаяў ужо нейкі сяржант з ТОДТ-у з моцна пасівелым на скронях воласам, катораму адразу з адпаведнай суправадзілаўкай перадалі мяне жандармы, а самі адразу пайшлі. Вартаўнікам, які праводзіў мяне праз вартоўню да турэмнай камеры, як пазней аказалася, быў бельгіец, які нават слаба размаўляў па-нямецку і ўцэлым быў непрыхільна настроены да немцаў, якія мабілізавалі яго некалькі месяцаў перад гэтым.

Маленькая камера з нарамі з дошак. На іх складзены два коцы (байкавыя коўдры). Столік на металічных ножках, а збоку табурэтка. У куце прымітыўны мыцельнік. Вялікі бляшаны збан і два старыя вядры. Высока ўгары закратаванае акенца - адзіная слабая крыніца святла. Вартаўнік-бельгіец ужо на ўваходзе з'арыентаваўся, што мае дачыненне з палякам, трохі як бы польшчыў, нешта там ламанай нямецкай мовай гаварыў, што мы знаходзімся ў падобнай сітуацыі, і, адыходзячы, абяцаў мне заўтра раніцай прынесці снеданне. Заскрыгатаў ключ у замыканай камеры, а я разаслаўшы коцы, лёг на нары і пасля некалькіх хвілін хаатычных роздумаў заснуў.

Мой побыт у вязніцы, пакуль яшчэ кароткі, не ўвёў мяне ў стан прыгнечанасці, або занепакоенасці пра мой далейшы лёс. Усё ж немцы ў адносінах да мяне не маюць ніякіх абцяжвальных довадаў. Да цвёрдай пасцелі і халодных начэй я прывык яшчэ ад верасёнвай кампаніі 1939 года. Турэмны паёк: кава, кавалак чорнага хлеба, нейкі там суп - Бог ведае чым запраўлены - а да таго дзве кароткія прагулкі на працягу дня ў суправаджэнні гаваркога, але, наогул, прыемнага вартаўніка - бельгійца. Ад яго я даведаўся, што адзіным вязнем на тэрыторыі ўсёй турмы ў сапраўднасці з'яўляюся толькі я. Астатнія, гэта хутчэй не вязні, а яўрэі - работнікі, можа з дзвесці чалавек, якія днём агулам працуюць у горадзе, а на ноч пад наглядам вартаўнікоў (бельгійцаў, галандцаў і немцаў пажылога ўзросту) вяртаюцца ў турму, каб пераспаць у тым вось бараку, які знаходзіцца пасярод турэмнага пляца, а наступнаю раняй гадзінай зноў рушыць на працу.

Ужо падчас маёй першай прагулкі бельгіец прыадчыніў дзверы барака, каб паказаць мне тую начлежку. Унутры барак на абодва яго бакі запаўнялі два рады дошак, пакладзеных адна пры другой па ўсёй даўжыні барака. На дошках ляжалі ў беспарадку часткі вопраткі, нейкія скруткі, лахманы. Тут могуць, як казаў мне з усмешкай бельгіец, маладыя яўрэі (паколькі большасць з групы працоўных яўрэяў складала моладзь абоега полу) гізаваць узаемна цэлую ноч. Бо з-за недахопу месцаў спяць адно пры другім, як сардыны ў бляшанцы.

- Яны ўжо ведаюць, што іх чакае, то на астатак няхай сабе пажывуць! - жартаваў вартаўнік.

Калі я спытаў, колькі ў прынцыпе ёсць тых вартаўнікоў у турме і то рознай нацыянальнасці для нагляду за такой вялікай колькасцю яўрэяў, бельгіец адказаў, што не шмат, можа з дванаццаць, не лічачы людзей, занятых на кухні і ў майстэрні, якая зараз не працавала.

Я хацеў хоць раз убачыць тых яўрэяў, якія ішлі на працу або з працы. Можа заўважыў бы там каго-небудзь са знаёмых яшчэ са школьных гадоў. Разам з тым, так складвалася, што я ў гэты час знаходзіўся ў замкнёнай камеры, і толькі раз да маіх вушэй дайшла гаворка і воклічы яўрэяў, якія вярталіся з працы.

Праз некалькі дзён ад пачатку майго ўвязнення, недзе так у поўдзень, калі я ў суправаджэнні майго вартаўніка адбываў сваю парухвілінную прагулку па турэмным пляцы, у праходзіўшым міма мяне беларускім паліцыянце ў чорным мундзіры і нямецкіх сапёрскіх ботах я пазнаў малодшага брата маёй таварышкі з гімназіі, поўненькай і сімпатычнай бландынкі. С. Р. Праходзячы каля мяне, гэты паліцыянт уціснуў мне ў руку змяты шматок паперы разам са словамі: "Чакаю адказу адразу".

Мінула хвіліна, і калі мой вартаўнік-бельгіец зацікавіўся нейкай варонай, якая падскоквала і кульгала на краі пляцу, зірнуў у паперку: "Хочам пану дапамагчы з уцёкамі. Ці вы згодныя?" - напісаў нехта тоўста алоўкам. Паперку я адразу схаваў у кішэню, бо і бельгіец прыблізіўся да мяне выразна развяселены.

- Быў бы добры бульён, бо птушка была тлустая, але, хоць кульгавая, паляцела за мур! - пажартаваў

дзе па-польску, дзе па-нямецку.

Я тым часам абдумваў змест цыдулкі. Каб хаця гэта не правакацыя? Хто яе прыслаў? Але перш за ўсё гэта паляк і ведаў мяне па сольных, дэкламатарскіх выступленнях на школьнай эстрадзе.

Калі мы ўжо ў трэці раз абходзілі драўляны барак - яўрэйскую начлежку, я заўважыў паліцыянта, які ішоў у нашым кірунку. Мінаў нас, і я, гледзячы яму ў вочы, кінуў адно слова: "Згода".

Наступнага дня, недзе так пад абед у дзвярах маёй камеры заскрыгатаў ключ. На гэты раз дзверы адчыніў не бельгіец, а сам начальнік турмы, таўставаты і сіваваты сяржант ТОДТ-у.

- Да цябе госці! Пайшлі за мной, - буркнуў коратка.

Я прыгладзіў валасы і рушыў уніз сходамі за немцам у вартоўню. Ужо праз прыадчыненныя дзверы зглядзеў маю гаспадыню, паню К. і яе сястру панну В. Прывіталі мяне вельмі сардэчна. Але толькі словамі, бо сяржант не дазволіў ім да мяне наблізіцца, а прынесеную імі куртку і пачак з правізіяй сам мне ўручыў. Быў пры тым яшчэ настолькі стрыманы, што не грэбаўся ў тым пачку, а можа і таму, што сам таксама атрымаў ад пані К. нейкі значны пакунак, найпраўдападобна з прадуктамі.

У нямецкай вартоўні мы ўселіся насупраць на шырокіх лавах. Раздзяляў нас стол з тоўстай бляхі. Сяржант стаяў збоку і прыслухваўся да нашай размовы, хоць, з пэўнасцю можна сказаць, не шмат у ёй разумеў.

Размова ў прысутнасці немца ў нас неяк не клеілася. Пані гаварылі мне, што з цяжкасцю атрымалі пропуск у гэбітскамісарыяце на спатканне са мной. Прычым самым грунтоўным аргументам было тое, што затрымалі мяне ў адным пінжаку. А мне патрэбна нейкая цяплейшая вопратка, бо ночы халодныя, і днём часта яшчэ бывае холадна. Панна В. была выразна змярцвелая ад страху, але суцяшала мяне, што напэўна неўзабаве мяне выпусцяць, бо я, канешне, ні ў чым не вінаваты, ды і турма, у якой я аказаўся, не такая і суровая, як тая другая пры вуліцы У. Сыракомлі, дзе сямейнікам вязняў наогул не даюць пропускаў на спатканне. Я са свайго боку дзякаваў ім за памяць і добрае сэрца, прасіў, каб перадалі прывітанне і супакоілі брата, а таксама, каб яму паведамілі, што я пачуваюся тут не згорш. Я сам хвілямі задумваўся, чаму мяне памясцілі якраз тут, каля паказной групы яўрэяў, прызначаных - як усё часцей чулася і паўтаралася - да ліквідацыі. А можа турма на Сыракомлі ўжо так перапоўнена, што ўласна я ёсць тым першым у чарзе на засяленне турэмнага будынка пры вул. 3-га Траўня нанова, хаця было звыш відавочна, што ён вымагаў генеральнага рамонту.

У адрывачнай плыні слоў мне было цікава даведацца, адкуль пані дазналіся пра маё ўвязненне. Не пачуў яшчэ на гэта адказу, як у дзвярах вартоўні ўбачыў майго ахоўніка-бельгійца ў таварыстве нейкага немца, апранутага па-тырольску ў батфордах, паляўнічай куртцы і зялёным капялюшыку з пяром на галаве. Гэты тырольчык размахваў перад носам сяржанта нейкім лістом. Хацеў спаткання з вязнем, г.зн. са мной з мэтай заслухвання і размовы сам-насам. Захоплены знянацку з'яўленнем тырольчыка, сяржант нават не пазнаёміўся са зместам, мільгаўшага ў яго перад вачыма ліста і адразу даў мне знак, каб выйшаў з вартоўні на падворак, дзе тырольчык, узяўшы мяне за локаць, правёў цераз пляц аж пад турэмны мур і толькі тут, да майго здзіўлення абазваўся па-польску:

- Пан павінен уцякаць і цяпер!

- Як гэта? - я паглядзеў на яго з недаверам, - якім спосабам гэта зрабіць? Акрамя таго пані засталіся ў вартоўні.

- Нічога ім не будзе. Пайшлі да той бяздзейнай вартавой вышкі! - падагнаў мяне тырольчык.

Драўляныя дзверы ў мураванай вышцы былі забіты цвікамі наглуха. Спрабуем іх вырваць голымі рукамі. Марна, дзверы ані здрыгануліся. Чым бы іх тут падважыць? Аглядваемся навокал і амаль адначасова бачым нешта блішчастае на зямлі паблізу ад барака - гэта кінутая некім з работнікаў кірка. Цяпер уціснутым у паз вастрыём выважваем дзверы. Мураванае нутро вежы-галубятні без лесвіцы цалкам пустое, толькі ўнізе напоўненае чорнай вадой. Не вядома якой глыбіні: уверсе падзабруджаны шкляны дашак ў выглядзе стажка. У адной з трохкутных рам некалькі выбітых шыбак.

З адтулін па шыбах на часцёва пакрышаную цагляную сцяну вышкі падае сонечная смуга святла.

Уцячы можна толькі цераз дашак. Толькі як туды дабрацца? І тут у той сонечнай смузе бачым тырчаўшыя тут і там паміж цаглінамі вялікія паржавелыя цвікі, якія засталіся ад зліквідаванай драўлянай лесвіцы, што вяла даўней да зашклёнай будкі, якая была назіральнай пазіцыяй турэмнага ахоўніка. А таму будзем узбірацца па цвіках аж да збаўнага, зашклёнага дашка.

- Няма часу! - тыролец ужо злёгку папіхаў мяне ў кірунку сцяны, дзе тырчалі паміж цаглінамі вялікія штыры. - Толькі глядзі, каб не ўпаў! - чую за сабою яго голас і сухі трэск зачыненых дзвярэй.

Абапёршыся плячыма аб сцяну павалі, ступня за ступнёй пасоўваюся па няроўным камяністым краі фундамента. Пада мной яма, напоўненая чорнай, як смала вадой з нерухома леглымі на яе паверхні некалькімі жоўтымі надгнілымі лістамі клёну. Асцярожна хапаю пальцамі, а потым усёй далонню спачатку адзін, а потым другі цвік, спрабуючы, ці досыць моцна тырчаць у муры. Нязначны нахіл тулава ўлева, і другая выцягнутая рука хапаецца за тырчаўшы некалькі вышэй цвік. Цяпер цалкам на вясу прыляпляюся да сцяны, і адначасова шукаю апору для сваіх ног у шчылінах і няроўнасцях месцамі пакрышанай цэглы Выцягнутыя рукі згінаюцца і выпрамляюцца папераменна, падымаючы ўвесь мой корпус на тыя некалькі санцыметраў уверх. Ціск пашчарбаных плешак цвікоў на далоні, з якіх адна ўжо крывавіць, што раз мацнейшы, але болю не адчуваю. І тут нейкі штыр, сыпнуўшы скрушанай вапнай вывальваецца са сцяны. У апошнюю хвілю хапаюся далонню за іншы цвік, на шчасце моцна ўбіты ў шчыліну між цаглін, і міма волі паглядаю ўніз у цёмную пашчу невядома на колькі глыбокай вады, запоўніўшай чрава галубятні. Яшчэ пару хватаў,

рухаў тулава, і... нарэшце чапляюся за адну з бэлек, якая служыць асновай і апорай для шклянога дашка вышкі. Цяпер адной рукой адхіляю рухомую трохкутную раму зашклёнага дашка, уціскаю пад яе галаву і ўжо грудзямі ўспіраюся на бэльку, што атачае мур вартавой вышкі. Нада мной віднеецца чыстае блакітнае неба, чуцён лёгкі і свежы павеў ветру, а ніжэй расцягнулася зялёныя прастора агародаў, дзе над адным з загонаў завіхаецца сагнутая жанчына ў каляровай хустцы на галаве. Гляджу ўніз. Там пад вышкай стаяць два маладыя хлопцы. Убачылі мяне і адразу паўгаласам клічуць, каб скакаў на зямлю.

- Высока! - адказваю - Прынясіце які канат, шнур.

- Няма часу, скачы, падтрымаем!

Прапускаю ногі праз шчыліну паміж фрамугай і дашкам, які цісну мне на плечы. Бачу яшчэ выпрастаную постаць жанчыны, якая жагнаецца на голас і ўжо напалову з вісу спадаю на зямлю, дзе хлопцы прытармоўваюць цяжар майго цела. З падзення на калені падхватваюся адразу, а хлопцы ўзялі мяне пад рукі і выправадзілі з агароду праз нейкую дзірку ў плоце з драцяной сеткі. Пасля, віляючы паміж забудовамі, мы дабраліся да чыгуначнага пераезду і праз пару хвілін аказаліся ў густа застаўленай домікамі і агародамі чыгуначнікаў Слабадзе.

**7. Ужо на свабодзе.**

З падворка, цераз ганак увайшлі ў адзін з тых невялікіх дамкоў. І тут... неспадзяванна. Дзверы ад пакоя ці кухні адчыняе добра знаёмая мне наглядна таварышка з нашай гімназіі, прыгожая і ўсмешлівая бландынка І.С. Пасля прывітання і кароткага абмену паролямі я з'арыентаваўся, што менавіта жыллё панства С. будзе маім часовым сховішчам. Сплыла, мабыць, гадзіна. Пасля яды разглядалі разам з маёй мілай гаспадыняй паннай І. здымкі з яе альбома. Калі ў замкнёныя з боку ганка дзверы нехта двухкратна, са значэннем пастукаў, панна І. сарвалася з месца:

- Гэта да мяне, - кінула.

У прыадчыненых дзвярах ад кухні я згледзеў маладога чалавека, якога І. запрашала, каб увайшоў усярэдзіну. Але маладзён не спяшаўся.

- Мушу зараз вяртацца! - пачуў. - Забег толькі па ўзнагароду!

Узнагарода тая, я бачыў гэта праз незачыненыя дзверы, было закідванне рук на шыю маладзёна паннай І. і дадзены яму пацалунак. Тады малады чалавек знік за дзвярамі, а І. паінфармавала мяне, што гэта быў яе таварыш - сусед, адносна якога яна мела пэўныя абавязкі.

- Гэта ён, - дадала пра гэтым, - вызваліў пана з вязнення!

Усхваляваны і ашаломлены раптоўнай зменай сітуацыі, у якой знаходзіўся, я не быў у стане нармальным чынам рэагаваць на ўсё тое, што рабілася вакол мяне, ані супаставіць факты, у якіх удзельнічаў. Вось, па-просту, усё гэтае здарэнне вакол мяне, я трактаваў тады, як рэч натуральную, прыязны жэст салідарнасці (ну можа трохі рызыкоўны) некалькіх маладых энтузіястаў. Прайшло ледзьве некалькі дзён, каб справа праяснілася, укладаючыся ў лагічны шэраг прычын і скуткаў, звязаных з маім арыштам і звальненнем.

Ужо шарэла, калі ў дом панства С. убег таварыш брата - кіраўнік тартака Ф.М. (мабыць сваяк панны І.) і паведаміў, што мае ўцёкі з вязніцы сталі ўжо вядомымі, што - як чутно - выязныя дарогі з горада мацней, чым звыкла, кантралююцца нямецкімі пастарункамі, а таму ўзнікае неабходнасць размяшчэння мяне ў іншым, больш бяспечным месцы, дзе я мушу перачакаць пару крытычных дзён. Ф.М. меў ужо загадзя складзены план схаваць мяне ў свайго дзядзькі, адстаўнога чыгуначніка, які жыў на краі Слабады.

Развіталіся з пастаянна міла ўсміхаўшайся паннай І. і ўжо ў поўным змроку пры платах дабраліся да маленькага доміка дзядзькі Ф.М. Тут дзядзька з пляменнікам вырашылі, што найлепшым, а адначасова і найбяспечнейшым месцам для мяне на колькі найбліжэйшых дзён будзе стаяўшая пасярод саду старая, драўляная буда, якая сягала сваімі стромым дахам аж да зямлі, і дзе дзядзька ў летнія ночы звыкнуў быў пільнаваць, каб акалічныя балбесы, пераскочыўшы цераз трухлявы плот, не кралі ў яго садавіну.

Я быў проста захоплены таго роду схованкай, у якой стаяла выцертая сафа з парай вясковых дзяружак, табурэтка і расхістаны на ўсе бокі малы столік. Насцеж расчыненыя дзверы забяспечвалі прыплыў святла і рэзкага садовага паветра.

Ежу з дому ў будку меў прыносіць дзядзька Ф.М., сівы і трохі прыгорблены, але затое рухавы, як на свой сёмы дзесятак, стары. Пачцівасць, ужо ў наступны дзень даставіў мне некалькі старых экзэмпляраў штомесячніка "Вакол свету". І я меў, што чытаць.

Яшчэ перад адходам Ф.М. да свайго, размешчанага недзе паблізу дома - паколькі была гэта ўжо цёмная ноч, я прасіў яго, каб даведаўся, што з панямі - маёй гаспадыняй і яе сястрой, якіх я пакінуў у вартоўні, уцякаючы з вязніцы. Брат мой, як толькі яму данеслі, што я арыштаваны, не вяртуўся ўжо ў жыллё нашых гаспадароў - панства К., але спыніўся і начаваў у знаёмых на другім баку вуліцы ген. Шантыцкага. Ф.М. паабяцаў мне, што прыйдзе да мяне і перакажа ўсякую інфармацыю праз нейкія 2-3 дні.

І фактычна, праз тры дні ў пасляпаўдзённы час з'явіўся ён у маёй будзе, таямніча паведаміўшы, што прывёў мне госця. Непадалёк пад прыкрыццём кустоў парэчкі сядзелі на траве мая гаспадыня са сваёй сястрой паннай В. Сардэчныя прывітанні і гарачыя абдымкі наступілі ў трохі смешнай пазіцыі - на кукішках. Пані прынеслі з сабой да курачкі і яек нават фляжку хатняга віна. Расказвалі пры тым, як пасля выяўлення маіх уцёкаў і далейшых дарэмных пошукаў у бараку і на турэмным пляцы, раз'юшаны сяржант немец, выклікаючы стражнікаў ад дурных баб, з крыкам: "Хауз"! по-прасту выпхнуў яе з вартоўні, а потым за браму вязніцы. Майго тырольскага вызваліцеля стражнік-бельгіец - як гэта тлумачыў каменданту - выпусціў з пропускам чвэрць гадзіны таму назад, найлегальней, цераз браму. Столькі пані зразумелі пры сваім скупым

знаёмстве з нямецкай мовай.

У рванай размове на розныя тэмы (даведаўся я м.ін. пра трагічную смерць ген. Сікорскага) мы не заўважылі, як начало шарэць. Пані ў спешцы рушылі дадому, паабяцаўшы, што адведаюць мяне зноў у найбліжэйшую нядзелю з правіянтам і цяплейшай вопраткай, бо напэўна ноччу холадна мне ў той будзе.

**8. Развязка загадак.**

Аднак не дадзена мне было дачакацца нядзельных адведзін пані К. і яе малодшай сястры В., выразна змярцвелай - як я вычытаў з яе блакітных вачэй - перспектывай непазбежнага расстання са мной, прынамсі на нейкі час, бо ўжо ў суботу раннім ранкам, прыехаў фурманкай да дзядзькі нейкі тып у авечым кажушку (мужыкі так апранутыя нават летам з погляду на халодныя ночы). Тып прадставіўся як прыяцель добра мне знаёмага з нядаўняй працы ў надлясніцтве Ліда ляснога інжынера Квятка і адначасова ўручыў мне здабытую дзесь з-пад падшыўкі сваёй старой шапкі карэспандэнцыю ад яго. Ляснічы Квятак пісаў, што падаўцу таго ліста - яго прыяцелю - даверыў заданне перакінуць мяне цераз мяжу з Ліды (цяпер Беларусь) на Літву, а канкрэтна ў Эйшышкі, дзе, як некалі ў непасрэднай з ім размове я згадваў, знаходзіцца мая мама. Падаўцу ліста я цалкам павінен давяраць, а рэшту дэталяў дараскажа мне ён асабіста і на канец развязка такой простай, але захапляўшай мяне загадкі. Ляснічы Квятак і ўладальнік пячаткі, прысыланай да мяне цераз мужыкоў - вазакоў з просьбамі пра якое-небудзь узбраенне з малюнкам "Кветкі з пяцю пялёсткамі на доўгай ножцы" - гэта адна і тая самая асоба.

Рэшту дараспавёў прыяцель інжынера Квятка (таксама перадваены ляснічы), як яны абодва заканспіраваныя на суседніх пляцоўках клапаціліся пра зброю (здабываную рознымі шляхамі, м.ін. і ад мяне) для фармаваўшыхся аддзелаў польскіх партызан. Як толькі даведаліся пра мой арышт, баючыся, каб падчас нямецкіх допытаў не прагаварыўся, каму пастаўляў зброю, бо думалі, што я расшыфраваў крыптонім "кветка", хутка скантакталіся з блізкай ім групай падпольшчыкаў у Лідзе, якія мелі доступ да нямецкіх афіцыйных папер і нават да пячаткі ў гэбітскамісарыяце, даручыўшы ім вызваленне мяне з вязніцы. Старая вязніца на Каменцы з міжнароднай вартавой службай, якая складалася з не вельмі яшчэ дасведчаных стражнікаў неверагодна аблегчыла лідскім падпольшчыкам выкананне даручанага ім задання. Тым не меней вывад мяне за муры вязніцы ў белы дзень "тырольчыкам", тым больш асобай, якая ўдавала немца з рэгіёну, было вычынам дасціплым, але пры тым і рызыкоўным.

Хто тады быў маім збаўцам? Хто змяніў далейшыя лёсы майго жыцця?

Перш за ўсё пасля пераходу беларуска-літоўскай мяжы я аказаўся на іншай тэрыторыі, у іншым асяроддзі, звязаўся і дзейнічаў у адным з партызанскіх адддзелаў АК у 1943-44 гадах, а пасля акцыі на Вільню пад назвай "Вострая Брама" выехаў (канешне па левых паперах) на заходнія землі ПНР. І, мусіць, ніколі б не даведаўся, хто такім бравурным спосабам вызваліў мяне з вязніцы, калі б, як звыкла, не выпадак, які меў месца восенню 1992 года, а гэта цераз 50 год. Дык вось, у першую нядзелю кастрычніка 1992 года я ўдзельнічаў у таварыскім спатканні лідзян у прыватным памяшканні маёй кузіны В.Б у Варшаве. Раскіданыя па ўсёй Польшчы, а нягледзячы на гэта, падтрымваўшыя паміж сабой кантакты лідзяне, гэта ў асноўным былі вучні сярэдніх школ міжваеннага перыяду, а ў гады акупацыі савецкай і нямецкай - жаўнеры, якія дзейнічалі ў падполлі і вялі змаганне з захопнікамі ў партызанскіх аддзелах АК. З'езды - спатканні лідзян ужо на працягу некалькі гадоў (у першую нядзелю кастрычніка кожнага года) прысвечаныя памяці палеглых у Другой Сусветнай вайне на зямлі Наваградска-Віленскай, а таксама памерлых ужо пасля вайны таварышак і таварышаў жаўнераў-партызан з 77 пп АК у Лідзе.

Калі пасля ўрачыстай святой імшы ў касцёле Св. Антонія на вул. Сенатарскай у Варшаве і ўскладання букетаў кветак у галерэях таго ж касцёла пад эпітафійнымі дошкамі таварышак і таварышаў партызанаў АК мы спаткаліся ў доме кузіны В.Б у колькасці каля трыццаці чалавек і заселі ўжо за сталы для супольнага абеду, прыбыла трохі спазнёная нейкая пані Б.С., якая, як я пазней даведаўся, таксама была лідзянкай малодшага пакалення і сувязной АК. Вітаючыся па чарзе з незнаёмымі і сядзеўшымі ўжо за сталамі ўдзельнікамі спаткання, пані Б.С. затрымалася пры мне, калі я ўстаў і назваў сваё прозвішча.

- Зараз, зараз, прабачце. Як пан называецца?

А калі я паўтарыў ёй ужо трохі гучней, пані Б.С. запытала, ці я не той тып - тут назвала маё прозвішча, якога брат яе Ўладак шмат гадоў назад вызваліў з Лідскай вязніцы. Я пацвердзіў, што я якраз і ёсць той тып. І тады пані Б.С. дадала некалькі дэталяў, з таго здарэння, якіх ніхто акрамя мяне не ведаў, бо я таксама ніколі і нікому такія дэталі не давяраў.

- Я была ў той час дзяўчом - падлеткам, - успамінала пані Б.С. - З затоеным дыханнем і поўная здзіўлення я прыслухвалася да распавяданай нашай мамай аповесці пра майго старэйшага брата - Уладка. Убраны ў тырольскі строй: цёмныя кароткія порткі ў папярэчныя белыя палосы, на галаве меў зялёны капялюшык, упрыгожаны шэрым ястабіным пяром. З гонарам распавядаў, як ён прыбраны ў тырольца дапамог ва ўцёках з вязніцы польскаму афіцэру, нейкаму Д.! (Тут назвала добра запомненае мной яго прозвішча).

- А гэта ж пан? - хвіліна маўчання і здзіўлення, якая перарвалася запытаннем.

- А дзе ж тады мой збаўца? Я хацеў бы яму асабіста выразіць сваю ўдзячнасць і прызнанне.

- На жаль, няма яго ўжо сярод жывых - адказала са смуткам у голасе пані Б.С. - Загінуў пад Сурконтамі ў 1944 годзе. Пэўна пан чуў пра няроўную бітву, якую далі там аддзелам НКУС партызаны АК пад камандаваннем маёра Котвіча! Адбіваючы масавую атаку ворага, амаль усе загінулі ў колькасці каля 40 жаўнераў. Раненых энкусаўцы дабівалі штыкамі або выстраламі з аўтаматаў.

- Мне была добра вядомая гісторыя аддзела АК, пад камандаваннем ціхацёмнага бязрукага маёра "Котвіча". Першы і апошні раз я бачыў яго на начной нарадзе камандзіраў ніжэйшага звяна ў Рудніцкай пушчы з 18 на 19 ліпеня 1944 года. Пасля вераломнага арышту 17 ліпеня 1944 года і вывазу ў СССР польскіх афіцэраў АК - удзельнікаў баёў за вызваленне Вільні (акцыя "Вострая Брама"), запрошаных у маёнтак Богушы на гарбату для знаёмства з савецкімі афіцэрамі, кіраўніцтва над усімі, размешчанымі паблізу Вільні партызанскімі аддзеламі, прыняў найстаршы па званні невялікай ўжо групы пазасталых афіцэраў маёр "Котвіч". Паднятыя на трывозе тым ганебным учынкам аддзелы, якія налічвалі каля чатырох тысяч узброеных жаўнераў, ужо раніцай наступнага дня пад камандаваннем маёра "Котвіча" рушылі на Рудніцкую пушчу. Доўгую калону, маршыраваўшых шырокім трактам акаўцаў суправаджалі аж да самай пушчы аўтамабілі-амфібіі, напоўненыя савецкім войскам. Ледзьве прайшлі брод і ўжо ў глыбіні пушчы разлеглую паласу балот і аказаліся на больш сухім, цвёрдым і задзірванелым грунце, як з тылу за нашымі плячамі пасыпаліся чэргі выстралаў з аўтаматычнай зброі. Гэта ў нашым кірунку рухалася, страляючы, савецкая пяхота, напэўна тая, прывезеная да пушчы амфібіямі. Мы адказалі агнём. У наступленні, якое трывала аж да змроку, ішоўшыя натоўпам і ва ўвесь рост салдаты муселі панесці - і пацвярджалася гэта навочна - вялікія страты. Многа з іх жыўцом патанула ў гразі і балоце, непраходным без праваднікa. Нашы жаўнеры - партызаны, расселеныя аседла яшчэ да нядаўняга часу вакол пушчы, добра знaлі праходы і шляхі на тым багністым абшары.

Ясна было, што саветы не спыняцца ў тым нешчаслівым для іх і багатым на страты наступленні і захочуць як найхутчэй ліквідаваць польскіх партызан, якія знайходзіліся ў пушчы. На скліканай яшчэ той ноччу нарадзе маёр "Котвіч" прадставіў сваім нешматлікім ужо падначаленым свабоду рашэнняў і мажлівасць расцерушыцца на тэрыторыі. Сам - як тады паведаміў - з групай дабраахвотнікаў будзе далей весці безупынную барацьбу з саветамі. Тут жа пасля нарады мы дамовіліся разам з камандзірам нашай роты паручнікам "Ліхам" (мы абодва не скарысталіся з запрашэння ў маёнтак Богушы на гарбатку знаёмства), што ў той жа час малой групай, а такой быў мой першы плутон у 2-гой роце V батальёна 77 пп АК (два астатнія плутоны з нашай роты загадам новага камандзіра V батальёна паручніка "Каліны" яшчэ перад наступленнем на Вільню ўзмацнілі асабова іншую няпоўную роту ў тым жа батальёне), што пакінем Рудніцкую пушчу.

Пацверджаннем слушнасці такога рашэння быў факт акружэння ўжо назаўтра раніцай усёй Рудніцкай пушчы савецкімі войскамі:

Уцякаўшых з пушчы індывідуальна або групамі партызан-акаўцаў вылоўлівалі, накіроўваючы іх у Меднікі, каб у сваю чаргу вывезці ў СССР. Мы даведаліся праз пару дзён, што маёр "Котвіч" з групай ў некалькі соцень верных яму жаўнераў-партызанаў прабіўся цераз кальцо савецкага войска, шчыльна замыкаўшага Рудніцкую пушчу.

Прайшоў яшчэ тыдзень, пакуль мы канчаткова распусцілі наш плутон і са зброяй павярталіся да сваіх дамоў. Не мела ўжо сэнсу безупыннае кружэнне невялікага аддзела, што праўда на добра знаёмай нам тэрыторыі, але запоўненай масай савецкіх войскаў і спраўна адступаўшымі ў баявым парадку групкамі немцаўнедабіткаў. Яшчэ тады, калі мы хаваліся ў падземных бункерах паблізу ад сваіх дамоў ад пастаянна прачэсваўшых тэрыторыю спецыяльных аддзелаў энкусаўцаў, даходзілі да нас чуткі пра нясхільную барацьбу, якую праводзіў на Наваградскай зямлі маёр "Котвіч" і яго баявыя жаўнеры з войскамі НКУС, праводзіўшымі татальную чыстку ўсяго, што польскае, у тылах далёкага ўжо фронту.

Бездапаможнай да той пары савецкай выведцы нарэшце ўдалося ўстанавіць недзе так у сярэдзіне трэцяй дэкады жніўня 1944 года месца часовага размяшчэння ў ваколіцах Дубічаў (памятных смерцю кіраўніка паўстанцкага аддзела 1863 года Л. Нарбута) моцна ўжо прарэджанай пастаяннымі сутычкамі з ворагам групы партызанаў маёра "Котвіча". Накіраванае ў той раён войска НКУС, дзеля выведвальных мэтаў правяло збройнае сутыкненне з заслонным аддзелам маёра "Котвіча" ў малой вёсцы Паддубічы, дзе загінула сем польскіх партызанаў, а чацвёра былі паранены - страты ворага не былі вядомыя, каб праз два дні г. зн. 31 жніўня 1944 года акружыць большымі ўжо сіламі, размешчаны ў Сурконтах аддзел маёра "Котвіча" ў некалькі дзесяткаў чалавек. У выніку крывавай бітвы, якая тут адбылася, палёг маёр Котвіч і 35 яго найвярнейшых жаўнераў.

У траўні 1995 года, ажно праз малога паўвеку, я браў удзел у арганізаванай паездцы лідзян з Варшавы - сэрца вольнай ужо Польшчы - у Ліду, горад маёй маладосці. Пасля ўрачыстасцяў, звязаных з асвячэннем вуглавога каменя пад будаўніцтва "Дома Польскага" ў Лідзе, мы аб'язджалі аўтакарам Саюза палякаў у Гародні ваколіцы Ліды, знаёмыя нам мясціны, шляхі пераходаў і месцы партызанскіх баёў АК, пазначаных сям-там крыжамі і западаючымі што раз глыбей у зямлю жаўнерскімі магіламі.

Былі мы і ў Сурконтах, а дакладней, у месцы, дзе яны некалі стаялі. Цяпер было тут роўнае поле, а на ім сціплыя але ўжо занядбаныя, атачоныя каменным мурам могілкі. На могілках, парослых вясенняй травой, а месцамі самабытнай поўнай квеценню стаяць два рады крыжоў - магілы маладых партызан, палеглых у барацьбе за вольную Польшчу з варварскімі прыхаднямі. Цэльнасць могілак завяршае помнік - шанец. Могілкі даглядаюць навакольныя, старэйшыя векам палякі. На магілах крыжы невядомых жаўнераў і тых вядомых з прозвішчамі, псеўданімамі і вайсковымі званнямі, а сярод іх маёр "Котвіч" - Мацей Калянкевіч і мой выбаўца з лідскай вязніцы - "Сунім" - капрал Уладзіслаў Смілгін.

Пры магіле Ўладка ўкленчыла яго малодшая сястра - Бронька са словамі малітвы на вуснах. Я стаяў каля яе ў задуменні і з уздыханнем за спакой яго душы, схіліўся, ускладаючы букет кветак, прывезены з Ліды, як знак маёй удзячнасці і памяці.

*Пераклад Станіслава Судніка.*

# ТРАДЫЦЫЙНАЕ ВЯСЕЛЛЕ НА ЛІДЧЫНЕ

***Запісы з фальклорна-этнагарафічных даследаванняў Лідскага раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці***

## ДАВЯСЕЛЬНЫ ПЕРЫЯД

### Сватанне

"Калі спадабалася дзяўчына, убачанная на фэсце (царкоўнае свята), да яе засылалі сватоў. Малады хлопец са сватам прыходзіў да маладой дзяўчыны сватацца. Гаспадары ўсіх запрашалі сесці за стол. За сталом вяліся размовы, усе частаваліся, дамаўляліся. Калі маладая згодна выходзіць замуж за гэтага хлопца, тады дамаўляліся аб даце вяселля. Нявеста дарыла жаніху і свату саматканы кужаль. Пасля дамовы сватоў праводзілі дадому." *(Запісана 28 студзеня 2010 года ў вёсцы Панямонцы ад Крупы Марыі Аляксандраўны, 1942 г.н. Запіс вяла Моцевіч Яніна Антонаўна).* "Калі ж хлопец не спадабаўся дзяўчыне, то за застолле плаціла дзяўчына." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна, ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БДПУ).*

### Заручыны (пераглядзы)

"Маладая ехала да маладога, а ён рыхтаваўся да сустрэчы. На пярэглядах дамаўляліся наконт вяселля: калі, дзе і як." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БДПУ)*

### Вечар напярэдадні вяселля (Вянкі)

"Вяселле пачыналася ў нядзелю. А ў суботу перад вяселлем у маладога праводзіліся вянкі. Малады збіраў дружкаў, хлопцаў, дзяўчат, яны плялі вяночкі. Затым садзіліся за стол, пілі, елі, танцавалі." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 г.н., праваслаўная, архіў БДПУ).*

"Жаніх запрашаў музыкантаў. Моладзь частавалася прысмакамі. Упрыгожвалі барвінкам, рутай вянкі. Усім гэтым кіравала сястра маладога, а калі няма сястры, то была хрышчоная дачка (яго бацькоў). Рабілі вяночкі хлопцам дзяўчаты (дружкі) - колькі было хлопцаў, столькі і вяночкаў. Гэтыя вяночкі звязвалі ў хустачку, а на другі дзень іх з белым банцікамі чаплялі хлопцам. Маладой плялі гірлянду. Увечары спявалі песню:

Ой маці, маці,
Што маю сказаці,
Ўсё лета праходзіць,
А я не жанаты.
Пасею жыта -
Няма каму жаці,
Пасею пшаніцу -
Будзе зімаваці.
А я пасею пшаніцу -
Будзе зімаваці.
А, як прыйдзе ночка,
Няма з кім размаўляці.
Ой, на, табе, сынку
На, літар гарэлкі
Да едзь сабе, сынку,
Выбірай паненку."

*(Запісана ў в. Збляны Лідскага раёна ад Лянцэвіч Ніны Антонаўны).*

"Музыкант іграў, і першым выходзіў танцаваць малады, браў сваячку (лічылася, што каго возьме малады, тая следам выйдзе замуж). Малады танцаваў, пасля запрашаў ўсіх астатніх, і тады яны ўжо танцавалі да відна. А сват у гэты дзень ішоў да маладой па бялізну і падарунак (каравай вясельны з добрага цеста - гэта быў асноўны падарунак). А ў маладой у гэты дзень нічога не адбывалася." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 г.н., праваслаўная, архіў БДПУ).*

## ВЯСЕЛЬНЫ ПЕРЫЯД

### Малады збіраецца да маладой

"Пасля вянкоў, назаўтра, збіраліся ўсе ў маладога: музыкі, дружкі, сват, запрашаліся 1-ая, 2-ая, 3-я і 4-я дружкі (больш дружак не было). Сядалі за стол (малады паміж сясцёр), тры разы выпівалі. Спявалі маладому:

“Зямны фаркун па дарожцы паслаўся,
Малады Ванечка ў дарожку прыбраўся,
Выраслі лозы, чатыры бярозы, пад акном
Ці не выйдзе маладая Манечка пад вянком."

*(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БДПУ).*

### У хаце маладой перад прыездам маладога

"Маладая адзявалася (прыбіралі яе дзяўчаты) ў каморы ці на кухні. Прыбранне маладой: белая штапельная сукеначка, на галаву збіраўся вэлюм доўгі (адна вялікая фальбоначка, а паверх яшчэ большая, наверсе зялёненькі барлінчык)." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БГПУ).*

"Перад тым, як адправіць маладую да шлюбу, для яе засцілалі кажух (дагары воўнаю). Маладая

садзілася на кажух, каб была багата, і каб досыць усяго было ў жыцці". *(Запісана ў в. Сямашкі Лідскага раёна ад Ясюкайтэс Тарэсы Юзэфаўны).*

### Падаванне вянка

"Яшчэ да шлюбу маладой плялі нявельчанькі вянок з руты. І калі ўжо малады прыяздажаў да маладой, ім падавалі вянок. Малады кленчыць каля свайго бацькі, а маладая каля сваёй маткі, і родна матка ўшпіляла вянок маладой. Пры падаванні вянка гаварыліся наступныя словы:

1. Да родных:

- Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус. Дзе естэсь матка родзона младой і ойцец родзоны? Ці мам я воля стомпіць в твуй дом свенцоны, ці мам я воля от радзіцоў родзоных і от радзіцоў хрэсных воспомніць в тэн дом свенцоны? Ідэ крок, ідэ другі, на тшэнцім стое, пані млодай і дружэчкам отдае. Дзе то ест гаспадыня тутэйшэго дома, жэ бы дала талеж срэбны ці злоты, то і ў нас бэндзе пенкна размова: як мы дрогон ехалі - звонкі звонілі. І да тэго домку заехалі. І такжэ наш пан млоды цалы край аб'ехаў і нігдзе собе парэчкі не обэбраў, тылька в тэм самом домэчку цо от людзі памовёна, цо от бога осандзона і на дзісь дзень отложона. Благослаў ойцец і матка і вэсэльне госць і нех вам загра музыка жалосце.

2. Да маладой:

- Выходзіш от своей коханой родзіны, атходзіш от своей коханой маткі, ктура цебе пеленговала, як тэ ружэ-квятка, ктура цебе карміла ўласнымі персамі. Хлеба до ўстав падавала, сама не ядла - для цібе ошчэгала, бо ты естэсь цурка дрога, а она матка ўкохана. А як це не жаль ойцовского лона, цо пры свеце як срэбна корона? Смутны тэн квят мелёвы, цо ма спаднуць с твоей гловы, бо юш не для цебе бэндзе грацьмузыка, бо юш не для цебе бэндзе звоніць поранне. І поблагославце вы колежанкі, ктуры не раз ідуць до косцёла, рвалі спульня квяткі, бо юш вам сыгнет пшэстань от духа свентэго. А в недзелю рана матка найсвенша ўшысткі агроткі абходзіла і тэ квяткі благославіла, а мы назбіралі нашэй младай тэн вянэк віялі. Прыслаў тэн вянэк наш пан млоды не пшэс брата родзонэго, а пшэс слугу вернэго, пшэс лясы шырокі, пшэс гуры высокі, пшэс жэкі глэмбокі, доміцэтамі высаджана, мільярдамі выплачона і на дзісь дзень отложона. Благослаў, ойцец і матка, і вы вэсельне госце. Нех ім загра музыка жалосце.

3. Да ўсіх:

- Свацее і дружкі пані млодай квятушкі прошэ пшымоваць не гоноровать. Я о тэм вянку могэ фшыстко вытлумачыць: тэн вянэк складысе с трох сортоф квят. Першы квят - рута, жэ бы пані млода хадзіла зафшэ обута. Другі квят - лілея, жэ бы пані млода тэн вянэк льзамі обліла. Тшэці квят - (тэн вянэк) ружа, жэ бы пані млода сподзевалася добжэй падружы. Облелее пані млода тэн вянэк - вянэчак, жэ бысь ты могла постояць на новэ жыце з добжымі мыслямі. Шчэнсце от злэго не дапушчай, а жэбысь не настал дзень сонду страшнэго і ты шкадавала відзэ Езусовы раны, ктуры церпел за гжэшнэго чловека, не бэндзеш жыць кламствам, ашуканствам, а справедлівосьцюн хшэсцьянкай. Не зgаднеш, дзе спаднеш, ці на квят пенкны, ці на остры церпні. Благослаў, ойцец і матка і, вы, вэсэльно коло. Нех ім загра музыка вэсоло. Як пшыставалі, то фшысткім дзенковалі. А як отстэмпуе, то фшысткім дзенкуе. Прошэ пшыняць тэн вянэк нашэй пані млодай." *(Запісана ў 1993г ў в. Сцеркава Лідскага раёна, ад Міхаловіча Яна Янавіча (70 гадоў, католік, архіў БДПУ).*

### Малады прыязджае да маладой

"Заўсёды малады да маладой прыязджаў ў нядзелю (на вянчанне). А маладая раніцай у нядзелю, пакуль прыедзе малады, павінннна была схадзіць у царкву да споведзі. Пры прыездзе маладога яму рабілі браму, а маладая павінна ўбачыць маладога толькі, калі ён зойдзе да яе ў пакой. Дзяўчыне нельга выглядаць у вокны, каб угледзець свайга жаніха. Вясковыя бабы і дзяўчаты прыбіралі маладую". *(Запісана ў в. Сямашкі Лідскага раёна, ад Ясюкайтэс Тарэсы Юзэфаўны).*

"Калі малады прыязджаў, маладая павінна была абавязкова глянуць на маладога першай (чаму не ведаю, але такі элемент абраду існаваў)". *Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БДПУ).*

"Малады прыязджаў са сватам і дружкамі. Бацькі маладой сустракалі іх і запрашалі ўсіх за стол. Малады і сват сядалі на покуці (сват - злева ад жаніха)." *(Запісана 28 студзеня 2010 года ў вёсцы Панямонцы ад Крупы Марыі Аляксандраўны, 1942 г.н. Запіс вяла Моцевіч Яніна Антонаўна).*

### Маладую выводзяць да маладога

"Прыбраную маладую вялі браты, музыкант ішоў спераду. Спявалі песню для маладой :

Чаго, каліна, ўдалі стаіш? - *2 р.*
Мусі, каліна, сушы баіш? - *2 р.*
Жэбіш я сушы не бояла, - 2р.
То я ў тым долю не стаяла. - *2 р.*
Стаяла быш я на тэй гуты - *2 р.*
І развівала б вянэк з руты. - *2 р.*
Ой, ты, вянэчку, развівайся, - *2 р.*
А ты, Манечка, намысляйся. - *2 р.*
Ой, той вянэчак, з дробнай лілі, - *2 р.*
Цябе, Манячка, хлопцы ўзялі. - *2 р.*
Узяў цябе Ваня пода апеку - *2 р.*
І не апушча аж навекі - *2 р.*

Спявалі песні спецыяльныя спявачкі. А вось, калі не было бацькі або маці, то спявалі абавязкова асобную песню:

Бяла сукенка, злотны пас, - *2 р.*
Прыбярайся, Манячка, бо есць час. - *2 р.*
Маня ўсім ўстала, пшыбрана, - *2 р.*
І на цябе, Ванечка, чэкала. - *2 р.*
Як прыехаў Ваня пад врота, - *2 р.*

Маня заплакала: "Ах, хто там?" - *2 р.*
Ой, устань, мама, устань з гробу, - *2 р.*
Паблагаслаў Манечку да шлюбу. - *2 р.*
Ой, мама, не хце з гробу ўстаць - *2 р.*
І благаславенства Мані даць. - *2 р.*
Ва гродзе росне лілія, - *2 р.*
Не хцэ благославі Марыя, - *2 р.*
Ва гродзе роснуць віялкі - *2 р.*
Не хцэ благославіць анёлкі - *2 р.*"

*(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БГПУ).*

## Зборы і выпраўленне да вянца

"Маладых садзілі за стол (маладая сядзела насупраць маладога). Каля нявесты садзіліся два браты, а каля жаніха дружбанты. Дружкі садзіліся з боку каля маладой, а хлопцы з боку маладога. Калі ўсе сядалі, бацька маладой  пры ўсіх абяцаў пасаг (дзве каровы і г.д.). Калі сват згаджаўся, тады выпівалі па чарцы. Бацька жадаў маладым шчасця і дабра. Выпівалі па чарцы, а тады чаплялі кветкі. Першая дружка маладой прычэплівала кветку маладому і свайму дружбанцыку. А потым і ўсе астатнія дружкі праз стол прышпільвалі кветкі сваім дружбантам. Кветачкі рабілі з вазонаў." *(Запісана ў в. Сямашкі Лідскага раёна, ад Ясюкайтэс Тарэсы Юзэфаўны).*

"Маладая сядала з правага боку ад маладога. Жаніх выбіраў першага дружбанта, а нявеста першую дружку. Кветкі закалывалі дружкам і сяброўкам (кветкі і вэлюм былі зроблены да вяселля сяброўкамі нявесты). Сват кіраваў застоллем. Выпівалі па 3 чарачкі і абходзілі 3 разы стол па гадзіннай стрэлцы. Маладыя прасілі ў бацькоў дабраславення. Маці маладой садзіла нявесту на дзяжу, пакрытую дзяружкай, дабраслаўляла яе." *(Запісана 28 студзеня 2010 года ў вёсцы Панямонцы Лідскага раёна, ад Крупы Марыі Аляксандраўны, 1942 г.н. Запіс вяла Моцевіч Яніна Антонаўна).*

"Усе ўставалі із-за стала. Ставілі зэдаль, садзіліся бацькі, родныя, хрышчоныя бацькі. Бацькі маладой абносілі 3 разы свечкай маладую, перакрэсцяць, а потым маладая ўставала і развітвалася з усімі. Сванька брала абразік з ручніком. Маладыя ехалі вянчацца: жаніх з дружкамі, нявеста з братамі. Ехалі на вазах, зімой на санях, брычках. Сват і дружкі ехалі таксама." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна  ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БДПУ).*

"Маладыя садзіліся ў святочна ўбраную каляску (зімой ў сані), дуга ўбрана шаластунамі, званочкамі, кветкамі ды стужкамі. Калі маладыя ехалі да вянца, то хросныя бацькі садзіліся на кажух. Заручальныя пярсцёнкі жаніх загаддзя рабіў з медных грошай (пятака), імі маладыя заручаліся ў царкве." *(Запісана 28 студзеня 2010 года ў вёсцы Панямонцы Лідскага раёна, ад Крупы Марыі Аляксандраўны, 1942 г.н. Запіс вяла Моцевіч Яніна Антонаўна).*

## Сустрэча маладых ад вянца

"Пасля вянчання маладу ехаў з маладой, сват з сванькай, усе па парах. Усе госці ехалі да маладой на застолле. А на месцы гатовілі браму." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна  ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БДПУ).*

## Вяселле ў маладой

"За стол сядалі малады з маладой, дружбанты з дружкамі". *(Запісана ў в. Сямашкі Лідскага раёна, ад Ясюкайтэс Тарэсы Юзэфаўны).*

Спявалі для сватоў:
Ой, ты сватко, ні сядзі, ні сядзі,
Ідзі да дому, паглядзі,
Кабыла каня прывяла, прывяла,
Жонка сына збавіла, збавіла,
Нашая сванька хараша, хараша,
Згубіла хустку ад носа, ад носа,
А тая хустка - сурветка, сурветка,
Сядзіць сванька як кветка.

Так спявалі і дружкам, і сватам, і г.д., а за гэта плацілі бабкам-вясельнікам цукеркамі." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БДПУ).*

"Застолле пачыналася ў абед, а заканчвалася пад раніцу. Дружбанты сядалі па парах з дружкамі. Бацькі маладой падавалі на стол ежу, за стол не садзіліся. Бацькі маладога ў маладой не гулялі, а гатавалі сваё вяселле. Госці гулялі, спявалі ("Цвет каліны ламала, у пучочкі вязала"), выпівалі, танцавалі." *(Запісана 28 студзеня 2010 года ў вёсцы Панямонцы Лідскага раёна ад Крупы Марыі Аляксандраўны, 1942 г.н. Запіс вяла Моцевіч Яніна Антонаўна).*

## Ежа на вяселлі

"На вяселле гатавалі ежы мала: мяса, сыр,квашанне, каўбасы. Варылі і падавалі спецыяльную кашу (грэчку), смачная салодкая каша на малацэ. Пасля гэтага гэту кашу саладзілі. Пачынаў саладзіць сват, а ўсе астатнія ўдзельнікі вяселля стаялі з качалкамі і чарпакамі і сачылі, калі  хто не хоча саладзіць, таго ўсяго заляпаюць кашай. Пасля кашы неслі капусту. Варылі рэдкую капусту, на яе гралі, пачынаў сват, потым малады і далей усе астатнія. Пасля падавалі беленыя макароны. Амаль нічога не выпякалі." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БДПУ).*

## Развітанне маладой з родным домам

"Пасля дарэння збіраліся да маладога. Дарылі, хто што меў: палатно; кужалі,  якія ткалі і адбельвалі на росах, потым качалі; коўдры. Ужо быў сабраны

куфар (клалі туды палатно, дзяружкі, ручнікі). І там жа ў дзяружцы была і пасцель, а ў яе ўкладвалі падарунак. Адбываўся выкуп пасцелі маладой. Куфар везлі да маладога, яго пільнавалі браты." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БДПУ).*

### Прыезд да маладога

"Калі малады прывозіў маладую дамоў (гэта было ўвечары), рабілі браму. Маладая засейвала падлогу жытам, каб было добрае жыццё." *(Запісана ў в. Сямашкі Лідскага раёна ад Ясюкайтэс Тарэсы Юзэфаўны).*

"На другі дзень вясельнікі ехалі да маладога (дружкі і дружбанты, сябры і сяброўкі, радня маладога). У хаце маладога сваха вешала на абраз ручнік. Калі маладыя падыходзілі да парога, перад парогам ляжалі дровы, якія нявеста павінна была прыбраць да печы (па тым, як яна іх зложыць, глядзелі якой яна будзе гаспадыняй). А за сталом пасядалі цыганы, мужчына пераапрануты ў нявесту, а жанчына ў жаніха. Маладая даравала цыганам падарункі і выкупляла сваё месца за сталом. Калі за сталом сядзела цыганка з дзіцяці, то маладая і ёй дарыла падарунак. Пасля выкупу пачыналася дарэнне маладой. Дружкі абвязвалі сваім палатном дружбанцікаў (з пляча на пояс)". *(Запісана 28 студзеня 2010 года ў вёсцы Панямонцы Лідскага раёна, ад Крупы Марыі Аляксандраўны, 1942 г.н. Запіс вяла Моцевіч Яніна Антонаўна).*

"Маладых сустракалі з хлебам і соллю. Усе праходзілі ў хату на застолле, але ўжо за накрытым сталом з ежай, сядзелі падстаўныя прыбраныя жаніх і нявеста. Маладыя пачыналі выкупляць сваё месца за сталом. Маладая кідала паясы, якія ткала сама. Спявалі песню:

Узяў жонку з Белай Русі,
Не хцэ робіцца, ня мусі.
Ох я, бедна я, бедна глоўка то мая. - *2 р.*
Скідай, пані, сваі шаты і дамоў, да курнай хаты.
Ох я, бедная, бедна глоўка то мая. - *2 р.*
Скідай, пані, рукавічкі, памый стол і дайнічкі.
Ох я, бедная я, бедна глоўка то мая. - *2 р.*
Скідай, пані, свэ бацінкі,
вазьмі біцік, выгань свінкі.
Ох я, бедна я, бедна глоўка то мая. - *2 р.*
У полі свіня выганяла, на каменні ліст пісала.
Ох я, бедна я, бедна глоўка то мая. - *2 р.*
На камяні ліст пісала, да матулі адпраўляла.
Ох я, бедна, я бедна глоўка то мая. - *2 р.*
А матуля нэ чытала, пяць пар коней асядлала.
Ох я, бедна я, бедна глоўка то мая. - *2 р.*
Пяць пар каней асядлала і да зяця пшылятала.
Ох я, бедна я, бедна глоўка то мая. - *2 р.*
Каб ты зяньцю глову зкрэнціў,
як да моей цуркі лезці.
Ох я, бедна я, бедна глоўка то мая. - *2 р.*
Ціха, цешча, не журыся,
вазьмі цурку, ды ўдавіся.
Ох я, бедна я, бедна глоўка то мая. - *2 р.*

Пасля выкупу сядалі маладыя і госці за стол". *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БДПУ).*

"Маладую выводзілі ў танец, назначала маці (свякроўка) таго, хто гэта зробіць (каб паглядзець, якая маладая). Музыка грае - маладая танцуе. Потым маладая дорыць падарункі." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БГПУ).*

### Вяселле ў маладога

"Гулялі вяселле: у маладой - нядзеля, панядзелак, а ў маладога - вечар панядзелка і аўторак, але ў маладога вяселле пачыналася таксама ў нядзелю, ды гулялі без маладых, сабіраліся і гулялі з музыкамі". *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БГПУ).*

"Да таго, калі нявеста сядала за стол, ужо павінны былі сесці бацькі маладога. Маладая дарыла ім падарункі і запрашала ўсіх за стол. Бацькі маладога падавалі на стол ежу і выпіўку". *(Запісана 28 студзеня 2010 года ў вёсцы Панямонцы Лідскага раёна ад Крупы Марыі Аляксандраўны, 1942 г.н. Запіс вяла Моцевіч Яніна Антонаўна).*

"Вяселлем кіравалі сваты. Гулянне ішло да раніцы. Раніцай маладая адорвала ўсю радню жаніха. І гэтай раніцай напойвалі водкай пеўня і затым секлі яго і гатавалі суп. Госці елі суп, выпівалі, спявалі, танцавалі, гулялі ў гульні і забавы. І позна вечарам давалі сванькін абед. Абед брала маладая (сухая закуска, каравай). Пасля гэтага маладая павінна заслаць усе сталы сваімі абрусамі, ёй дапамагала сванька, садзіліся толькі родныя маладога і ставілася водка сванькі. Як з'ядуць сванькін абед, вяселле заканчвалася. На вяселлі запрашалі музыкаў (гармонік, скрыпка, барабан) і плацілі ім грошамі і, колькі яны запросяць." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БГПУ).*

## ПАСЛЯВЯСЕЛЬНЫ ПЕРЫЯД

### Пярэзвы ( пірагі)

"Праз тыдзень ехалі да маладой з пірагамі. Увесь тыдзень маладая жыла ў маладога і не магла ісці да роднай хаты, нават, калі бацькоўская хата побач, пакуль не пабылі з пірагамі." *(Запісана ў в. Пескаўцы Лідскага раёна ад Кашко Алены Сцяпанаўны, 1935 года нараджэння, праваслаўная, архіў БГПУ).*

*Матэрыял падрыхтаны па выніках фальклорна-этнаграфічнага даследавання традыцыйнага вяселля на Лідчыне.*

***Н. ВАЙЦЮКЕВІЧ***
*метадыст па этнаграфіі і фальклоры Лідскага раённага цэнтра народнай творчасці.*

***Фотададатак***

# СУЧАСНАЕ ВЯСЕЛЛЕ НА ЛІДЧЫНЕ

**з удзелам Народнага ансамбля народнай музыкі “Гудскі гармонік” Гудскага цэнтра творчасці і вольнага часу Лідскага раёна**



*Па народным павер’і маладыя праходзяць “Браму шчасця” (пад ручнікамі)*



*Пад “жывую” музыку на вяселлі гучаць беларускія народныя песні*



*Адарэнне маладых музыкантамі*

*Іспыты для маладых: малады вяжа венік з бярозавых галінак*





*Іспыты для маладых: маладая зматвае ніткі з матавіла на клубок*



*Апаясванне маладых вясельным поясам*



*"Гудскі гармонік" - душа вяселля*



*Гульня ў паясы: чым тужэйшая каса, тым мацнейшая сям'я*



*Лічылася, што музычныя інструменты маюць магічную сілу, таму кожны госць павінен на нечым зайграць*

***Матэрыял прадстаўлены Метадычным кабінетам па этнаграфіі і фальклоры Лідскага раённага цэнтра народнай творчасці.***

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Наезд**

Недзе, мабыць у сакавіку, усведамленне нарастання той "новай хвалі" ў паэзіі выбухнула ў нас так моцна, што брат Ежы Загорскага, Уладзімір, дзеяч Легіёна маладых і някепскі арганізатар прыйшоў да думкі арганізаваць "Наезд паэтаў авангарду на Варшаву".

Меў гэта быць па-простэ вечар-монстр маладой паэзіі. Устаноўлены быў спецыяльны парытэт, як на канферэнцыі па раззбраенні ў Вашынгтоне ў 1921 годзе: 5-5-5-1. Гэта значыць: з Кракава, Вільні і Любліна - па пяць паэтаў, з Варшавы - адзін, найвялікшы, г.зн. Важык.

У рамках падрыхтоўкі Уладзімір Загорскі запрасіў мяне, як будучага ўдзельніка дэлегацыі, да чалавека, які меў узяць пратэктарат над вечарам, г.зн. да Кадэна - Бандроўскага.

Не без эмоцый я ішоў да першага члена Акадэміі літаратуры, з якім меў пазнаёміцца. Было гэта недзе каля Каперніка, напэўна ў садзібе ТККТ. Кадэн быў невысокі, д'ябальскі падобны да Севярына Поляка. Сказаў не шмат, але трапна.

- Я разумею, што моладзь рэвалюцыйная. Моладзь павінна быць рэвалюцыйнай. - Тут запаліўся. - Да дупы тая моладзь, якая не рэвалюцыйная! - Тут развёў рукі. - Але, панове, самі разумееце...

Загорскі спешна заківаў галавой, і пратэктарат быў гарантаваны. Для чаго ён быў нам патрэбны? Ба, каб тое ж ведаць тады...

На нейкім іншым паэтычным вечары збіралі на талерку, як на імшы для бедных, не ведаю паэтаў ці выканаўцаў. Людзі давалі, як у касцёле, па пяцьдзесят грошаў. Аж пан з бародкай, які сядзеў у першым радзе, выцягнуў сто злотых.

Толькі тады я прыглядзеўся да яго: як мне Божа мілы, гэта Прыстар! Вельмі падобны да сваіх фатаграфій.

Падышоў нарэшце вечар "Наезду". Мы прыехалі на яго з Вільні. Я адчуваў сябе зусім, як тады, калі ехаў з Ліды з камандай на футбольны матч у Ваўкавыск.

Хто быў ад нас? Загорскі, Мілаш, Буйніцкі, Масьлінскі і я. З Кракава - Пшыбась, Ялю Курак, Чухноўскі (Бжанкоўскі, здаецца, не прысутнічаў, бо я яго сабе не прыпамінаю) і нехта яшчэ. З Любліна - Чаховіч, Лабадоўскі, Дамінскі, Пёнтак, Міхальскі.

Вечар адбыўся ў вялікай паўцёмнай зале на Каровай. Кожны выступаў з двума вершыкамі: адзін у першай, другі ў другой частцы. Каб не пакрыўдзіліся, расставілі паэтаў паводле алфавіту.

Можаце сабе ўявіць, колькі часу гэта трывала: 32 вершы, кожны пару ці колькі хвілін. Ужо праз чвэрць гадзіны зала перастала рэагаваць. Людзі ўставалі, сядалі, выходзілі, перакідваліся пытаннямі: куды ідзеш у нядзелю? У першых радах некалькі паненак пляскалі кожнаму. А можа гэта там сядзеў Прыстар? Ведаю, што Ўладзімір Загорскі бязмэтава парассылаў білеты (вельмі дарагія) некалькім дзесяткам або і пару сотням персон, бадай ці не паштовым пераводам. Большасць адмовілася, трохі там удалося набраць. Не быў геніяльным арганізатарам, з той вялікай расы, якая можа прадаць Колону Жыгімонта.

Нарэшце тая бязглуздзіца скончылася. З палёгкай вярталіся. Не памятаю ніякіх водгукаў. Прэса, здаецца, імпрэзу цалкам прамаўчала.

І акрамя таго я меў трохі літаратурных кантактаў, так сказаць, з "неўтаварышаванымі". Быў, напрыклад, прадстаўлены Пейперу. Гэты патрыярх авангарду перажываў вясной 1934 года як бы новы старт. Ён патрапіў якраз на выдатнага выканаўца сваіх вершаў, на нядаўна памерлага Возніка. Я быў на такім паэтычным ранішніку. Канешне, Вознік быў бліскучы. На яго вуснах цяжкія пейпераўскія фразы, цяжкі яго вобраз расцвіталі, будзілі нешта большае, чым цікавасць або ўзрушэнне. Пейпер прамяніўся. Быў пэўны, што зараз тую Варшаву заваюе.

На нейкай лекцыі па філасофіі, на якую пайшла ўся кампанія Чаховіча, паказалі мне некалькі толькі што выбухлых знакамітасцяў. Вельмі прыстойны малады чалаек з прыгожай усмешкай і фіглярнай бародкай на падбародку - гэта ж аўтар "Шчураў", ну той Адольф Рудніцкі! А той вельмі смаркаты, кірпаты, нейкі размазня, вельмі здольны, ледзьве дваццацігадовы, а ўжо ў кампаніі Святаполка Карпінскага ад "Варшаўскіх крамак", гэта Януш Мінкевіч.

Я звярнуў сам увагу на трэцяга. Невысокі, вельмі малады. З рухавым худым тварам і нейкімі задумлівымі вачамі. Нешта ў іх было. Розум канешне, але хіба разам з дзіўнай заядласцю, злослівасцю, можа па-просту са злосцю. Я спытаў, хто гэта?

Як хто? Геній метафізікі! Нейкі мабыць Стампнеўскі? У шаснаццаць гадоў атэстат сталасці, у дваццаць магістр дакладнай філасофіі. Завуць яго "Д'ябал". Значыць, тыя вочы не я адзін так расшыфраваў.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POL WIEKU. Mlodosc."** Czytelnik, Warszawa, 1962.

Пазнаёміўся з ім, але мімаходзь. Я часцей сустракаўся з яго старэйшым братам, здаецца, Уладзімірам. Для разнастайнасці той быў ні то славянафілам, ні то ўсеславянінам. Гітлер навісаў ужо тады над Варшавай, і ў розных абласцях. Антыхрысціянскія элементы яго філасофіі не маглі не знайсці паслядоўнікаў і ў нас. Той Уладзімір узяў сабе за дэвіз: "Польшча, твая пагібель у Рыме" і намагаўся павярнуць да эпохі Перуна. Меў для скарыстання сяброў і знаёмых нарыс тэарэтычнай і практычнай філасофіі. Прызнаваўся, што ўзяў сабе нешта з Платона, менавіта канцэпцыю дэмюргаў. Але ў той час, “калі ў Платона дэмюргі твораць паводле ўжо існай перад імі і за імі ідэі, - тлумачыў нам - наш дэмюрг бярэ верх над тамтымі, бо сам таксама творыць ідэю"!

Тая бясспрэчная перавага над Платонам не дадавала яму аднак прыхільнікаў. Хадзілі да яго некалькі чалавек з групы Чаховіча з пустой цікавасці. Ён намагаўся праславянскасць уводзіць у практычнае жыццё: між іншым не ўжываў цэлага шэрагу страў. Рэгулярна частаваў нас гарбатай або сечанымі катлетамі, халоднымі з чорным хлебам. Не ведаю, адкуль ён узяў, што гэтыя стравы славянскія.

**Магістр**

Была гэта ўжо вясна, калі ён частаваў нас тым курсам філасофіі. Мабыць, недзе канец сакавіка або красавік. Я назбіраў тых матэрыялаў з Пруса і вярнуўся ў Вільню.

Трапіў на нейкі кірмаш, мабыць, Святаюр'еўскі.

Былі тры слаўныя кірмашы ў Вільні: Казюк, Святаюр'еўскі і Святаянскі. З Казюка (4 сакавіка) спрабавалі зрабіць агульнапольскі атракцыён. Быў ён найгучнейшы, найбольшы. За маімі часамі адбываўся ён на велізарным пляцы Лукішскім, цалкам - або амаль - занятым латкамі.

Прадавалі на ім розную ерунду. Напрыклад, цэлыя фуры такіх малых, сухіх, салодкіх абаранкаў, якія называліся "Смаргонскімі". Альбо, што так звыкла было ў Вялікі пост, так званыя віленскія пальмы (вербы), зробленыя з нейкіх сушаных галінак, карэньчыкаў, зёлак, а потым маляваныя на малінава і зялёна. Мясцовыя літаратары спрабавалі зрабіць з гэтага агульнапольскую моду, як лавіцкія паясы.

Але нас не гэта хвалявала. Прапіхваліся цераз натоўп, дзьмухаючы ў пішчалкі і смеючыся абы з чаго. Гадзіна і дзве ў той цеснаце, гомане, смыродзе коней і кажухоў. Тым больш спакойныя і мілыя суседнія сонныя завулкі, у якіх ужо чутна вясна, а пад вечар з вадасцёкавых труб вырастаюць ледзякі.

Акрамя гэтай забавы я называў яшчэ два кірмашы, яны былі на шмат меншыя, цішэйшыя, больш рэчавыя. Святаюр'еўскі (23 красавіка) раскладаўся на тратуарах каля касцёла таго ж патрона. Была гэта пара саджання кветак: гандлявалі насеннем, карэнішчамі, дрэўцамі. Сядзелі пераважна бабулькі, на ходніку расцілалі хусткі. А на іх колькі, мо за дзесятак кучак сухіх, шэрых і бронзавых насенняў. Розныя мацейкі, рэзеды, настурцыі, карнявішчы вяргіняў.

Самым пахучым быў кірмаш Святаянскі (24 чэрвеня). Тут былі зёлкі, галоўным чынам лекавыя. Ніяк у іх не разбіраўся. Прадавалі іх, як і насенне, проста на ходніках. Тут выстарчала хадзіць і нюхаць: што за сімфонія пахаў, ад салодкай, ультрапазітыўнай ванілі ці калеандраў аж да круціўшага ў носе чабору. Толькі што гэта быў звычайна канец года, пара экзаменаў.

Да канца года заставалася ўжо няшмат часу. Не аплачвалася шукаць уласнага пакою. Трыпуцька запрапанаваў сумеснае кватарнцтва. Трэці быў таксама паланіст, Марачэўскі. Жыць было прыгожа, бо на Зарэччы, у завулку, які называўся Белы і быў ім па сутнасці. Пабеленыя муркі аддзялялі сядзібы ад вуліцы, і якраз цвілі яблыні.

Я расклаў свае карткі, устанавіў строгі план: столькі і столькі старонак штодзённа і ў тэрмін скончыў магістарскую працу.

Крыдль узяў, паглядзеў, даў парадаў. Найважнейшая: парадзіў, каб змяніў назву.

Бо я так пранікся расейскім фармалізмам, што ўсю працу прысвяціў у грунце рэчаў аднаму толькі аспекту: эвалюцыі навэльнай формы ў Пруса.

Канешне загаловак змяніў на "Структуру навэл Пруса".

Крыдль пазітыўна ацаніў шэраг дробных паняццевых прананоў, часам толькі тэрміналагічных. Напрыклад, "тэматычная рыфма" - для абазначэння з'явы, якую Чэхаў тлумачыў вядомым спосабам, што калі ў першым акце ўбіваюць у сцяну цвік, то ў апошнім герой павінен на ім павесіцца. Я развярнуў тое сцверджанне. Калі ў апошнім акце герой павінен павесіцца, трэба ў першым убіць цвік. Выключна важная ўмова інтрыгі ва ўсіх навэлах, як напрыклад у літаратуры дэтэктыўнай.

Потым быў экзамен па пашыранай літаратуры, потым "абарона" працы. Хоць забіце, нічога не памятаю.

Здавалася б, такі важны жыццёвы момант - і нічога. Ані ценю ўяўлення. Пэўна таму, што ўсё было загадзя вырашана, і магчымасці "правалу" не было ніякай.

Разам са мной - вясною, часткова восенню - закончыла рэшта нашай кампаніі: Гена, Славінская, Ганка Вярбіцкая, Муха Жаромская. Словам - традыцыя доўгагадовых змаганняў за магістарскую ступень была зламана цэлай групай.

І вось зноў Банева. Першае неканікулярнае лета. Прыехала кампанія прыяцеляў. Бадзяліся пару дзён па квітнеючых лугах, разагрэтых сасновых лясках, вылежваліся на цудоўным пляжы. Янак-Выдра зрабіў якраз фатальны крок. Адна з запрошаных, Гэля, так доўга стаяла на наднёманскім абрыве, аж упала ў ваду. Янак у імгненне вока даў нырца і выцягнуў панну. Паўтараў гэта яшчэ пару раз, напрыклад, на Віліі. Канешне, у канцы мусіў з ёй ажаніцца.

Госці паехалі, засталося Дакудава. Ужо ў нас прайшлі дзесяцібор'е і футболныя матчы. Усім, нейкім дзіўным таварыствам хадзілі на прагулкі. О, наколькі ваколіцы Банева былі прыгожыя, настолькі тут вакол былі толькі пашы і замораныя кусцікі ядлоўцу або алешыны. Але справа была не ў тым.

Дзіўнае таварыства: пару Янкялевічаў, перастарак абшарніца, нас двое з Янкам, са дзве паліцы-

янтшы (іхніх мужоў не запрашалі), нарэшце Лёля з дачкой папа.

Лёля - гэта была такая бедная асоба: паўмужык-паўбаба. Хадзіла ў спадніцы, але з гальштукам і ахвотна насіла высокія боты. На працягу некалькі гадоў яна чаплялася да паліцыянтш, трацячы, невядома адкуль браныя грошы на шакаладкі. А потым прыехала дачка папа, таксама беднае стварэнне, засушаная, шэрая, худая. Выйшла замуж за нейкага дзяка з Ліды і на наступны дзень уцякла да бацькоў. Неўзабаве Лёля кінула паліцыянтш і ўчапілася за тую папоўну. Усе так да гэтага прызвычаіліся, што нават не рабілі хамскіх паддзёвак. Нават дакудаўскія балбесы пакінулі тую пару ў спакоі.

Лета імчалася, як звычайна. У чэрвені здавалася вечным, было сочнае і квітнеючае. У ліпені набягалі і праміналі суніцы. Аж раптам ішлі ў Дакудава і бачылі шэрагі зжатых снапоў. Вецер з захаду, бярозы, схіленыя ўправа, цяжкія аблокі. Лета працякло паміж пальцамі.

З гэтага года мы мелі ў Баневе жыллё амаль люксавае. Бацька купіў яшчэ адну хату і прыставіў да старой у выглядзе літары "Т". Выйшлі там тры пакоі: салон, гасцёўня і - у самым кутку - мой.

Мабыць нідзе я так добра сябе не адчуваў, як у тым пакоі. Быў невялікі, прадаўгаваты, з двума вокнамі. У куце цвёрды і кароткі тапчан, у другім шафа з некалькімі дзясяткамі кніжак, сабраных яшчэ ў дзяцінстве. Пры акне столік з газавай лямпай, вельмі замудрай формы. Надыходзіў вечар, усюды замыкалі аканіцы. Зялёны круг святла пры лямпе, і цёмная ноч усюды па-за ім. Утульна тут было асабліва зімой, пасля запальвання стаяка, калі агонь бушаваў так, што аж дрыжалі жалезныя дзверцы.

І, наогул, Банева было ўжо нейкае свойскае. У першыя гады на двары траплял іся баравікі. Цяпер таксама здараліся, але ў "парку", у частцы лесу, не выцерабленай, якая прытыкалася да веранды і майго пакоя. Каля студні вырасла буйная зялёная трава. Пяць гадоў таму назад, маці ўваткнула пад вокнамі пару дубчыкаў бэзу. Цяпер з іх пачынаў рабіцца гушчар.

За домам, у бок абрыва, пасаджаны сад. Сліўкі ледзве прыняліся. Грушкі разрасліся, але ніяк не давалі пладоў. Затое з яблынь ужо мелі першыя, вельмі вялікія. Былі гэта папяроўкі, антонаўкі, нешта ў родзе цітавак. Маці спецыяльна старалася паўтарыць тое, што ведала з Менска.

Найлепей удаліся чарэшні. Адно дрэва - тут жа каля дома - вырасла за пару гадоў на велікана. Засыпана было выдатнымі, жоўта-ружовымі ягадамі.

Бацька паставіў нават пару вуллёў. Пчолы мелі знакаміты мёдазбор: унізе буйныя, квітнеючыя лугі, наверсе вясной алешына, восенню зараснікі верасу.

Быў бы гэта, наогул, рай на зямлі, калі б не справы службы. Пара кароў, конь, куры, індыкі, свіні, вялікі дом, куча работы - ужо не гаворачы пра бульбу, жыта і агарод. Да таго ж мацеры што раз цяжэй прыходзілася працаваць з кімсьці наёмным. Сама старалася зрабіць усё, што магла, была занятая ад раніцы да вечара, вельмі мучылася, скардзілася на сэрца.

Як раз у той год бацьку звольнілі з войска. Не меў яшчэ пяцідзесяці. Тут яшчэ раз сыграла ролю яго паходжанне, не легіённае. Здаецца, што і мае першыя палітычныя выбрыкі яму не дапамаглі.

Пару тыдняў бацька сядзеў у Баневе прыбіты, раптам пастарэлы. Потым прыйшлі выбары ў мясцовую "ўладу". Прыйшло пару дакудаўчан, гаварылі з бацькам. Прапанавалі, каб вылучаўся на войта. Згадзіўся. Быў нейкі контркандыдат, таксама асаднік. Бацька яго перамог. Староства крывілася, крывілася: бацька не быў з ім "узгоднены". Потым махнула рукой.

**"Вяртанне ва ўчора"**

Восенню я зноў паехаў у Вільню. Першы раз не за бацькавыя грошы. Крыдль навесну прыйшоў да думкі выдання серыі прац з вобласці тэорыі літаратуры. Мая распрацоўка аб структуры навэл Пруса падалася яму - пасля пераробак - прыдатнай да ўключэння. Параіў мне, каб я звярнуўся ў такі Фонд нацыянальнай культуры па стыпендыю на тыя пераробкі. Я паслаў лісцік. О, дзіва, стыпендыю прызначылі. Я меў на працягу дзевяці месяцаў атрымоўваць нешта каля ста трыццаці васьмі злотых, ці не выдатна?

Пасяліўся ізноў на Татарскай, у класічным "паэтычным" пакойчыку, бо на паддашку. Я аднёсся вельмі сур'ёзна да той сваёй пераробкі, склаў план, па сутнасці большую частку працы пастанавіў зрабіць нанава.

Адначасова аднак захапілі мяне дзве іншыя ідэі.

Па-першае. Сказаў сабе, што цяпер найлепшы час выдаць свой першы зборнік паэзіі.

Загорскі, Мілаш і Буйніцкі выдалі свае дэбютныя кніжкі ўжо паўтара гады таму назад. Былі гэта тонкія сшытачкі. Падаваліся яны мне аднак нечувана важкімі. Загорскі, зрэшты, у тым годзе выдаў свой наступны зборнік, фантастычную паэму пад назвай "Прыход ворага". Не гледзячы на бляклáсць пэўных фрагментаў, мела яна месцы незвычайна прыгожыя. Мела яна таксама дзіўную палітычную канву. Была гэта адрыўкавая аповесць пра крыжовы паход еўрапейскіх дзяржаў на Каўказ. Не гледзячы на "незаангажаванасць чуллівага аўтара - трэба сказаць, што прайшоў ён значны шлях ад "гімна міжпланетных камунікацый".

Усе тыя пазіцыі былі Варшавай амаль замоўчаны, што ніколькі не ўплывала на самаадчуванне іх аўтараў.

Я палічыў усё, што друкаваў па часопісах. Было таго за дзесяць вершыкаў. Пайшоў у друкараньку на той жа Татарскай, уладальнікам якой быў муж асістэнткі Атрэмбскага, адтуль мой далёкі знаёмы. Узяўся за выданне. Скалькуляваў таней таннага: дзвесці экзэмпляраў мелі каштаваць сто пяцьдзесят злотых.

Я скалькуляваў: па два злотыя за асобнік: чыстымі зараблю дзвесці пяцьдзесят. Някепскі інтэрас гэтая паэзія. Хто ж будзе прадаваць. Спытаў у Загорскага. Парадзіў Гэбетнера або таксама Гаэсіцкую. Напісаў. Згадзіліся на распаўсюд, пакідаючы сабе сорак працэнтаў прадажнай цаны. З двухсот пяцідзесяці злотых заставалася мне ўжо толькі дзевяноста. Ба, добра і тое, як на пачатак.

Каб не мучыць чытачоў, дадам, што пасля году распаўсюду мне паведамілі пра продаж 5 (словамі: пяці) экзэмпляраў. Уся тая "казачная" сума была за-

трымана - разам з рэштай накладу - распаўсюднікам для пакрыцця яго выдаткаў.

Дадамо яшчэ: ані адной рэцэнзіі. У "Літаратурным гадавіку" два меркаванні Завадзінскага, вельмі нязначныя, а, нягледзячы на гэта, непрыхільныя.

Але гэта было яшчэ далёка. А цяпер я перажываў перадвыдаўнічую эйфарыю. Мяняў без канца чарговасць кавалкаў. Потым мучыўся пад назвай. Адзін з вершаў называўся "Смерць на рынгу". Можа так? Але той, халера, Загорскі адразу пераробіць на "Smierdz na ringu" ("Смырод на рынгу"). Бедны Дорак назваў (нешчасліва) першы свой зборнік "На вобмацк" - Загорскі пісаў тое: "Н - аво - мацк".

У выніку доўгіх мукаў выбраў найдурнейшы варыянт: "Вяртанне ва ўчора". Была гэта смутная алюзія да таго, што пад канец першага трохгоддзя "друкавання" я пачаў здраджваць з'яве павароту да авангарднай паэзіі. Назва была крытынская і з пэўнасцю адпужнула дадатковы тузін эвентуальных пакупнікоў.

Але, паўтараю, усё гэта было яшчэ наперадзе. Цяпер я рабіў карэктуру. Потым прынёс увесь наклад да сябе на паддашак. Томікі падаваліся мне вельмі прыгожымі. Вокладка была са шматколернай паперы. Раз зялёная, раз шэрая, раз мармуровая. Кніжачка, я быў пэўны, падае мяне як прызнанага, дарослага паэта. Потым знайшоў памылку. У адным з вершыкаў замест "сілы зла" было "сіла зла". Малыя наклады маюць аднак свае вартасці - сеў, разлажыў усе дзвесці экзэмпляраў і па-просту паправіў тую адну літару.

Заспакоены, што пры сваім рангу ў літаратуры, мог пасвяціць сябе і той трэцяй ідэі.

### "Чытайце"

Ад вясны пачаўся рух у нашай групе: вярнуўся Генрык.

Бачыў яго тады мімаходам, паглынула мяне магістратура. Але ўразіў мяне яго ясны палітычны настрой. Гадавы побыт у Італіі зрабіў тое, што ён узненавідзеў фашызм ужо не ў тэорыі, але ў найбольш кранальнай пачуццёвай практыцы.

Трэба ж здарыцца, што едучы з Італіі ён трапіў у Вене на паўстанне Шутцбунду. І гэта была непаўторная лекцыя: паказала яму навочна ўсе галоўныя заганы сацыял-дэмакратыі.

Мы чыталі ў газетах пра паўстанне Шутцбунду, перажывалі глыбока яго ўпадак. Нехта (ці не Шыманскі?) напісаў верш:

*Апошняя харугва патухла ў Лінцы,*
*Ад якой было светла...*

Мы былі поўныя здзіўлення і прыгнечаныя. Генрык быў люта злы на шутцбундаўцаў і поўны бадзёрасці.

- Уявіце сабе, - крычаў - абвясцілі паўстанне супраць легальнага ўраду, пасля чаго замкнуліся ў сваіх дамах-цвердзях і чакалі, што будзе далей! Недацяпы, няздары. Яшчэ Бланк (не памятаю, але здаецца, што называў менавіта Бланка) вучыў, што ў паўстанні вырашальным з'яўляецца першы дзень, і адзіны шанец выйграць палягае ў нечаканасці і атацы.

У цэлым ён не быў зламаны той паразай. Наадварот, лічыў, што цяпер якраз з'яўляецца шанец на ўтварэнне маналітнага фронту.

Я не бачыў яго цэлае лета. Калі цяпер вярнуўся - аказалася, што група... выдае газету!

Пасля няўдачы двухтыднёвікаў "Разам" і "Друк" было пастаноўлена схапіць быка за рогі. Штодзённая газета. І вячэрняя, трохі бульварная. Была гэта бліскучая задума - Вільня не мела сваёй вячоркі, адлегласці былі такія, што з Варшавы ўсе тамтэйшыя "чырвонкі" прыходзілі запозна.

Назвалі выданне адпаведна: "Чытайце". Знайшлі друкарню, якая з улікам крызісу ўзяла на сябе рызыку крэдытавання імпрэзы. Ежы Загорскі ахвяраваў аповесць, якую пісаў з адрэзка да адрэзка і ў якой прабіраў сваіх універсітэцкіх непрыяцеляў. Знайшлі нават хлопцаў для продажу на вуліцы.

О, дзіва, выданне пайшло. Група выдзеліла з сябе спраўна дзейны рэдакцыйны штаб. Ендрыхоўскі разам з Генрыкам апекаваўся вялікай палітыкай, Ганначка з Уладкам Барысевічам мантавалі афіцыёз. Першы нумар пайшоў цалкам, наклад падвоілі, і ўвесь тыдзень ён рос без перапынку, дасягнуўшы ў канцы неверагоднай лічбы, ці не 10 000!

Аднак праз тыдзень выданнеляснула.

Іншым спосабам, чым усе іншыя дагэтуль. Бо ў выніку непасрэднага ўмяшыльніцтва паліцыі.

І не вядома нават, што там выкрылі. На працягу першага тыдня газета не спяшыла з афішаваннем сваёй палітычнай праграмы. Ужо хутчэй генеральна вырашыла тут усё, так сказаць, аблічча суполкі, якое ўжо цалкам перастала падабацца ўладам.

Я вярнуўся з Банева якраз у час гэтага тыдня існавання газеты. Здалеў толькі даць адзін кароткі вершык. Выданне рухнула, і на нейкі час група перайшла на малыя абароты.

### Трокі

Недзе, мабыць, у кастрычніку мы сабраліся ў некалькі чалавек і рушылі ў Трокі. Слон-Загорскі і Рымкевіч угаварылі мяне, каб паспрабаваў паплаваць на ветразніках.

Пра Слана пісаў. Цяпер найлепшы час сказаць пару слоў пра Рымкевіча. Быў гэта высокі, шчуплы, незвычайна прыстойны хлопец, з валасамі колеру пяску і з зялёнымі вачыма. Быў ён наймалодшым жагарыстам, бадай што пахавальнікам, бо трапіў у групу ўжо пасля закрыцця яго трэцяй, “незалежнай” версіі або пад самы яе канец.

Быў ён вельмі здольны, гэта кідалася ў вочы. Адразу прыйшоў са сваёй паэтыкай і сваёй краінай вобразаў. Пісаў даўгаватыя вершы "польскім гекзаметрам”, як вядома, дастаткова набліжаным да трынаццаціскладоўкі. Была там мова пра страшыдлаў, слепнуўшых сяброў, розныя іншыя драматычныя тэмы, але было гэта другаснае, мала істотнае. Пісаў пра два "матора існавання" чалавечага: голад і каханне. Мабыць найважнейшымі ў тых вершах былі пейзажы Віленшчыны. Тады мы лічылі гэта толькі за аздабленне, за фон.

Быў гэта вельмі таленавіты паэт. Наогул быў таленавіты да ўсяго ў жыцці. Знакаміта ездзіў на

лыжах, вырабляў на Каралінцы і Антокалі найзухвальшыя камбінацыі з лыжамі, павароты (крысіяны), палёты, падскокі, перавароты, цэлы арсенал лыжных штучак ведаў на памяць. Быў таксама непараўнальны ў покеры. Гуляў жарсна, горача, дасканала, пякельна перажываў пройгрышы, але звыкла, як здаецца, выйграваў.

Зараз захапіўся ветразнікамі. Мы прыехалі, як звыкла ў Ляндвараў, пару кіламетраў ішлі пешшу.

Вось першае возера - Бернардынскае. Сказаў бы сёння: брыдкае, бо доўгае, вузкае і з голымі берагамі. Але таму, што першае, сэрца ўжо б’ецца хутчэй.

Хмурна. База Марской лігі, драўляны будынак у "закапанскім" стылі, вельмі зручны, з незлічонай колькасцю пакойчыкаў і закаморкаў. Размяшчаемся ў мужчынскай зале, за дзесяць ложкаў, дошкі і сяннікі з саломай. Кідаем рэчы і галопам да яхтаў.

У той жа час "стайня" базы была вельмі беднай. Былі так зв. "алімпійкі" ажно чатыры - "Наяда", "Свіцязянка", "Гапляна" і "Русалка" - мацунак, абветразненне прымітыўныя. Трохі лепшы быў "Вадалей" з гафельным абветразненнем. Нарэшце адміральскі карабель "Мэва", звычайная баржа, затое дзвюхмачтавая, г.зн., куча "рабочых" становішчаў.

Рымкевіч ужо сумеў і тут нешта ўведаць. Слон быў наогул фігурай таму, што належаў да кіраўніцтва такога АМЗ, або Акадэмічнага марскога звязу.

Найважней аднак, што быў з намі Поль Буйніцкі, малодшы брат Дорка. Студэнт палітэхнікі, прыгожы хлопец і дасканалы яхтсмен, бадай што ўжо тады ці не капітан марскі і рачны.

Дзякуючы гэтаму, аперацыя пасвячэння ў яхтсмены адбылася без лішніх фармальнасцяў. Без усёй той "сухой падрыхтоўкі”, якую праходзяць звычайна навічкі на афіцыйных курсах, і якая ім атручвае жыццё.

Мы па-просту ўзлезлі напару на "Гапляну". Поль сказаў адчальваць, узяў у рукі нейкі шнур. Я не паспеў агледзецца, а ўжо паміж намі і памостам - сто метраў вады.

Цясніна паміж базай і такім жа прычалам на супрацьлеглым беразе. Там знаходзіцца гарадскі парк, шмат зелені, вяршыні вежы, домікі. Скурчваемся, над галовамі прасоўваецца ветразь, ужо выспы поўныя дрэў. Адна таксама з напаўзруйнаванай вежай, гэта так зв. Замкавая выспа.

Прабіраемся паміж імі. Вось і само возера. Далёка ў асенняй імгле белая каланада палаца ў Заточчы.

Памятаю, колькі намахаўся вёскамі тады, падчас з'езду паланістаў. Цяпер тая лёгкасць, хуткасць і цішыня былі ўражлівымі.

Абедалі ў яўрэйскім шынку. Уладальніца, такая тоўсая, забіце, не памятаю, як звалася (Відэцкая! Прыпомніў без забойства). Частавала нас смакоццямі караімскай кухні.

Два з іх заслугоўваюць памяці - і выпрабаванне часам.

Кібіны, ці такія пірагі з баранінай, не калдуны, бо не вараныя, а печаныя, як булкі. Елі іх проста з печы. Нешта незвычайнае.

Таксама караімская халва. У выглядзе палачак. З цэлымі ляснымі арэхамі ўсярэдзіне. Тая звычайная турэцкая, куды ёй да гэтай.

Вечары прыходзілі рана. А сёмай вярталіся на базу ўжо пасля вячэры. Пару бедных лямпачак на "там тым" беразе. Прывязваем тузік. Што рабіць?

З той нагоды сталі ўтраіх ахвярамі брыджу. Слон пачаў нас вучыць, смутна нешта сабе прыгадваю, што была па-суседству нейкая дзяўчына, нечая сімпатыя. Ведаю дакладна, што не мая.

**У Познані**

У лістападзе адбыўся чарговы з'езд паланістаў у Познані. Я таксама паехаў. Познань я ведаў і да таго, быў там раней на "Пэвуцы". Вельмі мне той горад падабаўся: такі ўпарадкаваны, зялёны, прыгожы.

На гэты раз заімпанавала мне арганізацыя. На вакзале чакалі нас калегі-познаньцы. Кожны меў прыстаўленага апекуна. Я патрапіў на таварышку Рэслер, з трэцяга, бадай, курса, мілую і прыгожую дзяўчыну, якая завяла мяне ў свой дом, размясціла ў гасцінным пакоі, накарміла.

З самога з'езду запомніў не шмат. Дайшло на ім да сутычкі на палітычным грунце. Менавіта варшаўская дэлегацыя на чале з Жалкоўскім схапілася з эндэцкай большасцю з'езду за рэферат свайго сябра Давіда Гопэнштанда. Эндэкі спрабавалі перашкодзіць яго агучванню. Мы, віленцы, падтрымалі варшавякаў. Эндэкі аперавалі ў грунце рэчаў першакурснікамі з іншых аддзелаў.

А можа той з'езд адбыўся на год пазней? Бо вярталіся цягніком з Трыпуцькам і з тымі дзвюмя прыгожымі львявянкамі, Ганкай Бараноўскай і той другой, такой цёмнай, тыпу Гарпіны.

Але ж так. Гэта 1935 год! Пераглядаю нумар "Па-просту". Ёсць там заява варшаўскай дэлегацыі, што з-за немагчымасці агучвання рэферату калегі Давіда Гопэнштанда варшаўская дэлегацыя з'езд пакідае. І далей кароткая заява віленскай дэлегацыі, якая салідарызуецца з варшавякамі.

І такая можа быць матывацыя перастаноўкі ў часе. Проста правал у памяці.

Той трыццаць чацвёрты год закончыўся нарэшце чарговай палітычнай сенсацыяй. Быў гэта нядобры год, год раптоўнага пад'ёму фашызму і набліжэння вайны.

Быў гэта таксама год палітычных замахаў і забойстваў. Прыпомнім, толькі: чэрвень - чыстка ў Германіі і вынішчэнне ўсёй групы Рэма; чэрвень -забойства Перацкага і стварэнне Бярозы Картузскай; ліпень - путч у Вене і забойства Дольфуса; кастрычнік - забойства югаслаўскага Аляксандра і Барто.

Мы сядзелі якраз у Штраля са Сланом і Рымкевічам, калі прыйшла гэтая навіна. Мы не мелі ніякіх асабістых нагод, каб бедаваць, аднак склалі жалобны вершык, які заканчваўся

*Таму Аляксандра праводзім,*
*смерць раптоўную злагодзім...*

Апошняе слова належыць Рымкевічу, улюбёнаму ў наўмысную хрыплaсць рыфмы.

У снежні - каб завяршыць тую палітычную эпітафію - у Ленінградзе забілі Кірава. У батлейцы на-

ступнага года Стэфан Загорскі падсумаваў тую драматычную серыю двухрадкоўем:

*Бо людзей агарнула нейкая новая манія,*
*Кожны народ меў летась*
*свайго Кірава на закланне.*

**Апошні з камілітонаў**

Недзе на пераломе тога і наступнага года я чарговы раз ехаў у Банева. Сеў у аддзяленне трэцяга класу ў Вільні, як праз пару хвілін пасля мяне дзверы адчыніліся, і з'явіліся тры чалавекі: адзін стары, як я тады падумаў, бо за трыццаць, і двое маладых. Тыя, зрэшты, былі толькі памочнікамі, пакруціліся, паставілі рэчы, валізкі, кошыкі, з якіх вытыркалі рыльцы бутэлек і пайшлі сабе.

Той стары таксама быў вельмі звычайны: невысокі, шчуплы бландзінчык з тутэйшых з бульбаватым носам. Я не звярнуў бы на яго ўвагі, каб не адна дэталь: рубец на лбе.

Але які! Нічога такога ані перад тым, ані потым не бачыў. Як бы яму да лба прыклеілі чырвоны кавалак мяса. Не мог справіцца з сабой, што раз зыркаў на тое страхоцце. Абышлося без пытання, госць сам ажно гарэў да размовы.

Называўся ... не памятаю, па-шляхоцку. Але звычайна. Дзядуля яго за паўстанне пайшоў у Сібір, маёнтак яго канфіскавалі.

Пэўна таму ўнук аказаўся ў Расіі. Меў дваццаць гадоў, калі выбухнула рэвалюцыя. Канешне, трапіў да яе найзацяцейшых ворагаў. Быў у барона Унгерна, шалеў ў Манголіі, потым уцёк у Кітай. Канешне, падаўся да Чанг Тсо-ліна. Змагаўся ў яго арміі супраць чырвоных і Чан Кай-шы, пасля паразы свайго правадыра ўцёк у Мексіку.

Там прыстаў да некаторага з былых ці будучых прэзідэнтаў, канешне, да найбольш рэакцыйнага і прыняў удзел у чарговай грамадзянскай вайне. Якраз у тым месцы здарыўся з ім незвычайна маляўнічы ляпсус.

- Раз паслалі мяне, - сказаў (з моцным расейскім акцэнтам), - з аддзелам на змену батальёна маёра Герэры. Падходзім, бачым, сядзіць Герэра і чытае Шэкспіра ў англійскім перакладзе...

Адразу я падумаў сабе: але ж хлусня. Папаўся з тым Шэкспірам, усё астатняе таксама ліпа. Цяпер па-просту думаю, што ў яго заплятаўся язык.

Бо адразу, як рушылі, выцягнуў бутэльку з кошыка і пачаў мяне схіляць да віна. Нешта мяне не грэла тая кампанія, выкруціўся. Ніколькі гэта яму не перашкодзіла, цягнуў сам і ўжо каля Вялікіх Салечнікаў узяўся за наступную.

- Лекары мне забаранілі гарэлку, - тлумачыў не без няёмкасці, што такі дамскі напітак. - Бо я ўцёк са шпіталя.

І паказаў мне лоб. Але пакуль да яго дайшло, адбылося яшчэ адно падарожжа вакол свету.

З тым Герэрам выйшла так: падходзіць да яго, стае па "Зважай", дакладвае, што прыйшоў са зменай, а Герэра не паспеў адказаць, бо прыляцеў снарад і адцяў яму чысцютка галаву.

Наш герой, пасля чарговай паразы свайго рэакцыйнага прэзідэнта, вярнуўся нарэшце на Бацькаўшчыну. Тут спаслаўся на дзеда. Маёнтак яму вярнулі. Было гэта недзе на Наваградчыне. Гаварыў, як называецца. Не памятаю.

На Бацькаўшчыне пачала яго абцяжарваць штодзённасць. Адразу хацеў нават устаткавацца, што ж калі перашкодзіла яму выпадковасць.

Па суседству з маёнткам жыў ксёндз, якому заміж гаспадыні вяла гаспадарку ўласная сястра. Наш герой з ходу ў яе закахаўся. Адбыліся заручыны. Аднаго дня з'явіўся ён да сваёй нарачонай па-польску, г.зн. не папярэдзіўшы, і застае яе... у спальні - з ксендзам.

Непрытомны вярнуўся да сябе. Склікаў службу, яшчэ раз памчаўся да ксендза, ускочылі, звязалі, завезлі ў маёнтак. Тут загадаў вучыць яго бізунамі, пасля чаго ледзве жывога адвёз на плябань.

Справа не набрала розгаласу, бо ні аднаму з бакоў ён не быў патрэбны. Госць выконваў нейкія ганаровыя абавязкі - яго іх пазбавілі. Адбыўся нават працэс, але так неяк, як бы шэптам. Асудзілі яго канешне, але з адтэрміноўкай.

Ад гэтага часу ён пачаў шалець. Спосабам найпрасцейшым: піў і тварыў авантуры, ахвярамі якіх былі суседзі. Напіваўся з мужыкамі. Зводзіў вясковых дзяўчат. Канешне, каб весці такі лад жыцця, распрадаваў маёнтак, па пяць гектараў, па гектару.

Ужо не памятаю, ці за дзеўку, ці злоўлены браканьер секануў яго на адмах сякерай у лоб. Маладзец упаў, але падаючы выхапіў яшчэ рэвальвер, стрэліў усляпую, як сцярджаў, забіў. Сам ледзьве выкараскаўся ў Вільні, на Сапяжынскай.

Лухта? З пэўнасцю, і не адна на працягу той двухгадзіннай аповесці, якую я мусіў выслухваць пакуль не выйшаў у Мінойтах. Але сама канструкцыя таго жыцця не ёсць лухта, ёсць уласцівая канечнасць, намечаная гісторыяй XX стагоддзя. Зрэшты той шрам прыпячатвае яе, як лакам.

**"Стары Ліс адваліў"**

Зімой я дзёўб сваю магістарскую працу, даводзячы яе павольна да гатоўнасці ў друк. Пераробак было шмат, але сэрца я ў іх не ўлажыў.

Вясной пару разоў ездзілі ў Трокі. Аднога дня - ужо як дасведчаны яхтсмен - прымаў там Мілаша і самога... Івашкевіча. Быў гэта першы з групы "Скамандра", з якім я пазнаёміўся. Забаўна, я абвяшчаў усім пра сваю варожасць да "скамандрычэня" і яго прадстаўнікоў, а тым часам знаёмства з адным з іх прыняў як недвухзначны гонар.

Івашкевіч быў зрэшты вельмі мілы, просты, не "выстаўляўся". Быў з Мілашам "на ты". Я занатаваў той факт у памяці, як яшчэ адзін довад казачнай кар'еры найздольнейшага з жагарыстаў, які недзе з год назад на стала пасяліўся ў Варшаве і якраз адбіў у здольнага кінарэжысёра Чанкальскага яго прыгожую першую жонку.

Паплавалі сабе трохі сярод зялёных выспаў, з'елі кібіны, загрызлі караімскай халвой. Івашкевіч паехаў сабе. Прыслаў мне потым "Чырвоную тарчу" з мілым надпісам. З гонарам я паказваў кніжку кожнаму. Было гэта першае добрае слова ад старэйшых з Вар-

шавы.

Адным травенскім вечарам, вяртаючыся дадому зайшоў на вячэру ў "Букет". Забягалаўка тая мела залку для танных гасцей, дзе за пяцьдзесят грошаў можна было атрымаць порцыю. Сядзеў над талеркаю фасолі па-брэтонску, слухаючы далятаўшую з глыбіні музыку. Там, у "лепшых" залах танцавалі. Раптам музыка перарвалася, нейкае замяшанне. Я не звярнуў на тое нават увагі, калі досыць пажылы кельнер падышоў да мяне, нахіліўся і шапнуў:

- Стары ліс адваліў!

Была ў тым несхаваная радасць. Я не зразумеў. Паўтарыў нецерпяліва дадаючы:

- Ну, маршал.

Ужо не было ў ім радасці. Думаў, напэўна, што як маладзён у веку з большага студэнцкім, з'яўляюся яшчэ эндэкам. Хацеў мне зрабіць прыемнасць.

Але я ніякай прыемнасці не адчуў. Поўны ўнутранага разладу вярнуўся дадому. Я жыў тады на вуліцы Партовай, на чацвёртым паверсе дома, тыльны бок якога выходзіў на строму, поўны зелені адхон гары Боўфала. Гаспадыня была пані Лявона Шчапаковіч, скульптарка, пад шэсцьдзесят, якая вучылася ў Маскве, асабіста ведала Маякоўскага, словам, страшна мне імпанавала. Адчыніла дзверы заплаканая. Радыё перадавала Шапэна.

Я не меў ніякіх сімпатый да Пілсудскага, якраз наадварот. Аднак жа цяжка мне ўдалося заснуць, і сны меў нядобрыя. Па-просту не ведаў, што будзе далей. У краіне нарасталі фашыстоўскія рухі. Я меў замалое дасведчанне, каб ацаніць, колькі ў іх нарастанні было галасу, а колькі сілы. Нямецкае атачэнне навісала штораз мацней. Як шмат іншых палякаў, я яшчэ доўга прытрымліваўся меркавання, што той, хто памёр, патрафіў бы той гітлераўскай пагрозе даць адпор больш талкова, чым тыя, якія пасля яго засталіся.

Наступствы той смерці аднак былі - прынамсі на той час - цалкам іншыя. Адчулі мы іх восенню.

**У Львове**

А тым часам была прыгожая вясна. У траўні адбываўся чарговы з'езд паланістаў, тым разам у Львове. Я не ведаў гэтага горада, і з ахвотай туды паехаў. Мала таго, сагітаваў пару абсалютных не паланістаў: Рымкевіча, які мучыў правa, і яго прыяцеля, сына знакамітага віленскага адваката, Андрэева.

Цэлую ноч ехалі цераз Баранавічы, Лунінец, Сарны. Не бачылі шыкарнага палескага пейзажу, бо цэлую ноч рэзаліся ў покер - падбухтораныя, канешне, Рымкевічам. Здаецца, што трохі прайграў. Было гэта вельмі нядобра, бо грошай амаль не меў.

У Львове сустракала нас на вакзале грамадка мілых паланістак, м. ін. Ганка Бараноўская, сённяшняя апора "Творчасці". Размясцілі нас недзе на прадмесці, ні то ў школе, ні то на турыстычнай базе. І гэтае месца шалёна мне падабалася: зелень, пагоркі, як у Вільні, а пры тым Еўропа! - бо тая Акадэміцкая з падстрыжанымі дрэвамі, крамы, гатэлі, наогул...

Гэтым разам я прыняў удзел у абмеркаваннях. Прафесар Кухарскі прачытаў даклад аб навэле. Як спецыяліст па навэле ад часу напісання амаль прынятай да друку працы пра стурктуру навэл Пруса я выступаў з садакладам. Што праўда, я не шмат што слухаў, паколькі цалкам мяне паглынала адно: што маю сам паведаміць.

Таму што я пастанавіў выступіць. І, канешне, крытычным чынам. Быў шалёна ўсхваляваны. Пасля рэферату была хвіля цішы. Як звыкла, ніхто не хацеў прамаўляць першы. Са страху, што перапужаюся, калі гэта патрывае даўжэй, падняў руку і адразу атрымаў слова.

Штосці гаварыў, не памятаю што, але вельмі пэўна і крытычна. Меў тую перавагу, што Кухарскі бясспрэчна не чытаў расійскіх фармалістаў. Сабраныя выслухалі мяне хутчэй неахвотна, з погляду на адсутнасць хоць бы формулак ветлівасці ў бок дакладчыка.

А я закончыў і... выйшаў. Тая страшная манера, з-за якой я нарабіў сабе столькі непрыемнасцяў, датуецца, як бачым чвэрцю стагоддзя таму назад. Аднаго дня, зазірнуўшы на з'езд, мы выпадкова трапілі на перапынак. У дзвярах піхаўся Ірыковіч, з якім год таму назад я пазнаёміўся ў Варшаве. Убачыў мяне і страшна выгаварыў, што выйшаў, не чакаючы на палеміку.

Зрабіў гэта, зрэшты, з прыязным прымружваннем вока. Быў вельмі паблажлівы да моладзі і, мабыць, меў рацыю.

Моладзь тая - я з Рымкевічам і Андрэевым - нудзілася на з'ездзе жудасна. Швэндаліся па прыгожых вуліцах, сядзелі ў скверах. Не хапала грошай. Тая эканамічная база спарадзіла з'яўленне найдзікшых, вельмі азартных гульняў. Напрыклад мы закладаліся, хто будзе дзесятым мінаком на тым і тым адрэзку, жанчына ці мужчына. Рымкевіч звычайна выйграваў. Стаўка была грош.

Адным вечарам, учацвярых, бо з Ганкай пайшлі ў нейкае мейсца. Было пуста, нудна, і мы не мелі грошай. Пасля доўгай дыскусіі з уласным кашальком я захацеў спаржы, якой датуль не спрабаваў. Найбольш прагуляўшыся Людак Рымкевіч замовіў толькі содавую ваду. З нуды хацелася выць. Людак, даведзены да шаленства станам наяўных і нудой, пазяхнуў і кінуў.

- Як дасце мне пяць злотых, я станцую з кожнай, якую мне пакажаце.

Зачапіла. Склалі дэтальныя ўмовы закладу. Людак меў стаць перад асобай, вызначанай намі, пакланіцца і запытацца:

- Ці магу я паню запрасіць на танец?

А на негатыўны адказ меў яшчэ дадаць.

- А можа?

Калі Людак на ўсё згадзіўся, мы пашапталіся хвілінку з Андрэевым і паказалі ахвяру.

Ганка і Людак ацапянелі. Быў гэта пяцідзесяцігадовы габрэй з барадой, які сядзеў пры століку з нейкім ніжэйшым і малодшым ад сябе.

Але Людак - гэта Людак. Сказаў нам пару слоў, што мы свіні, пасля чаго ўстаў і падышоў да ўказанага століка. Нахіліўся над тым з барадой. Сэрцы ў нас замерлі. На шчасце адбылося без скандалу. Той малодшы ўскочыў на ногі. Пра нешта жыва размаўлялі паміж сабой, пасля чаго Людак прысеў за іх столік. Мы, чырвоныя, назіралі, што робіцца. Размова ў там тых клеілася. Пачалі ўсміхацца адзін да другога. Нарэшце Людак вельмі галантна з імі развітаўся.

Прыйшоў, выцягнуў руку:

- Давайце выйгрыш!

Мы зажадалі справаздачы.

Людак нахіліўся і сказаў:

- Ці можна пана запрасіць на танец?

Адказам былі бязладныя крыкі абодвух паноў пры століку. Людак, не глядзячы на гэта, паўтарыў сваю прапанову.

На тое малады крыкнуў:

- Як пан гэта разумее?

Людак адказаў:

- А можа?

Далейшы працяг быў сумбурны. Малодшы крычаў, што ён афіцэр рэзервы, і выгаворваў Людку, што той п'яны. Людак энергічна бараніўся і не хацеў даваць тлумачэнняў. Нарэшце ўзяў слова барадаты.

- Найлепшы довад, што пан п'яны, няхай пан паслухае, пан запрашае мяне танцаваць, а аркестр грае нешта не да танцу!

Было гэта слушна. Танцы доўга не праводзіліся з-за смерці Пілсудскага. Мы гэтага не заўважылі.

Распавёўшы гэта ўсё Людак паўтарыў:

- Давайце выйгрыш!

І ўявіце сабе - не далі мы яму таго выйгрышу. Андрэеў, як праўнік (юрыст), знайшоў некалькі прычын: што танец не адбыўся, што Людак тлумачыў, а таго рэгламент не прадугледжваў. Былі гэта аднак адвакацкія кручкі. Справа была простая: мы не мелі тых пяці злотых.

**Лагер у Троках**

Пасля з'езду тыя некалькі тыдняў да канікул заняла падрыхтоўка да ветразевага лагера. Слон арганізаваў якраз нешта такое з падтрымкай АЗМ.

Я меў, зрэшты, свае клопаты, як звыкла - сардэчныя.

Мінулай восенню нешта ўва мне зламалася. Няўдачы з адной, другой, трэцяй пачалі паражаць мае спосабы сентыментаў. Адбылася бурлівая размова з Дзідзяй, нагадаў ён ардынарныя рэчы. Наступнай раніцай прачнуўся нейкі інакшы. Не адразу зразумеў, што сталася. Па-просту страціў здольнасць да закахання.

Сапраўды было якраз так. З дня на дзень усведамляў сабе тую радыкальную перамэбліроўку ўласнай душы. Пачуваўся досыць дзіўна, трохі мне было нечага шкада, а трохі быў горды, што я цяпер такі няшчасны.

Смешна, але якраз ад той хвілі я пачаў нарэшце звяртаць на сябе ўвагу таварышак. У час паездак у Трокі пазнаёміўся з некалькімі малодшымі за мяне праўнічкамі, Дагмарай і Янкай, таксама заўзятымі яхтсменкамі. Дагмара была інтэлектуалісткай, цікавіў яе хутчэй наш Ёзя Масьлінскі. Янка была - на першы погляд - выключна брыдкая. Але першая была размазняватая, а другая нялюдска актыўная.

Гэта яна прыдумала, каб ажаніць мяне з адной са саіх прыяцелек, дачкой лекаркі-гінеколага, таксама Іркай. Была гэта вялікая, моцная, незвычайна прыгожая дзяўчына са светлымі валасамі і чорнымі вочкамі. Быў ёй прадстаўлены. Янка ўталкоўвала мне, што я страшна падабаюся Ірцы. Тое самае, але наадварот, гаварыла яна Ірцы. Я з пэўным здзіўленнем заўважыў у яе кампаніі маладога, моцнага медыка С. Янка тлумачыла, што хлопец закаханы ў Ірку, але тая хоча мяне. Тым часам, як здаецца, гэта якраз было найважнейшым, Янка па-просту таго С. не зносіла, і ўся інтрыга была арганізавана галоўным чынам для таго, каб яго адправадзіць ад Іркі. Ба, але тады я не меў пра гэта найменшага паняцця.

Калі набліжаўся лагер, Ірка паведаміла, што павінна ехаць некуды ў іншае месца. Страшна шкадавала з таго і пры сведках аддала мяне пад апеку Янцы, каб бараніла мяне ад усякіх асобаў - ужо не трэціх, а чацвёртых.

Сорамна прызнацца, але я паводзіў сябе, як цяля ва ўсіх тых махінацыях. Нават адчуваў нейкую звырадлівую прыемнасць, што ўсё-такі нарэшце нехта мной зацікавіўся.

Але гэта была дробязь у параўнанні з лагерам. Ён пачынаўся недзе ў пачатку ліпеня. Нас, пару старых бывальцаў у Троках, прынялі там у якасці інструктараў, мы мелі ўжо першую ступень рачнога яхтсмена. Поль Буйніцкі стаў нашым шэфам. Камендантам лагера быў, як я ўжо згадваў, Слон. "Інтранізаваў" яго ў той ролі сам старшыня віленскага АЗМ-у, ён жа вялікі дзеяч ЗПМД (пытаўся ў людзей, што такое, чатыры літары і заканцваюцца на "д". Дзяўчаты звычайна адказвалі: пасаромейся, пан...), Леанід Абольнік.

Што ж за яма гэтыя ўсе АЗМ (Акадэмічны звяз моладзі), ЗПМД (Звяз польскай моладзі дэмакратычнай) і г.д. У Варшаве з'явіліся вельмі мутныя ЗЗЗ-ы. У Вільні з'явілася іх філія. Абольнік нешта там рабіў. Быў гэта праўнік (юрыст), худы, чорны, прыстойны. Ён знайшоў зусім ясны спосаб пампажэння ўплываў ЗЗЗ-аў. Ён пачаў прымяняць метады фільтрацыі і пранікнення знутры.



*Трокі, ліпень 1935 г. Вяртанне ў порт.*

Гэтым спосабам ЗЗЗ-ы захапілі мясцовыя ЗПМД. Наступным этапам стаўся АЗМ. Абольнік трапіў у яго, пасля чаго размножыў яго, і на грунце старшынства хутка стаў яго лакальным старшынём. Тлумачыў мне, што той метад мае вялікае палітычнае значэнне. Нібы нічога, а "ў выпадку чаго" ўвесь віленскі АЗМ стане на бок рэвалюцыі.

Абольнік ва ўсякім разе быў асабіста цалкам у парадку: і рэвалюцыйны і адзінафрантовы.

А прыехаў Абольнік у прыгожай, белай шапцы з нечым залатым, у гранатовай марынарцы і белых портках. Слон зрабіў збор у дзве шарэнгі. Бедалага, не меў нават тых скупых вайсковых пачаткаў, якія я атрымаў у Жэшаве. Таму быў вельмі цвёрды і спрабаваў на нас крычаць. Мы, г.зн., інструктары, сталі на правым фланзе. Мы ўсе мелі страшна вялікія (але яшчэ досыць чыстыя) блюзы.

Абольнік агучыў прамову пра ідэалогію АЗМ. Так, так, ужо тады гаварылі на такія тэмы. Потым быў урачысты, супольны абед у той жа тоўстай габрэйкі.

Пасялілі нас у дзвюх вялікі залах: дзяўчаты злева, хлопцы справа. Першай ночы хапіла, каб пазнаёміцца, кампанія была неаднародная.

Было пару кракавякаў, прайдохаў і элегантаў, з такімі ж дзяўчатамі. Тыя, як даведаліся, што няма гарачай вады, упалі ў роспач і пасля вячэры са сваімі кавалерамі паехалі на гарэлку ў Трокі. Былі таксама тры іншыя кракавянкі, без хлопцаў, мілыя, без прэтэнзій. Былі тры львавянкі, з Ганкай Бараноўскай на чале, якую я спецыяльна загітаваў, яшчэ раней, чым адбыўся той скандал з Янкай і Іркай. Ганка прыехала з дзвюмя таварышкамі: дзёрзкай, прыгожай і вясёлай Марысяй Чарнецкай і моцнай маўклівай дзяўчынай, якая называлася Марута, і якую адразу перахрысцілі на "Маруду". Адкуль мы маглі ведаць, што яна ўвойдзе ў гісторыю літаратуры, як правобраз Герменгільды Кацюбінскай.

Было яшчэ пару чалавек з нейкага іншага месца, аднак галоўнай сілай былі мы, віленцы. Нам, інструктарам, папрыдавалі экіпажы з двух або трох чалавек. Да мяне трапіў, напрыклад, такі кругленькі, укормлены паланіст Вітак Рудзінскі.

Быў ён на год малодшы за мяне. Вельмі гаваркі, здольны, падобны да Гены Амельянчук - выдатнік, які ўсё заўсёды ведаў. Калі гулялі ў "інтэлект" (гэта такое запамінанне, якая карта, дзе ляжыць) - ён быў адзіным маім канкурэнтам. Таксама ў практыкаванях на фантазію, запомненых яшчэ з тэстаў Яксы-Быкоўскага, не толькі ішоў са мной у ногу, але нават бязлітасна апераджаў. Таксама ў мовазнаўстве...

Яшчэ тады ён не ведаў, ці застанецца паланістам, ці зоймецца нечым іншым. Бо іграў на фартэпіяне і хадзіў у кансерваторыю. Граў мне часам, намагаючыся зачапіць трохі добрага густу. Змог перадаць толькі адно: любоў да Баха.

Былі таксама Людак, Янка, яшчэ гурба іншых.

**Разгар ліпеня**

Лагер пачаўся няласкава. Казармавыя манеры Абольніка і Слана - то нейкія рэгістрацыі, ставанне на "Зважай", даклады, Вельмі хутка, аднак, мы з тым справіліся. Па-просту Слон спаў разам з намі, у той самай зале. Перад сном мы вастрылі на ім языкі: Людак, Вітак і я. Пасля двух дзён ён супакоіўся з прыхамацямі і толькі прасіў, каб пры ўладах АЗМ-у мы трохі ашчаджалі яго аўтарытэт.

Але як толькі ўправіліся з тым дагматызмам, адразу з'явілася новая небяспека: разхістанасць. Кракавякі дапамаглі нам разбіць Слана, але зразумелі гэта як ператварэнне лагера ў таварыскую прадумову да п'янак і каханняў.

Справіцца з тым было цяжэй, бо зрынуты Слон - ды на жаль і Поль Буйніцкі - хадзілі з кракавякамі ў шынок. Негледзячы на гэта, і ў гэты раз удалося нам той кепскі кірунак трохі выпрастаць. Дапамаглі яхты.

Пасля снедання мы гналі свае залогі (экіпажы) на тыя "Наяды" і "Гапляны". На вялікім возеры, якое называлася Гальвэ, дуў рэзкі ветрык.

Вучыліся найперш весці лодкі паводле зададзенага курсу, потым вяртанню адтуль. Потым доўга мучыліся над "чалавекам за бортам". Потым паварот цераз карму, потым прычальванне на фордэвіндзе і так далей.

Пазней вырываліся на абед ці вячэру. Рабілі спаборніцтвы на тузіках. Перадвячэрнія выезды былі свабаднейшыя. Адпраўляліся на дальшае возера, якое называлася Скайскае. Там трэба было пралазіць з лод-



***Трокі, таксама ліпень 1935 г. "Слон" прычальвае да прыстані. Далёка - той бераг, Бернардынскі.***

кай пад лінай ад парому. Была нейкая пакрытая лесам паўвыспа і зноў шырыня, і здавалася, што там якраз ёсць нешта магнетычнае. Так цягнуў да сябе далёкі бераг, блакітны, фіялкавы. А было там пуста і бязлесна. Трохі чароту.

Душой лагера быў Поль. У той час ён быў закаханы ў другую вялікую яхтсменку, сястру Дагмары, Еву. Яе не было ў лагеры. Потым прыехала. Акурат тады не было Поля - недзе прападаў у Троках. Ева села на валізку і пачала плакаць, гукаючы на ўсю базу: Поль, Поль! Была вельмі прыгожая і зусім не інтэлектуальная, нават намалёваная, хоць таксама марскі капітан.

Прывялі Поля, нічога яму не гаварылі.

Ён сядзеў у шынку і па-трохі піў з роспачы, што няма Евы. Прывялі яго пад рукі. Упіраўся, крычаў, што яшчэ будзе піць, бо без Евы.

Увапхнулі яго ў пакой, дзе яна сядзела. Разлёгся страшны крык. Скочыла яму на шыю. Схапіў яе на рукі, і тады яна закрычала яшчэ страшней. Аказалася, што Поль забыў выняць з губ папяросу...

Пад канец лагера зрабілі жарт над Людкам, які быў вялікі бабнік. Прыбеглі да яго, крычучы, што ёсць новая дзяўчына. Канешне ж была. Невысокая, досыць моцная, з мілым, свойскім тварам, бульбаватым носам і ў вялікім капелюшы тыпу "самбрэра". Людак пачаў перад ёй важнічаць, гаварыў кампліменты, што хвіля цалаваў ручкі. Быў трохі пад газам. "Новая" адказвала аднаскладоўкамі. Дэмаскавалі мы яе пасля гадзіны безупынага, хоць маўклівага смеху са стараннеяў Людка. Быў гэта Рудніцкі ў пляжным капелюшы Ганкі Бараноўскай.

Аднойчы пасля паўдня паднялі нас на трывозе, што выехала лодка без інструктараў, а набліжаецца бура. Сапраўды з захаду надцягвала страшная хмара.

Ускочылі ў "Гапляну" з Янкай і яшчэ з некім. Вецер за прыстанню быў такі, што давялося нам рыфіць ветразь. Выскачылі за Замкавую выспу. Усе толькі ў купальніках, бо страшная гарачыня.

І раптам лінула. Струмені цёплага дажджу пачалі нас хвастаць у плечы, у грудзі, па галаве, па носе. Вецер адразу сціх. Нічога болей не сталася. Успамінаю, бо была гэта найхаладнейшая часіна майго жыцця. Мы не ўзялі з сабой вёслы. Вецер знік, толькі дождж, толькі залева. Праз хвіліну пачалі ляскаць зубамі. Потым доўга, доўга намагаліся веславаць рукамі. Нехта крыкнуў. Падалося яму, што такім чынам будзе цяплей. Сядзелі на лодцы і верашчалі: "Едзем у Амерыку"... Канешне было трохі цяплей, бо нельга было ляскаць зубамі.

Забаўна было адно: на пачатку я быў на крок, каб кінуць усё да д'ябла і з’ехаць. А пад канец агарнула мяне фармальная настальгія, што той ветраны ліпень канчаецца.

Падобнае было з усімі. Тая маса самых розных людзей, пасвараная і чужая месяц назад, так зжылася паміж сабой, што праз цэлыя дзесяцігоддзі пра тое памяталі, хоць пераважна адзін другога спатыкаў раз на дзесяць гадоў.

Думаю, што менавіта гэты месяц быў найсвятлейшай, найвышэйшай хвіляй маёй маладосці.

**Варшава ў трэці раз**

Мінуў. Раз'ехаліся курсанты. Нас пару яшчэ засталося. Усвядомілі сабе раптам, што ўжо восень. На палях пад возерам Бернардынаў стаялі ў правільных двухшэрагах снапы жыта. Неба зрабілася светлаблакітным. На Караімшчыне (найпрыгажэйшы квартал Трокаў) жоўклі лісты славутых троцкіх агуркоў.

У пярэдадзень выезду мы з Янкай паехалі на "Гапляне". Яна вельмі шчыра выконвала даручэнне Іркі, ахоўвала мяне ад лагерных небяспек. Я быў часам на яе раз'юшана злы, так бесцырымонна клала яна крэс спробам флірту. Цяпер вярнуліся, занеслі ветразь да вартаўніка і пайшлі на недаканчаныя трыбуны.

Так нам зрабілася смутна! Словам, адкрылі мы раптам, што закаханыя. Тады зрабілася нам яшчэ смутней, бо гэта было свінства адносна дужай, добрай і даверлівай Іркі...

Я паехаў у Банева. Янка пісала мне бадай што дзень. Лісты былі знакамітыя. Шчасліва з Іркай усё склалася добра. Аказалася, што цалкам выпадкова, суправаджае яе на канікулах той жа моцны медык.

Цяпер наведала мяне трохі спозненае сумненне. А можа ўся тая Ірка была толькі повадам? Тым цвіком, на якім добры цыган варыць суп? Цвіком, які патрэбны як повад, і які пазней выкідваецца спакойна цераз акно?

Якраз у разгар лагера, заняты чарговымі трэніроўкамі, я ўбачыў не без здзіўлення каля базы каржакаватую постаць Мухі Жаромскай. Схапіла мяне за рукаў вельмі бруднай блюзы.

- Пачакай, тут Генрык. Хоча з табой пагаварыць.

Генрык быў выразна, дзіўна не на месцы ў тым зборышчы босых, загарэлых, у брудных палатняных портках. Мы адышліся трохі ад лагера. У Вільні маюцца рабіць новае выданне.

Памятаючы "Друк" і "Разам", я прыняў тое паведамленне надзвычай сур'ёзна. Генрык сказаў, што там будзе літаратурны аддзел. Гэта ўжо было цікава. Аднак адразу мяне ахалануў, паведаміўшы, што арганізуе яго Мікулка.

Для мяне, жагарыста, было гэта сапраўднай абразай! Той Мікулка з нейкай там "Смугі" ("Паласы").

Словам, я не пранікся спецыяльна паведамленнем Генрыка. Вярнуўся ў Банева, правёў там некалькі перадасенніх тыдняў.

Пасля вяртання ў Вільню я сутыкнуўся з клопатамі. Працу пра навелы Пруса ўжо прынялі ў друк. Крыдль угаворваў мяне на доктарскую ступень. Я зноў напісаў у Фонд нацыянальнай культуры з просьбай аб стыпендыі. Тым разам на працу пра структуру лірычнага верша.

Зноў прызначылі мне тую стыпендыю. Вырашыў падскочыць у Варшаву для збірання матэрыялаў - так добра мне тады пайшлося з той Універсітэцкай бібліятэкай.

Пасяліўся на Добрай у нейкага чыгуначніка. Была гэта панурая вуліца, пануры дом, панурае жыллё. Адзінай перавагай было суседства Чаховіча.

З ім разам і яго пачкай я выбраўся пару разоў у "літаратурныя салоны". М. ін., былі ў пані Дамбравольскай, дзе пазнаёміўся з самой Налкоўскай. Кара-

лявала на канапе, прымаючы ўсмешкі і кампліменты. Быў таксама высокі, лысаваты, у пенсне, свежы лаўрэат - Войцах Бонк. Каля яго вельмі круціліся. Злосць мяне ўзяла, зрэшты страшна хацелася звярнуць на сябе ўвагу Налкоўскай. Мала што ўмяшаўся ў размову на "найвышэйшым узроўні", распавёў гісторыйку пра нейкага сербскага караля, які меў асліныя вушы. Налкоўская падарыла мне ўсмешку. Бонк скрывіўся. Я быў шчаслівы.

У той жа час я пазнаёміўся з адным страшным бальшавіком, Станіславам Ежым Лецам. Жыў ён недзе ў рухлівым гандлёвым квартале. Абмяняліся некалькімі словамі. Лец, відочна, учыніў мне нейкі экзамен, таму што праз хвілю папрасіў, каб я пачакаў, бо з некім мяне пазнаёміць.

Пайшоў углыб памяшкання. Ахапіў мяне пад'ём: гэта напэўна той сапраўдны, нелегальны. Я не памыліўся. Той, які ўвайшоў, быў невысокі, шчуплы, ужо тады цалкам лысы. Найважнейшай была нейкая незвычайная зацятасць вачэй, вузкіх, сціснутых губ, невялікага, але арлінага носа. Нажаль, ён мне прадставіўся, насуперак маім перакананням пра канспірацыю. Быў гэта Леан Пастарнак, першы том вершаў якога я якраз адрэцэнзаваў у "Па-просту".

На гэты раз Варшава не прынесла чаканага плёну. Вярнуўся ў Вільню са жменькай цытат майстроў і поўным хаосам у галаве. Чыннікаў якія вырашальнае значэнне аказвалі на закончанасць лірычнага верша (так я разумеў структуру літаратурнага твору), неяк не ўдавалася ўхапіць. Лічыў, што ў Вільні ўдасцца мне сканцэнтравацца.

### "Па-просту"

А як жа! Цяпер на пераломе 35 і 36 года "Па-просту" ўжо стала праблемай. Рэдакцыя размяшчалася ў малым пакойчыку недзе каля ўніверсітэта ў доме беднага габрэйскага краўца. Прывіталі мяне вельмі горача. Уся суполка ўзмацнілася ўжо ў ходзе выдання першых нумароў, набралася веры ва ўласныя сілы і нават пэўных навыкаў працы.

Выданне выходзіла. Першы раз у жыцці я сустрэўся з феноменам чытальнасці, папулярнасці, разыходжання таго, "у чым" працаваў. Усе поспехі "Жагараў" былі абмежаваныя вузкімі сферамі паэтычных "спяцоў". Тут дабіраліся да масаў. Сапраўды, да тых міфічных масаў, пра якія трапаліся языкамі праз некалькі папярэдніх гадоў, і якія паспелі стаць тым часам у нашай свядомасці найвышэйшай, але вельмі абстрактнай катэгорыяй суду і адзнакі.

Тыя масы адзываліся цяпер не толькі тым спосабам, што куплялі выданне, але і самі пісалі. Я ўспамінаў сям-там пра графаманаў. Але і незалежна ад іх мы атрымоўвалі сцірты лістоў. Няма як распавесці, які ўплыў гэта зрабіла на маю літаратурную свядомасць. Тыя лісты і яшчэ больш спатканні і на прадпрыемствах у Львове ў 1940 годзе - гэта былі найважнейшыя вызначальнікі ўсяго майго літаратурнага развіцця.

Мы, паэты-пачаткоўцы, так сама, як і сёння, навучаныя ў ізаляцыі пільнавацца найважнейшых паэтычных вартасцяў, адчувалі дваяка той уплыў чытацкай масы.

Па-першае - і перш за ўсё - было ў нас пачуццё ўласнай "вышэйшасці" адносна чытача. Пачуццё гэтае мела розныя адценні. Ад далёка пасунутай пагарды адносна тых, хто "не разумее", аж да напалову мазахісцкага трактавання сябе саміх, як калек, якія не маюць агульнай мовы з нармальнымі людзьмі. Канешне, па меры падтрымвання тога кантакту з чытацкай масай нашыя пачуцці праходзілі эвалюцыю ў тым якраз кірунку: ад пагарды да чытача да пагарды да сябе самога.

Была гэта эвалюцыя ялавая і нездаровая. На шчасце па-за катэгорыямі вышэйшасці і нізейшасці былі яшчэ пачуцці з катэгорыі "інакшасці". Мы папросту адчувалі, што тое, што нас датуль захапляла ёсць нечым цалкам няважным для людзей, якія нас чытаюць. Нарадзіліся спробы шукання нечага, што магло б абодва бакі зацікавіць. Тэмы, якая была б важная для чытачоў і някепская для самога паэта. Паэзіі, якая была б даступная для першых і прыймальная для таго другога, для песняра-пачаткоўца.

Думаю, што тая дарога ёсць і належная, і прадуктыўная. Толькі што вымагае часу. Першым яе этапам была неадкладная паэтычная імпатэнцыя. Другім - розныя, вельмі балбатлівыя спробы, у якіх даступнасць яшчэ не было дасягнута, а пачуццё мастацкай вартасці ўжо страчана.

Таму жменька маладых паэтаў, якія супрацоўнічалі з "Па-просту", так мала змясціла ў ім сваіх вершаў.

Страціўшы адно, і не знайшоўшы яшчэ нічога ўзамен - мы аказаліся ў дзівоснай сітуацыі. Групу "Па-просту" стварылі людзі, якія ў сваёй большасці датуль яшчэ не пісалі. Былі сярод іх праўнікі і медыкі, прыроднікі і гуманітарыі. І кожны з іх, прыціснуты да сцяны рэдакцыйнымі абавязкамі, патрафіў наскрэбці артыкул, які адразу змяшчалі.

У той жа час мы - людзі пяра! - якіх з той нагоды перш за ўсё ўцягнулі ў выданне, аказаліся няздольныя да пісання. Нашы вершы так выразна не пасавалі да нумара. Нашы артыкулы былі так страшна маргінальныя.

### Графаманалогія

Уратавалі нас для выдання графаманы. Ніхто датуль не прысвяціў, бадай, слова сацыялогіі графаманства. І я таго не зраблю: вымагала б гэта перш за ўсё нейкіх даследванняў. Скажу толькі два падагульненні; што графаманія - гэта сур'ёзная сіла, з якой трэба лічыцца, а таксама - што яна не адналітная.

Ад другога нумара "Па-просту" рэдакцыя была засыпана лістамі графаманаў усялякіх катэгорый. З кожным нумарам іх націск станавіўся мацнейшым. Не было ў тым нічога дзіўнага. Сотні і тысячы графаманаў чакалі ў Польшчы на кожнае новае выданне, каб адразу паслаць яму пакет сваіх вершаў. "Старыя" выданні ў свядомасці тых няшчасных былі апанаваныя сыгранымі клікамі, якія не дапускалі новых талентаў. Кожнае новае выданне будзіла надзею: а ну ж тым разам схаваны талент будзе ацэнены?

Якім магутным псіхічным рухавіком ёсць гра-

фаманія - сведчыць тэматыка тых вершаў. Значная іх большасць была вельмі рэвалюцыйная. Графаманы ўсёй Польшчы ў адну хвілю расшыфроўвалі палітычны кірунак новага выдання і адразу да яго дапасоўваліся. Якімі другаснымі для іх былі палітычныя перакананні ў параўнанні з шанцам убачыць творы свае ў друку. Гэта добрая псіхалагічная прычына для гісторыкаў, якія даследуюць загадкі "далучэння" некаторых пісьменнікаў да справы будаўніцтва сацыялізму.

Тут якраз нарэшце мы прыдаліся. Ані Дамбінскі, ані Ендрыхоўскі не мелі часу ні мажлівасці адказваць на тыя ўсе лісты. Падумалі аднак, што звычайныя адказы: "Не да друку", - ці наогул маўчанне былі б не да месца.

Такім чынам узнікла "паэтычная скрынка". Мы атрымоўвалі з Мікулкам лісты з творамі. На кожны ліст павінны былі - тэарэтычна - адказаць. Кожны верш - ацаніць. Кожнаму з напісаўшых даць у меру сіл і магчымасцяў парады.

На практыцы, канешне, было горай. Калі "скрынка" пачала друкаваць адказы, колькасць прысыланых вершаў вырасла ўдвое. Неўзабаве нашыя добрыя жаданні трапілі пад цяжкія выпрабаванні. Мы былі засыпаны вершамі, на якія, дальбог, нельга было знайсці хоць бы слова адказу па-за: "Не да друку".

Не гледзячы на гэта, у кожны нумар, пачынаючы ад позняй восені 1935 года, мы рыхтавалі па колькі дзесяткаў адказаў са спробамі ацэнак. Мы хутка дадумаліся, што нават пара строф, змешчаных у "скрынцы", як ілюстрацыя нашай ацэнкі, можа прынесці аўтару моцныя, прыемныя перажыванні. Выбіралі з дзесяткаў вершаў страфу, часам нават паўстрафы, адносна найлепшую, і давалі яе як пацвярджэнне нашага меркавання, што аўтар можа развівацца.

У гэты час цэнзура якраз дабралася да "Па-просту". Цікава, што нявінная "паэтычная скрынка" не раз і не два сталася аб'ектам яе напасці... Пры чым, нашага каментару звычайна не чапалі.

Можна прачытаць такія больш-менш дзівацтвы.

"Умееце апераваць паэтычным вобразам". Ідзе двухкроп'е і белая пляма на месцы сканфіскаванага "вобразу". Альбо: "Маеце някепскае пачуццё рытму". Двухкроп'е і белая пляма чатырохрадковай велічыні.

І тыя "вобразы", і тыя ўзоры "някепскага пачуцця рытму" былі вельмі нявінныя ў грунце рэчаў. Было там з пэўнасцю нешта з маршу галодных мас, пра нянавісць да эксплуататараў і да т.п. Цэнзура здымала з друку часткова таму, што бачыла з нашага боку злосную кантрабанду "голай" агітацыі пад паэтычным плашчыкам аналізу, часткова вось так проста, каб прычапіцца да выдання.

Канешне не бракавала нам ахвоты да зласлівасці, і прыклады "някепскага рытму" мы выбіралі не без надзей пазлаваць паноў ад цэнзуры. Паўтараю, аднак - было ўсё гэта вельмі нявінна.

Дэтальныя парады даваў кожны з нас па-асобку. Уся "скрынка" падпісвалася ініцыяламі прозвішчаў. У той час акрамя Мікулкі і мяне працаваў у "скрынцы" Ян Гушча, які пісаў пад псеўданімам "Алехна". Таму "скрынку" заканчваў подпіс "МАП" ("MOP"). Мы шалёна хацелі ўцягнуць у тую працу таксама Аляксандра Рымкевіча. Маглі б тады падпісвацца "МАПР" (MOPR). На жаль тая бягучая інтрыга не выгарала.

Ці "скрынка" дала нейкі пазітыўны вынік? Ці ў плыні графаманаў, вылечных і нявылечных, патрапілі на нейкі талент?

Нажаль, не можам пахваліцца прозвішчамі пазнейшых майстроў, якія дэбютавалі ў "скрынцы". "Па-просту" існавала надзвычай коратка. Не плацілі ні граша ганарараў. Не мела ніякай вагі на тагачаснай літаратурнай біржы. Здольныя хлопцы мелі добры доступ да іншых выданняў. Часам, як здольныя, часам як хлопцы.

Толькі адно прозвішча прыпамінаю сабе з таго часу. Атрымалі вершы нейкага Базыля Падмайстровіча. Здаецца, з Роўна. Хлопец меў някепскія здольнасці. Нейкая асаблівая спеўнасць, "пачуццё рытму", больш чым "някепскую" ўласную вобразнасць, хоць з далекаватым сваяцтвам з расійскім імазынізмам. Які ж я быў шчаслівы, што ў "скрынцы" мог нарэшце не толькі платанічна пахваліць, але і паабяцаць друк. Адзін ці два вершы Падмайстровіча мы здалелі змясціць. Ён прыслаў нам большую падборку сваёй творчасці. Я пастараўся на больш абшырныя парады, высланыя ўжо поштай. Бачыў пазней некалькі разоў тое прозвішча, бадай што ў "Кур'еры Віленскім". Не маю паняцця, што з ім сёння.

Яшчэ адну паэтычную гісторыю прыпамінаю сабе з "Па-просту". Аднаго дня я атрымаў з Катавіц пару вершаў, падпісаных некім абсалютна незнаёмым. Вершы былі дзіўныя, не падобныя да нічога з нашай "скрынкавай" практыкі. Былі нейкія вылізаныя і ў паэзіі, і ў тэматыцы. Ба, але таксама былі нейкія такія ніякія, не было ў іх шурпатасці - але не было і ўзнёсласці.

Гэта ўжо пазнейшыя мае абагульненні. У той час разумеў толькі адно: "Не да друку".

Даў вельмі ласкавы адказ. Раіў шмат чытаць добрых паэтаў: Бранеўскага. Маякоўскага... Указваў, што тэматыка не застаецца без уплыву на літаратурную вартасць, і што, на прыклад, чынная зацікаўленасць маладога паэта ў перабудове Польшчы ў грамадскіх адносінах павінны дадатна ўплываць па яго паэтычнае выспяванне. На заканчэнне дазволіў дадумаць адэпту, што калі паслухае маіх указанняў, то можа мець надзею ўбачыць свае творы ў друку.

Праз тыдзень пасля з'яўлення "Па-просту" з тым "шэдэўрам" майго мастацтва педагагічна-дыпламатычнага атрымаў я ліст з Катавіц ад ахвяры. Што ж гэта быў за кубел халоднай вады. Госць суха і пагардліва раіў мне, каб свае ўказанні захаваў для сябе. Даваў мне зразумець, што я паводле яго - двайны смаркач: і літаратурны і палітычны - і што ўсё, што я маю ў той справе зрабіць, гэта неадкладна аддаць яго вершы ў нумар.

Я быў страшна азадачаны. Падумаў, што гэта мусіць быць нехта з паэтаў - нелегалаў, пэўна праездам у Польшчы. Перачытаў яшчэ раз яго вершы. І вось што значыць гіпноз па-за паэтычны: знайшоў у іх пэўныя варатасці. Такая вялікая была мая апрыёрная павага да капэпаўскіх паэтаў, што па-просту паглядзеў на тую паэзію новымі вачыма. Здаецца нешта з таго надрукавалі. Хоць, дальбог, па сённяшні дзень - не памятаю з таго ані слова - памятаю, што ў суме было яно чэрствае і без значэння.

**Канец "Па-просту"**

Столькі разоў пісаў аб "Па-просту"! Тая першая версія, якая ёсць "Рэчаіснасць", вельмі цяжка навісла над маімі ўспамінамі. Пісаў яе на-гарача, у 1941 годзе. Канешне, мусіў успаміны сартаваць і кампанаваць. І цяпер нічога амаль не памятаю з таго, што ў "Рэчаіснасць" не трапіла.

Трапіла, аднак, вельмі шмат. Акрамя характарыстыкі постаці таксама цэлая куча мастацкіх дэталяў. Напрыклад, канешне, я ездзіў на рэпартажы. Штрайк быў у Лідзе, на гумовай фабрыцы "Ардаль", уладальнікам якой быў нейкі Мелуп. Быў я там на самай справе не падчас усеагульнага штрайку. А, зрэшты, не памятаю. Ведаю, што бачыў і Шпігля, і Баранавіцкага, і Пратачнага, і Кушля, які на самай справе называўся Кісель, і, здаецца, сёння яшчэ знаходзіцца ў савецкіх уладных структурах Ліды.

Нават любоўная акцыйка "Рэчаіснасці", тая з Вандай, збольшага праўдзівая. Датычыла яна, зразумела, Янкі.

Яшчэ адзін фенамен, вядомы з кніжак, назіраў у так зв. жыцці: эвалюцыя раздзяліўшайся радыкальнай інтэлігенцыі па меры ўзрастання рэвалюцыйнай сітуацыі.

Бо ўласна нешта такое пачыналася той восенню, той зімой, цягнулася да той вясны. Смерць Пілсудскага выклікала і паглыбіла разрыў тога "блоку", які падобны быў хутчэй да мазаікі. Як вядома, у першай схопцы за ўладу перамаглі "ліберaлы" з Квяткоўскім, Касцялкоўскім, Панятоўскім. Само існаванне "Па-просту" сталася мажлівым толькі дзякуючы ідэйнай, хоць пераходной каньюктуры гэтага першага года без Пілсудскага.

На колькі сабе памятаю, Вялікдзень 1936 года быў ранні, сакавіцкі. Я выехаў у Банева ў добрым настроі. "Па-просту" развівалася, не гледзячы на прыгоды з цэнзурай, што раз лепей. Ідзецца тут не толькі пра наклад і лісты чытачоў. Я меў свае, найхутчэй уласныя крытэрыі: у кожным нумары было што раз больш маіх матэрыялаў! Я ўжо не толькі друкаваў вершыкі, рэцэнзейкі ці адказы графаманам. Меў ужо за сабой першы рэпартаж.

Наогул на свеце выглядала лепей. На захадзе Еўропы паўстаў Народны Фронт. Тыя блізкія поспехі дазволілі нам досыць спакойна перанесці паразу Абісініі (Эфіопіі, *рэд.*), хоць ужо першы нумар "Па-просту" тую справу высунуў на першае месца.

З шаснаццатым баявым і досыць цікавым нумарам выдання я прыехаў да сям'і, але, калі вярнуўся ў Вільню, "Па-просту" ўжо было закрыта.

Перш, чым тое развіваць, дазволю сабе ўстаўку. Ці цяпер гэта сталася? Не памятаю.

Я выехаў з Банева пасля ранняга Вялікадня. Такога ранняга, што толькі пры ад'ездзе я злез з воза, заглянуў на "стадыён", каб развітацца з тамтэйшымі пралескамі. О, дзіва, якраз першая расцвіла.

Сарваў яе. Сам не ведаў, для каго і на што. Прыехаў у Вільню. Гэта толькі сто кіламетраў на поўнач, але было тут на шмат, на шмат халадней, пра ніякія пралескі, ба, сон-траву, не было мовы.

Адразу з вакзала, нецярплівы, спрагнёны навін з Вялікага Свету, заглянуў да Маслінскага. Была ледзьве дзявятая гадзіна. Маслінскі спаў. Сам не ведаю, чаму, можа ў прыступе раптоўнай чуллівасці - бо і любіў яго, і не, гэта залежала ад яго адносінаў да мяне, цяпер напэўна любіў пасля банеўскай самотнасці і перш, чым ён паспеў зрабіць мне якую-небудзь прыкрасць - паклаў яму на коўдру пралеску і ціхенька выйшаў.

Праз гадзіну, занёсшы рэчы да сябе, зноў заходжу да Масьлінскага. Апранаецца. На коўдры ляжыць пралеска.

Засыпаў яго пытаннямі, "што чуваць".

І толькі потым, на адход, спытаў:

- А што гэта тут? Пралеска?

Масьлінскі ажывіўся:

- Ведаеш, гэта мяжуе з метафізікай. Уяві сабе, прачынаюся, на коўдры пралеска.

- Хто ж гэта?..

- Сам не ведаю, - перапыніў. - Можа X. Ведаеш, яна ў апошні час так за мной лётае. Альбо Y. Калі я быў з ёй у тэатры...

Потым пералічыў яшчэ з паўтузіна ахвяр сваёй удзячнасці. Да ўсіх адчуў прыліў сімпатыі, гаварыў пра іх зычліва, цёпла, часам з узнёсласцю. Я сам не спадзяваўся, што з гэтага выйдзе такая забава. Пачаў ужо свядома кіраваць яго ўвагу ў цікавы для мяне бок. Падкрэсліў абсурднасць факту: у Вільні пра ніякія пралескі ані слыху, мароз, снег.

Але фізічная немагчымасць менш яго займала, чым загадка псіхалагічная: каторая? Нарэшце затрымаўся на дзяўчыне, якая прыслужвала гаспадыні. Быў расчулены:

- Падумай сабе, колькі такту! Вярталася, напэўна, з рынку. Купіла кветку і ціхенька, каб мяне не пабудзіць, сон маю чуткі...

Хацеў у канцы, пасля выслухвання ўсіх выхваленняў, ляснуць яго па галаве прызнаннем, але тая дзяўчына мяне ўзрушыла. Пазахапляўся пралескай і пайшоў. Толькі цяпер прызнаюся.

Не, гэта, мабыць, не ў той раз я прывёз пралеску. У той раз гэта мяне ляснулі па галаве весткай пра "Па-просту".

Як звычайна, улады стараліся быць як найбольш зласлівымі: выцялі, калі быў ужо надрукаваны сямнаццаты нумар. Ацалела толькі пару асобнікаў, вынесеных Барысевічам.

Мы не вельмі пранікліся тым фактам. Ва ўсім краі нарастала рэвалюцыйная хваля. Якраз ў сакавіку дайшло да сур'ёзных сутычак з паліцыяй у Кракаве на фабрыцы "Сампарыт". Пару тыдняў - і вялікая бура ў Львове. Адразу пасля гэтага наймагутнейшая мабыць у трыццатых гадах першамайская дэманстрацыя. Тую віленскую апісаў у "Рэчаіснасці". Таксама і бойка ва ўніверсітэце пададзена там вельмі дакладна.

Здавалася, што нашая ўласная няўдача не важная, праходная. Зрэшты, адразу пасля закрыцця "Па-просту" пачаліся старанні вакол новага выдання. Доўга шукалі назвы, спыніўшыся нарэшце на найбольш ніякім: "Карта".

Паколькі ішлося, каб унікнуць фармальных супадзенняў з закрытым выданнем, змянілі не толькі назву, але і тых, хто падпісваў выданне, як адказныя рэдактары і выдаўцы. Першым стаў нейкі Міхал

Шчыт, на другога група вызначыла мяне.

Калі я згадзіўся, Дамбінскі змусіў мяне да напісання ўступнага артыкула. Знайшоў для мяне тэму і матэрыялы. Загнаў толькі да пісання, бязлітасна папраўляючы і змушаючы да паправак таго, што зрабіў.

"Літаратурныя ведамасці" змясцілі ў той час артыкул, здаецца, Эміля Брэйтара на тэму канфіскату літаратурных твораў. Аўтар па-навуковаму даводзіў, што тыя канфіскаты бяспраўныя.

Высмажыў нарэшце артыкул. Зваўся высакапарна "Свабода слова ў святле закона". Далі яго на першай паласе. Надрукавалі ўвесь наклад, пасля чаго цэнзура ўвесь артыкул канфіскавала. Хоць не, сёе-тое пакінула. Подпіс аўтара і загаловак.

Мела гэта нават своеасаблівы шык. На ўсёй паласе загаловак: "Свабода слова ў святле закона", і пад ім - вялікая белая пляма.

Маё жыццё як выдаўца трывала не доўга. "Карту" знішчылі ў рэкордна кароткі час. Выйшлі ў агуле бадай толькі тры нумары - першы, другі і злучаны трэці і чацвёрты. Гэтым разам не спыніліся на адзіночным канфіскаце. Некаторы з нумароў стаў ахвярай рэкорднага ўжо лайдацтва. Надрукавалі першы наклад. Канфіскавалі яго за нейкую дробязь. Надрукавалі другі - з белай плямай. Канфіскавалі і той наклад за іншую дробязь, якую ў першым выданні цэнзура прапусціла.

**Крокі ў начы**

Недзе ў ліпені "Карта" перастала існаваць. У той раз я прыехаў у Вільню на пару дзён. Быў, якраз, страшна закаханы ў паненку, якую ўбачыў на вечары Чухноўскага.

Правёў з ёй другі вечар. Была ўжо цёплая і ціхая ліпеньская ноч, калі я ішоў да Выдры, у якога затрымаўся. Вільня спала. Над Анколем вырастаў бляклы, паўночны досвітак.

Я ішоў пустым "Еркам" раскаханы, задумлівы, не заўважаючы прыгожасці той ночы. Крокі мае дуднілі глуха між мурамі. Неўзабаве я звярнуў увагу на той стук. Падаўся ён мне надзвычай звонкім.

Павярнуў направа, на Лукішскі пляц. О, дзіва, рэха маіх крокаў узрасло. Ні жывой душы вакол, рэдкія ліхтары, згубленыя ў кронах ліп, бляклеўшае неба і - тыя крокі, той ляскат крокаў. Спыніўся нерухома. Крокі не згаслі: тое рэха сталася нават больш звонкім.

Па-просту нехта яшчэ ішоў праз тую ноч. Ішоў, набліжаўся. Я павярнуў яшчэ раз направа ў кароткі завулак, дзе жыў Выдра. А, калі затрымаўся перад брамай, з паўзмроку вынырнуў чалавек і падышоў да мяне.

Са здзіўленнем пазнаў у ім майго калегу па падпісванні "Карты", Міхала Шчыта. Дзіўная гэта была постаць. Высокі, з доўгім, арланосым тварам, бадай што без вока. З'явіўся ў нашай групе неяк ні адтуль, ні адсюль. У супрацьлегласць да рэшты суполкі - не вучыўся ў УСБ. Гаварылі пра яго, што паходзіў з княжацкай рурыкавіцкай сям'і Шчыт-Неміровічаў. Быў лішне малагаваркі, каб тое пацвердзіць.

Стаяў цяпер перада мной і таксама цягнуўся рукой да званка. Пазнаў мяне цяпер праз пару секунд. Быў вельмі ўзбуджаны і, калі вартаўнік адчыняў браму, шапнуў мне адрывістымі фразамі:

-... Ператрус.. Былі ў мяне... узялі ўвесь рэдакцыйны матэрыял... адрасы, прозвішчы.. Пыталіся пра Выдру... Бег, каб папярэдзіць...

Вартаўнік глядзеў на нас падазрона.

- Бывай, - буркнуў Шчыт - Іду далей. Да пабачэння.

Не было таго пабачэння. Шчыт знік з Вільні так жа раптоўна, як і з'явіўся. Гаварылі, што паехаў у Іспанію, дзе якраз выбухнула грамадзянская вайна. Мы атрымалі загадкавую паштоўку з Парыжа з віншаваннямі. А потым толькі весткі, што загінуў на фронце.

Я ўскочыў да прыяцеля. Той спаў. Мае словы хутка сагналі яму з вачэй санлівасць. Паспешна кінуўся да паперак. У гарачцы ператрасаў лісты, шамацеў старонкамі кніжак.

Ён быў слаба звязаны з групай і ані ў "Папросту", ані ў "Карце", бадай што, нічога не друкаваў. Адкуль мелі яго прозвішча? Чаму акурат яго?..

Гэтае апошняе ёсць досыць простае. Паліцыя ў той час любой цаной хацела ўлавіць кантакты групы з нелегальнай партыяй. Усе значнейшыя сябры групы былі з даўняга часу пад наглядам. Паліцыя ведала, што мы асцерагаемся.

Разлічвала ў той жа час на тое, што ў такіх, хутчэй маргінальных людзей, можа што прыхапіць.

Выдра схапіў пару лістоў ад знаёмых. Нічога там "такога" не было. На ўсякі выпадак іх знішчыў. А потым залезлі ў ложкі. Святло ўлівалася цераз акно бялявым водсветам. Вельмі доўга чакалі: можа той Шчыт наблытаў?

Думка тая - о, дзіва - была мне хутчэй непрыемная. Я ўжо ўнутрана падрыхтаваўся на спатканне ператрусу. Ведаў, што ані Выдра, ані я нічым не рызыкуем. Выдатная ў той жа час аказія для прыёму баявога хрышчэння ў палітычнай вайне, якую мы вялі.

Нарэшце енк званка пры браме. Пераглянуліся паміж сабой. Крокі на ступеньках. Званок у дзверы...

Той першы ператрус быў кароткі і скамечаны. Шпікі адразу пераканаліся, што нас не захапілі знянацку. Колькі іх было? Як выглядалі? Не памятаю нічога з таго. Дзіўна: так запала мне ў памяць папярэдняя сцэна, тыя крокі ў начы, а тая, непараўнальна больш напружаная, знікла зусім.

Шпікі нічога не знайшлі. Забралі пару кніжак, пару нататак Выдры. Мяне зусім не абшуквалі, былі здзіўлены маёй прысутнасцю і пасля першага пробліску радасці, калі ўбачылі маё пасведчанне асобы, далі мне поўны спакой. Я не быў ніякім нелегалам...

Нарэшце пайшлі. Праз пару дзён пасля выклікалі Выдру ў паліцыю. Сярод паперак занйшлі нейкія вольныя выпіскі з нейкай кніжкі пра рэвалюцыю 1905 года. Былі там два словы: "крывавая нядзеля". Страшна зацікавіла гэта шпікаў. Мурыжылі Выдру з гадзіну.

А наогул была гэта ўласна аперацыя, якая заканчвала існаванне "Карты". Такіх ператрусаў правялі ноччу некалькі. Нідзе нічога не знайшлі, што б усправядлівіла праўнасць закрыцця выдання. Але ім ішлося не пра "праўнасць", а толькі пра “закрыццё”.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука”, выйшаў зборнік “Институт белорусской культуры и становление науки в Беларуси. К 90-летию создания Института белорусской культуры. Материалы международной научной конференции, Минск, 8-9 декабря 2011 г.”, 770 ст. Наклад 300 асобнікаў.**






**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі”, г. Менск, выйшаў 3-ці том энцыклапедыі “Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI стагоддзя”, 672 ст. + ілюстрацыі. Наклад 500 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука”, выйшла кніга “Библиотека Радзивиллов Несвижской ординации. XVII век”, 632 ст. Наклад 500 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука”, выйшла кніга М.В. Доўнар-Запольскага “Дзяржаўная гаспадарка Вялікага Княства Літоўскага пры Ягелонах”, 760 ст. Наклад 400 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі”, г. Менск, выйшла кніга А.І. Лакоткі “Архитектура Беларуси в европейском и мировом контексте”, 432 ст. Наклад 1000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Гарадзенская бібліятэка” (Гародня - Уроцлаў) выйшла кніга Аляксандра Краўцэвіча “Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, 1248 -1341 г.”, 186 ст. Наклад 300 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Кнігазбор”, выйшла кніга Алега Трусава “Невядомая нам краіна. Беларусь у яе этнаграфічных межах” на беларускай і англійскай мовах, 290 ст. Наклад 500 асобнікаў.**



**Мемарыял “Крыжы” на месцы бою паўстанцаў 1863 г. з царскімі войскамі ў Ольжаўскай пушчы (паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна).** ***Здымак С. Судніка, 2013 г.***